Бурава і ўжо ласкава, як кацяня, цёрся аб іх. Сушчэня тым часам сядзеў насупраць і не адганяў сына - ён паглыбіўся ў свае, мабыць, невясёлыя перажыванні. У той час у сенцах грукнулі дзверы, і ў хату не адразу, неяк запаволена, бы з ношай, увайшла жанчына з вядром, у цёплай, ваўнянай хустцы на галаве. Згледзеўшы чужога на лаве, відаць было, боязна насцярожылася, але тут жа яе ўвагу адабрала малое, якое ўжо спрабавала ўзлезці Бураву на калені.

- Грыша!

- А ў дзядзі наган ёсць. У сумачцы, - жвава паведаміў хлопчык.

На твары ў гаспадыні штось здрыганулася, як здрыганулася і ў душы Бурава, які адразу пазнаў у гэтай жанчыне Анэлю Крукоўскую, з якой некалі тры гады вучыўся ў тутэйшай школе.

Відаць, яна пазнала яго таксама.

- Здраствуйце.

- Здраствуй, Анэля, - збянтэжана сказаў Бураў. Ён не ведаў, што тая дзяўчына стала жонкаю Сушчэні, гадоў восем ён з ёй не бачыўся і нават нікога не папытаўся аб ёй, і гэтая сустрэча сталася для яго зусім нечаканай. Але цяпер ён намогся, робячы выгляд, што паяўленне Анэлі зусім не навіна для яго, што ён усё даўно ведае. Далей, аднак, размова ў іх не пайшла, абаім штось замінала. Бураў дык ведаў, канешне, што, але, мабыць, здагадвалася і Анэля. Напэўна, адчувала. Тым не менш яна ўвачавідкі перасіліла сябе і нерашуча прапанавала:

- Трэба ж пачаставаць вас. Галодныя ж, мабыць?..

- Няма часу, Анэля, - сказаў Бураў і тут жа зазлаваў на сябе: есці, канешне, дужа хацелася. Таксама хацелася пасядзець, пагрэцца ў хатнім цяпле, пагутарыць з ветлівай, ніштаватай з твару жанчынай, якая некалі нават падабалася яму, хоць і была гады на два старэйшая за яго. Дужа карцела Бураву адагрэць

азяблае за дарогу цела ці, можа, надалей адсунуць тое, дзеля чаго ён прыехаў сюды і чаму міжвольна супраціўлялася ўся яго істота. Але як было расслабляцца, як было забыцца аб тым хоць на хвіліну? Ён і так сядзеў, бы на вуголлі: недзе на дрывотні яго чакаў Войцік і, можа, па вуліцы ўжо брылі сюды паліцаі.

- Завесь акно, - ціха гукнула Анэля да мужа, а сама кінулася ў пасуднік, затым да печы, забразгала засланкай. Сушчэня таропка завесіў акно паласатай радзюжкай, што вісела побач на цвіку, а Бураў, падумаўшы, сцягнуў з нагі мокры бот.

- Во, можа, у вас якая анучына знойдзецца? Пераабуцца.

- Ануча? Зараз.

- Анэля шаснула ў запечак, чуваць было, нешта разадрала там і хутка вынесла яму дзве мяккія і нават цёплыя анучыны. Дровы ў грубцы сталі добра ўгарацца, скрозь па падлозе заскакалі барвовыя водбліскі, асвятлілі чырвоным і без таго счырванелую ад сцюжы ступню Бурава.

- А як жа мама твая? Ці жывая? - запыталася Анэля ад печы.

- Мамы няма ўжо. Тры гады як.

- А сястра ж Феня?

- І сястры няма. Забілі вясной у Лісічанскай пушчы.

Гаспадыня там часам паставіла на стол міску з цёплай смажанай бульбай, ад якой ішоў такі смачны пах, што цяжка было ўтрымацца, але Бураў пераабуваўся з абыякавым да ежы выглядам - быццам сам нядаўна ад стала. Сушчэня тым часам сігануў за посцілку і паставіў ля міскі трохі няпоўную пляшку, у якой знаёма калыхалася мутнаватая вадкасць.

- Дык, можа, прысядзеце? - амаль умольна зірнуў ён на Бурава, ды той рашуча пакруціў галавой.

- Не, не буду.

- Шкада. Ну што ж, тады я. Можна?

- Ладна, - пагадзіўся Бураў. - Толькі нядоўга.

Сушчэня наліў шклянку і выпіў, зараз, з нейкай нядобрай рашучасцю, бы кідаўся ў вір - без аглядкі, пажаваў кавалак хлеба і на момант знерухомеў каля газнічкі. Анэля ставіла і ячшэ нейкія талеркі - з салам і агуркамі, кідаючы хуткія, заклапочаныя позіркі то на мужа за сталом, то на Бурава ў прасценку.

- Эх, як не па-людску ўсё! - скрыгануў зубамі Сушчэня, і Анэля крутнулася да Бурава.

- Анягож! Ці ж мы спадзяваліся на што, ці чакалі! Як яго ўзялі, у мяне сэрца зайшлося, тыдзень спаць не магла, усе вочы праплакала... Аж выпусцілі, што ж цяпер рабіць? Ці ж па яго волі?..

Неўпрыцям глытаючы слінкі, Бураў тым часам не пераставаў сачыць за ўсім, што адбывалася ў хаце, услухоўваўся ў кожны прыцішаны гук знадворку. Але на падворку і вуліцы, здаецца, усё было ціха, у незавешаным ля парога акне ўжо чарнелася начная цемра. Грышка падлез пад сталом і ўмасціўся на лаўцы ля бацькі (бліжэй да ежы), здаецца, ужо страціўшы цікавасць да госця.

- Ён жа нічым не паграшыў супраць іх, ён жа іх выгараджваў, - ціха заплакала Анэля, і Бураў не стрымаўся.

- Але ж павесілі! А яго выпусцілі. За што?

- А хто ж іх знае, жа што...

- Так не бывае.

Сушчэня пры тых ягоных словах адхіснуўся ад стала, прыстукнуў вялікай даланёй па стальніцы.

- Ладна, Анэля, што гаварыць! Судзьба...

- Да, - няпэўна сказаў Бураў і ўстаў з лавы. Пакуль не ўсчалося горшае, тую гаворку трэба было канчаць. - Пайшлі!

Ён выйшаў на сярэдзіну хаты, трохі падцягнуў дзягу на шынялі. Сушчэня сядзеў за сталом, бы змярцвелы, наваліўшыся грудзьмі на стальніцу. Здалося, ён і не чуў тых слоў Бурава, але неўзабаве здрыгануўся, таропка наліў сабе з бутэлькі яшчэ і за адзін глык апаражніў шклянку.

- А чорт з ёй! Пайшлі!

- Куды? - узвілася Анэля. - Куды ты яго? Куды?

Яна загаласіла - не гучна, ды пакутна і роспачна, за ёй заплакаў малы, і Бураў ажно спалохаўся, што яны сваім плачам, не дай бог, паднімуць на ногі паўстанцыі. Праўда, Анэля хутка зацiснула рукамі рот, заплакала цішэй, пасля падхапіла на рукі малога. Сушчэня тым часам накінуў на сябе ватоўку.

- Пайшлі. Гэта...

Нібы прыпомніўшы што, ён павярнуўся, таропка пацалаваў жонку і рашуча ступіў да дзвярэй. Яго дрыготкія рукі невідушча бегалі па грудзях у пошуках гузікаў, каб зашпіліць ватоўку.

- Куды гэта вы?! - зноў ужо другі раз узвілася Анэля і загаласіла так, што Бураў спалохаўся.

- Ну, трэба, - сказаў да жонкі Сушчэня. - Мы ненадоўга. Ты не плач, супакойся...

Ён стараўся гаварыць ціха, з набалелай добрасцю ў голасе, і, мабыць, гэта падзейнічала на жонку, тая на момант змоўкла. Яе вусны бязмоўна торгаліся, а вочы яшчэ з недаверам упіліся ў твар мужа, нібы спрабуючы дазнацца пра тое, пра што немагчыма было дазнацца.

- Тут на адно дзела трэба, - схлусіў Бураў, хоць у яго ад гэтага растання здрыганулася сэрца. - Хутка прыйдзе.

Тулячы да сябе малога, яна ўжо з усяе сілы таропілася позіркам у Бурава, што тупаў каля парога. Таму дужа не цярпелася скончыць усё гэта і выйсці на двор.

- Прыйду, ага, - спакайней пацвердзіў Сушчэня.

- Дык гэта ж... Як жа ты?.. Нічога не ўзяўшы, - спахапілася Анэля. - Гэта ж хоць сала вазьмі...

Мабыць, яна ўсё ж паверыла, выпусціла з рук малога, памкнулася да стала, пачала мітусліва кроіць хлеб, сала, загарнула ўсё ў нейкую паперыну, кінулася да мужа.

- Во, перакусіць. А то як жа, калі не еўшы... І гэта... Цыбуліну даць?

- Ат, не трэба, - махнуў рукой Сушчэня, другой няўважліва запіхваючы пакунак у цесную кішэню. І Анэля зноў насцярожылася.

- Ты ж любіў, каб з цыбуляй? - напялася яна, перастаўшы выціраць вочы і гатовая зноў заплакаць.

- Калі любіў, дык вазьмі, - сказаў Бураў. - Ага, дай і цыбуліну. З цыбуляй смачней. Калі сала, дык добра з цыбуляй.

Недзе пад прыпечкам яна знайшла пару цыбулін, адну сунула ў рукі мужа, другую падала Бураву. Той узяў, пахваліў цыбулю.

Анэля паспакайнела, падобна, зусім паверыла падману, хоць усё яшчэ была напятая ад хвалявання ці насцярожанасці і раз-пораз выцірала вочы. Хоць ужо і не плакала.

- Калі задоўжуся, мыйцеся без мяне, - сказаў Сушчэня.

Яны выйшлі з хаты - Сушчэня наперадзе, Бураў за ім. На дварэ ўжо сцямнелася, дзьмуў рэзкі вецер, але дажджу не было. Сушчэня зрабіўся нейкі роспачна-рэзкі ў руках свайго дужага цела, рашуча сігануў з ганка і спыніўся на гразкім двары.

- Куды?

- Туды, туды, - паказаў Бураў у бок дрывотні. Гаспадар, хіснуўшыся, ступіў крокаў пяць і спыніўся.

- Лапату ўзяць?

- Вазьмі, што ж, - падумаўшы, пагадзіўся Бураў і пільна пасачыў, як Сушчэна перабраў у падстрэшшы нейкія палкі, выцяг з-пад іх рыдлёўку.

- Што ж, сам разумееш, - ціха, нібы вінавата нават сказаў Бураў. - Калі выдаў...

Сушчэня рэзка павярнуўся да яго - Бураў з нечаканасці аж адхіснуўся - і са сцішанай ярасцю кінуў яму ў твар:

- Я не выдаваў!

- А хто ж выдаў? - спыніўся Бураў.

- Не знаю. Не знаю!

- Але ж цябе выпусцілі?

- Выпусцілі, сволачы, - роспачным шэптам выдыхнуў Сушчэня і зусім паныла дадаў: - Лепш бы павесілі. Разам!

Апошнія словы ён кінуў цераз плячо, нібы з рэштаю слабай надзеі апраўдацца, ці што. Але цяпер што карысці апраўдвацца, падумаў Бураў, хіба ён следчы? Бураў не следчы, ён выканаўца прысуду, а прысуд гэтаму чалавеку зроблены там, у лесе, ці яму перайначваць яго. Але як было і выконваць, калі выканаўца таксама пахіснуўся ў адчуванні свае праваты, нейкая яна не такая аказалася, тая яго правата.

Часу, аднак, у іх было мала, нават зусім не было часу. Тым болей, адчуваў Бураў, што ён проста можа завязнуць у гэтай заблытанай справе Сушчэні і праваліць заданне.

Яны паропка абышлі груваcткую кучу дроў і завярнулі на дрывотню, дзе ціха тупалі ў змроку двое коней і тырчэла побач скалелая постаць Войціка. Той аддаў Бураву повад яго кабылкі, і яны хуткім крокам пайшлі сцежкай да лазні - Войцік спераду, Бураў ззаду. Між імі ішоў з рыдлёўкай у руцэ Сушчэня. Надзіва, Бураў ні трохі не баяўся яго, не апасаўся, што ён можа ўцячы ці нават, павярнуўшыся, секануць па галаве рыдлёўкай. Ён не так разумеў, як адчуваў, што Сушчэню нешта моцна ўтрымлівае ад варожасці да іх двух, хоць, канешне, той не мог не разумець, што справы яго былі кепскія. Праўда, на ўсякі выпадак Бураў пасунуў кабуру на дзязе бліжэй да спражкі, неўпрыкмет расшпіліў яе язычок. Карабін ён нёс на плячы і ўвесь час напружана згадваў: дзе? Дзе яму расквітацца з гэтым чалавекам, каб скінуць з сябе гнятлівы клопат і знаёмымі шляхамі-сцежкамі вярнуцца паначы ў пушчу. Штось, аднак, замінала яму, нейкая няпэўнасць у абставінах, ці што? Усё ж на іхнім шляху была рэчка з нязручнаю кладкаю, цераз якую трэба было неяк пералезці на той бок. У полі пад лесам, адчувалася, будзе трохі вальней, чым на гэтых гародах, пад носам у бобікаў. Сам не прызнаючы сабе, ён між тым усё бавіў час, міжвольна адсоўваючы кудысь той самы апошні момант. Штосьці ў ім яшчэ не саспела, каб зрабіць усё канчаткова, хутка і рашуча.

Рэчку на гэты раз яны адолелі трохі спрытней, чым нядаўна, - Войцік узлез на каня і паціху пераехаў ля кладкі, па кладцы на той бок даволі спрытна перабег Сушчэня. Каб не мачыць ногі, Бураў таксама пераехаў не на кабылцы, і яны спыніліся на дзірвані́стым беразе за лазнякамі. Бураў яшчэ нічога не вырашыў, а Сушчэня гэтую кароткую замінку, мабыць, зразумеў па-свойму.

- Ну што ж вы... братцы! - амаль замаліўся ён. - Бераг жа залівае... Тарфянік тут.

- А ты што - пясочку хацеў? - без пэўнага, аднак, намеру сказаў Бураў.

- А хоць бы і пясочку! Усё ж лепей, сам разумееш... Прыйдзецца ж некалі і самому...

- Пясочку? - сказаў Бураў, падумаўшы. - Ну, ладна, паехалі. У сасонніку там пясок.

- Ну, хоць у сасонніку, - дрыготкім голасам пагадзіўся Сушчэня.

У полі было надта ветрана і зусім ужо цёмна, асабліва ў доле, на чорнай мокрай раллі, толькі збоч на захмараным светлавым фоне трохі вытыркалася прырэчнае кустоўе, а далей, за полем, чарнелася сцяна сасонніку. Бураў скіраваў у той бок кабылку, і яны паехалі цераз гразкае поле; Сушчэня з рыдлёўкай на плячы шырока сігаў поруч. Ён не адставаў, стараючыся ісці ўпоравень з Буравым, нібы нават памыкаўся штосьці сказаць, ды толькі соп, стомлена, амаль знямогла. А Бураў, гойдаючыся з боку на бок на вострай хрыбціне, думаў, што, мабыць, трэба наважыцца, прыдбаць упэўненасці, крутаватай рашучасці. Мала што ён кажа: невінаваты, але ж факты! Усе факты якраз супраць яго, і з іх самы жахлівы той, што хлопцы пагінулі, а яго выпусцілі. Ну, што яшчэ трэба, якія доказы? Рэйкі развінчвалі разам з гэтым вось брыгадзірам пуцейцаў, і ён нават не адмаўляе таго, а чаму выпусцілі, растлумачыць не можа. Не знае! Але за так не выпускаюць, гэта зразумела і дурню. А то знае адно цвердзіць: невінаваты, не выдаваў нікога, але ж во ідзе! Ведае ж, куды вядуць, і нават узяў рыдлёўку, а ідзе. Не ўцякае, не спрачаецца, а ідзе. Ці ішоў бы з такой пакораю невінаваты?

А можа, менавіта так пакорна і ідзе, што невінаваты?

Чорт яго ведае, думаў Бураў, пакутна адчуваючы, што ўсё ў ягонай галаве пераблыталася, што колькі ні думай - усё роўна чагосьці не зразумееш: так усё ўскаламуціла гэтая жахлівая вайна. Ці, можа, ён, Бураў, чагосьці не ведае? Хаця што тут змяніла б, каб і ведаў усё. Ён жа прыехаў сюды не для таго, каб разбірацца ці штось зразумець, яго дзела надзвычай простае - застрэліць здрадніка. Каб іншым была навука, каб ведалі, як партызаны караюць тых, хто адступіўся ад сваіх, служыў немцам. Не, вагацца тут нельга, трэба рашучай

рукой выкараняць погань.

На ўзлеску яны пераехалі пустую гравійку, і Бураў саскочыў з кабылы - ехаць па хмызняку ноччу было не надта каб зручна. Пакуль ён злазіў, Сушчэня спыніўся, хвіліну счакаў побач, Войцік таксама спешваўся ззаду. У лесе скрозь было мокра і золка, зверху з голля падалі за каршэнь сцюдзёныя кроплі, але вецер тут трохі паменшаў, і здавалася зацішней, чым у полі.

- Тут пагорак недзе, - прыпамінаючы знаёмую мясціну, сказаў Бураў. Сушчэня згодна кіўнуў галавой.

- Ды во баравінка зараз.

- Ну давай. Ідзі першы.

Сушчэня моўчкі пайшоў наперадзе, Бураў за ім, ведучы на повадзе кабылку; голле часам здзірала з галавы шапку, і ён ледзьве паспяваў адхінацца ад сучча. Раптам Бураў падумаў, што гэтак Сушчэня можа і ўцячы, і ажно спалохаўся на момант. Ды толькі на момант, бо Сушчэня ў лесе нават не прыбавіў хады, нават часам прытрымліваў у руках якую галінку, каб дужа не сцёбнуць Бурава. Але прыдарожны падлесак-хмызняк хутка скончыўся, яны выйшлі да баравінкі: засланіўшы змрочнае неба, наўкол паўсталі таўшчэзныя хвоі, іх ціхі, цягучы пошум плыў угары. Чысты, без травы, дол пад нагамі пачаў паднімацца на невысокі пагорак - прывабную баравінку ў лесе. Бураў памятаў яе з дзіцячай пары: тут вясной хлопцы палілі вогнішчы, гулялі ў вайну; улетку пад хвоямі любілі адпачыць лясныя захожыя. Баравінка невысокім валам агінала ўзлесак, далей зноў пачынаўся мешаны зараснік хмызняку, асіны і бярэзніку.

Яны ўзлезлі на самы яе верх і спыніліся. Скрозь было ціха, цёмна, патыхала лясною сырызнай, хвояй. Наўкол у доле чарнеліся тоўстыя камлі хвой, купкі ядлоўцу, нейкія незразумелыя і страхавітыя плямы, але Бураў даўно ўжо прывык да загадкавага выгляду начнога лесу, той яго мала трывожыў. Цяпер яго болей трывожыў Сушчэня.

- Ну, - знарок бадзёра сказаў Бураў. - Чым не мясціна! На любы выпадак!

- Выпадак!.. Каб мне сказалі калі... - пачаў і не скончыў Сушчэня.

Паныла апусціўшы плечы, ён стаяў на пагорку, пераводзіў дых, усім сваім апануранымвыглядам сведчачы, што робіцца несправядлівасць, супраць якой ён знямогся пратэставаць і змушаны ёй падпарадкавацца. Бураў бачыў гэта, і яму ўсё болей рабілася ніякавата ад сваёй незайздроснай ролі ў гэтай гісторыі, хоць ён і гнаў ад сябе тое недарэчнае адчуванне. І ён сказаў, нібы для таго, каб трохі паспачуваць Сушчэню:

- Канешне, усё бывае. У такую вайну...

- Але ж гэта дзіка! - ледзь не закрычаў Сушчэня, і Бураў, спахапіўшыся, шыкнуў на яго:

- Ціха ты!

І азірнуўся на Войціка, які стомлена стаяў з канём трохі ніжэй ад іх на схіле пагорка.

- Войцік, ты ад'едзь там к дарозе. Пільнуй, каб чаго... Пакуль управімся.

Не адразу, па сваёй даўняй звычцы аб чымсь спачатку падумаўшы, Войцік нацягнуў повад і моўчкі павёў каня ўніз да ўзлеску і недалёкай адсюль гравійкі. Бураў пусціў долу кабылку - хай пасвіцца.

- Ну давай! Дзе ты хочаш? - проста, як пра штось малазначнае, запытаўся ён у Сушчэні. Той нібы ачнуўся ад задумення і з сілай дзеўбануў рыдлёўкай там, дзе стаяў.

- Праўду сказаў Гросмаер: у яго ўжо не выкруцішся.

«Ага, ужо і Гросмаер нейкі! - падумаў Бураў. - Вось так і высвятляецца... Ці не сувязь высвятляецца...» Ён трохі адышоўся ўбок, каб не замінаць Сушчэню, стаў на

пагорку. Увогуле ён разумеў, што, пагадзіўшыся завітаць сюды, робіць не тое, растранжырвае каштоўны час ночы, за які яны ад'ехалі б адгэтуль далёка, што заўтра як бы не давялося шыбаваць павідну каля шышанскага гарнізона, павідну пераходзіць шасейку. Але міжволі ён усё нешта адцягваў, абачліва знаходзячы для таго нейкія прычыны і нават быў рады ў глыбіні душы, калі тыя прычыны знаходзіліся яшчэ і ў Сушчэні.

Моўчкі, з нейкаю нават упартай зацятасцю, Сушчэня тым часам узяўся капаць сабе яму. Адкінуўшы ўбок мох, ён дзёўб хваёвыя карані, якіх, мусіць, тут была процьма, паабсякаўшы іх, выкідваў разам з белым сухім пяском і ўжо праз некалькі хвілін да калень паглыбіўся ў зямлю. Яшчэ пакапае трохі, і, мабыць, будзе даволі, са страхавітай рашучасцю падумаў Бураў. Усё ж трэба канчаць. Як гэта зрабіць, ён так і не надумаў за вечар - ці стрэльнуць яго ў яме, ці над ямаю? Страляць у грудзі або ў патыліцу? Як лепш? Ці, можа, запытацца ў самога? Ён не хацеў, каб усё гэта было бязлітасна, са здзекам, хацеў, каб усё абышлося па справядлівасці і без крыўды. Усё ж свой чалавек, знаёмы вясковец. Ды яшчэ Анэля. І малы Грыша... «Як усё тое агідна і не па-людску, хай бы каго паслалі яшчэ», - каторы ўжо раз пачынаў злаваць Бураў.

- Ты, гэта, хоць не кажы Анэлі, - выпрастаўся ў яме Сушчэня, часта і цяжка дыхаючы ад стомы.

- Што не казаць? - насцярожыўся Бураў.

- Ды што расстраляў! Скажы, немцы забілі. Пасля ўжо, канешне, дазнаецца...

- Там відаць будзе, - няпэўна адказаў Бураў.

«Дзівак чалавек! - падумаў ён пра Сушчэню, які, трохі перадыхнуўшы, зноў лёг у работу. - Пра што клапоціцца...» На пагорку ўжо вырас ладны пясчаны гарбок, які выразна бялеўся ў доле, хутка разрастаючыся ўшыркі. Сушчэня шчыраваў як мае быць - мусіць, сапраўды клапаціўся, каб магіла была не

горшая, чым на вясковых могілках. Ну, але гэта яму не могілкі, каб рабіць усё добра і грунтоўна, ды і ён не той, якіх там хаваюць. «Найперш ён здраднік, а затым ужо ўсё астатняе», - стараўся раззлаваць сябе Бураў.

- Ну, можа, хопіць? - сказаў ён, ступаючы на пясок. Сушчэня задыхана азірнуўся з яміны. - Закопваць многа прыйдзецца.

- Ага, ты ўжо закапай, я цябе папрашу. Ватоўка... Ватоўку б трэба Анэлі аддаць.

- Ватоўку? Давай. Перадам калі.

- Ага. Харошая яшчэ ватоўка. Калі яна такую справіць? Удава...

Адставіўшы ўбок рыдлёўку, Сушчэня здзеў у яме ватоўку, кінуў яе пад ногі Бураву. Той узяў, страсянуў ад пяску і, ступіўшы ўбок, азірнуўся. Кабыла, чуваць было, паціху варушылася ля кустоўя, яна не любіла ўначы далёка адыходзіць ад гаспадара, ён гэта ведаў і не турбаваўся. Яго раптам устрывожыў недалёкі пошум у хмызняку ля дарогі. Здалося, гэты пошум неяк раптоўна сціх, і ён ціха гукнуў:

- Ты, Войцік?

Аднак з падлеску ніхто не азваўся, затым там штосьці хруснула - яўна і падазрона. Бураў пастаяў і, раптам угнуўшыся, тузануў затвор карабіна. Ён не так згледзеў здаля ды ў цемры, як адчуў пагрозу ў кустоўі, дзе напэўна ўжо з'явіліся людзі.

- Стой! - гучна вызверыўся ён.

І сеў на кукішкі, каб штосьці лепш згледзець. Нейкі цень ужо выразна матлянуўся там між нерухомых плямаў ядлоўцу і знік.

- Стой! - здушана загадаў Бураў.

І толькі ён дакрануўся да пляча карабінам, каб стрэліць, як з таго боку грымнулі запар тры стрэлы, куля ляснула

аб камель блізкай хвоі, кінула ў яго карыной. «Што ж гэта такое, там жа Войцік... Дзе ж Войцік?» - роспачна матлянулася ў галаве думка, і ён стрэліў таксама - два разы запар. Адтуль застралялі - часта і бязладна, Бураў напружыў зрок, каб што-небудзь там згледзець, як спалохана асеў долу, падкошаны востра-пякучым ударам у бок. «Ну, папалі! Папалі...» У змроку непадалёк ужо мільгалі хісткія цені, ён яшчэ раз стрэліў і, спалохаўшыся, што яны акружаць яго, скочыў убок, покатам пакаціўся з грудка. Ззаду загалёкала некалькі галасоў, бахалі таропкія стрэлы, а ён, не разбіраючы дарогі, задыхана бег, нясучы пякучую патарчаку ў баку. Кулі з хлёсткім бізуновым посвістам нізалі лесавыя нетры, ён адчуваў іх імпэтныя ўдары вакол і бег колькі было сілы, бо толькі ногі цяпер маглі даць яму паратунак. Было зусім цёмна, ён не ведаў шляху, даўно згубіў шапку, абдзёрся ў суччы і ўрэшце ўлез у хмызняк. Тут бегчы было ўжо нельга, заблытаўшыся нагамі ў хворасце, упаў, за штосьці ўхапіўшыся, устаў зноў. Стрэлы бахалі ззаду, хоць, здаецца, ён адарваўся ад даганятых, пад нагамі пачалася балацявіна, нейкія шархоткія зараснікі лазняку ці алешніку, якія зусім не давалі бегчы. Ён запаволіў крок, ногі падагнуліся, і ён упаў, губляючы апошнія сілы. Свядомасць яго пачала цьмець у правалінах памяці і болю, ніз жывата быў увесь у крыві, ён павярнуўся ў доле і застыў, так і не сцяміўшы, ўратаваўся ці ўсё ж пагібель дагнала яго...

Як толькі побач закрычаў Бураў, Сушчэня ледзь не абмёр у сваёй магіле-яме, бо надта спалохаўся, - хаця, здавалася б, чаго ўжо было палохацца гэтаму чалавеку? Але ён аж сцяўся, угнаў галаву, а затым, як забахалі стрэлы, і зусім абвяў у дне ямы. Вядома, ён не сцяміў адразу, што здарылася там, наверсе, і, толькі калі побач матлянулася прыгнутая постаць Бурава, зразумеў, што трэба ўцякаць. З незвычайным спрытам ён выкінуў сваё немалое цела з выкапанай па грудзі яміны і перакуліўся цераз жвіровы бруствер. Між частых таропкіх стрэлаў з дарогі ўжо чуліся нейкія галасы, кулі візгліва джгалі ў хвоях, але не па ім, - мабыць, туды, дзе пабег Бураў. І Сушчэня, разгарачаны і спатнелы, у адной кашулі,

прыпусціў з пагорачка крыху ў іншы бок, але таксама ад тых, што беглі з дарогі. Ён не разумеў, што гэта былі за людзі, свае ці немцы, але калі Бураў кінуўся наўцёкі, дык і яму трэба было бегчы. І ён бег, спярша з баравінкі, ледзьве не паляцеў спотырча, зачапіўшыся за пень ці корань, абадраўся аб голле ў хмызняку, выскачыў на ўзбалаць з мяккім імшыстым долам; далей тут было хмызняковае балота, але, ведаў ён, балота можна было абысці, калі кіраваць па пагорку з хвоямі. І ён патрухаў пагоркам, аж пакуль ладна не ўхадаўся, тады пайшоў крокам. За ім не гналіся, можа, яго і не згледзелі нават, нейкі час на баравінцы чулася няпэўная гамана і бахалі рэдкія ўжо стрэлы - усё ў той бок, куды кінуўся Бураў. Але за Буравым яны, здаецца, таксама не пагналіся - падобна, яны таўкліся ўсе на пагорку, голасна і ўзбуджана нешта гамонячы: словы іх ледзьве даляталі да Сушчэні, ды ён не мог іх разабраць. Ён слухаў і чакаў, куды яны скіруюцца далей - па ягоных слядах ці за Буравым, будуць шукаць ці не. Страляць, аднак, яны пераcталі, над лесам зноў запанавала ветраная ціша, вакол ляжала настылая лесавая цемра. Тады Сушчэня падумаў, што, мяркуючы па ўсім, ягоны расстрэл пакуль што адсоўваўся, даўшы нейкую мажлівасць для паратунку. Толькі дзе той паратунак, у якой старане? Дома ўжо пэўна ён не ўратуецца, дома яго дастануць зараз жа, як толькі ён з'явіцца там. Але дзе не дастануць? Куды яму скіраваць свой адсюль бег і як пакарыстацца такой рэдкай і дзівоснай удачай, што нечакана кінуў яму яго нешчаслівы лёс?

Ён пайшоў цішэй і ашчадней, каб не налезці на сук, усё азіраючыся і праслухоўваючыся. Рабілася дужа холадна, рукі яго ўжо скалелі дашчэнту, сцюдзёнай карынай узялася на спіне кашуля. Ён доўга і слепа брыў па негустым тут хвойніку. Сярод лесавога пошуму ўслухаўся, стараючыся што-небудзь учуць з пагорка, але там, падобна было, усё сціхла. Можа, яны адтуль ужо і змыліся - вядома, чаго ім сядзець ноччу ўлесе? Недзе там засталася яго ватоўка, ды, мусіць, ватоўку ўжо не возьмеш - ватоўку яны падабралі. Канешне, гэта паліцаі, інакш бы Бураў не пачаў у іх страляць ды і яны

ў Бурава таксама. Толькі як яны налезлі на іх уначы? Ці, можа, пачулі з дарогі? Але ж там быў гэты другі партызан з канём, куды ён падзеўся? Можа, забілі? Мабыць, забілі, калі ён нічым не азваўся - ні стрэлам, ні крыкам, і даў гэтак нечакана абкласці баравінку.

Праз які кіламетр ці болей ад баравінкі Сушчэня спыніўся на краі старой дзялянкі-вырубкі з добра падрослым гушчаром маладняку. Ён усё думаў: куды падацца? Слых яго сіліўся злавіць якія-небудзь гукі з баравінкі, але адтуль ужо нічога не далятала праз лес. Пастаяўшы трохі і спачыўшы, ён палез далей у гушчар на дзялянцы, але хутка спыніўся. «А можа, яны пайшлі з баравінкі ці пабеглі за Буравым», - падумаў ён і павярнуў назад. Выбраўшыся з гушчару кустоўя, зноў трохі спыніўся ў нерашучасці: куды ўсё ж ісці? Куды ісці яму на гэтам свеце, ён не мог ніяк сцяміць. Але ўвага па-ранейшаму вярталася да баравінкі, дзе заставалася недакапаная яго магіла, і, яшчэ хвіліну разважыўшы, ён паціху пачаў красціся на тое праклятае месца. Мабыць, яму важна было ўпэўніцца, што там нікога няма. А можа, і пашукаць там ватоўку.

Так ён ціхай хадой прамінуў пагорак, па якім бег сюды, і зноў выйшаў да сырога ўзмошша забалаці; на яе хмызняковым ускрайку спыніўся. Было ціха. Толькі ён зноў спупіў у цемрыве са два крокі, адхінаючы ад твару галіну, як пад нагой дужа хруснула - мабыць, хваёвы сучок, і ён стаіўся. Не, зноў скрозь было ціха, мабыць, яго тут ніхто не пачуў. Паспакайнеўшы і разважыўшы, ён махнуў у душы рукой - чорт з ёй, з ватоўкай, а раптам яны там сядзяць у засадзе, чакаюць? Напорашся, што тады?

І ён успомніў тады пра Бурава, які пабег якраз недзе тут паблізу, трошкі бы стараной, у той канец забалаці, - стрэлы з баравінкі тады джгалі менавіта ў тым кірунку, рэхам-водгаласам ляскаючы наскрозь па ўзлессі. Ці ён уцёк, ці, можа, яго забілі? А можа злавілі? Цяпер у той яго безвыходнасці лёс Бурава чымсь прыцягваў да сябе ўвагу Сушчэні, і ён, абмінаючы баравінку, узяў убок; памалу, часта спыняючыся, пабрыў у цемры, мабыць, па

ягоных слядах. Колькі разоў пад ягонымі ботамі зноў страхавіта хрускала сухая галінка, тады ён заміраў, стойваўся, але крыку ці стрэлу ніадкуль не чулася, і ён, трохі пасмялеўшы, ступаў зноў. Мабыць, яму таксама трэба было кіраваць туды, у абход балотца, а там падумаць, што рабіць далей. Куды ісці. Бо на станцыю яму шлях закрыты, на станцыі паратунку яму не будзе. Хіба што ў лес? Ці куды на хутар? Ці ў які схоў, далей ад людзей, вёсак, дарог. Дзе толькі ён знойдзе такі здатны схоў? Ды яшчэ ў такую халадэчу.

Ужо добра адышоўшыся ад баравінкі, ён зноў набрыў на балота, здаецца, тут быў травяністы яго мысок, парослы алешнікам ды асіннікам, трошкі правей, ведаў ён, зноў цягнуўся мешаны лес - рэдкія хвоі, бярозы з падлескам і далей ішлі пералескі аж да Сінянскага бору. Недзе тут поруч была і дарожка, але дарогі Сушчэня баяўся - з дарог цяпер ішла ўся бяда. І ён, растапырыўшы рукі, слепа брыў, адхінаючыся ад голля, часам прытрымліваючы шапку на галаве. Густаваты малады асіннічак, які ён памятаў з лета, трэба было абмінуць староной, па вальнейшым месцы. І толькі ён павярнуў на трохі цвярдзейшы дол, як у звыклым стоеным пошуме лесу ўчуў нейкі староннi гук. Бы лясны голуб недзе правуркатаў і сціх. Але гэта быў не голуб. Сушчэня паслухаў, счакаў і павярнуў у асіннік, улез у ягоны гушчар і зноў прытаіўся. Галубіны вуркат прагучаў зноў і бліжэй. Устрывожаны пэўнай здагадкай, Сушчэня наўпрост, дужа зашорхаўшы голлем, палез бокам. Хоць было цёмна і ў доле мала што можна было згледзець, ён згледзеў-такі шараватую на траве купінку - то быў чалавек. Сушчэня моўчкі ўкленчыў ля яго, каленам натрапіўшы якраз на рулю вінтоўкі, рукамі намацаў боты, расхлыстаныя полы шыняля, адкінутую руку. Пэўна, гэта быў Бураў, ягоны шынелак, ды ён не азваўся на дотык сушчэнеўскіх рук, і Сушчэня баяўся паклікаць яго - ці мала што!.. Ён толькі абмацаў яго воглае цела і ўчуў, што той быў жывы, мабыць, паранены. Сушчэня хутка ўлез пальцамі ў кроў, але дзе была тая рана, ён зразумець не мог. Тады ён трохі пераваліў цела на бок - трава пад ім таксама была ў крыві, у крыві быў бок і шынель ля дзягі. Але сам

Бураў ніяк не азваўся на яго дотыкі, толькі ўнутрана, невыразна стагнаў. Што было з ім рабіць? Разважыўшы трохі, Сушчэня ціхенька патузаў яго за рукаў: «Гэ, гэ... Ты жывы?.. Куды цябе, га?..»

Бураў, аднак, маўчаў, толькі здрыгануўся целам і вуркотна-ціха стагнаў. Мусіць, папала яму як мае быць, падумаў Сушчэня, так ён можа тут і сканаць. Але што ж яму можа зрабіць Сушчэня, чым памагчы? Ці, можа, схаваць куды, бо ўдзень, як развіднее, гэты бераг асіннічку ўжо будзе, напэўна, відаць з дарогі, цяпер праз голы падлесак відаць далёка.

Сушчэня мужчына быў дужы, некалі на станцыі разгружаў вагоны з соллю, і цяпер, напяўшыся, узваліў на сябе цяжкаватае такі цела Бурава, узяў яго вінтоўку, і, абапёршыся на яе, бы на палку, узгробся на ногі. Немалой сілы спатрэбілася яму, каб з ношаю выбрацца праз гушчар на вальнейшае месца, далей ён выпрастаўся, зручней паддаў на спіне параненага. Пад хвоямі ісці стала спрытней, але ён зачапіўся за корань і ледзьве не паляцеў спотырча ў дол. Неяк усё ж утрымаўся, зноў паддаў Бурава, і той горача і пакутна выдыхнуў яму ў вуха:

- Войцік, ты...

Сушчэня хацеў азвацца, сказаць, што ён - не Войцік, але гаварыць яму было не надта каб зручна, і ён палічыў за лепшае змоўчаць. Хай думае, што гэта Войцік, а там будзе відаць. Галоўнае, пакуль ноч, трэба далей адсюль, бо, чаго добрага, зноў налезеш на тых ці яны самі дагоняць. Уранні яны могуць усё тут аблажыць, пачнуць прачоску, як бы не загрэблі абодвух у свой паліцэйскі нерат.

Аднак брысці так па лесе з цяжкім мужыком на плячах, нязручна ўгнуўшы галаву, было не дужа каб лёгка. Сушчэня ўгрэўся, ажно спацеў, праз якія паўгадзіны пачалі падгінацца ногі, і ён, каб не ўпасці, апусціўся на калені, побач на сухі, хвойны дол ашчадна паклаў Бурава. Рана таго ўсё крывяніла, плечы Сушчэні былі мокрыя ад яго крыві, і Сушчэня, сутаргава хапаючы

ротам стылае паветра, хвіліну сядзеў зняможана, паклаўшы на калені рукі. Ён па-ранейшаму напружана ўслухоўваўся ў цягучы шум лясных абсягаў, нават азіраўся па змрочных баках, але адразу ўчуў, як побач заварушыўся паранены.

- Што? Што табе?..

У наступную хвіліну ён зразумеў, што Бураў лаяўся, мусіць, ад болю, а пасля запытаўся здушаным шэптам:

- Куды... Куды ты нясеш?..

- І сам не знаю, - узрадаваўшыся, што паранены загаварыў, сказаў Сушчэня, усё яшчэ цяжка аддыхваючыся.

- Войцік? - тузануўся Бураў, заграбаючы побач рукой.

- Не Войцік - Сушчэня я, - сказаў Сушчэня, і Бураў зноў змоўк, бы насцярожыўся. Падобна, ён успамінаў штось ці думаў і пасля спакайней сказаў:

- Сушчэня, мяне добра падстрэлілі?

- А хто ж яго ведае. Але падстрэлілі, - пагадзіўся Сушчэня.

- А я цябе не паспеў...

- Дык калі ж было?.. Яны знянацку наскочылі... - сказаў Сушчэня і змоўк, не ведаючы, што сказаць яшчэ.

Бураў, відаць было, неяк утаймаваў свой боль, расплюшчыў вочы, паўзіраўся між цёмных хваін у трохі святлявае начное неба.

- Куды ты мяне валачэш?

- І сам не ведаю, - сказаў Сушчэня. - Але ўжо не дагоняць.

- Ты мяне ў Зубраўку. У Зубраўку мяне, - скрыгаючы ад болю зубамі, сказаў Бураў. - Там папытаеш Хвашчэўскага...

- Хвашчэўскага? Добра...

Сушчэня памаўчаў, каб лепей запомніць тое прозвішча, і падумаў: дзе тая Зубраўка? Ведаў, ёсць недзе пад Сінянскім борам вёска з такою назвай, толькі як да яе дапяцца? Колькі туды кіламетраў?

Бураў тым часам змоўк, і ён трошкі пакратаў яго за нагу, падумаўшы, каб хоць не сканаў ненарокам. Мусіць, трэба б яго перавязаць, ды перавязаць не было чым, зноў жа ў гэтай цемры нічарта немагчыма было згледзець. Але цягнуць так на сабе колькі кіламетраў па лесе таксама было небяспечна, найперш для самога параненага - як бы не сцёк крывёю. Разважыўшы трохі, Сушчэня прыйшоў да думкі, што трэба недзе расстарацца каня. Дзе толькі? На станцыю ісці ён баяўся, каб зноў не налезці там на паліцыю. Тады хіба ў Бабічах? У гэтым баку, ведаў, кіламетры праз тры была невялікая лясная вёсачка, мабыць, там яшчэ хтосьці застаўся і там бы ён разжыўся канём.

Вырашыўшы так, ён зноў нахіліўся над нерухомым Буравым, трохі патрос яго за борт шыняля.

- Слухай... Ну, як ты? Можа, дабярэмся да Бабіч? А там, можа, каня расстараемся...

Бураў нібы прахапіўся, напружыўся і, апаўшы затым, спытаў:

- Дзе Войцік?

- Дык хто ж яго ведае, - ціха сказаў Сушчэня. - Можа, забілі.

Бураў, здаецца, вылаяўся і зноў знямогла аціх у доле.

Счакаўшы трохі, Сушчэня ўстаў на калені, бураўскі карабін надзеў рамянём на шыю, каб той не замінаў пры хадзе. Гэты раз узваліць на сябе Бурава аказалася трудней, чым раней, і ён, хістаючыся, ледзьве падняўся на ногі. Хісткім крокам між дрэў і голля ён скіраваў у той бок, дзе, памятаў, за сенакосамі і Цімаковым балотам былі тыя лесавыя Бабічы.

Ведучы на повадзе каня, Войцік тады спусціўся з баравінкі, прадраўся праз алешкавы гушчар да гравійкі. Тут, ля дарогі, была яшчэ спазнелая трава, у якую адразу ўлёг яго згаладнелы конь (там жа, на выспе пад хвоямі, не было нічога). Войцік спярша патрымаў яго на повадзе, а пасля пусціў самапасам; паначы між кустоўя нідзе не дзенецца, падумаў Войцік, а сам закінуў за плячо вінтоўку і прыпёрся да камля адзінокай хвоі, што бліжэй за іншых стаяла ля дарогі. Было сцюдзёна, з поля дзьмуў золкі настырны вецер, добра яшчэ - без дажджу, а то б зусім дапякло на гэтым іх бязглуздым заданні. Коні дык зусім падбіліся за дарогу без ніводнай папаскі, а яны... Яны згаладнелі не менш за коней, толькі пра іх каму клопат? Пра сябе яны вінны былі клапаціцца самі, так заўжды было заведзена на заданнях, па крайняй меры, з самай вясны, як Войцік прыйшоў у атрад. Але ў такіх заданнях, ведаў ён, не ўсё абыходзіцца гладка і шмат што залежыць ад старшага. Ад камандзіра. Цяпер камандзірам назначылі Бурава. Што ж, Войцік не пярэчыў: Бураў быў партызан з вопытам, зноў жа, разведчык, ён гойсаў па заданнях, можа, болей за Войціка, можа, і пад кулямі быў часцей. Толькі ці разумнейшы ён - вось у чым справа. Калі браць па нядаўнім яшчэ даваенным жыцці, дык усё ж Войцік як інспектар райза, мусіць, значыў крышку больш, чым нейкі там шафёр райпоўскай палутаркі Колька Бураў. Але ён ужо ведаў, што цяпер, у вайну, не надта зважалі на ранейшы, даваенны статус, цяпер нейк неўпрыцям павылучаліся новыя - хто іх да вайны калі і ведаў, - як во камандзір падрыўнікоў Рыбчонак, што перад вайной, мабыць, толькі паспеў скончыць школу, ці пажарнік Сліпчанка, цяперашні начштаба іхняга атрада. Пра Войціка яны нібы забыліся, нібы яго і не было ў раёне, не сядзеў ён у прэзідыумах, не круціўся па вёсках упаўнаважаным, не выступаў з допісамі ў газеце. Усё-такі ён быў чалавек вядомы і нават складаў прамовы старшыні выканкома таварышу Корбуту, які хоць і меў ордэн і быў кіраўнік хвацкі, але не ўмеў звязаць тры словы па-людску. Заўжды ў яго выходзіла не прамова, а нейкая слоўная каша. Ну, дома, у раёне, вядома, гэта была не бяда, тут да ягоных прамоў-трасянак даўно прывыклі, але ж часам трэба было выступіць і ў

вобласці, на якой нарадзе, перад начальствам. Во тады старшыня выканкома і клікаў Войціка да сябе ў кабінет, садзіў за стол насупраць, і Войцік за два дні сачыняў яму любое выступленне. На любую мудрагелістую тэму.

Па сваім часе Войцік лічыў сябе чалавекам адукаваным, усё ж скончыў сем класаў, а галоўнае - меў зграбны, каліграфічны почырк, якім ганарыўся ўсе тыя гады, што працаваў у раёне. І асабліва калі яшчэ рабіў у сельсавеце. Ён і ў сельсавет трапіў менавіта праз гэты свой почырк. Неяк напярэдадні калектывізацыі абралі яго ў прэзідыум вясковага сходу і даручылі пісаць пратакол. Папера была так сабе, сшытак у клетачку, чарніла даволі вадзяністае, але ручку ён меў сваю, вучнёўскую, з літарамі КУШТО на бліскучай апраўцы, з выдатна распісаным пяром нумар 86. І там ужо ён пастараўся. Ён так акуратна, з палямі і выкручастымі росчыркамі вялікіх літар напісаў пратакол, што старшыня сельсавета, падпісваючы яго ў канцы, выкаціў вочы: ну і майстар! Ды і астатнія члены прэзідыума здзіўлена паўзіраліся - такога почырку яны ніколі не бачылі. Старшыня сельсавета на яго, аднак, не забыўся, і ў маі таго ж года ён ужо сядзеў у сельсавецкай хаце і пісаў. А калі таварыша Корбута пасадзілі кіраваць раёнам, Войцік таксама перайшоў у выканком - кадр ён быў ужо спрактыкаваны і даволі правераны.

Тут жа, у атрадзе, рабіць па ягонай спецыяльнасці, пэўна, не было чаго, ды ён, зрэшты, і не набіваўся на штось адметнае. Сказалі ўзяць вінтоўку і стаць у строй, ён узяў вінтоўку і стаў у строй. Праўда, і тут ён значна вылучаўся сярод малапісьменных калгаснікаў, якія ні дня не служылі ў войску і, канешне, тае вінтоўкі не трымалі ў руках. А ўжо калі разабраць і сабраць затвор... Ён жа хоць таксама не служыў абавязковай, але добра вывучыў вінтоўку на занятках Асаавіяхіма, дзе нават страляў тры разы, як здаваў нормы на значок «Варашылаўскі стралок». Значок і цяпер у яго на грудзях, бы ордэн. Хоць, можа, яшчэ заслужыць і ордэн, Чырвонай Зоркі, напрыклад, як у камандзіра. Што ён, дурнейшы за гэтага нахрапістага пяхотнага

лейтэнанта? Можа, разумнейшы нават, бо старэйшы за яго аж на восем гадоў і ўсіх і ўсё тут ведае, а што радавы дагэтуль, дык гэта таму, што сціплы. Са словам не выскоквае, на бога не бярэ, усё па-добраму, паслухмяна і ціха.

Вось хоць бы і з гэтым Буравым.

Войцік яшчэ звечара, як яны пад'ехалі да сушчэнеўскай хаты, зразумеў, што Бураў нешта мудрыць, нешта цямніць ці хітруе, калі адзін ідзе ў хату і бавіцца там чорт ведае чаго, пакідаючы яго з коньмі калець у завуголлі на ветры. Усё тут можна было зрабіць проста і хутка: паклікаць на парог і стрэльнуць. Сабаку сабачая смерць, чаго валаводзіцца? Дык не, сядзеў паўгадзіны ў хаце, пасля павёў яго за раку, у лес. Магілу яму капае... Глядзі, яшчэ будзе лапкамі яе высцілаць, як той Паліванаў, калі расстрэльваў свайго сябрука Шургачова за праяўленую трусасць у баі. Абодва яны былі лейтэнанты з акружэнцаў, нядаўна прыйшлі ў атрад, і ў першым баі з кнігаўскім гарнізонам гэты Шургачоў збаяўся, уцёк з-пад агню, падставіўшы там пад агонь увесь іх узвод. Узвод, вядома, выбіла напалавіну, ну, камандзіры і рашылі, каб узводны сам выканаў прысуд, які Шургачову вынес атрад. Паліванаў загад выканаў, але, як для сябра, магілу на дне выслаў лапнікам, каб утульней было дружбаку, з якім, мабыць, хапілі ліха на фронце. Але тут не фронт - тут партызанка. Зноў жа, Сушчэня нікому з іх не дружбак, проста здраднік, хоць і колішні знаёмы Бурава. Нашто яму такая ўвага? Канешне, Войцік мог бы сказаць пра сваю нязгоду, ды ён ужо ведаў характар гэтага райпоўскага шафёра яшчэ з той пары, як той ганяў свой грузавік паміж мястэчкам і Лепелем - вазіў тавары, лён, пяньку і заўжды каго-небудзь побач - нарыхтоўшчыкаў, бухгалтараў ці начальства. Аднаго разу з ім паехаў і Войцік, трэба было тэрмінова адвезці звесткі пра тэмпы бульбаўборкі. Бураў у горадзе загрузіў сваю палутарку мяхамі з пярлоўкай, яны ўжо збіраліся ад'язджаць, як немаведама адкуль да машыны прыбілася бабка з суседняе з мястэчкам вёскі - ездзіла хаваць сына і цяпер вярталася дадому. Войцік пагадзіўся падвезці

(што ж ён які злыдзень, не разумее, што і бабка - чалавек, хоць цёмная і старая, але не ісці ж ёй пехатой па гразі сорак кіламетраў). Ён яшчэ дапамог бабцы ўлезці ў машыну, і тая неяк уладкавалася там у куточку кузава ля мяшкоў і была страшэнна давольная яго дабрынёй і гасціннасцю. Тым болей, што пачынаў ісці дождж, і нідзе не было ніякай фурманкі. Але тут выскачыў з канторы запыханы, з квіткамі ў руках Бураў і, калі Войцік паказаў яму на бабку ў кузаве, закрычаў як рэзаны: «Злазь!» Бабка, вядома, злезла, а ён тады расчыняе дзверы кабіны, дзе ўжо сядзеў Войцік, і крычыць на яго: «Вылазь!» Здурнеў ён, ці што, падумаў Войцік ды вылез, і той усадзіў на ягонае месца бабку. Яны пасварыліся там, бабка сядзела, бы мыш, але не вылезла, і Войцік змушаны быў сорак вёрст трэсціся на дажджы і ветры ў дрогкім кузаве палутаркі. І ніякай увагі на яго ўсё ж раённага маштабу пасаду, на яго службовы аўтарытэт. І ўсё тое на вачах у бабкі. Войцік тады прастудзіўся, вядома, пасля з паўгода абходзіў гэтага Бурава стараной, вызнаў, ці не радня якая яму тая бабка, аказалася, не, не радня, нават не дужа знаёмая. Значыць, звычайная наравістасць, нахабнасць і хуліганства - іначай як назавеш той выбрык райпоўскага шафёра.

Цяпер во гэты Сушчэня...

Конь рупна поркаўся ў цемры ля канавы, дарога ляжала пустая, трошкі пабліскваючы ў цемры гразкімі крывулямі каляін. За полем на станцыі ўзяліся брахаць сабакі, там жа, дзесь на падворку, бліснула чырвонае святло - мусіць, з сенцаў. Там цяпер цёпла і сытна, варэць на вячэру бульбачку, падумаў Войцік, а тут во глытай слінкі ды калей на гэтым узлеску. Ён усё чакаў стрэлу на выспачцы, пасля якога яны адчулі б сябе вальней і паехалі б паначы да Зубраўкі, дзе былі свае людзі і дзе можна было б абагрэцца, паесці, пераначаваць. Мінула, мабыць, ужо з гадзіну, а стрэлу ўсё не было, і Войцік адышоўся ад хвоі, зябка патупаў нагамі - ногі зусім акалелі ў худых стаптаных гамашах. Ён наставіў каўнер воглай суконнай паддзёўкі, глыбей на вушы насунуў кепку і толькі зноў прыхінуўся да хвоі,

як пачуў на дарозе галасы - якраз там, дзе поркаўся ля канавы згаладнелы конь. Ля лужыны там стаялі ўжо дзве фурманкі (і адкуль яны ўзяліся?), і з іх моўчкі ссыпаліся людзі - постацей мо з шэсць, якія неяк крадком, уроссып шаснулі ўсе за канаву ў падлесак. Адзін дык зусім блізка прайшоў ля хваіны, Войцік, абмёршы і перастаўшы дыхаць, праводзіў позіркам яго цьмяную постаць з вінтоўкаю ў руках і нават заўважыў, як ён высака ставіў ногі, мусіць, каб не надта шархацець у быльнягу пры дарозе. (Як на тую бяду, з баравінкі данеслася некалькі слоў, мусіць, Бураў нешта гукаў Сушчэню.) Спярша змярцвеламу Войціку здалося, што гэтая постаць прэ проста на яго да хваіны, але яна моўчкі і ціха падалася ў падлесак. Тады Войцік ураз апрытомнеў і, прыгнуўшыся, кінуўся за хвою, а пасля - па ўзлеску далей. У гэты час ззаду ўжо раздалося галёканне, крык і стрэлы - пругкія хлёсткія ўдары іх паласнулі па голлі - ці не над самай галавой Войціка. Ламаючы нейкі ссохлы прыдарожны быльнёг, Войцік бег як ашалелы, засцярожліва гнучыся да самай зямлі. Пасля трохі разагнуўся, няпэўна сцяміўшы, што страляюць не па ім, - кулі, чуваць было, дзігалі кудысь збоч, да выспы, там жа асядаў уначы крык ці, можа, лаянка - гучна задыханы Войцік не шмат што мог разабраць на бягу.

Унізе, якраз ля забалаці з алешнікам, ён знямогла прыпыніў свой бег, слухаючы, ці не пачуецца дзе Бураў. Але Бурава нідзе не было, навакол было ціха, спакваля спыніліся і стрэлы на баравінцы. Што там здарылася? Але што там магло здарыцца, калі абрынуліся паліцаі, - мусіць, забілі Бурава і аслабадзілі Сушчэню - трэба было яго валачы ў гэты лес! Мабыць, жонка збегала да каменданта, той і паслаў даганяць... Ну, трэба было яму ўсчынаць тую магілу! Цяпер у тую магілу Сушчэня сам скіне Бурава. Зрэшты, можа, так яму і трэба, дурню.

Горш, аднак, што ён, Войцік, застаўся без каня, якога цяпер, напэўна, падабрала паліцыя. А можа, і не падабрала, можа, ён там пасецца і спакваля яго можна будзе ўзяць? Гэтая думка змусіла яго наблізіцца да дарогі - не той, гравійкі, дзе яго напаткала бяда, а да

лесавой, па якой надвячоркам яны сюды ехалі. Дарожка ціха і сонна ляжала між дзвюх змрочных сцен з хмызняку і хвой, угары светлаватай шчылінай бліскала змрочнае неба. Каб лепш чуць, Войцік прыпыніў дыханне і сціх: здалося, быццам ад баравінкі данесліся галасы. Але калі ён лепей услухаўся, галасы прапалі. Можа, тыя паехалі? Забралі забітага Бурава і паехалі на станцыю? А калі пакінулі там засаду - гэта ў тым выпадку, калі Бураў уцёк? Зрэшты, на чарта яму баравіна, яму трэба быў конь, а ягоны конь заставаўся каля гравійкі, там, дзе стаялі і іхнія дзве падводы.

Трохі пастаяўшы ў нерухомасці і пацікаваўшы навокал слыхам, Войцік яшчэ паразважаў і памалу пашкандыбаў травяністай лесавой дарожкай да недалёкай гравійкі. Паблізу ад яе ён прыпыніўся, паслухаў і зноў пайшоў, сігаючы шырокім, аднак, асцярожным крокам. Ля разложыстага ляшчынавага куста вылез на ўзлесак. Хвоя, пад якой ён стаяў, высілася крыху воддаль, да хвоі ён не пайшоў, паўзіраўся адсюль - фурманак на дарозе ўжо не было. Значыць, яны паехалі. Ці, можа, ад'ехалі куды ў іншае месца? Але не было нідзе і каня. Ён яшчэ паслухаў, паўзіраўся - шумеў голлем вецер, пачаў накрапваць сцюдзёны дожджык; станцыя ўдалечы ўжо сціхла, была, мабыць, глыбокая ноч. Ну, ведама, падумаў Войцік, каня яны не маглі абысці. Каня яны прыхапілі з сабой.

Ён яшчэ раз са злосцю памянуў гэтага недарэку Бурава і яго неразумнае патуранне Сушчэню. Падумаў, што, мусіць, няма ўжо ніякай рацыі марна тырчэць тут, у гэтым праклятым лесе, трэба, пакуль не развіднела, падавацца ў Зубраўку і далей у партызанскую пушчу. З заданнем нічога не выйшла, заданне правалілі, хай пасылаюць іншых. Ва ўсякім выпадку, віны тут за Войцікам ніякай няма, ва ўсім вінаваты Бураў.

Гэтую лесавую дарожку ён трохі запомніў з учарашняга, паселішчаў паблізу быцца нідзе не было, і, мабыць, яму можна пакуль не баяцца. Хіба што далей тут недзе былі невялічкія Бабічы, але Бабічы можна, напэўна, абысці стараной, і Войцік жвава пашыбаваў

тою дарогай, прыемна саграваючыся на хаду і ўсё ж несучы ў душы агорклае адчуванне няўдачы - паехалі двое на конях, а вяртаецца адзін пёхам. А галоўнае - немаведама што сталася з Буравым. Як ён раскажа аб тым у атрадзе?

Аднак у змрочным хваёвым лесе дарожка стала болей прыкметнай, ён ужо слепа не збочваў з яе і не натыкаўся на суччa падлеску. Здаецца, пачынала днець, начны змрок туманнай шэрасцю выціскаўся прэч з лесу, асядаў у голлі хваін. Як заўжды, ранак нёс трохі бадзёрасці пасля начной бессані. Войцік паспакайнеў, сагрэўся, аднак не страціў пільнасці, ступаў ціха і неяк знянацку ўчуў асцярожны староннi гук. То быў трэск галля пад нагамі - спрактыкаваным слыхам Войцік гэта вызначыў пэўна. Ён стаіўся ля маладой хваіны, паслухаў і неўзабаве згледзеў, як непадалёк у гушчары, неяк дзіўнавата-няпэўна ступаючы, нехта крадзецца - ужо ці не мядзведзь гэта? То ідзе разгоніста прама, то быццам замірае, аглядаючы шлях і ўслухоўваючыся. Во ён схаваўся за разложыстай елкай з апушчанымі долу сукамі, выйшаў зноў. І Войцік хутчэй здагадаўся, чым згледзеў у паўзмроку, што гэта ж чалавек нешта на сабе нясе. Ці не другога чалавека?

Няпэўная яшчэ здагадка стукнулася ў свядомасці Войціка, і ён, нерашуча сышоўшы з дарогі насустрач, ціха гукнуў:

- Бураў?

Чалавек, відаць было, знерухомеў, угледзеўся ў яго, але не кінуў ношу, а толькі выпрастаў з-пад яе галаву і азваўся:

- Таварыш Войцік?

- Войцік, ага. А ты...

Ужо нешта сцяміўшы, Войцік запаволеным крокам ішоў па мяккім імшарніку да начнога сустрэчнага. І перад ім усё болей выплывала з паўзмроку крутаплечая постаць Сушчэні з вінтоўкай на шыі, якую той, аднак, не

спяшаўся хапаць у рукі і тым трохі супакойваў Войціка.

- Спаткаліся, называецца? - без жаднае злосці, хутчэй паныла сказаў Войцік. - Што з Буравым?

Мабыць, Бурава параніла-такі здорава: куля, здаецца, прабіла бок навылёт, і ён марудна сплываў крывёю. Прытомнасць яго знікала, растварылася ў болю, які нясцерпнай пякельнасцю ахапіў цела, сэрца захліпнулася, і ён праваліўся ў пакутны свет зданяў. Аднак тыя яго пакуты ў непрытомнасці былі зусім іншыя, чым наяве, там ён трываў болей душэўна, а фізічна адчуваў сябе хіба дашчэнту знямоглым, з ватнымі нагамі, такімі ж пазбаўленымі сілы рукамі. Аднак ён трымаўся імі за край кузава сваёй палутаркі, якая кацілася пад адхон па дарозе да Залескага возера, дзе быў масток цераз пратоку ў другое, меншае, возера. Ды ўся бяда ў тым, што масток той знік, на берагах нават не засталося ягонага следу, палутарка разгоніста набірала хуткасць, і ён не мог ускараскацца ў кузаў, каб неяк спыніць яе. Чаму яна пакацілася, таго ён не ведаў, можа, ён не паставіў на тормаз, а можа, там хто кіраваў ёю, але, так ці інакш, неўзабаве машына павінна была скульнуцца з абрыву.

Бураў енчыў, крычаў, ды крыку яго не чуў тут ніхто, хоць побач ішлі і ехалі людзі, але гэта былі дзіўныя людзі, быццам вайскоўцы, толькі ў нейкай незнаёмай форме, у рудых шынялях - японцы, ці што? І ўсе яны былі з акулярамі на плоскіх тварах і ўзіраліся ў яго, але ні адзін не памог яму. І вось урэшце машына паляцела з абрыву, і ён разам з ёю. Толькі ў пратоку яна не ўпала, яна ўзнялася ў паветра, ягоныя ногі адарваліся ад зямлі, ён падняўся, учапіўся за борт, і той іх палёт нечакана здаўся мяккім, плаўным, нават прыемным, калі б не страх вышыні. Зямля аддалілася, знікла, навакол была цёплая лагодная прастора, у якой прагырчэў чыйсьці голас і сціх. Здаецца, голас пытаўся штосьці, але Бураў не мог зразумець, хто і пра што пытаецца, тое прычыняла яму пакуты, як і яшчэ адна акалічнасць: вакол стала цёмна, і ён занепакоіўся - як жа ў цемры спусціцца яму на зямлю з няўключанымі

фарамі?

Сапраўды, навокал было цёмна і сцюдзёна, ён ляжаў на зямлі, гэта пэўна, але без машыны. Палутарка яго дзесьці знікла, і нейчы інакшы голас ціха, зусім па-зямному, пытаўся: «Ты жывы, га?»

Ён хацеў сказаць, што жывы, але не разумеў, дзе ён і што з ім сталася. Чаму ён ляжыць? І хто гэта побач? Здаецца, павінен быць Войцік, з ім жа яны паехалі ў Масцішча... Нашто яны ехалі ў Масцішча?.. Ах, забіць здрадніка. Яны, здаецца, яшчэ і цяпер едуць, толькі чаму так цёмна і чаму ён гэтак няўклюдна распяты - вісіць дзесь на руках, а ногі часам валакуцца па лісцвяным доле, ногі сапраўды ватныя, без сілы, а пад шчакой штосьці мяккае і цёплае, і пахне чалавечым потам...

Толькі куды ж прапала палутарка?..

...Ах, ягоная палутарка, біты, разняшчасны грузавічок маркі «ГАЗ-АА»! Колькі ён натрываўся ад яе ды і разам з ёю, колькі ягоных спадзяванняў нарадзілася і перагарэла на гэтай машыне і як усё недарэчна скончылася...

Пра машыну ён марыў даўно, мабыць, з таго восеньскага дня, як упершыню згледзеў яе на станцыі - гэта прыехалі нейкія экспедытары з Віцебска, і яна стаяла ля прывакзальнага скверыка - магутная трохтонка на вялізных гумовых колах. У яе ўтульнай, зашклёнай кабінцы сядзеў шафёр з вялізнымі акулярамі над казырком, абапёршыся на руль, ён пазяхаў - мабыць, чакаў астатніх. Трое пасялковых сяброў-падшыванцаў спярша ўглядаліся ў яе здаля, пасля, падышоўшы бліжэй, памацалі яе тугія гумовыя колы, дашчаны кузаў, падножку. Вельмі хацелася паглядзець ім, што ў кабінцы, але яны баяліся дзядзькі-шафёра, які ўсё круціў галавой ды барабаніў пальцамі па чорным баранку-рулі. Бураў тады не зводзіў з ягонага твару ўлюбёнага позірку і, мусіць, тым дамогся свайго - шафёр павярнуў галаву і спытаў ляніва, але з жартоўнаю добрасцю ў голасе: «Што, хочаш піпікнуць?»

- «Хачу», - раптам сказаў Колька, і той шырока расчыніў кабіну: «Ану, лезь сюды». Колька з дрыготкім сэрцам ускочыў на падножку, шафёр пасунуўся на мяккім сядзенні, і ён умасціўся побач, аберуч ашчаперыўшы слізкі кругляк руля. Яму ўжо ўявілася, што яны едуць - далёка і шпарка, і побач ззяюць у захапленні хлапечыя позіркі, - усе шалёна зайздросцяць яму. А тут яшчэ шафёр кажа: «Ану, ціскані гэта» - і паказвае на чорны гузачок пасярод руля. Колька ціскануў і зараз жа скалануўся ад нечаканага рыку, што пагрозліва раздаўся ў жалезным нутры машыны. Шафёр засмяяўся, паляпаў яго па плячы: «Не палохайся, падрасцеш, на шафёра вывучышся».

Кольку Бурава нібы падмянілі ў той лістападаўскі дзень, аўтамабіль для яго стаў марай, ён пільнаваў кожную машыну на вуліцы, хоць іх было яшчэ мала, і яму яшчэ мо разы чатыры шчасціла бачыць іх пераважна на станцыі, ля грузавога двара. Яшчэ гады праз чатыры, калі ён добра падрос, на машыне стаў працаваць дзядзька Ігнат, бацька ягонага аднакласніка Стася, і тут ужо Колька ўвесь вольны час прападаў на сядзібе сябра, пільнаваў ягонага бацьку, калі той прыязджаў на абед, і яны мелі кароценькую магчымасць пасядзець трохі ў цеснай, напечанай сонцам, але такой утульнай кабінцы. Але Стась не дужа захапляўся машынай, яму болей даспадобы былі трусы, якіх была працьма ў іхняй варыўні і якія зусім не цікавілі Кольку. І калі неяк летам дзядзька Ігнат узяўся за рамонт свае трохтонкі, яго першым дабраахвотным памочнікам стаў Колька. Спярша ён адціраў ад гразі рысоры, пасля мыў у газе балты і гайкі, памагаў дзядзьку Ігнату разбіраць задні мост - дзе патрымаць ключ, дзе падаць шплінт і шайбу, а то і падлезці дзіцячай рукой туды, дзе не пралазіла рука дарослага чалавека. Затым яны тыдзень корпаліся ў рухавіку, і дзядзька Ігнат тлумачыў хлопцу, навошта патрэбны шатуны і поршні і як яны круцяць каленчаты вал, як перадаецца ягоная энэргія на колы, адкуль і куды ідзе электрычнасць і як яна запальвае гаручае ў цыліндрах. Коля быў хлопец кемлівы і запамінаў усё да драбніц - слава богу, тады ўжо вучыўся ў сёмым класе. Праўда, затым у яго шафёрскай адукацыі настаў

перапынак, аж гады тры ён рабіў у леспрамгасе, затое, прызваны на вайсковую службу, адразу папрасіўся ў аўташколу: сказаў камандзіру, што ведае будову аўтамабіля, трэба толькі навучыцца ездзіць. Камандзір трапіўся добры, і месяцы праз чатыры маладога чырвонаармейца Бурава залічылі ў аўташколу, дзе ён паказаў найлепшыя здольнасці і па сканчэнні атрымаў шафёрскія правы і па два трохкутнічкі ў пятліцы. Пасля ён ужо ні пра што іншае не марыў, як атрымаць машыну і ездзіць на ёй хоць да скону жыцця.

У жыцці, аднак, усё сталася болей складана і меней шчаслівa, чымсь у марах. Пасля дэмабілізацыі ён вярнуўся дамоў, у мястэчка, але машын у раёне было ўсяго чатыры і на ўсіх сядзелі шафёры. Яму машыны ўжо не досталося, і ён стаў чакаць. Каб было з чаго есці хлеб і карміць маці з сястрою, наняўся грузчыкам у райпо, там ён з год цягаў мяхі і скрынкі, нагружаў і разгружаў свае і гарадскія машыны. Неяк увосень часова падмяніў на трохтонцы Хвастова, калі той захварэў і яго старэнькая «АМО» засталася без вадзіцеля. Але Хвастоў неўзабаве папраціўся, і Бураў зноў мусіў падацца на апрыклы яму склад, грузіць нарыхтаваную за лета кару лазы і крушыны. І ён чакаў, упарта і настойліва, з роспаччу і надзеяй, аж пакуль аднойчы пад восень старшыня райпо Падабед не паклікаў яго ў кантору і не загадаў ехаць у Віцебск на станкабудаўнічы: рабочыя-шэфы выдзелілі райпо грузавы аўтамабіль. Выправіўшы дакументы, Бураў, нібы на крылах, паляцеў у Віцебск. З вакзала на завод ён ішоў пехатой і быў нібы ў тумане ад радасці, не заўважаў ні гарадскіх дамовак, ні трамваяў, ні пешаходаў, ва ўяўленні яго ззяў такі новенькі, зграбны грузавічок, што ён гатовы быў несці яго на руках да свайго райпа. Канешне ж, ён неўзабаве паедзе на ім па шашы, будзе даганяць, абганяць фурманкі, і ўсе будуць глядзець, як ліха і спраўна ён кіруе машынай. Не, вядома ж, ён не ліхач, ён не будзе ганяць машыну без толку, ён будзе ашчаджаць рухавік, не перакручваць яго, божа барані - не пераграваць, ён ужо ведаў шмат якія шафёрскія сакрэты - што спасціг сам з падручнікаў, чаму навучылі на службе, а што ўчуў ад

старых спрактыкаваных вадзіцеляў. Ён толькі баяўся, каб не адбылася памылка, каб на заводзе не павярнулі яго назад - ён ужо ведаў, што могуць прыдрацца да дакументаў або сказаць, што спазніўся і аўтамабіль перадалі каму другому. Якой інакшай арганізацыі ці калгасу.

Памылкі, аднак, не адбылося. У цесным заводскім пакойчыку з кратамі на акне вусаты надзьмуты начальнік у белай талстоўцы, падпяразанай чачэнскай, з мноствам дробненькіх бляшак, дзяжкай, праверыў яго дакументы і павёў цераз заліты мазутам двор на заводскія зады. Яны ішлі доўга, завод быў вялікі, праціснуліся вузкім пераходам між дзвюма глухімі сценамі, пералезлі цераз гару ржавай жалезнай арматуры і тады ў кутку за трансфарматарнай будкай нерашуча спыніліся. Ля плота стаяла яго прыгажуня, яго паўтаратонка славутай на ўвесь свет горкаўскай маркі «ГАЗ-АА».

Убачыўшы яе, Бураў знерухомеў, у яго адняўся язык, ён не мог вымавіць слова. Мусіць, бачачы яго збянтэжанасць, дзядзька ў талстоўцы бадзёра вымавіў: «Вось, калі ласка, прашу любіць і жалаваць, ваша аўто. Наладжвайце і язджайце» - і пайшоў у сваю кантору. А Бураў усё разгублена стаяў на ранейшым месцы - такога ён не прадбачыў. Гэта быў не аўтамабіль - то быў аўтамабільны труп, аўталамачына, рэшта ржавага металу і паламанага дрэва. Абедзве фары не лбе гэтага трупа былі без шкла і без лямпачак, тонкая паласа бампера жахліва сагнулася, мабыць, у аварыі, левае крыло хістка трымалася, мусіць, на адным болціку, дзверцы кабіны, канешне ж, не зачыняліся, бо былі без ручкі. Да таго ж яны былі праламаны, таксама як і ўвесь левы борт кузава, з якога тырчэлі канцы абламаных дошак. Брудныя скаты напалову сплюснуліся без паветра, а ў кабіне валялася на падлозе завадная ручка побач з пустою бутэлькай, на абадраным сядзенні ляжаў хвост селядца ў парудзелай ад сонца паперыне. Шкала спідометра была выдрана з мясам, аголеныя правады віселі пад рулявой калонкай. Убачыўшы ўсё тое, Бураў ледзь не заплакаў ад

расчаравання, пакратаў тугі абаранак руля. Думаючы, што нікуды яму адсюль не кранущца, што гэтую дэрбіну можна хіба парэзаць аўтагенам ды здаць ва ўтыль, ён падняў палавінку капота, зазірнуў на замаслены і запылены рухавік, які не працiралі, мабыць, з часу яго ўстаноўкі на аўтамабіль. Свечы, аднак, былі ўсе на месцы, у радыятары нібыта штосьць пляскалася. Трохі падкачаўшы бензіну, ён уставіў ручку ў храпавік каленвала, дужа крутануў - раз, другі, трэці... І во дзіва: на чацвёртым павароце рухавік падхапіў абароты, затросся, зачхаў - Бураў таропка павярнуў рычажок дроселяў, і поршні захадзілі весялей - падобна, рухавік завёўся. Аднак, яго шафёрская радасць была заўчаснай: неўзабаве абароты пачалі змяншацца, рухавік затросся, затузаўся і заглух. І колькі затым Бураў ні круціў ручкай (аж змакрэла спіна), як ні тузаў падсос, рухавік не азваўся, маўчаў, нічога з ім нельга было зрабіць.

Увесь той дзень да вечара ён корпаўся ля машыны, падкачаў колы, прыбраў кабінку. Надвячоркам пайшоў у кантору прасіць якую машыну, каб адбуксіраваць палутарку ў раён. У канторы не было нейкага начальніка ды і скончыўся рабочы дзень, стомлены і згаладнелы, ён пераначаваў на абадраным сядзенні ў кабіне, і толькі назаўтра ранкам да яго задам падсунуўся чатырохтонны «ЯС», які і ўзяў яго на буксір. Пакуль яны выехалі з горада і затым паўзлі па шашы, Бураў змакрэў ад поту за рулём свае дэрбіны - ад стомы і хвалявання; добра, што буксір быў даўгі, яму неяк удалося не стукнуцца ў задні борт таго «ЯСа». Пасля абеду, аднак, ён пад'ехаў да шырока расчыненых варот райпоўскага склада і, як вылез з кабіны, ледзьве не ўпаў на зямлю ад горычы і знямогі.

Усё доўгае лета затым Бураў корпаўся пад машынай - разабраў яе да апошняга вінціка: і рухавік, і хадавую частку, перабраў усе вузлы і агрэгаты - чысціў, змазваў, рэгуляваў. Кепска, аднак, што добрая палова дэталяў ні к чорту не гадзілася ад старасці і выпрацоўкі, трэба было мяняць, але дзе было ўзяць новыя? Разоў дзесяць ён ездзіў у Віцебск, усё на той жа станкабудаўнічы завод, ездзіў у Оршу да знаёмага чыгуначнага

нечальніка, замяніў задні мост, які райпо здабыло аж у пагранатрадзе за Полацкам. Мост гэты таксама быў далёка не новы, ды ўсё ж трохі лепшы за ягоны ўшчэнт разбіты. Паўмесяца ён праціраў клапаны, паяў радыятар і ладзіў тармазы. Калі хадавая частка і рухавік былі трохі даведзеныя да ладу, настала чарга кабіны і кузава, але гэта было ўжо лягчэй - тут ужо ён абышоўся сваім матэрыялам. Зрабіўшыся на тыдзень сталяром, ён залапіў дзіркі ў кузаве добра падагнанымі дошкамі, а кабіну абабіў цынкавай бляхай, лістоў пяць якой сам адарваў з даху местачковага кляштара пры закрытым касцёле, які даўно ўжо курочылі людзі. Заставадася пафарбаваць усё ў нейкі прыстойны колер, ды нідзе нельга было дастаць фарбы, і ён месяц ездзіў у такім страхоцкім выглядзе - з бляшанай кабінай і стракатым кузавам. І толькі позняй восенню за два мяхі капусных качаноў з гарода раздабыў на станцыі паўвядра жоўтай фарбы, якой і афарбаваў палутарку. Атрымалася даволі прыстойная машына, якая пасля за дзве зімы і лета выездзіла не адну тысячу кіламетраў і, мусіць, ездзіла б і яшчэ, калі б не ўсчалася вайна.

На трэці ці чацвёрты дзень ад пачатку вайны машыну загадалі адагнаць на станцыю, меліся пагрузіць на платформу, каб кудысь адправіць. Бураў і адагнаў, паставіў у рад з іншымі недаломкамі на таварным двары, болей ён нічога не мог ёй зрабіць, бо сам спяшаўся з позваю на зборны ваенкамацкі пункт. Але сталася так, што ні ён не трапіў туды, куды яго пасылалі з ваенкамата, ні ягоны аўтамабіль не дачакаўся пагрузкі. Добра пасланяўшыся па жудасных дарогах вайны, ён мусіў урэшце вярнуцца дамоў, бо фронт далёка перагнаў яго, мястэчка занялі немцы, начальнікам над раёнам паставілі нядаўняга бухгалтара Шалькевіча, які стаў называцца бургамістрам, хутка арганізавалі паліцыю, што размясцілася ў новым памяшканні раённай бальніцы. Там жа ён убачыў аднойчы і сваю гаротную палутарку, на якой цяпер раз'язджалі паліцаі, а за яе рулём сядзеў малодшы Мікіцёнак, што вучыўся ў школе адначасова з Буравым, толькі ішоў на тры класы пазней. Ён і жыў на суседняй вуліцы, і некалі, як дзядзька Ігнат рамантаваў свой

грузавік, яны разам памагалі шафёру. Мікіцёнак таксамса захапляўся тэхнікай і вывучыўся на шафёра.

Тое, што ягоны аўтамабіль апынуўся цяпер у паліцыі, адабрала ў Бурава сон, ён дужа схуднеў, перастаў есці і нават размаўляць з маці, тая ўжо думала, што ён захварэў. Але сын быў здаровы, толькі ён тыднямі ламаў сабе галаву, як адпомсціць паліцыі ды і гэтаму Мікіцёнку таксама. Сотні варыянтаў помсты пракруціў ён у сваіх мазгах, але ўсе яны былі з бракам: то надта дробязныя, то смешныя, то занадта небяспечныя, то зусім яму не па сіле. Але ўсё роўна ён думаў, прыкідваў, прымерваўся, назіраў. Мабыць, у снежні ён ужо ведаў напэўна, што зробіць, належала толькі выбраць здатны для таго час. Гэты Мікіцёнак з машынай у будні і святы прападаў у паліцыі, ноччу машына стаяла на бальнічным двары, там была варта, туды падступіцца было немагчыма. На дарозе таксама ён нічога зрабіць ёй не мог: у яе кузаве заўжды сядзелі паліцаі з вінтоўкамі. Мусіць, у паліцыі была жорсткая дысцыпліна, канешне, немцы ўмелі наводзіць парадак, ды ўсё ж Бураў колькі разоў заўважаў, што Мікіцёнак калі-нікалі на кароткі час прыязджае дадому, заглядае да бацькоў. Машына тады стаяла ці каля веснічак на вуліцы, ці ён заганяў яе ў вароты. За варотамі, вядома, яе не дастаць, там бразгаў ланцугом звяглівы сабака. А вось ля веснічак...

Але гэта трэба, каб было цёмна, каб яго ніхто не ўбачыў ні праз акно, ні з вуліцы. І ўвесь канец восені ён сачыў уранку, як паліцаі выязджаюць куды на раён, а ўвечары калі вяртаюцца. У двары за хляўком ён прыладзіў да сцяны драбіну, каб хуценька ўлезці па ёй на страху, зірнуць цераз садкі на суседнюю вуліцу, дзе бачны быў вугол Мікіцёнкавай хаты. Ён ужо даўно падрыхтаваў добры квач на драціне, каб дастаць з бака бензін, ашчадна прыхаваў пад страхой паўкарабка запалак. Аднаго разу ён аж закалаціўся ад радасці, калі неяк на змярканні згледзеў машыну ля Мікіцёнкавай хаты. Але, мусіць, ён позна ўсё ж згледзеў - пакуль абабег пуньку і пералез цераз суседаў паркан, там ужо з'явіліся людзі - два паліцаі прыкурвалі каля веснічак, а Мікіцёнак

нядоўго пакорпаўся над капотам, апусціў яго, і яны хутка паехалі некуды. Ён спазніўся. Другі раз у кузаве нехта сядзеў, мусіць, чакаў шафёра, які ненадоўга забегся ў хату. Затое трэці раз ён згледзеў сваю гаротніцу ў самы спрыяльны час. Тады ўжо вечарэла, ён еў бульбу за сталом у хаце і ўсё пазіраў у акно, дзе між будынін на суседняй вуліцы мільганула прыцьмелае святло фар, і ён зразумеў, што гэта Мікіцёнак. Кінуўшы на стале недаедзеную бульбу, ён рынуўся з хаты, падхапіў квач у сенцах, выхапіў з падстрэшша запалкі, цераз заснежаны і заліты памыямі сметнік выбег на гарод, пералез адзін плот і пераскочыў другі, прабег задамі суседавай сядзібы і з-за паркана паглядзеў на вуліцу. Машына стаяла пасярод дарогі, якраз насупраць Мікіцёнкавай хаты, у двух вокнах якой ліпела святло газнічкі, і Бураў наважыўся. Ён не так зразумеў, як адчуў інстынктам, што болей зручнага выпадку не будзе. Гэты самы зручнейшы.

Бураў пераскочыў цераз паркан і кінуўся да машыны. Бензінавы бак якраз быў з гэтага боку, таму праз акно з хаты яго ніхто згледзець не мог. Заснежаная вуліца ўся патанала ў паўзмроку, хоць чалавек на ёй быў бачны здалёк, але ніхто нідзе не ішоў і не ехаў. Бураў з усяе сілы крутануў з гарлавіны тугаватую накрыўку бака (ведаў, яна заўжды адкручвалася туга) і сунуў туды свой абкручаны пакуллем квач. Шкада, бензіну было не поўна, мусіць, з палавіну бака, ён адчуў гэта, боўтнуўшы квачом, і, выцягшы яго да паловы, чыркануў запалку. Пэўна, ён усё ж хваляваўся: першая запалка згасла, згасла і другая, тады ён узяў з карабка іх некалькі разам і запаліў. Калі запалкі добра ўспыхнулі, ткнуў імі ў квач, той ярка пыхнуў у самы ніз кузава, жарам ударыў у твар (абпаліўшы бровы), але Бураў усё кінуў з рук і рынуўся цераз плот. Не азіраючыся, на падворку адчуў, як ззаду агняна ўзвіхрылася, зашквірчэла, ярка асвяціла наваколле, ён убачыў перад сабой на снезе свой даўгалыгі цень ля хляўка і забег за вугал. Далей, не азіраючыся, прыбег на ўласны падворак і стаў ля дрывотні - за садкамі і стрэхамі будынкаў палаў дымны пажар і чуліся крыкі - то былі музыка і відовішча, весялейшых за якіх ён не памятаў у

жыцці.

Машына згарэла датла, рамантаваць там ужо не было чаго, паліцаі яе нават не звалаклі з вуліцы, яе абгарэлы шкілет стаяў там да сярэдзіны лета, пасля недзе прапаў. Але таго Бураў ужо не бачыў: тае ж ночы, калі па яго прыйшлі паліцаі, ён прадбачліва сядзеў у пуньцы і гародамі падаўся з мястэчка ў пушчу. Там пачаўся для яго новы жыццёвы этап, які як бы не скончыўся разам з жыццём у гэтым прыстанцыйным лесе...

Бураў ляжаў пад стромкай, голай аднізу хваінай, і Войцік нейкай анучай спрабаваў перавязаць яго. Рана была, мусіць, кепская - ці не разрыўной у левы бок, крыві наплыло многа, Войцік у прыцемках доўга поркаўся пад яго кашулямі, і Бураў, хрыпата стогнучы, лаяўся:

- Мудак! Я ж цябе паслаў пільнаваць... А ты...

- А я і пільнаваў. Што я вінаваты, што яны з іншага боку? - шчыра дзівіўся Войцік.

- Іншага...

Стоячы на каленях, Войцік нарэшце абкруціў анучай скрываўлены жывот Бурава. Як след перавязаць яго было, аднак, неяк ды і не было чым, і Войцік думаў, што карысці з тае перавязкі будзе няшмат. Трэба б яшчэ якую анучыну, але дзе яе возьмеш у гэтым бязлюдным восеньскім лесе? Ён ваўкавата зірнуў на змакрэлага ад поту Сушчэню, які паныла сядзеў побач, і ад яго, відаць было ў світальным прыцемку, веяў потны парок. Сушчэня сохнуў, аддыхваўся, упёршыся рукой у імшарнік, і нявесела пазіраў на двух партызан. Яны да яго не звярталіся, ні пра што не пыталіся, быццам нават злавалі на яго, але не стралялі і нават не праганялі яго. Яму ж ісці адгэтуль не было куды, і ён сядзеў так, стомлена дыхаў, чакаў. Праўда, адчуваў ён, што, мусіць, яшчэ спатрэбіцца: хілы Войцік наўрад ці сам справіцца з цяжкім, зусім ужо знямоглым Буравым, трэба будзе падмога. Пэўна, гэта ж адчуваў і Войцік, які, перавязваючы Бурава, усё думаў: што з ім рабіць, куды

несці? І як несці?

- Ох і нарабіў ты... Ох і нарабіў! - стагнаў тым часам паранены.

- Гэта ты нарабіў, - вяла апраўдваўся Войцік. - На чарта было лезці ў лес?

- Што ты разумееш, Войцік, - прастагнаў Бураў і, нібы штосьці ўспомніўшы, запытаўся: - Дзе Сушчэня?

- Ды во сядзіць, - кіўнуў галавой Войцік.

- Не чапай Сушчэню, - выразна вымавіў Бураў і сціх. Войцік зацяў дыханне, нібы чакаючы пачуць ад яго і яшчэ нешта, але, не дачакаўшыся, паціснуў плячыма пад воглай рудой паддзёўкай.

- Хай... Мне што. Толькі што камандзір скажа?

Бураў на тое ўжо не адказаў,ён зусім неяк нядобра абціх у доле і ляжаў так, нямогла выпрастаўшыся даўгім целам, раскінуўшы худыя ногі ў ботах. Знятую з яго дзягу з наганам у кабуры Войцік ужо начапіў сабе на паддзёўку і, мабыць, не збіраўся яе знімаць. Але Бураву, відаць, было не да зброі, здаецца, ён зноў упаў у непрытомнасць.

Пасядзеўшы трохі, Войцік трывожна заазіраўся.

- Яшчэ дагоняць і возьмуць, як суслікаў. Нада матаць адсюль. - Ён ускочыў на ногі. - Ану, давай бярэм удвух!

Сушчэня з прымаруджанай гатоўнасцю падняўся, падышоў да параненага. Карабін Бурава ляжаў побач, але цяпер пры Войціку ён не адважыўся яго ўзяць. Тады карабін падхапіў Войцік і, шчоўкнуўшы затворам, закінуў яго за плячо. На другім плячы ў яго вісела свая даўгая вінтоўка, на баку звешвалася дзяга з наганам. Мусіць, замнога для аднаго чалавека набралася ў яго зброі, але Сушчэня не сказаў нічога - зброя цяпер яго не датычыла.

- Так. Бярэм!

Войцік нахіліўся да ботаў Бурава, а Сушчэня ўзяў параненага пад пахі, натужыўся, зноў узваліў яго на сябе, і яны кудысь павалакліся воглым ранішнім лесам.

Тым часам наўкола віднела, угары праступіла хмарнае сцюдзёнае неба, у якім раздумна гойдаліся хваёвыя верхавіны, голае бярозавае вяршалле. Лес поўніўся тужлівым працяглым пошумам, які часам трохі спадаў, каб зноў неўзабаве ўзяць сваю несціханую жалобную ноту. Усё навакол - і рэдкія хвоі, і кустоўе ядлоўцу, і голы танканогі беразняк, а таксама дол-беламошнік - сачылася набрынялай золкай сырызнай. Нават апалы сушняк пад ботамі трускаў амаль нячутна, ледзь хрупаў у чэзлай траве, на мокрым імху. Зрэшты, Сушчэня ўжо не асцерагаўся нічога, азірацца яму было надта нязручна, і ён спадзяваўся на Войціка: ужо Войцік павінен глядзець. Ён ведаў адно - цярпліва валачы на сабе цяжкое цела Бурава таксама ў набрынялым вільгаццю і крывёй шынялі і толькі прыслухоўваўся час ад часу да яго дыхання на плячы, якое часцяком зусім памірала. І тады ён думаў: хоць бы не сканаў гэты Бураў. Ён не ведаў яшчэ, чым той цяпер яму неабходны, але ён чуў, што той сказаў Войціку, і, нібы тапелец за квёлую саломінку, ухапіўся за тыя ягоныя словы. Ён згледзеў у іх нейкую нечаканую нітачку, якая, можа, вывела б яго да сваіх, калі б не ўратавала жыццё, дык хоць бы засцерагла ад недарэчнай пагібелі. Пасля ўсяго, што з ім здарылася, ён ужо не спадзяваўся на жыццё - для яго найвялікшаю ўдачай было б загінуць па-людску, пакінуўшы па сабе хоць някепскую памяць. З нейкага часу ён ужо адчаяўся пазбыцца пагібелі, жыццё для яго зрабілася недасяжным, ведаў, з тае пасткі, куды яго загналі ворагі ці абставіны, мусіць, паратунку не будзе. Але хоць бы не спляжыць жыццё самых дарагіх ягоных істот - Анэлі і сына. Пра тое ён думаў усе гэтыя тыдні, хоць, канешне, інстынктыўна яшчэ турбаваўся, тузаўся за жыццё, нібы на што спадзяваўся. Хіба на цуд. Але, мусіць, нейкі цуд і адбыўся, ягоная пагібель адсоўвалася. Што будзе далей, Сушчэня, аднак, не меў уяўлення.

Яны доўга брылі так з параненым, якога няспрытна

коўталі на сушчэнеўскіх плячах - і так і гэтак; ён ужо добра адарваў іхнія рукі, а ў Сушчэні яшчэ і падкошваліся ногі. Добра яшчэ, думаў Войцік, што гэты Сушчэня быў мужык дужы, адзін ён, мусіць, не даў бы рады гэтаму цяжкому Бураву. Зрэшты, цяпер болей за параненага, які наўрад ці пражыве доўга, Войціка непакоіў Сушчэня - што з ім рабіць? Праўда, пакуль што валачэ ён спраўна, нават не трэба яму загадваць, але куды вывалача - во ў чым справа. Войцік быў родам з другога канца раёна, гэтага лесу амаль не ведаў. Учора з Буравым ён трапіў сюды першы раз і цяпер, на гэтай бездаражы, зусім страціў арыенціроўку, куды яны чаўпліся, не мог зразумець. Мабыць, трэба было папытацца ў Сушчэні, але не мог жа ён тым паказаць, што не ведае дарогі і не знае, куды ісці. Так ён можа даждацца, што гэты Сушчэня яшчэ прывядзе абодвух у нейкую пастку, у самае паліцэйскае логава, тады ўжо кранты будуць абодвум. І чаму яны не застрэлілі яго ў Масцішчы або на выгане, каля рэчкі, навошта павалакліся з ім аж у лес? Але гэта ўсё Бураў. Ці не за гэтую сваю дурноту ён цяпер і расплочваецца крывёю. Але і Сушчэня ўсё ж нейкі незразумелы здраднік, глядзі, вынес знямоглага Бурава і цяпер не спрабуе ўцячы, брыдзе - куды і навошта? Мабыць жа, ведае, што чакае яго, як вынесе, а во ідзе.

Зноў жа, а як бы ён абышоўся адзін, без Сушчэні?

Дзівосная сітуацыя, нічога не скажаш, заклапочана думаў Войцік. І ён азіраўся вакол, спрабуючы ўбачыць якую знаёмую прыкмету, каб пазнаць месца, дзе яны ўчора ехалі конна ў Масцішча. Толькі нічога знаёмага не траплялася ў гэтым лесе, вакол цягнуліся здзічэлыя баравыя нетры, шумелі, пагойдваючы верхавінамі, стромкія хвоі, і ім ні разу не трапілася ні сцежкі, ні якой лесавой дарожкі. Добра яшчэ, што дол амаль скрозь быў раўнінны, не трэба было абыходзіць балоты, але ўсё роўна яны знемагліся. Мусіць, усё ж памагаты з Войціка быў кепскі, мокрыя боты параненага ўсё лузгаліся з яго рук, Сушчэня тузаўся, пакуль, стомлена хакаючы, не прахрапеў з-пад Бурава:

- Вы кіньце... Я сам...

Войцік і кінуў, сапраўды, яму хапала дзвюх цяжкіх вінтовак на вузкіх плячах, нагана, ён таксама ўходаўся за гэтую ноч, ды яшчэ пачаў балець страўнік - азвалася яго застарэлая язва. Маўчала амаль тыдзень, а во напомніла. Ну але, мабыць, турботаў гэтае ночы яму было мала, адчуваў, яны яшчэ вылезуць бокам. Ісці так без грузу ў руках стала лягчэй, ён трохі аддыхаўся і раптам у звыклым лесавым пошуме ўчуў раскацістае водгулле некалькіх далёкіх стрэлаў - як раз у тым баку, куды яны кіравалі. Войцік аж прыпыніўся, хацеў гукнуць Сушчэню, але той сам, мабыць, учуў страляніну і стаў - сагнуты ў тры пагібелі пад няўклюдна распластаным на спіне целам Бурава.

- Дзе гэта? У Бабічах?

- Можа, і ў Бабічах, - шумна выдыхнуў Сушчэня.

«Вот жа халера, - падумаў Войцік. - Калі ўжо страляюць у Бабічах, дык куды ж паткнуцца?»

Мусіць, тое ж адчуў і Сушчэня, які трохі паправіў на сабе ношу, хістка пераступіў на нагах - праз хвіліну яшчэ даляцелі два стрэлы, і затым усё няпэўна знямела. Яны пастаялі, тады Войцік зайшоў наперад і паказаў рукой трохі ўбок ад тых стрэлаў.

Яны зноў рушылі па бары, усё пільна ўслухоўваючыся праз лесавы шум, - пакуль што, праўда, вакол было ціха. Куды яны ішлі, цяпер ужо не ведаў ніхто - ні Сушчэня, ні Войцік. Неўзабаве, аднак, ім трапілася старая лесавая прасека, дзе-нідзе паросłая маладым падростам - хвойнікам і бярозкамі, дол тут слаўся пясчаны, і ісці па ім было цяжэй, чым па бары-беламошніку, у пяску грузлі ногі. Сушчэня часта спыняўся, усё паддаючы на сябе цяжкое цела параненага, якое ўпарта спаўзала долу. Бураў спярша маўчаў, мо быў у непрытомнасці, а пасля стаў надта стагнаць, і Сушчэня спыніўся. Яны ашчадна паклалі Бурава долу, Войцік сказаў заклапочана:

- Зноў закрываніў...

Ён знямогла скінуў са сваіх плеч вінтоўкі і сеў, дзе стаяў, - на сухі, засыпаны ігліцаю дол. Штось памеркаваўшы, Сушчэня на гэты раз рашуча сцягнуў цераз галаву сваю чорную чыгуначную кашулю, хуценька скінуў нясвежую, выцвілую ад старасці майку.

- Э, ужо нічарта не паможа, - недаверліва сказаў Войцік. - Тут ужо столькі нацякло...

Схіліўшыся над параненым, яны зноў расхінулі ягоны мокры шынелак і ўдвух пачалі абвязваць майкай ягоны жывот. Каб яна неяк трымалася там, выцягнулі з ягоных штаноў вузкі каляны раменьчык, падперазалі жывот па майцы.

- Мне, мусіць, усё, - квола прастагнаў Бураў і памаўчаў. - Не данесяце...

Удвух яны моўчкі пасядзелі над ім, адпачываючы і непружана згадваючы, як быць далей, і Войцік азваўся першы.

- Трэба падвода. А так, канешне...

Усё нешта мяркуючы, ён паўзіраўся наперад, у затуманены працяг вузкай прасекі, з аднаго боку якой стаяла сцяна спелага хваёвага бору, а з другой зелянеўся кучарывы гушчар маладога, радкамі пасеянага лясніцтвам хвойніку. Хвойкі тыя не надта каб выраслі, але ўсе дружна імкнуліся ўгору, утварыўшы высакаваты, на два-тры чалавечыя росты, непралазны гушчар. Мабыць, там можна было схавацца, іншага сховішча ў скразным бары не было.

Толькі яны ўзяліся за Бурава, каб несці яго туды, як зноў здалёку забахала, ды так часта і густа, што яны знерухомелі. Некалькі доўгіх хвілін яны слухалі з пякельнаю мукай на тварах, затым Войцік страпянуўся першы.

- Давай, хутка, туды, у хвойнік!..

Абодва, задыхаўшыся, прынеслі параненага на край хвойнічку і, расхінаючы яго калючыя нетры, прадраліся яшчэ крокаў з дваццаць. Тут сапраўды было схоўна і ціха, і яны, натрапіўшы на невялічкую прагалінку, паклалі на дробную траўку спакутаванага Бурава.

- Дзе гэта... страляюць? - ціха запытаўся той, не паднімаючы запалых век.

- А чорт іх ведае! - сказаў Войцік. - Недзе ў тым баку.

- У Бабічах?

- Можа, і ў Бабічах. Але ты ляжы. Во расстараемся падводу - адвязем.

- Расстараемся... - няпэўна прамовіў Бураў і зноў маркотна надоўга сціх.

Яны ўдвух цесна сядзелі побач і круцілі ва ўсе бакі галовамі, слухаючы наваколле, ды тут нічога не было чуваць. Толькі шумеў (аж свістаў у хвойным гушчары) вецер ды, халера б на яе, недзе ўсчала стракатаць сарока - каб яна хоць не навяла каго на гэтую прагаліну, падумаў Войцік. Яны ўжо добра нахадзіліся па лесе, мабыць, і часу мінула нямала. У гэты кароткі дзень, ведаў Войцік, не заўважыш, як ранак зробіцца вечарам. Мабыць, трэба было пакарыстацца ім, пакуль не пачало змяркацца, а то ў цемры ды на незнаёмай мясцовасці вельмі проста налезці на ліха. Трэба ісці здабываць падводу. Толькі хто пойдзе?

- Сушчэня, - сказаў Войцік, - ты тут ведаеш, дзе што. Дзе вёска, ведаеш?

Сушчэня заклапочана ўгледзеўся ў хвойнік, паслухаў, падумаў.

- Дык Бабічы там недзе. Пад пушчай. А можа, мы іх дзе прамінулі?

- Гэта там, дзе стралялі?

- Ну.

- Дык ідзі па падводу, - сказаў Войцік.

Сушчэня ўстаў, хацеў нешта сказаць, мабыць, на развітанне.

Але не паспеў ён, прыгнуўшыся, ступіць у гушчар, як Войцік яго спыніў.

- Не, чакай! Усё ж пайду я, - вырашыў ён. - А ты сядзі тут, пільнуй.

- Добра, - паслухмяна сказаў Сушчэня, зноў сядаючы ля бухматае, з абвіслымі лапкамі хвоі.

Войцік пачаў хуценька збірацца ў дарогу: падняў з долу бураўскі карабін, уздзеў за спіну, узяў у рукі вінтоўку, ямчэй насунуў на голаў сваю казыркастую кепку. Ён ужо ступіў быў у хвойнік, як з долу ціха азваўся Бураў.

- Граната... А дзе граната?

Параненны абмацаў рукамі запалыя грудзі і зноў знерухомеў. Войцік працяглым позіркам паглядзеў на Сушчэню.

- Я не браў, - сказаў Сушчэня. - Мо згубілі ўначы?

Бураў паморшчыўся, падумаў штось і сказаў Войціку:

- Ты аддай мне наган.

- Наган? На, вазьмі, канешне.

Выняўшы з кабуры чорны міліцэйскі наган, Войцік уклаў яго ў выцягнутую руку Бурава, і той падапхнуў рэвальвер пад сцягно. Дзяга з кабурой засталася на Войціку.

- Я пастараюся хутка, - бадзёра сказаў ён. - Калі недалёка.

І палез у гушчар. Хвойкі паблізу трохі прашархацелі і сціхлі, і ўсё навакол сціхла. Сарока, чутна было, застракатала гучней, можа, пагналася за Войцікам, падумаў Сушчэня. Сарока, халера на яе, калі

прывяжацца, дык не адгоніш.

- Во так, - выдыхнуў у цішыні Бураў. - Чаму я цябе не стрэльнуў у хаце?

Ён памыляў белымі, бяскроўнымі вуснамі і змоўк, а Сушчэня ніякавата перасмыкнуўся побач - ён ужо адпацеў, і ягоная спіна ў адной кашулі зноў пачала здорава зябнуць.

- Стрэльнуў бы цябе, сам быў бы жывы-здаровы.

- Як жа было ў хаце? - не пагадзіўся Сушчэня. - Дзіця там.

- Дзіця... А чаму ты не ўцёк, Сушчэня? - запытаўся Бураў і насцярожыўся, поўны нямоглае ўвагі.

Сушчэня выдраў з зямлі жмут травы, выбраў з яго даўжэйшую былку і разламаў яе напалам.

- Куды ж мне ўцякаць?

- А да немцаў.

- У немцаў я ўжо быў. Во глядзі!

Ён тузануў за падол кашулі, загарнуў яе да галавы, разам паварочваючыся да параненага голай, спаласаванай сінімі пісягамі спіной.

Бураў трошкі расплюшчыў вочы і зірнуў адзін толькі раз, павекі яго зноў зляпіліся, і ён змоўк. А Сушчэня ёжо нервова шкуматаў травіну, ірвучы яе вялікімі вузлаватымі пальцамі.

- І ты мяне нёс? - урэшце ціха вымавіў Бураў.

- Нёс. А што ж мне было рабіць?

- Але ж ты... выдаў. Тых, трох?

- Я нікога не выдаваў! - раптам узвіўся сцішаным крыкам Сушчэня, ускочыў на ногі і зноў сеў, уткнуўшыся тварам у рукавы. Мабыць, ён нават

заплакаў, але хуценька авалодаў сабой, выцер бруднымі далонямі счырванелыя вочы. - Я нікога не выдаваў, гэта мяне выдалі, - сказаў ён спакайней.

Бураў у доле зацяў дыханне, слаба перабраў скрываўленымі пальцамі.

- А чаму не павесілі? Разам з тымі?

Сушчэня адказаў не адразу, неяк разважна памаўчаў і кінуў прэч травіну.

- Каб жа павесілі, я б ім дзякуй сказаў. Але выпусцілі. Думаў: нашто выпусцілі? Думаў, зноў возьмуць. Не ўзялі. Два тыдні дома сядзеў - куды мне было падацца? Цяпер стаў трохі разумець, чаму выпусцілі.

Гэта праўда, цяпер ён стаў разумець, і разуменне гэтае прыйшло спакваля, рознымі няпэўнымі прыкметамі стукалася ў ягоную свядомасць, каб канчаткова з'явіцца ўчора ўвечары разам во з гэтым Буравым, які цяпер ледзь жывы ляжыць на зямлі і не можа чагосьці ўцяміць у ягоным злашчасным лёсе. А тады, як яго перасталі біць у СД і доктар Гросмаер пасля двух зусім міласэрных допытаў сказаў, што ён прагоніць яго дамоў, калі ён такі незгаворлівы дурань, Сушчэня, канешне ж, зусім не паверыў яму. Дудкі, падумаў ён, каб яны выпусцілі, павесяць, як учора павесілі трох ягоных рабочых. Хіба што пасля.

А ён сапраўды ўзяў ды пусціў...

Сушчэня змалку ведаў за сабой адну недарэчную рысу ў характары - будучы пакрыўджаным, ён траціў натуральную здольнасць скардзіцца, пратэставаць, мог толькі заплакаць, зацяцца, адасобіцца ад людзей, забіцца ў які катух. Затым, ужо падросшы, у такіх выпадках мог толькі вылаяцца, апанурыцца, але не павініцца (калі быў вінаваты), ні апраўдацца (калі быў бязвінны). Ён сам не рады быў той не падуладнай яму зацятасці, і колькі натрываўся праз яе, аднаму яму і вядома. Добра яшчэ, калі побач былі сябры, якія ведалі яго і маглі абараніць ад крыўды. Калі ж ні сяброў, ні

сведак не было паблізу, ён мусіў трываць усё сам-насам. Даказваць, бажыцца, спрачацца, браць за горла ці кідацца ў істэрыку, як некаторыя, ён не тое што не ўмеў, а нешта замінала яму так зрабіць, яго апаноўвала маўклівая крыўда, і ён мог толькі пакутна маўчаць.

- Я ж на пуцях трынаццаць гадоў прарабіў, - паспакайнеўшы, сказаў Сушчэня змарнеламу Бураву. - Ды ты ж ведаеш... Як немцы прыйшлі, быў кінуў. Аж прыходзіць начальнік станцыі, ну той наш Церашкоў: нада ісці працаваць, а то немцы мяне расстраляюць. Ну што рабіць, мусіў пайсці, хоць і не хацелася. Бы адчувала душа.

...І гэта была праўда, Сушчэню дужа не хацелася ісці пры немцах працаваць на чыгунку, бы чула яго душа, што дабром тая праца не скончыцца. Але было шкада і Церашкова, увогуле неблагога чалавека, з якім ён прарабіў апошнія шэсць год. Сабраў гэты начальнік брыгаду, усе ранейшыя хлопцы - аднагодак Сушчэні Тапчэўскі, які таксама гады тры працаваў тут на пуцях, харошы, кампанейскі мужык з гэтага ж Масцішча; Пятро Карабань з суседняе вёскі і малады яшчэ фэзэушнік Мішук, што, як пачалася вайна, вярнуўся да бацькі з Віцебска, дзе вучыўся на цесляра. Як і да вайны, пайшлі на пуці. Работа ўсё тая ж, знаёмая: рыхтоўка, падбіўка, замена гнілаватых шпал, рамонт стыкаў, калі дзе трэба, забіўка кастылёў. А на станцыі апроч свайго начальніка Церашкова паявіўся і нейкі немец, быццам цывільны, але ў мундзіры з чырвонай павязкай на рукаве. І па-руску трохі ўмее. Па пуцях неўзабаве пайшлі паязды - на ўсход, гружаныя тэхнікай і войскамі, на захад - больш паражняк, але былі і санітарныя, з палоннымі ў смярдзючых, глуха зачыненых вагонах.

- Знаеш, працуем, як і раней, але на душы так прыкра, што сказаць нельга: на каго робім?

- Што ж, не панімалі, на каго робіце? - прастагнаў Бураў.

- Панімалі, чаму ж. І гаварылі пра тое. Хлопцы ўсе свае,

адзін аднаго не баяліся.

...Рабілі яны, аднак, не надта каб спраўна, болей бавілі час, а як толькі пачынала вечарэць, разбіралі інструмент і - на станцыю. Спярша ўсё ішло добра, і нават немец не дужа дапякаў, але вясной прыехаў новы начальнік па прозвішчы Ярашэвіч - чорт ведае што за чалавек. Быццам свой, але горшы за немца. Пачаў штодня правяраць працу пуцейцаў і прыдзірацца злосна і па-дробнаму: памерае пуць - не хапае міліметра або міліметр лішні - скандал! І ўзяў за правіла за ўсё спаганяць з брыгадзіра. Калі што дзе не так, ён брыгадзіра - па мордзе. Сушчэня спярша не разумеў, чаго ён гэтак на яго ўз'еўся, а пасля стаў здагадвацца: гэта ж ён настройваў брыгадзіра супраць ягоных хлопцаў, каб той больш з іх спаганяў, а яны каб яго баяліся і ненавідзелі. Во тады ён і пакарыстаецца сваёй уладай, як хоча.

Варожасці ў брыгадзе, аднак, ён не дамогся, хлопцы ўсе былі з розумам і калі каго ўзненавідзелі, дык гэта самога Ярашэвіча. І калі трохі раней, як начальнікам быў Церашкоў, пуцейцы яшчэ асцерагаліся чаго, дык цяпер тая асцярога адпала. Цяпер яны сталі адкрыта гаварыць між сабой - згаворвацца, як зрабіць немчуры «тарарам». Вельмі закарцеў хлопцам гэты «тарарам», тым больш што ў лясах ужо загуло-загрукатала, паявіліся партызаны, аднойчы спалілі два грузавікі на лясной дарозе воддаль ад станцыі. Брыгада пуцейцаў Сушчэні ў той час працавала на Кузоўскім балоце, там было шмат звычайнай работы па рыхтоўцы і замене шпал, наогул участак той быў самы горшы, і яны займаліся ім з вясны. А тут новы начальнік перакідвае іх на чыгуначнае закругленне перад Выспянскім мостам, кажа: шэф-немец праверыў надоечы, там трэба прайсціся, выверыць радыус і падбіць сотню шпал. Брыгадзір заўжды быў чалавек паслухмяны, і яны назаўтра ранічкай узялі інструменты і з ручной кацілкай патупалі палатном да Выспянскага моста.

Рабілі там дні са тры, і якраз тады немцы паязды на ўсход сталі пускаць ноччу. Што яны там везлі, пуцейцы

не маглі бачыць, але так меркавалі, што, мабыць, важныя грузы, можа, танкі нават, калі для перавозкі карысталіся выключна цёмнай парой сутак. І вось неяк самы малады з іх, той фэзэушнік Мішук, калі яны, пасеўшы ў рад, перакусвалі за канавай, і кажа: «А давайце развінцім звяно і ўстроім «тарарам». На закругленні здатна палучыцца». Тапчэўскі падумаў і падтрымаў: «А што, кажа, дзельная думка!» Кобрань тады прамаўчаў, а Сушчэня дык быў адразу супраць - што ўдумалі! «Немцы - яны дурні, ці што, не здагадаюцца хіба? Стык жа развінчаны, адразу відаць». Пачалі спрачацца, і Мішук з Тапчэўскім даводзяць, што, калі цягнік паляціць пад адхон, тут ні адзін стык не застанецца, усё перакрышыцца, перакруціцца, як вунь ля Лемяшоўскай будкі. Месяц таму там была аварыя ці, можа, падрыў, і яны бачылі, што там зрабілася. Там сапраўды была каша з рэек, шпалаў, вагонаў. Але там трохі іншы профіль пуці, там выемка, а не закругленне.

З самага пачатку Сушчэня быў супраць гэтай задумы, бо ведаў, можа, лепей за іншых, што надта цяжка будзе схаваць канцы ў ваду, закругленне табе - не выемка, тут, мабыць, болей паляціць пад адхон. Паляціць на поплаў або нават у рэчку, пад мост. Таксама някепска, нават дужа добра. Толькі вось той стык як бы не застаўся ўлікай. Надта сумняваўся Сушчэня, але, у ягоных хлопцаў ужо загарэліся вочы - давай ды давай! І ён не схацеў, каб яго палічылі баякам ці яшчэ горш - нямецкім паслугачом. І пагадзіўся. Не сказаў, праўда, нічога, проста змаўчаў, калі перад канцом работы, ужо на захадзе сонца, гэты Мішук, Тапчэўскі ды і Карабань пабралі ключы і абступілі самы выгадны для таго стык на закругленні. Брыгадзір маўчаў, але ў душы ён ужо адчуваў, бы ведаў, што тое так не абыдзецца. Будзе бяда.

- Ну, ведаеш, развінцілі стык, трохі ссунулі рэйку - адну знешнюю, гэтага было досыць. І хутка пакацілі інструмент на станцыю. Думалі так, што яшчэ да цягніка не меней чым пара гадзін часу, настаяваў прыцемак, стыку ніхто не заўважыць. А пакуль тое крушэнне, мы будзем далёка. Ці мала што магло

здарыцца, маўляў - пасля нас. Можа, партызаны, ці што. Мы нічога не бачылі.

...Сапраўды, так яны думалі. Яны думалі, што пасля крушэння немцы будуць шукаць нейкія там доказы і доказаў не знойдуць, а пуцейцы будуць усе, як адзін, адмаўляцца, і ўсё неяк абыдзецца. Ды, мабыць, у жыцці ніколі не выходзіць, як думаецца, тым больш у вайну...

Той дзень штосьці парушылася і ў немцаў, і першы цягнік яны пусцілі раней, чым сцямнелася. Не паспелі пуцейцы закаціць кацілку ў бакоўку пры станцыі, як на стрэлках загрукацела, і ў Сушчэні нядобра зашчымела сэрца: надта не ў пару ішоў гэты цягнік! А цягнік тым часам скразняком прайшоў праз станцыю, яны ліхаманкава засяшаліся, каб хутчэй змыцца, але гэты Ярашэвіч, як на тое зло, пачаў распытваць брыгадзіра: што сёння зрабілі, колькі засталося? Як закругленне ці вялікі брак? Сушчэня няўцямна адказваў, а сам стаяў перад начальнікам ля акна ні жывы ні мёртвы: цягнік ужо павінен быць там, каля моста. Няўжо ён прайшоў цэлы?

Аж не прайшоў цэлы, канешне, паляцеў пад адхон, і вагонаў з дзесяць зрабілі кучу малу пад насыпам. На стрэлках усе ўчулі, і да начальніка прыбег задыханы, потны стрэлачнік, кажа: «Бяда, ля моста крушэнне!»

Начальнік той Ярашэвіч адразу кінуўся на тэлефон, а мы памалу змыліся, хто куды. Я, як пабіты, прывалокся дамоў. Думаў тады: кончыцца кепска, але, можа, не надта хутка. Усё ж павінны яны нешта расследаваць, дапрошваць, высвятляць. А яны нас адразу і хлопнулі.

...Іх узялі на другі дзень ранічкай, як аварыйны поезд за ноч расчысціў ад завалу пуці і, канешне ж, як і меркаваў Сушчэня, немцы знайшлі пад друзам той злашчасны развінчаны стык. Узялі ўсю брыгаду, бо ад таго часу, як яна там рабіла, да моманту аварыі мінула ўсяго гадзіна. Хто ж яшчэ мог там быць? Зрэшты, асабліва нікога і не шукалі, адразу населі на гэтых чатырох пуцейцаў, хоць, па сутнасці, ніякіх канкрэтных супраць іх улік і не мелі. Пачалі, канешне, з брыгадзіра.

Дапытвалі ў новым памяшканні былой раённай бальніцы, сышлося там чалавек дзесяць розных чыноў, сваіх і немцаў, чакалі. Кабінецік такі быў утульны, на падаконніках вялікіх акон стаялі кветачкі ў вазонах, а гаспадар, даволі яшчэ маладжавы чалавек, у рудым кіцелі з нейкімі пагонамі і даволі прыветлівым тварам, спярша і не крычаў, нібы спачуваючы нават, што здзівіла Сушчэню. Гаварыў чыста па-руску, хоць з астатнімі немцамі - па-нямецку. Ашчадна трымаючы ў даўгіх тонкіх пальцах з пярсцёнкам тонкую нямецкую цыгарэтку, ён проста, амаль па-сяброўску пытаўся ў Сушчэні: «Дык хто вам даў такое заданне? Каб разрушыць дарогу?» - «Ды мы нічога не разрушалі! Мы нічога не ведаем», - са страхавітай шчырасцю здзіўляўся Сушчэня. «А хто ж разрушыў?» - «Дык не бачыў, не ведаю». - «Не ведаеш, - з няпэўнасцю паўтарыў немец і кінуў камусь са сваіх памагатых, што пасталі радком ля сцяны: - Ану, дайце яму ўспомніць!»

...Яго адразу схапілі дзве пары ўчэпістых злосных рук, штурханулі, падхапілі, павялі. Двое раз'юшаных мардастых паліцаяў звязалі наперадзе рукі, а затым, пасадзіўшы на падлогу, і ногі, і ён недарэчна падумаў: а ногі нашто? Але неўзабаве зразумеў нашто - той жа вяроўчынай прыкруцілі да ног звязаныя рукі, і ён апынуўся, як кола, - скурчаны, з выпнутай голай спіной. І тут пачалося. Сушчэня не крычаў, стараўся не стагнаць нават. Ён, канешне, і не разлічваў на іншае, таму ўсё трываў, развітваючыся з воляй, сям'ёй ды і з жыццём таксама. Збітага на горкі яблык, яго кінулі ў склепе на воглую салому, дзе спакваля па адным апынуліся і астатнія трое ягоных пуцейцаў. Усе стагналі, войкалі, пляваліся крывёю; Тапчэўскаму, мусіць, адбілі лёгкія, і кроў у яго ішла з рота. Вельмі хацелася піць, ды піць не давалі. Допыты тым часам працягваліся - па два на дзень, ранкам і ўвечары. Зрэшты, пыталіся мала. Усё той сімпатычны немец службы СД, як пасля дазнаўся Сушчэня, па прозвішчы доктар Гросмаер, пачынаў допыт з пытання: хто загадаў развінціць рэйкі? Сушчэня тут мог не крывіць душой і не хлусіць - пазіраючы ва ўсмешыста-хітраватыя вочы немца, ён прастадушна адказваў і нават бажыўся, што

ніхто не загадваў. І Гросмаер не настойваў, не дабіваўся болей нічога - ён адпраўляў у склеп, падумаць.

- Білі мяне чатыры дні запар, ужо не ўставаў. Думаў: яшчэ трошкі - і сканаю, і ўсё скончыцца. І, ведаеш, страху не было, толькі жонку і дзіця шкада было страшэнна.

...Іншыя трое таксама ўжо не паднімаліся, а самы малодшы з усіх - Мішук - неяк увесь дзень ляжаў непрытомны, і калі надвячоркам прыйшлі, каб узяць яго на допыт, дык вярнуліся з калідора - куды ж такога дапытваць? Такога можна толькі пакласці ў труну. Яны пераcталі ўжо лічыць дні ў гэтым сутарэнні, не маглі адрозніць дня ад ночы - яны пластам ляжалі на скрываўленай саломе, з жахам прыслухоўваючыся да крокаў у калідоры - па каго ідуць? І неяк - о дзіва! - яны ўчулі музыку: дзесь паблізу, у мястэчку, іграў духавы аркестр, а музыка была жалобная, няйначай, пахавальная. І так яна добра клалася на іх змарнелыя, нямоглыя душы, нібы іграла на іх калектыўных хаўтурах. Не па іх, канешне, яна цяпер іграла, але ім усё роўна было прыемна слухаць яе, тым больш што, як пасля дазналіся, гэта хавалі бургамістра Шалькевіча, якога ўсё ж падстрэлілі партызаны на выездзе з мястэчка. У той дзень іх на допыт не ўзялі, не ўзялі і назаўтра, мусіць, паліцаі і гэты Гросмаер занятыя былі чымсь болей пільным, і яны трохі аклемаліся ў сваім сутарэнні. Сушчэня пачаў паднімацца, каб сесці, бо на адбітах баках і спіне ляжаць было зусім нестрывана. Устаў і Карабань і нават засмяяўся - нядобрым, істэрычным смехам вісельніка. Яны ўжо змірыліся з думкаю, што на свеце не жыць, жыццё іх скончылася, заставалася дажыць нейкую рэшту. І яны цешылі сябе слабой надзеяй, што гэтая рэшта абыдзецца мо без вялікіх пакут.

- І тады неяк пасля абеду прыходзіць паліцай, крычыць: «Сушчэня - на выхад!» Неяк узгробся я, хапаючыся за сцяну, іду. Ужо ці не на расстрэл, думаю.

...Але не на расстрэл - расстрэл неўзабаве здасца Сушчэню шчасцем, да якога яму не дапяцца. Яго

прывялі зноў у знаёмы кабінет з вазончыкамі на вокнах, доктар Гросмаер, як заўжды, усмешыста пазірае на яго і кажа так, з трохі насмешлівай спагадай у голасе: «Сядай. Давай пагаворым, як сябры, па душах. Гляджу, ты чалавек палажыцельны».

«Палажыцельны, палажыцельны...» - затузалася ў галаве Сушчэні гэтае слова, і ён чамусьці згубіў яго сэнс, ніяк не мог даўмецца, што гэта значыць. А немец тым часам страсянуў попел са свае цыгарэткі ў маленькую талерачку на стале і прадаўжаў: «Палажыцельны, да, і мы цябе выручым. Заўтра ўсіх вашых павесім, а табе даруем жыццё. Толькі...» Гэтае паведамленне Гросмаера нібы выцяла Сушчэню па яго свядомасці - не тое, што іх павесяць (з думкай пра тое яны ўжо даўно звыкліся), а тое, што яго аддзеляць ад ягоных хлопцаў, - як жа гэта, чаму так? Яшчэ не разумеючы ў поўнай меры ўсяго жаху таго паведамлення, ён інстынктыўна адчуў, што нешта ў ягоным лёсе жахліва ўскладняецца. «Да, ты будзеш жыць. Толькі... Толькі ты павінен даць падпіску аб сатрудніцтве...» - «Якім сатрудніцтве?» - «З нямецкімі ўладамі. Сакрэтным сатрудніцтве. Мы табе ўстроім уцёкі, ты перабяжыш да сваіх. Да тых, хто табе даў заданне на тую дыверсію. І мы будзем з табой трымаць сувязь. Сакрэтна, разумеецца».

Сушчэня хвіліну маўчаў, не ведаючы, што сказаць, і толькі коўтаў у роце сліну. Яму даруюць жыццё. Але ж... Але ж ён адчуваў, што так нельга, што гэта - жах, што ягонае жыццё будзе горш за пагібель. «Не, ведаеце... Я не магу. Я не ўмею...» - «Што?»

Гросмаер увесь напяўся, нібы пачуў якую брыдоту, вочы яго сталі вузенькія і злосныя, нядобрым позіркам ён упіўся ў Сушчэню. «Што? Што ты сказаў?» - «Не магу я...» - «Ты што - дурань? Адмаўляешся жыць? Хочаш памерці?» - «Дык каб жа хацеў... Не хачу, вядома. Але...» - «Дык згаджайся. Мы ўсё зробім, бальшавікі носа не падточаць». - «Не, не магу». - «Значыць, хочаш памерці! - злосна заключыў немец. - Гэта прасцей паранай рэпы. Заўтра ж павесім. Ды ўсё ж падумай. Да

заўтра».

Болей Гросмаер размаўляць не стаў, адправіў Сушчэню ў сутарэнне, і той пайшоў болей спакутаваны, чым пасля допыту і катавання...

- Атрымаў, значыць, такую галаваломку, што хоць ты крычы! І жыць хочацца, і хочацца чалавекам застацца. А як? І тое, і другое разам не атрымліваецца, трэба выбіраць адно. І тут, ведаеце, падумаў пра Анэлю і пра сынка, і нешта стала праясніваццa. Калі я зраблюся шпіёнам, дык як жа тады ім жыць?

...Зрэшты, як жыць ім - было пытанне з няхітрым адказам - яны застануцца ў заложніках. Сушчэня гэта ведаў напэўна. У якасці заложнікаў яны не дадуць яму ашукаць немцаў. Калі што будзе не так, гэты доктар закатуе абаіх. Дык ці не лепш яму ахвяраваць сабой, загінуць разам з усімі. Сям'я будзе без бацькі, затое будзе ганарыцца ім - усё ж ён намогся на нешта і хоць не надта ўдала, але спусціў пад адхон цягнік. Усё ж памёр недарма. А так...

У камеры ён сказаў толькі, што заўтра іх павесяць, і ўсе змоўклі, прыціхлі, нават перасталі стагнаць. Ніхто ўжо не наракаў на лёс, на той іх не надта спрытны ўчынак. Канешне, кожны цяпер разумеў, што, мабыць, усё трэба было зрабіць разумней, хітрэй, ці што. Можа, у іншым месцы, далей ад іхняга ўчастка, ад станцыі. Але далей ад станцыі, значыць, бліжэй да вёскі - пагінулі б невіноўныя людзі. Словам, роздуму хапала, асабліва Сушчэню, які тае ночы не заснуў ні хвіліны. Назаўтра раніцай за сцяной забегалі, замітусіліся, расчынілі дзверы - выходзь!

Усе знямогла выходзяць, наперадзе Сушчэня, за ім схуднелы, як кашчэй, Тапчэўскі. Карабань пад пахі вядзе Мішука, які ўжо сам не хадзіў. І тады з калідора старшы паліцай кажа: «Сушчэню адставіць!» - «Чаму адставіць?» - пытаецца Сушчэня. Кажа: «Доктар сказаў...» І яго зноў упіхнуў у камеру, а тых павялі. Хутка ў склепе стала ціха і пуста, мабыць, усе вымеліся на рынычную плошчу, дзе вешалі ягоных хлопцаў. У

роспачы і адчаі Сушчэня біў кулакамі ў сцены, кулём качаўся па саломе ў доле, часам да яго даносіліся гукі нейкіх каманд з плошчы, і ён не мог знайсці сабе месца ў гэтым апусцелым катуху. Ён ужо адчуваў, што яго чакае нешта горшае за смерць, якую цяпер прымалі на людзях ягоныя хлопцы.

- Хацеў я разбіць сабе галаву аб сцяну, ужо і ляпнуўся здорава, але, мусіць, не хапіла сілы, і толькі самлеў. Трохі адышоўшыся, ляжаў. А надвячоркам прыйшлі: уставай! Павялі. «Ну што, - кажа гэты доктар. - Хочаш палюбавацца, як твае хаўруснікі на вяроўках качаюцца? Магу паказаць». - «Не, кажу, лепш бы вы і мяне таксама».

...Гросмаер тады трохі нават з цікавасцю паўзіраўся ў счарнелы, аброслы і страшны ад пакут твар Сушчэні і, мабыць, упершыню зразумеў нешта. А зразумеўшы, раззлаваўся так раз'юшана-жорстка, што Сушчэню стала страшна - ён аж закалаціўся, стоячы ля сцяны. Доктар падбягаў да яго і адскокваў, махаў перад тварам рукамі, браўся ў бакі, адскокваў за стол і вяртаўся на сярэдзіну кабінета. Праўда, ён ні разу не зачапіў яго пальцам, ён толькі крычаў амаль пакрыўджана: «Я думаў, ты разумны чалавек! Памяркоўны беларус! А ты дурань, ідыёт, бальшавіцкі чурбан! Ты захацеў смерці? Прапагандысцкай смерці? Каб цябе там шанавалі? У лістоўках пра цябе пісалі? Не, так не будзе! Я табе падрыхтую другую смерць, бальшавіцкі ўблюдак! Апошні раз пытаюся: згаджаешся на маю прапанову? Так ці не?» Ён упрытык падскочыў да Сушчэні, і той цяжка і трудна выдыхнуў: «Не, ведаеце... Не магу я...» - «Ах, не можаш! Тады прэч адсюль! Ідзі да тых, хто цябе паслаў! - закрычаў Гросмаер і шырока піхнуў нагой дзверы. - Ідзі! Ну!»

Сушчэня пазіраў на яго, няўцямна цепаючы вачыма: што ўсё гэта значыць? Мабыць, стрэліць у спіну? Або ў патыліцу? Або скажа застрэліць вартавому, які стаіць на ганку? Аднак рабіць не было чаго, належала выконваць каманду, і ён ступіў за парог, няўпэўнена, ледзь не зачапіўся за шула, выйшаў на ганак. Вартавы паліцай

схапіўся за вінтоўку, але, згледзеўшы ззаду немца, зараз жа апусціў яе. Другі вартавы, ля брамкі, рашуча заступіў праход, ды ззаду гыркнуў Гросмаер: «Прапусціць!», і ён, вякнуўшы сваё «яволь», прапусціў: адчыніў і зачыніў за ім брамку. Сушчэня выйшаў на вуліцу і баяўся азірнуцца: няўжо не стрэльнуць? І не закрычаць, каб вярнуўся назад? Не, не стрэльнулі і не закрычалі. Тады ён, нібы заяц, выпушчаны з мяшка на волю, што было сілы рвануўся па вуліцы, перабег на другі яе бок, далей, на рагу азірнуўся: ад брамкі спакойна назіраў за ім вартавы, а з ганка неяк зусім па-прыяцельску памахаў рукой ягоны мучыцель ці вызваліцель доктар Гросмаер. І ён падумаў яшчэ, амаль спалохаўшыся: ці не напраўду пусціў? Яго ніхто не затрымліваў і не даганяў, і ён пайшоў спакайней (на бег не ставала сілы), нічога не бачачы навакол: нібы ў шызым тумане прамінуў крайнія дамы мястэчка і на ваколіцы сеў за канавай - сілы ўжо скончыліся, ісці ён не мог ад хвалявання і недаўмення - што ж гэта з ім сталася?

- Во як - і праўда пусцілі. Нейкі мужык з Шалупення якраз ехаў на калёсах з мястэчка, падвёз да станцыі. Прыйшоў дадому. Анэля на гародзе, выбірае бульбу, як згледзела мяне на двары, аж самлела. Суседка ледзь дала рады, а я як лёг, дык і праляжаў суткі - без рук, без ног. Усё думаў, прыйдуць зноў, возьмуць. Жонка плача, кажа: хавайся ці ўцякай куды. І праўда, тры ночы ў лазні начаваў, дзве - у суседавай пуньцы. Аж не ідуць, не бяруць. Во шчасце! Падарыў жыццё гэты нямецкі доктар. Дзіва, ды і толькі.

...Дзіва, аднак, не адбылося. Адбылася бяда...

З тыдзень марна прачакаўшы новага арышту, патуляўшыся па закутках, Сушчэня адлежаўся, трохі ад'еўся, асмялеў ды пачаў выходзіць на двор. Ды і трэба было памагчы Анэлі выкапаць бульбу. І во ён неяк капае, а за плотам па ўзмежку ад ракі ідзе Ігнась Пузырэўскі, іхні дзеравенец, можа, трохі старэйшы за Сушчэню, і не вітаецца неяк. Сушчэня павітаўся, а той, не адказваючы, кажа так, з кепікамі ў голасе: «Ну што,

як жывецца, сяброў прадаўшы?» Сушчэня знерухомеў, страціў мову - бы яго хтось выцяў даўбнёй па галаве. Пакуль ён даўмеўся, як адказаць, Пузырэўскі пайшоў сабе, не спыняючыся, мяжой да вуліцы. Во тады Сушчэня ўпершыню, можа, сцяміў, чаму да яго за тыдзень ніхто не завітаў у адведкі - ні суседзі, ні нават радня, дзядзька Пятрок ці Аўгусціна, Анэліна сястра, ні пляменнік Косця, які, бывала, не міне дня, каб разы тры не наведаўся да дзядзькі. Яго цураліся. Бо ён - прадажнік.

Тая яго здагадка затым пацвердзілася мо разоў дзесяць, не меней. Неяк з вёскі прыйшла Анэля і пачала плакаць: бабы наракаюць, што гэта ён падбіў тых хлопцаў на дыверсію і сам жа іх выдаў, таму яго і выпусцілі. Адкупіўся таварышамі. Малы Грыша прыбягае з вуліцы і прастадушна так, улазячы яму на калені, пытаецца: «Татка, а ты пладажнік?» - «Які прадажнік? Хто табе сказаў?» - «А Шулка Балысаў сказаў: твой татка пладажнік». Ну як было Сушчэню і перад кім апраўдацца? Расказаў пра ўсё жонцы, тая паслухала, паплакала - жонка, канешне, паверыла. А можа, не паверыла і жонка, толькі прыкінулася, што паверыла.

- Але як жа мне жыць?! - з ціхай роспаччу пытаўся Сушчэня, няўцямна пазіраючы ў хвойнік. Там спярша здалёку на хваіне з'явіўся дзюбаты разважны груган, пасядзеў на верхавіне, паўзіраўся ў людзей, падляцеў бліжэй. Тое не спадабалася Сушчэню, і ён махнуў рукой: «Кыш, халера!», ды груган не паляцеў, не крануўся нават. - Што было рабіць? Я ім тады ўжо зайздросціў, траім маім пуцейцам: іхнюю памяць шанавалі людзі, імі ганарыліся дзеці. Іхнім сем'ям памагалі суседзі. А мяне ўзненавідзелі. І адчуў, што і самы мне дарагі чалавек, жонка Анэля, тожа на мяне пазірае не так, як раней. Пачала часта плакаць без дай прычыны. І як ёй быць? Неяк трохі на яе крыкнуў, ну, там як бульбу пераносілі, - як зарыдае! Кажа: «Лепш бы яны цябе там павесілі. Разам». - «Канешне, лепей, - кажу. - Але не павесілі во, дык цяпер што рабіць? Хіба самому павесіцца?» Во як атрымалася! То баяўся

немцаў, хаваўся ад іх, то пачаў думаць: сапраўды, ці не павесіцца? Але, скажуць людзі: было за што! Скажуць, совесць загрызла, бо здраднік. Ну што мне было рабіць! І тады спакваля дайшоў: марныя тыя клопаты. Мусіць, не такой смерці мне было асцерагацца - гэтая занадта лёгкая. Будзе горшая. Страшнейшая. Аж і праўда, даждаўся. Як учора цябе пабачыў, усё зразумеў адразу. Што ж, я быў гатовы. Не апраўдвацца ж мне было - хто б паверыў. Ты ж не паверыў, га, Коля? А Коля? Ты чуеш?

Сушчэня падхапіўся з-пад хвоек, на каленях падаўся да Бурава, тузануў за рукаў. Але Бураў не азваўся. Тады ён пакратаў яго за падбароддзе. «Коля, а Коля?» Дзе там! Мікалай Бураў ляжаў з ссінела-зялёным, аброслым шорсткаю шчэццю тварам і не кратаўся. Сушчэня войкнуў, апусціў вялікія рукі.

- Божа, што ж гэта? Няўжо?.. Я ж яму ўсё... А ён і не чуў... Не даслухаў... Як жа я гэта, а божа!..

Цяжка махнуўшы крыламі, груган зваліўся з вяршаліны хвойкі, падляцеў бліжэй і нязграбна ўладкаваўся па суседству, амаль над самай прагалінай. Гэты раз Сушчэня на яго не махаў - што ўжо яму той груган?..

Нейкі час, аднак, Бураў яшчэ быў жывы. Спярша ён добра чуў і разумеў усё, што, седзячы ля ног, апавядаў Сушчэня, і ён верыў чыгуначніку. І як было не паверыць? Зноў, як і некалі ў дзяцінстве, побач гучаў знаёмы голас ціхманага і прыстойнага ў паводзінах чалавека, яго земляка. Паступова яго загадкавая «здрада» стала зразумела Бураву, і ён дужа шкадаваў, што ледзьве не застрэліў яго. Была б вялікая памылка, якая, бадай, цалкам лягла б на сумленне Бурава... Але, мабыць, яна і дала б жыццё, раптам падумаў Бураў. А так вось здыхай тут праз сваё чуллівае сумленне ў свае дваццаць сем год. Памірай без пары, без сям'і і дзяцей, не пакінуўшы ў свеце нікога. Страціўшы ўсіх і ўсё без рэшты. Праўда, затое, можа, застануцца тыя сушчэнеўскія Анэля і малы, а можа, і ён - у іхняй удзячнай памяці. Калі-нікалі, можа, і памянуць добрым словам.

Але гэта - калі ацалее Сушчэня. Без Бурава, аднак, наўрад ці ўцалее... Ён перастаў ужо разумець, хто цяпер ад каго залежыць: Сушчэня ад яго ці, наадварот, - ён ад Сушчэні? Штосьці заблыталася ў яго мляўкіх думках, і Бураў ужо пэўна не ведаў, як лепей было б зрабіць - надта ўжо розныя праблемы сышліся і замкнуліся на ім, каб іх можна было цяпер вырашыць. Мабыць, за кароценькі кончык ягонага жыцця нічога ўжо не вырашыш. Шкада гэтага Сушчэню, шкада і сябе таксама. А паміраць дужа не хочацца...

Дужа не хацелася Кольку Бураву тут паміраць, свядомасць яго ўсё чаплялася за яго бяду, час ад часу вяртаючыся ў тыя, пражытыя без вайны гады - хай сабе з іх неўладкаванасцю, нясытасцю, гаспадарчымі нявыкруткамі, матчынымі слязьмі і бацькавай змрочнасцю. Але іншых гадоў не было ў Бурава, то быў яго лёс і яго маладое жыццё, якое калі-нікалі ўсё ж радавала скупымі ўцехамі гарэзнай маладой весялосці, шчырага сяброўства ці першага маладога, дурнога, але і дзівоснага, як цяпер паглядзець, кахання. І ў гэты астатні перадсмяротны час дужа зашчымела ў ягонай свядомасці ад хуткае ростані менавіта з гэтымі радасцямі - як след не адчутымі ім да канца, не завершанымі і не асэнсаванымі ў той тлумны час. Тады ўсё штось замінала, не было вольнага часу, заядала праца і праклятыя клопаты аб тым, як пражыць, пракарміцца, абысціся мізэрнай капейчынай у кішэні - выплаціць усё, што належала выплаціць дзяржаве, разлічыцца з безліччу нарыхтовак - адчуць сябе вольным і хоць трохі шчаслівым. Ды ўжо, відаць, не адчуеш... Нават цяпер, перад хуткім канцом, калі нішто абсалютна не абавязвала яго - ні доўг, ні начальства, ні нават страх, - штось не давала адчуць жаданае волі, замінала; блытанае ў жыцці перад смерцю заблытвалася яшчэ болей. Ужо не разблытаецца. А галоўнае - не было калі. Не было калі жыць, няма як па-людску памерці, як некалі паміралі старыя: нетаропка, скончыўшы ўсе справы, аддаўшы ўсе запаветы. І яму дужа захацелася, каб як-небудзь забрысці да атрада, хай бы там свае хлопцы закапалі ў сухую зямлю, сказалі нябожчыку пару добрых і цёплых слоў, якіх не багата ён

чуў у жыцці. Добрае ён бы пачуў і з магілы. Так мала было яму трэба, але і да таго, мабыць, не дапяцца.

Калі трохі святлела ў свядомасці ён адчуваў сябе сярод лесавога пошуму, тады не адразу, з натугай, прыпамінаў, што побач сядзіць Сушчэня. Пасля перастаў адчуваць, дзе ён і хто з ім; усё болей вакол шырэла адзінота, і вось ён застаўся адзін.

А пасля неяк неўпрыцям не засталося нікога...

Войцік лёгка ішоў па лесе, часта азіраючыся па баках, звыкла і чуйна слухаючы несціханы лесавы шум. Спярша ён трохі прайшоў прасекай, затым, падумаўшы, збочыў улева - чамусьці здалося, што тыя Бабічы павінны быць недзе злева. На плячы ў яго вісеў бураўскі карабін, у кішэнях паддзёўкі боўталася шэсць абоймаў патронаў. Сваю даўгую вінтоўку ён абачліва схаваў пад ламаччам недалёка ад прасекі - будзе вяртацца, забярэ, не пакідаць жа спраўную вінтоўку ў лесе. Аддаць яе Сушчэню ён не мог: было б недарэчы і бязглузда ўзбройваць здрадніка. Бураў, калі што, абыдзецца наганам, хаця і наган яму ўжо наўрад ці спатрэбіцца. Хіба каб застрэліць сябе ці Сушчэню? Гэты Сушчэня мала што нёс Бурава, памагаў перавязваць, але хто ведае, што ў яго ў галаве, куды ён урэшце скіруе. Яшчэ возьме ды адвалачэ таго ў паліцыю. За якую для сябе выгаду. Бураў кажа: не чапай Сушчэню. Але Бураву лацвей так казаць, мабыць, яму няма ўжо чаго баяцца, адной нагой ён ужо там... Як Войцік зірнуў на світанні пад ягоную кашулю, сцяміў адразу, што Бураву доўга не жыць. Тады за ўсё, што б ні здарылася, прыйдзецца адказваць Войціку.

Таму ён не спяшаўся, не пёр на злом галавы - мабыць, Бураву ўжо не паможаш, а самому проста налезці на кулю. Хоць гэта і лес, але, мабыць, блізка ёсць вёска, а ў вёсках, вядома, немцы, паліцыя, здраднікі - у вёсках заўжды небяспека. Ды і ў лесе таксама не лішне часцей азірацца, не глядзі, што адзін і навакол ціха. Небяспека, яна ідзе нячутна, на мяккіх лапках, а абрынаецца раптам і неспадзеўкі. Як на той баравінцы. Хто б мог падумаць, што наводдаль ад вёскі ды яшчэ паначы на іх

так хутка наскочыць паліцыя. Канешне, каб не так нечакана, дык, мусіць бы, Войцік паспеў даць сігнал Бураву, хоць бы крыкнуць, ці што. Але ў абставінах той мітрэнгі было не да крыку. Добра, што сам выскачыў, кінуўшы каня. Без каня, канешне, цяпер намуляешся, пёхам па такой макрэдзі ды яшчэ з параненым далёка не дойдзеш.

Але дзе ж тыя Бабічы?

Хвойнік, усё-ткі, як быў - стары і рэдкі, - раптам засінеўся наперадзе нейкай прасветлінай. Неўзабаве Войцік памалу выйшаў на ўзлесак і ўбачыў перад сабой вялізны палявы прасцяг з дарогай, над якой роўна тырчэлі тэлеграфныя слупы з дзвюма ніткамі провада. Разрэзаўшы прасцяг, дарога зноў хавалася ў лесе, але вёскі там не было відаць. «Можа, яна дзе далей, за лесам?» - падумаў Войцік. Ісці туды цераз поле ён, аднак, не наважыўся, пайшоў краем лесу, беручы трохі ўбок. Гэта, канешне, будзе не абы-які крук, можа, на гадзіну шляху, але што зробіш? Добра яшчэ, што няма дажджу, хоць дужа падобна на тое, што неўзабаве пойдзе і дождж - неба спрэс было завалочана хмарамі, з узлеску дзьмуў напірысты сцюдзёны вецер, і Войцік трывожна азірнуўся, падумаўшы, каб хоць не заблудзіць у гэтай крутні па лесе.

Усё так ідучы недалёка ад узлеску, ён неўзабаве заўважыў, што дол стаў ніжэць, збягаць у нізінку, пад нагамі мякка ўгінаўся тоўсты пласт зялёнага моху, сям-там параслы купкамі маладых хвоек. Увогуле хвойнік тут стаў драбнець, падлеску не было зусім, і нішто не замінала бачыць далёка. Праўда, і яго маглі згледзець здалёк. Трохі страхавіта, аднак ён ішоў, дужа не адрываючыся ад узлеску, як згледзеў у нізінцы зараснік хмызняку, лазняк і алешнік з рэдкімі хамлакамі восеньскага лісця ў голлі. Войцік здагадаўся, што там недзе рэчка. Гэта яго засмуціла - пералезці цераз раку па гэткай макрэдзі, мусіць, будзе няпроста. Так яно і аказалася, калі ён сышоў ніжэй: у балоцістых берагах стаяла вада, рэчка, мабыць, была яшчэ далей, але, разліўшыся, затапіла куп'ё, алешнік - як было цераз яе

перабрацца?

Падумаўшы і паазіраўшыся, Войцік павярнуў берагам улева да ўзлеску і там, яшчэ агледзеўшы пусты прасцяг восеньскага поля, памалу выйшаў з прыбярэжнага кустоўя. І раптам стаў. Здалёку па дарозе цераз поле марудна, валюхаючыся па калдобінах паўзло з паўтузіна крытых брызентам машын.

Войцік спярша знерухомеў, уцяў галаву ў плечы, пасля сеў на воглы прырэчны ўзмежак, і задам, дужа ўгнуўшыся, падаўся назад, у лес. Там, усё ўгінаючыся, азірнуўся: машыны падышлі бліжэй - вялізныя, зеленаватыя, у плямах, буды, - праз вецер быў чутны глухі вуркат іхніх рухавікоў. Але Войцік не стаў узірацца, ён хутка пашыбаваў над прырэчнай балацявінай у глыб лесу. Мусіць, у тыя Бабічы цяпер ужо не далезці, падумаў ён, там раней за яго будуць немцы. Але што там спатрэбілася немцам? Можа, паедуць далей, толькі куды? Бабічы пад пушчай, казаў Сушчэня, значыць, дарога адтуль ідзе ў пушчу. Але ў пушчы партызаны, іхні атрад імя Суворава, - тады ці не карнікі гэта? Але калі карнікі, дык як жа яму цяпер лезці ў іхнія лапы?

Праз якую гадзіну ён добра ўжо адышоўся ад таго поля з дарогай, вакол стаяў мешаны лес - бярэзнік, кустоўе з хворастам у доле, ісці стала трудней, але яму трапілася нейкая перакапаная кратамі сцяжына, і ён пашыбаваў па ёй. Ён думаў, што гэтая сцежка выведзе яго на якую лесавую дарогу ці, можа, наогул з лесу, аж яна, разы тры завярнуўшы сюды-туды, уперлася ў лесавы ручай, што вірліва гнаў чорную ваду між падмытага куп'я алешніку. Кладкі тут не было ніякай, дна таксама не было відаць, і, трохі прымерыўшыся, Войцік шугануў у чорную ваду. За якіх пяць крокаў ён адолеў ручай і выкараскаўся з яго тваністага дна. Пасля мусіў пераабувацца, вылiваць з чаравікаў ваду, выкручваць анучы. Намуляныя ступні ног страшэнна азяблі, ды і сам ён скалеў, і нарэшце шпарка прыпусціў па сцяжыне, каб хоць сагрэцца. Але на бягу не так угрэўся, як прытаміўся, і пайшоў памалу. Сцяжына вывела яго

на нейкую лесавую прагаліну, тут трэба было агледзецца і паслухаць. Здаецца, аднак, скрозь было ціха, абапал сцяной стаяў густаваты хвойнік, а злева на краі прагаліны пад кустоўем ляшчынніку мясціліся два закінутыя буданы з палкамі-рабрынамі ў прадраных баках. Войцік зазірнуў у адзін, там было пуста, у кутку ляжала трохі ўчарнелага сена і бялела некалькі зжаўцелых брудных паперын. Ён пайшоў далей праз ельнік, мінуў астравок бярэзніку і тут заўважыў, што сцежка ў доле знікла, пад нагамі слалася коўдра ззелянелага моху, траплялiся струхлелыя пянькі ў жоўтых зараснiках папараці. Войцік, здаецца, страціў адчуванне напрамку і, куды ішоў, не мог сабе ўявіць. Было падобна на тое, што ён заблудзіў. I тут, як на ліха, пасыпаў дождж - не густы і не надта напорысты, але сцюдзёны і зусім недарэчны. Казыркастая Войцікава кепка і плечы ў паддзёўцы ўжо добра змакрэлі, ногі ж да калень даўно былі мокрыя, і ён стаў пад хвоінай, думаў: што рабіць далей, куды ісці? Тым болей што пачало ўжо брацца на змрок, дзень увачавідкі канчаўся, насоўвалася восеньская ноч. А дзе ён апынуўся і ў якім баку цяпер Бураў з Сушчэнем, ён даўно ўжо не ведаў. Пэўна ж, ён заблудзіўся ў гэтым дурным лесе, згубіў напрамак на Бабічы, ледзьве не налез на карнікаў. Войцік услухаўся ў лесавы шум і ціхенькі лопат дажджу наўкола - стрэлаў ці голасу быццам нідзе не было чуваць. Але лепш бы пачуць стрэлы, каб ведаць, дзе вораг і небяспека, чым так вось кідацца па-заечы ў глухім незнаёмым лесе. А можа, і не трэба кідацца, тым больш напроціў начы, а пайсці назад ды знайсці тую самую сцежку. Усё ж сцежка павінна кудысь вывесці, можа, да якой ціхай вёскі, людзей і жытла?

Разважыўшы так і адчуўшы, што пачынае нерваваць ад сваёй няўдачы, Войцік хуткім крокам пашыбаваў назад да недалёкай прагаліны. Тым часам дождж пасыпаў гусцей, аднекуль з-пад хвой прарываўся настырны нізавы вецер, і не было дзе ад яго захінуцца. На прагаліне Войцік яшчэ зазірнуў у буданы. Адзін з іх, добра абкладзены збоку хваёвымі лапкамі, быў трохі цалейшы, і Войцік, неяк няўлад са сваімі намерамі, прыгнуўся ды сунуўся туды на кукішках. Сапраўды, тут

было зацішней, пад бокам угіналася зляжалае, але не надта воглае сена, пад якім гойдаўся тоўста накладзены пласт моху. Адчуўшы раптоўную знямогу ў целе, Войцік бокам прылёг у куточку. Ён не меў намеру тут начаваць - хіба спачыць трошкі, можа, перачакаць дождж. Зноў жа, трэба было абдумаць, куды кіраваць далей. Ці, можа, пачакаць ужо да ранку? Ранкам заўжды лепей пачынаць усякую справу. Раніцай і яшчэ ў першую квадру месяца, на маладзік, як некалі казала маці. Праўда, Войцік даволі скептычна ставіўся да прымхаў і правіл маці, непісьменнай старой жанчыны, якая змалку да старасці жыла на хутары і не ведала нічога, апроч зямлі, працы ды таго, што яна кожнага дня бачыла навокал сябе. І толькі, можа, цяпер, страціўшы яе і сам даволі папакутаваўшы на вайне, Войцік часам вяртаўся ў думках да маці і адчуваў, што ўсё штоколечы яна ведала, мабыць, беручы ад спрадвечнага сялянства вопыту, з назіранняў, жыццёвых высноў, пачуцця. На жаль, яе неадмысловыя веды мала стасаваліся да гэтага трывожнага веку, тут ужо пэўна трэба былі веды іншага складу, іншыя маральныя меркі. Са старымі меркамі ў новы час яўна чакала нявыкрутка...

Ветраны пошум лесу зліваўся з дробным ляскатам дажджу, які добра такі разышоўся на склоне дня. Побач з хвойных галін дробненька капала долу, той бок будана даўно ўжо быў мокры, толькі ў гэтым кутку пад гушчынёй ссохлых хваёвых лапак было пакуль што зацішна і суха. Войцік скурчыўся на баку, зацісНуў між ног карабін і заціх, аддаючыся сваім невясёлым думкам. Дужа хацелася есці, але з учарашняга дня ў ягоных кішэнях не было ні скарынкі, апошні кавалак хлеба зжаваў, як ехалі сюды з Буравым. У жываце даўно галодна бурчэла, стома ўсё болей апаноўвала цела. Канешне, увесь дзень сёння за імі хадзілі няўдачы, усё яны рабілі не так, як трэба было, цяпер ён яшчэ і недарэчна заблудзіўся ў гэтым лесе, а недзе ў хвойніку яго марна чакаюць Бураў (калі яшчэ чакае) ды той Сушчэня... Калі ўжо на добры розум, дык па каня трэба было паслаць менавіта Сушчэню, той лепей ведаў, дзе тут якая вёска. Але як было даверыцца гэтаму Сушчэню? Яшчэ прывёў бы паліцаяў, і тыя ўзялі б

абодвух, як зайчанят, у хвойніку. Таму пайшоў сам, думаў, так будзе лепш. Ды лепш не атрымалася... Ну але, мабыць, ранкам ён што-небудзь прыдумае. Прыдумаць што здатнае ён умеў змалку, людзі казалі, што быў галавасты. Іншая справа, што Войціку часам не хапала цвёрдасці, мужчынскай упэўненасці, але тут ужо не яго віна - мусіць, такім нарадзіўся. І ён ведаў гэта даўно, зайздросціў іншым, цвёрдым і рашучым, не такім, як сам. Бывала, заўжды з захапленнем пазіраў на некаторых кіраўнікоў у раёне, надзеленых сталёвым характарам і хлёсткай рашучасцю ў адносінах да тлумных, турботных спраў, сваіх падначаленых ды і да простых людзей таксама. Сам так не ўмеў, не валодаў такімі здольнасцямі.

У тыя гады, як яны праводзілі суцэльную калектывізацыю ў раёне, тая сталёвая рашучасць была, можа, самай каштоўнаю якасцю кожнага кіраўніка ці ўпаўнаважанага. І калі Войцік з вялікаю цяжкасцю, цаной недасыпу, стомы, пагроз і абяцанняў, неяк зладзіў за зіму якія чатыры калгасы, дык ягоны начальнік, загадчык райза Хмялеўскі за той час меў на сваім рахунку аж восем. Хмялеўскі мог дамагчыся ўсяго, што хочаш. Ён не рассусольваў, як некаторыя, не ўгаворваў і не бавіў начэй на мляўкіх сялянскіх сходах - ён ставіў пытанне рубам, абрываў нязгодных, проста і нават весела раскулачваў, і тады кожнаму рабілася зразумела: гэты свайго даб'ецца. І ён дабіваўся, бо быў чалавек рашучы і ўпэўнены ў тым, што рабіў. Варта было аднойчы ўбачыць яго ўпэўненыя манеры, мажную паставу, яго крутое асадзістае падбароддзе, каб зразумець, што гэта - кіраўнік вялікіх магчымасцей і пойдзе далёка. Войцік жа быў слабаваты характарам, а з выгляду... Які ўжо выгляд у здыхляка-недаростка ды яшчэ хворага на язву страўніка.

Так, Хмялеўскі аж тры гады быў ягоным начальнікам і ягоным ідэалам кіраўніка, і хто б падумаў, што гэты ідэал так ганебна скончыць аднойчы. Пасля ўжо высветлілася, што знюхаўся з класавым ворагам, на сходах прапагандаваў адно, а рабіў зусім іншае і цішком шкодзіў уладзе. Праўда, тады Войцік не прыкмячаў за

ім нічога асаблівага, але гэта, мусіць, таму, што ягоны загадчык умеў маскіравацца, і пасля, заднім чыслом, Войцік пачаў успамінаць дробныя факты, якія, каб Войцік быў болей праніклівы, маглі б у свой час навесці яго на пэўныя вывады. Ды не навялі, Войцік дакараў сябе найперш за страту палітычнае пільнасці. Хаця тады ён быў падначалены і што ні рабіў, рабіў па загаду Хмялеўскага. А вось пасля арышту загадчыка сітуацыя змянілася ў корані, і наступны грэх Войціка цалкам ужо быў на яго сумленні.

Яшчэ як яны працавалі разам, Войцік з маці кватараваў у старога яўрэя Мозеля якраз цераз дарогу ад дамоўкі Хмялеўскага. Войцікава маці, што жыла пры адзіным нежанатым сыне, сышлася з жонкай Хмялеўскага Кацярынай Іванаўнай, якая тады рабіла на пошце. Будучы жанчынай жаласлівай і лагоднай, маці неяк прывеціла дзвюх дзяўчынак ягонага шэфа - тыя ўлетку цэлы дзень без прыгляду таўкліся ў двары і часам завіталі на іхні падворак. Па сялянскім звычаі маці частавала іх то блінком, то квартай малака, то яблыкам з саду. Дзяўчаткі вельмі палюбіліся бабцы, якая даўно мела сум па малых і калі-нікалі нават заводзіла пра тое гаворку з сынам. Але калі Войціку было выбраць час ажаніцца? У раёне была процьма спраў болей важных, і да самай вайны ён заставаўся халастым мужчынам, хоць даўно ўжо не адчуваў сябе маладым. Звычайна ўвечары да іх забягала Кацярына Іванаўна, дзякавала маці за дзяўчынак, і Войцік увогуле быў задаволены, што нечым дагадзіў калі не самому загадчыку, дык хоць яго жонцы - што таксама было няблага. Але во пасля арышту Хмялеўскага адносіны гэтых дзвюх сем'яў змяніліся, дзяўчынкі перасталі прыбягаць да бабы Фені, хоць тая часам і хадзіла праведаць суседку насупраць. Войціку гэта не надта падабалася, праўда, да пары ён маўчаў. Не спадабалася яму і тое, як неяк на пачатку зімы маці папрасіла яго пасобіць суседцы дрывамі. («Сядзіць, бедная, у няпаленай хаце, дзеткі хварэюць, дроў у двары ні палкі».) Войціку якраз меліся прывезці тры вазы дроў, дык маці папрасіла, каб некалькі палак скінуць пад плотам Кацярыны Іванаўны. Ім жа і без таго хопіць, палілі яны не штодня. Не спадабалася тая

просьба Войціку, але ён змоўчаў, не стаў нічога тлумачыць маці. Ды і што б яна зразумела з усяе складанасці класавай барацьбы, якая разгарнулася ў краіне? Назаўтра, як прывезлі яму тры вазы дроў, ён сказаў возчыку скінуць тры бервяны ля варот Хмялеўскай. Хто б тады мог меркаваць, што праз месяц і гэтая Кацярына Іванаўна апынецца там, дзе ўжо апынуўся яе гаспадар, былы загадчык райза і шкоднік Кузьма Хмялеўскі. А Войцік пасля ледзьве апраўдаўся. Чаго тады ён ні нагаварыў на сябе: і што не зарыентаваўся, страціў палітычную пільнасць, праявіў гнілы лібералізм. Мабыць, аднак, адгаварыўся, хоць і атрымаў спагнанне. Горш, што праз той выпадак яго не прызначылі на месца Хмялеўскага - прызначылі Душняка, які ў сельскай гаспадарцы наўрад ці што петрыў, бо быў рабочы з Полацка. Войцік тады вельмі зазлаваў на маці, якая так неўспадзеўкі спляжыла ягоную кар'еру. Трэба было ім шкадаваць гэтых Хмялеўскіх! Іншыя не шкадавалі, не спагадвалі, не памаглі ні разу, хоць тады, як Хмялеўскі ліха кіраваў аддзелам, падлізваліся да яго з усёй сілы. Той выпадак паслужыў Войціку добрым урокам у жыцці, і, можа, перасцярог ад многіх іншых памылак. Хоць канешне, цвёрдасці ў характары ад таго не прыбавілася, але ён імкнуўся яе выхаваць. Бо ўжо быў вучаны. Ягоная ж злосць на маці памалу стала мінацца, а ў вайну дык і знікла зусім, саступіўшы месца вялікаму шкадаванню да яе. Але гэта ўжо зразумела: маці прыняла пакутніцкую смерць за сына, мо нейкім чынам захінула яго.

Здарылася тое мінулаю восенню, як у раёне запанавалі немцы і пачаліся аблавы на камуністаў, камсамольцаў, былы раённы актыў. Партызан паблізу тады не было, туляцца па лесе напроціў зімы мала хто наважыўся, і ратаваліся, як дзе хто ўмеў. Войцік дачуўся, што паліцыя ўрэшце зацікавілася ім і пару разоў урывалася паначы ў апусцелы дом Мозеля. Ды марна: Войціка там, вядома, не было, ён хаваўся ў дальняга родзіча на прылесным хутары за пятнаццаць кіламетраў ад мястэчка. Але маці заставалася дома, за яе Войцік не надта трывожыўся: што паліцаі маглі зрабіць ёй, старой

цёмнай бабе, нашто яна ім? Але зрабілі. На трэці раз не застаўшы Войціка дома, яны забралі ягоную маці і сказалі, што калі ён сам добраахвотна не прыйдзе ў паліцыю, дык пакараюць яе. І тады маці перадала праз знаёмую прыбіральшчыцу, што калісьці рабіла ў бальніцы, каб не ішоў. Яна ўжо старая, ёй усё роўна, а ён малады, яму трэба жыць. Пабедаваў тады Войцік, асабліва калі дачуўся, што маці і праўда забілі з вялікаю групаю местачкоўцаў, і гэтаму яго бедаванню, здаецца, не будзе канца. Шкада яму маці, і чым далей, тым больш, ну але што зробіш?

Закалыханы ў будане дажджом і блізкім лесавым шумам, Войцік неўпрыцям заснуў, скурчыўшыся на баку, і неўзабаве сасніў нейкі дзіўны, бязглузды сон. Прысніўся яму яго жоўты скураны партфель, які ён за тры кіло сала некалі прыдбаў у бежанца з Польшчы. Партфель быў цудоўны, з тоўстай свіной скуры, на тры аддзяленні, з двума блішчастымі замкамі-зашчэпкамі, якія хлёстка шчоўкалі, калі іх ціскануць пальцамі. Такога партфеля не меў ніводзін службовец у раёне ды, мабыць, і ва ўсёй вобласці. Войцік дужа шанаваў яго, стараўся не надта набіваць паперамі, насіў толькі на працу ў выканком ды яшчэ браў, калі ехаў у Віцебск са справаздачай або на якую нараду. У вагоне ён заўжды клаў яго пад падушку, але так, каб не дужа прыціскаць галавой, не пашкодзіць акуратныя ражкі, аблямаваныя жоўтымі бляшкамі. Ён дужа баяўся, каб яго не ўкралі, калі адлучаўся ў прыбіральню ранкам. Але тады ўсё абышлося добра, партфель ён збярог да самай вайны і, як у мястэчку паявіліся немцы, схаваў яго на гарышчы за комінам. І вось цяпер ён прысніў той партфель, які быццам ляжаў на дашчаным стале ў штабной зямлянцы, а побач стаяла начальства - камандзір Трушкевіч, начальнік штаба і яшчэ нехта, яны чакалі Войціка і, калі той увайшоў, загадалі расчыніць партфель. Не ведаючы, што там, і дужа баючыся чагось, Войцік дрыготкімі пальцамі націснуў на знаёмыя зашчапкі, падняў скураное вечка партфеля. Ён з неспакоем чакаў убачыць там свае паперы, некаторыя дакументы і даведкі, а з партфеля раптам выкацілася вялікае гусінае яйка, за ім яшчэ два - аказваецца, там было поўна яек і

быццам тыя яйкі былі дзесьці ўкрадзеныя і за тое прыйдзецца адказваць Войціку. Войцік напалохаўся і не ведаў, як апраўдацца, а Трушкевіч тым часам ужо схапіўся за сваю абдрыпаную кабуру, мабыць, каб выканаць прысуд. Войцік схамянуўся ад страху і прачнуўся, не адразу пазнаўшы, дзе ён і што з ім здарылася. Нейкі час затым ён перажываў сон, не ў стане вызваліцца адразу ад яго брыдка-страхавітага сэнсу і ўсё суцяшаў сябе, што глупства гэтыя яйкі і ўся гэтая недарэчная сцэна. Не хапала яшчэ яму палохацца сноў.

Спакваля, аднак, ён супакоіўся, сцюжа і скалелае цела напомнілі яму, дзе ён і як сюды трапіў. У будане было яшчэ цёмна, дужа шумеў вецер у лесе, але дождж быццам бы перастаў. Войцік адчуў, што неўзабаве пачнецца брацца на ранак, і ляжаў, думаючы, куды яму падацца тым ранкам, дзе шукаць вёску. Ці лепш вярнуцца да Сушчэні з Буравым? Толькі дзе ён цяпер знойдзе той хвойнік? Ці не напарацца ён тут на немцаў, во тады і спраўдзяцца тыя гусіныя яйкі, сасніць якія, паводле вясковага павер'я, азначала трапіць у бяду.

Мабыць, ён і яшчэ трохі заснуў, а як прачнуўся, наўкола ўжо добра ўвіднела; побач відаць стала абвялае веццe, чорныя жэрдкі ўгары, і ён на кукішках выбраўся з будана.

З-пад хвой на прагаліну поўз золкі туман, ахінаў дрэвы, кустоўе, вогла слаўся па травяным доле, спрэс затуляў блізкае ляснoе наваколле. Зябка цепаючы плячыма, Войцік трохі прайшоў сцяжынай у хвойніку і нечакана для сябе выбіўся на нейкую вузкую пустую расцяробу. То была прасека - ці не тая нават, якой яны ўчора неслі параненага Бурава, падумаў Войцік і, азірнуўшыся, узрадавана пашыбаваў у тумане.

Рэшту таго нешчаслівага дня Сушчэня скамянела і моўчкі сядзеў ля мёртвага Бурава. Спярша ён чакаў, што той, можа, яшчэ ажыве, заварушыцца, можа, адзавецца нават, і час ад часу кратаў яго за плячо, ціха гукаў: «Коля, а Коля...» Аднак усё было марна: Бураў не кратаўся і не адзываўся. Спакутаваны твар яго ўсё

болей дранцвеў пад адрослаю шчэццю, крыўдліва зламаныя вусны засмяглі ў нерухомасці, да гладкага белага лба ўспатнела прыліпла высахлая пасма валасоў. Рудая мурашка аднекуль узбегла на лоб, спынілася ля гэтай пасмы, чагось памарудзіла і порстка скацілася па скроні ў траву. Мусіць, пільнаваць нябожчыка тут ужо не мела вялікага сэнсу, нічым памагчы яму было нельга. Але і ісці адсюль... Куды Сушчэня мог цяпер адгэтуль пайсці? Зноў жа, мусіць, трэба было дачакацца Войціка, які нешта бавіўся, не вяртаўся. Хоць бы дзе не налез на якую бяду, занепакоена падумаў Сушчэня. Клопат гэтых двух партызан неяк неўпрыцям рабіўся ўжо і ягоным клопатам, і, страціўшы аднаго, ён ужо турбаваўся за лёс другога.

Вецер дужа шумеў у недалёкіх старых соснах, і, хоць тут, у хвойным гушчары, увогуле было зацішна, Сушчэня скалеў ад сцюжы і нерухомасці ў адной кашулі, без майкі. Даўно, з перапынкам стракатала недзе сарока - можа, на яго, а можа, на каго іншага, і Сушчэня ўстаў, каб паазірацца наўкола. Чорны наган, што тырчэў з-пад шыняля нябожчыка, Сушчэня асцярожна пацяг за рукаятку. Мусіць, наган быў зараджаны, але Сушчэня не стаў у яго зазіраць, націскаць курок, каб не шчоўкнуць ці, яшчэ горш, неўзнарок не стрэльнуць. Засунуўшы наган у кішэню, ён асцярожна прадраўся між хвоек, вылез на прасеку. Тут, аднак, усё было ціха і пуста, сарока якраз таксама прыціхла, і ён паазіраўся, маючы кволую надзею ўбачыць дзе Войціка. Ды Войціка нідзе не было. Тады ён паціху вярнуўся да свае прагаліны і аж устрывожыўся ад таго, што тут згледзеў.

Блізка ад прагаліны на тонкім верхавінні хвоек насела зграя варон, якія ціха пагойдваліся на ветры і ўсё касавурыліся сюды - пэўна, на мёртвага чалавека ў доле. Сушчэня ўзняў голаў - той першы груган сядзеў ужо зусім побач, ледзь не на крайняй хвойцы і, звесіўшы чорную дзюбу, утаропіўся ў яго - чакаў. Сушчэня абурана махнуў рукой раз і другі, крыкнуць ён не наважыўся. І груган, мусіць, зразумеўшы тую яго нерашучасць, не скрануўся нават, не варухнуў крыллем

- сядзеў як прывязаны на галіне і толькі з боку на бок паварочваў чорную галаву, каб лепш бачыць наўкола. «Ах ты, пракляты крумкач!» - сказаў сабе ў думках Сушчэня і пашукаў на зямлі якую ламачыну, каб кінуць у яго. Ды ні ламачыны, ні каменя нідзе не было побач, і не было чым адагнаць grугана.

Разважыўшы, Сушчэня, аднак, паспакайнеў - што ўжо яму гэты груган! Можа, на жывога не кінецца, а Бурава ўжо ён абароніць. Бурава ён ім не дасць, пакуль сам жывы. Можа, тым і адплоціць свой доўг перад нябожчыкам - усё ж Сушчэня яму абавязаны. Жыццём абавязаны. Іншая справа, чым урэшце абернецца тое яго жыццё. Што прынясе далей - збаўленне ці яшчэ горшую смерць?

Груганы і смутнае жаданне дачакацца Войціка прымусілі Сушчэню адмовіцца ад намеру пайсці куды з гэтага месца, і, хоць было страхавіта і сцюдзёна, ён цярпліва чакаў. Ён сеў на траву каля ног нябожчыка, сцяўся, угнуўся, затуліў пад пахі азызлыя ад сцюжы рукі. Бураў ляжаў у непатрэбным цяпер для яго шынелку, ды Сушчэня не наважваўся распрануць нябожчыка - не падніmаліся на тое рукі. Ён усё думаў, што вось-вось паявіцца Войцік з фурманкай, і тады яны паедуць адсюль. Куды паедуць? А хоць бы куды, абы далей ад гэтага здзічэлага хвойніку, ад груганнЯ, можа, куды да людзей...

Ды мінаў час, а Войцік не паяўляўся, груганы нікуды адсюль не ляцелі, азіраліся, гойдаліся на тонкім вяршаллі, часам мяняючыся месцамі, і ўсё шчыльней абступалі прагаліну. Пад вечар іх ужо сабралася тут з тузін, і наперадзе, на самай верхавіне хвойкі, бліжэй за іншых усё тырчэў той першы груган - цярпліва і пільна сачыў за двума чалавекамі ўнізе.

Неяк неўпрыкмет насунуўся вечар; хмарнае неба яшчэ болей захмарылася, з-пад хвойніку папоўз змрок, усё шчыльней атуляючы маленькі лапік-прагаліну. Тры вароны з дальніх вяршалін паляцелі кудысь адна за адной, рэшта ж засталася, чагось цярпліва чакала. «Але чорта вам, во!» - лаяўся ў думках Сушчэня, усё

махаючы на іх рукамі. Толькі дарма: чалавек іх не палохаў, мусіць, яны разумелі марнасць яго пагроз. Было падобна, што гэтыя ўжо не збіраліся нікуды ляцець, ці не мелі яны намер і начаваць тут? Калі ўжо добра сцямнела і ў небе засталося відаць адно счарнелае вяршалле хвоек, недзе прапалі ў змроку і вароны. Аднак час ад часу там адчувалася нейкае варушэнне, некаторыя вяршаліны неспакойна пагойдваліся - значыць, вараннё ўсё чакала.

Войціка ж нідзе не было.

Сушчэню ўсё болей пачала агортваць стома. Ужо некалькі разоў ён лавіў сябе на тым, што пачынае драмаць, тады трывожна прахопліваўся, уставаў, махаў рукамі, прысядаў і ўскокваў - разганяў сон і грэўся. Але гэта не саграваламстамляла яшчэ болей, хацелася легчы і забыцца ў сне. Зусім знямогшыся, урэшце не стрываў і лёг побач з нябожчыкам - бокам на пале ягонага расхінутага шыняля. Бураў даўно ўжо астыў, аддаўшы зямлі рэшту свайго жывога цяпла, але Сушчэню ўсё ж здалося ля яго ўтульней, нават нібы бяспечней. І ён сцішыўся са сваімі журботнымі думкамі, шчыльней месцячыся спіной да скалелага цела нябожчыка. Усё думаў, чаму яму так не пашэнціла ў гэтай вайне, у чым ягоная віна перад людзьмі ці перад Радзімай, самім сабой? Чаму менавіта яго напаткаў гэткі нялюдскі лёс? Чым ён заслужыў такую горкую долю?

Уся вялікая сушчэнеўская сям'я, без бацькі, колькі яе памятаў старэйшы Сушчэня, жыла ў нейкім хваравітым імкненні да праўды і чысціні ў адносінах з іншымі - вяскоўцамі, раднёй, суседзямі. За гады сваёй маладосці Сушчэня не мог уявіць, як гэта можна, напрыклад, пазычыць і не аддаць або нават не пазычыць каму, хто прасіў, калі гэта можна было зрабіць. Самі жылі трудна, бадай што бедна, кожны пуд збожжа, кавалак сала, якая капейчына былі надта патрэбны самім, але калі прыходзіла да іх бедная бабылка Хрысціна з прыжытым без мужа дзіцём, Сушчэні аддавалі апошняе - які кавалак хлеба, ці трант, ці рубель на лекі. Яно заўжды

было шкада, заўжды не хапала самім, але маці ды баба Хвядора ў такіх выпадках казалі, што нельга гнявіць бога, не памагчы і без таго пакрыўджанай людзьмі і богам. Баба Хвядора вельмі сачыла і за імі - малымі, і пасля, як падраслі, - каб не было якой несправядлівасці ў дачыненні да іншых, малодшых ці там вясковых сяброў і суседзяў, і часам, калі што здаралася, сварылася на сваіх болей, чым на чужых, хоць часта свае і былі найменш вінаватыя. Або зусім не вінаватыя, як у тым памятным выпадку з піліпавымі снапкамі.

Здарылася так, што дзядзька Піліп, які жыў у другім канцы вёскі за станцыяй, вазіў каля іхняга гарода зжаты ячмень ад ракі і згубіў чатыры снапкі. Снапкі гэтыя бачылі ўсе Сушчэні, і маці, і дзеці, і бабка Хвядора, - тыя ляжалі сабе на сцежцы ўвесь адвячорак, дзядзька Піліп, мусіць, яшчэ не згледзеў прапажу, а як згледзеў і назаўтра вярнуўся па іх на сцежку, снапкоў ужо не было. Снапкі прапалі. Вядома, дзядзька Піліп засмуціўся, калі пачуў ад Сушчэняў, што снапкоў ніхто з іх не браў, а куды яны зніклі - хто ведае? Пабедаваў дзядзька і пайшоў, а ў Сушчэняў усчалася трывога. Бабка Хвядора ледзьве не плакала: гэта ж ён падумае на іх, тых Сушчэняў, каторыя за жыццё не сашчыкнулі чужога стручка цераз плот, не пакарысталіся чужым яблыкам-ападкам з узмежка. Увесь вечар Сушчэні раіліся, як ім уратавацца ад ганьбы. Справа ўскладнялася яшчэ тым, што свой ячмень яны ўжо абмалацілі, у пуньцы не засталося ніводнага снапка. І тады бабка Хвядора пабегла цераз тры хаты да кульгавага Змітрака, у якага і пазычыла чатыры снапкі ячменю, і Сушчэня аднёс іх дзядзьку Піліпу, сказаў, што малыя, дурэючы, учора іх прыбралі са сцежкі, нікому не сказаўшы пра тое. Дурная ўвогуле сітуацыя, тым больш што тыя піліпаўскія снапкі сапраўды нехта прыбраў са сцежкі. Але падазрэнне ўсё ж было адведзена ад Сушчэняў, і бабка Хвядора сказала: «А чорт іх бяры, тых снапкоў, цяпер хоць спакайней спаць будзем». І ўсё яно было б добра, дзядзька Піліп не злаваў, калі б у душы ў Сушчэні не засталася малая стрэмка: нехта ўсё ж пакарыстаўся тымі піліпаўскімі снапкамі, як і сушчэнеўскім прастадушшам таксама. Ну

але ці першы і ці апошні раз? Заўжды ў такіх выпадках бабка Хвядора ці маці казалі: «А хай! Сабе спакайней будзе». Яны надта імкнуліся да ладу і спакою ў душы, але во ўрэшце гэтая яго гісторыя перавярнула ў Сушчэні ўсё дагары нагамі і гатова была адабраць жыццё, не толькі спакой душы...

Жахлівая тая ноч цягнулася для Сушчэні бясконца, ён то драмаў нядоўга, то прахопліваўся ад сцюжы ды і трывогі таксама, паднімаў галаву, слухаў. Калі ўсчаўся дождж, стала зусім кепска, ад дажджу тут не было схову, хіба апроч хвойнага вецця. Ужо змакрэлы, ён перацягнуў Бурава пад нізка навіслыя лапкі суседняй бухматай хвойкі, урэшце наважыўся, зняў з яго воглы, скрываўлены шынелак. Сам зноў прытуліўся поруч і, як з жывым, разам накрыўся яго шынялём. Так стала цяплей, прынамсі, не цякло на твар, а да нябожчыка можна было прыхінуцца спіной - нават утульна стала ў ямцы пад хвояй. І ён, здаецца, заснуў.

Спаў ён доўга ці не - невядома, толькі раптам пачуў блізкі здзічэлы крык - плач дзіцяці, ён адразу пазнаў той голас - галасіў яго Грышачка. І плач яго быў такі роспачны, столькі было ў ім адчаю, што Сушчэня з абмерлым сэрцам кінуўся на яго - за вугол хлява, у гародчык, здалося, менавіта там плача сынок. Ды плач пачуўся ўжо далей - за крайнім радам вішанніку ў садку. Баючыся спазніцца, Сушчэня пабег туды, за садок, пералез цераз трухлявы, аброслы крапівай плот на мяжы з бульбоўнікам, аднак нікога там не было - плач ужо чуўся аднекуль з падворка. Грышачка захлынаўся з астатняе сілы, мусіць, з ім сталася дужа кепскае, і Сушчэня жахнуўся, што не паспее, спозніцца. Па ўзмежку ён ірвануўся да падворка, і, як выскачыў на дрывотню, цэлая вароняя зграя ўзнялася над страхой варыўні; вароны ўсе закрычалі, няўлад і злаясліва, замахалі крыллем, ашчэрыўшы чорныя дзюбы з вострымі чырванаватымі языкамі, - здаецца, яны гатовы былі задзяўбці чалавека. Баронячыся, Сушчэня ўскінуў рукі, утуліў галаву ў плечы, памкнуўся бегчы адсюль, як ад разлютаванага пчалінага рою. А Грышачкаў плач між тым усё роспачна лунаў у прасторы, памалу

сціхаючы ці аддаляючыся. Пасля неяк усё памалу заглухла, засцілася невыразным наплывам сну...

Спакваля, аднак, ён прачнуўся ад пакутнай трывогі, якая так і не мінулася ні ў сне, ні наяве, і адразу пачуў знаёмую варонюю валтузню побач. Лежачы пад хваінай, ён трохі паслухаў; не, чалавечага голасу або плачу нідзе не было чуваць, толькі блізка, над самай прагалінай, абурана каркалі вароны, чуваць было, мітусіліся, варушыліся, пераляталі з хвоі на хвою, нібы чагось абурана патрабуючы ад чалавека, і Сушчэня са злоснай рашучасцю вылез з-пад хвоі. На прагаліне ўсё было воглым і стылым ад начнога дажджу і туману, які цяжкім нізкім покрывам спрэс сунуўся ў хвойніку, затуляў неба і дальняе вяршалле дрэў. Было, аднак, ціха. Калючае голле нізка звісала долу, абцяжаранае безліччу дробных празрыстых кропель, і ён добра намок, пакуль выбраўся з-пад хвойкі. Праклятае вараннё не адступалася. На гэты раз ён не стаў махаць на іх рукамі - выбраўшыся на шырокую зацягненую туманам прасеку, ён знайшоў здатную палку, абламаў на ёй суччa і вярнуўся на прагаліну.

- Прэч, праклятыя! Прэч!..

Ён замахнуўся палкай, выцяў ёю па хвойцы, другой - гругун неахвотна зваліўся і вяршаліны, узмахнуў крыламі і пераляцеў далей.

- Прэч, сволачы!!!

Войцік прыйшоў, калі ўжо добра развіднела і Сушчэня страціў рэшту надзеі - не ведаў, што рабіць і нават што думаць. Варон ён трохі паадганяў ад прагаліны, але тыя ўпарта не хацелі пакідаць хвойнік і трохі радзей парасселіся зводдаль на вышэйшым ці, можа, зручнейшым вяршаллі хвой. Чакалі. Накінуўшы на плечы бураўскі шынелак, Сушчэня паныла сядзеў пасярод прагаліны, таксама чакаў, сочачы за насцярожаным вараннём зводдаль. Тут яго і застаў Войцік, што ціха прадраўся ў тумане паміж радам хвоек.

- Сядзіш? - запытаў ён нават са здзіўленнем у голасе.

Сушчэня бадай без радасці, няўцямна паглядзеў на яго.
- А Бураў?

- Вунь, - паныла кіўнуў ён галавой у бок хвойкі, з-пад якой вытыркаліся нерухомыя боты Бурава.

- Так я і ведаў, - сказаў Войцік. - Даўно?

- Учора пад вечар.

- Добра што. Не трэба і падводы.

Войцік патупаў сюды-туды па цеснай прагаліне, паўзіраўся на варон.

- Іш сабраліся. Чакаюць.

- З учарашняга чакаюць, - сказаў Сушчэня і, памаўчаўшы, запытаў: - А што, фурманкі - няма?

- Фурманкі няма, - сказаў Войцік, зняў з пляча карабін і зморана апусціўся долу. - У Бабічах немцы.

- Во як!.. Дык як жа цяпер? - затрывожыўся Сушчэня. Вялікія рукі яго прыкметна здрыгануліся на каленях.

- А што цяпер? Прыхаваем і патопаем. Можа, прарвёмся.

- Куды?

- Ну хто куды. Я - у атрад, а ты ж, мабыць, да немцаў хочаш? - сказаў Войцік і сцюдзёнымі вачмі на абвялым, парослым шчэццю твары выпрабавальна ўставіўся ў Сушчэню.

- Я не да немцаў, - з зацятаю крыўдай сказаў Сушчэня. - Вядзі мяне ў атрад. Інакшай дарогі мне няма.

- У атрад, ага. Цябе там чакаюць, - няпэўна прабурчэў Войцік.

Яны памаўчалі трошкі, Сушчэня з пакутай уваччу пазіраў кудысь паверх хвойніку, на варон, што сям-там чарнеліся ў тумане. Ён зразумеў кепскі намёк Войціка,

сам ведаў, што нічога добрага яго там не чакае.

- Бурава нада з сабой узяць, - сказаў ён нібы між іншым.
- Нягожа тут яго кідаць. Вунь варання колькі.

- Калі сам панясеш, - пагадзіўся Войцік.

- Ну панясу, што ж...

Войцік памаўчыў, нешта згадваючы, а Сушчэня ўжо рашыў у думках, што панясе. Ён не можа тут пакінуць цела Бурава, бо... Бо з чым ён інакш з'явіцца ў той іх атрад? Хіба з сваёй недарэчнай віной.

- Трохі яшчэ пасядзеўшы, Войцік устаў на ногі, паазіраўся ў тумане на вяршалле дрэў і заспяшаўся раптам:

- Калі так - бярыся. Мне яшчэ вінтоўку трэба ўзяць.

На каленях Сушчэня падлез пад нізкае голле бухматай хвойкі, і, ашчаперыўшы нябожчыка пад пахі, выцягнуў яго на вальнейшае месца. Цела Бурава ўжо закалела і стала амаль нягнуткім. Сушчэня ашчадна заламаў угору ягоныя рукі, паклаў сабе на плечы. Затым з натугай узняўся з долу, праўда, ззаду яму трохі пасобіў Войцік, і яны неўзабаве выдраліся з хвойнага гушчару на прасеку.

Наўсцяж усёй прасекі, па лесе між камлёў старых хвой і ў падлеску курэў слотны туман, вяршалле дрэў угары хавалася ў яго плыўкіх рваных пасмах. Ідаць было недалёка, на якіх паўсотню крокаў, і, трохі прайшоўшы па-над прасекай, Войцік спыніўся.

- Калі не ў Бабічы, дык трэба лявей браць, - сказаў ззаду Сушчэня. З падкручанай пад ношаю галавой ён локцем паказваў некуды ў туманныя лесавыя нетры.

- Харашо. Толькі вінтоўку вазьму.

Улезшы ў цёмны зараснік ядлоўцу, Войцік задам выбраўся адтуль з сваёй доўгай вінтоўкай, закінуў яе рамянём за плячо. На другім плячы ў яго вісеў карабін

Бурава.

- Ну, вядзі! - сказаў ён. - Толькі глядзі мне, каб не прывёў да немцаў.

Сушчэня не адказаў - моўчкі прыдушыў у сабе крыўду, бо была яна далёка не першая, падумаў, што, мабыць, крыўд яму яшчэ хопіць. Яшчэ ён накрыўдуецца, трэба прывыкаць. Калі толькі ўсё як-небудзь абыдзецца. А калі не абыдзецца, дык што ж... Што яму тады тыя крыўды. Праўда, слухаючы цяпер шматзначныя закіды Войціка, ён адчуваў, што трэба б нешта сказаць дзеля свайго апраўдання, нешта растлумачыць з свае недарэчнай гісторыі. Але ён не мог наважыцца на тое, штось яму замінала, і ўсё. Калі б Войцік сам запытаўся ў яго, захацеў зразумець, а так... Аднойчы ўжо наважыўся, перад Буравым, і гэтак няўдала атрымалася - паспавядаўся мёртваму. Чамусьці, аднак, усё ж стала лягчэй, нібыта Бураў яго зразумеў, канаючы. Можа, і зразумеў. Сказаў жа ён Войціку перад тым, як сканаць: «Не чапай Сушчэню», значыць, зразумеў нешта. Першы чалавек за ўвесь час ягоных пакут, ды і той вось... мёртвы. І таму ён нясе яго на сабе, каб не кінуць варанню, немцам... Мабыць, нежывы Бураў быў патрэбны яму для ўпэўненасці і самаадчування праўды, і Сушчэня так трымаўся за яго, як тапелец трымаецца за саломіну. Ці шмат толькі паможа яму тая саломіна?

Гэтая, аднак, даволі-такі цяжкаватая саломіна хутка адбірала ягоныя сілы, Сушчэня пачаў часта спыняцца, папраўляць ношу. Бы прадчуваючы недарэчнасць яго намаганняў, нябожчык ацяжэла імкнуўся долу - туды, да чаго ён ужо належаў з учарашняга надвячорка і куды яго не пускаў гэты былы аднавясковец.

Яны доўга брылі так па золкатуманным лесе, астуджана дыхаючы яго густа спіртавым водарам. Абсыпаны ігліцай дол у бары быў мяккі і чысты, ісці па ім было лёгка і нячутна, верхавіны высачэзных хвой хаваліся ў нізкай туманнай навалачы, неба амаль не было відаць; рэдкі падлесак з параснікаў бярэзніку, ядлоўцу і хвоек таксама ціха стаяў, ахутаны клоччам туману. Было сцішана, глуха, ніводная галінка нідзе не кранулася.

Птушак чамусьці не было чуваць, толькі аднойчы ўгары пастукаў на сухадрэвіне дзяцел і сціх. Сушчэня добра ўгрэўся пад шынялём з сваей нялёгкаю ношай, яму даўно ўжо карцела спачыць, але Войцік быццам не заўважаў таго, і Сушчэня быў змушаны брысці далей. Ім трапіліся ўжо дзве прасекі, але абедзве пралеглі ўпоперак іхняга напрамку. Час ад часу пазіраючы ў бакі з-пад локцяў напята расстаўленых рук, Сушчэня збольшага пазнаваў лес і меркаваў, што ідуць быццам правільна. За трэцяй прасекай павінен пачацца квартал старых, пераспелых хвой. Некалі, яшчэ да калгасаў, тут маладыя хлопцы з Масцішча нарыхтоўвалі зімой лес для вывазкі ў Данбас, і тут у яго ўпершыню пачалося з Анэляй... Пачалося быццам шчасліва, ды во як скончыцца... Ад гэтага квартала Бабічы ўжо застануцца ўбаку, лічы, яны мінулі вёску. Праўда, калі ісці прама, дык наперадзе іх чакала не лепшае - наперадзе была шаша; мабыць, шашу таксама прыйдзецца пераходзіць у лесе. Добра б перайсці ноччу, а ўдзень... Хіба што паможа туман.

Увесь час ідучы недалёка ззаду з дзвюма вінтоўкамі на плячах, Войцік з зайздрасцю думаў, які ўсё ж здаравенны мужык гэты Сушчэня. Угнуўся ледзь не да долу, а прэ і прэ, нібы трактар, і нават не спыніцца для адпачынку. Дужы чыгуначнік, нічога не скажаш. Папраўдзе, дык Войцік здаўна недалюбліваў такіх вось здаравякоў, хто б яны ні былі, ён неяк хваравіта адчуваў іхнюю перавагу над сабой, паставіць насуперак якой у яго не было чаго. Хіба што розум, разважнасць, мо нават хітрасць. Ці, як нядаўна казалі, - прынцыповасць. Але прынцыповасць патрэбна была да вайны, у класавай барацьбе, у іх тлумнай складанай службе, а тут навошта? На вайне куды болей патрэбна такая вось дужасць, простая чалавечая сіла, якой у Войціка было малавата. Ды што зробіш, кожнаму сваё. Таму няхай нясе, калі сам напрасіўся. Вельмі нават магчыма, што камандзір Трушкевіч запытаецца, дзе забіты, і яшчэ пагоніць па труп. Дык тут будзе недалёка, лагер пад бокам ужо, труп, калі што, можна прывезці пасля на фурманцы. Вядома, у лагер Сушчэню весці нельга. Гэта праста будзе скандал, калі ён, пасланы, каб забіць

здрадніка, прывядзе яго ў атрад. Ён, канешне, стрэльне яго, хіба дзе бліжэй да ракі. І тады будзе вольны. Сам адзін ён ужо як-небудзь дабярэцца да свае пушчы і даложыць Трушкевічу: загад выкананы. Праўда, не абышлося без страт: Бураў забіты. Але на вайне хіба гэта вялікае дзіва - страты? Колькі яны ўжо страцілі за восень і лета...

Да трэцяй прасекі яны яшчэ не дайшлі, як недзе ўбаку злева нечакана забахалі стрэлы. Не так, каб блізка, але і не далёка. У тумане гукі стрэлаў прагучалі няпэўна, прыглушана, і цяжка было зразумець, якая да іх адлегласць. Сушчэня нядоўга пастаяў з ношаю і вяла апусціўся долу, Войцік таксама ўкленчыў на мох. Абодва ўслухаліся. Бахала мо з дзесятак ці болей вінтовак, туманныя нетры лесу выразна даносілі кароткія без водгулля стрэлы, якія туга аддаваліся ў паветры, бы выбітыя з бутэлькі коркі.

- У Бабічах, ага? - спытаўся Войцік.

- Каб жа ў Бабічах, - услухоўваючыся, сказаў Сушчэня. - То з іншага боку. Ці не на шашы.

- На шашы?

- Ну.

- Дык яшчэ і шаша тут! Куды ж ты завёў?

Войцік ціха пры сабе вылаяўся - ён зусім забыўся, што тут недзе павінна быць і шаша. Пра шашу ён і не падумаў нават.

- А куды ж яшчэ весці! - з ціхаю крыўдай зазначыў Сушчэня. - Вы ж кажаце: у Бабічах немцы?

- Ну немцы.

- Значыць, толькі сюды. Цераз шашу.

Але, мабыць, сапраўды цераз шашу, інакшай дарогі ў пушчу няма. Можа, упершыню Войцік падумаў, што Сушчэня трапіўся яму дарэчы, што без яго ён зноў

заблудзіў бы ў гэтым чортавым лесе. А заблудзіўшы, нядоўга налезці на ражон і развітацца з жыццём. Гэты хоць ведае мясцовасць і, можа, яшчэ выведзе да сваіх.

Ось калі б ён быў свой чэсны мужык, а не здраднік!

Але каб быў свой, а не здраднік, дык, пэўна, тут не было б чаго швэндацца і Войціку, і, мусіць бы, Бураў не ляжаў цяпер на воглай імшарыне, задраўшы ўгару падбароддзе. Каб быў не здраднік. Горш, што ён яшчэ і з наганам; думае, мабыць, што Войцік забыўся пра той наган Бурава і не адбярэ яго назад. Але трэба адабраць. Калі, можа, не тут (каб не абвастраць адносін), дык ужо за шашой трэба адабраць. Усё ж здраднік, якіх цяпер, у вайну, развялося нямала - адны імі сталі з ахвотай, з нейкай для сябе карысцю, іншыя па безвыходнасці, праз страх, баючыся за жыццё, за дзяцей і сям'ю. Але тое не мяняе нічога па сутнасці, здраднік ёсць здраднік. Не глядзі, што каторы прыкідваецца смірным і нават гатовы навязаць табе шкадаванне, а затым... А затым - нож у спіну, кулю ў патыліцу. Хто ведае, што ў яго ў галаве, у гэтага Сушчэні, чаму яго там навучылі, у паліцыі. Мабыць, завербавалі, прымусілі ці ўгаварылі і далі заданне. Інакш бы жывога не выпусцілі. Войцік ужо разумее, яго не ашукаеш. Што-колечы пабачыў за жыццё, чаму-нічаму навучыўся.

Яны паляжалі на імшарыне, трохі спачылі, трывога ад страляніны памалу ўляглася, тым болей што і страляніна неяк нейпрыцям быццам і зусім перастала. Тады зноў пайшлі ранейшым кірункам - у бок шашы. Толькі цяпер ішлі асцярожней: наперадзе Сушчэня з сваёй ношай, за ім уступам крокаў праз пяцьдзесят - Войцік. Часта спыняліся па адным ці абодва адразу і слухалі. Туман не знікаў увесь дзень, мо трохі парадзеў надвячоркам, угары пацягнула лесавым шумам, ад лёгкага ветрыку трохі заварушыліся хвойныя вяршаліны. У гэтым пошуме, аднак, стала горш чутна, і яны зноў абодва разам пападалі ад раптоўнага грукату, што пасыпаўся непадалёк наперадзе. Паляжаўшы, сцямілі, што, мабыць, падышлі да шашы - там, недзе блізка, праносіліся машыны. Праўда, праз зараснік

падлеску іх не было відаць, як не было відаць і шашы.

Калі грукат той крыху заглух удалечы, Войцік, прыгнуўшыся, падбег да Сушчэні.

- Шаша, ага?

- Шаша.

- Што ж рабіць? Пярэйдзем?

Перш чым адказаць, Сушчэня паслухаў. Лес слаба шумеў, як і раней, аўтамабільны грукат пакрысе глухнуў, аддаляючыся ўправа; злева ж лесавы прастор атуляла ціша. Хоць, канешне, у кожную хвіліну там зноў маглі з'явіцца машыны.

- Можа, лепш паначы, як сцямнее, - слаба запярэчыў Сушчэня.

- Ну, столькі чакаць...

- Ага, трэба б счакаць.

Сушчэня застаўся ляжаць - ніцма пад кустом ядлоўцу, усё ўзіраючыся ў падлесак, у бок недалёкай ужо шашы. Яму было ўсё роўна, калі пераходзіць яе, ведаў, нічога добрага па той бок яго не чакае. Як, мабыць, не чакае нідзе. Але ён пачаў ужо прывыкаць да свае новае ролі - праваднiка ці нават партызана, і імкнуўся выконваць яе спраўна. Ды каб выканаць спраўна ў ягоным становішчы, трэба было слухацца гэтага партызана Войціка, цяпер як бы яго начальніка. Тое паслушэнства давала яму цьмяную надзею, якая і вяла яго ўвесь дзень па лесе. Зноў жа Войцік, можа, зразумее, што ўсё тое Сушчэня робіць з свае добрай волі, без жаднага прымусу, хай ён памятае, а пры выпадку і засведчыць тое.

Яны праляжалі так, можа, і не надта доўга, на шашы ўсё было ціха, мабыць, не праехала ніводнай машыны. Не чуваць было і страляніны. Вецер угары, мабыць, патроху суняўся, так і не разагнаўшы туман, які ці не стаў нават гусцець на сконе дня, за час іх чакання. Так,

туман пагусцеў, Войцік адзначыў гэта па тым, як у шэрай навалачы здаля закурэў падлесак. Доўга ляжаць на воглым доле зрабілася сцюдзёна, дрыжыкі раз-пораз скаланалі цела, і Войцік ціха гукнуў:

- А калі цяпер, га? Па адным?

Сушчэня падняўся, сеў, азірнуўся. Ён не пярэчыў, але і не спяшаўся згадзіцца, ён памеркаваў трохі.

- Трэ паглядзець. Як там, на шашы.

- Ну паглядзі. Толькі нядоўга.

Цяжка ўстаўшы на ногі, Сушчэня валюхаста патупаў у падлесак, а Войцік раптам недарэчна сумеўся: дарма пусціў! На ўсякі выпадак ён з вінтоўкай адбег трохі ўбок і схаваўся за камель тоўстай хвоі. Глянуўшы з-за яе, убачыў, як Сушчэня асцярожна, крадком прабіраецца да шашы, часам яго затуляе беразнячок падлеску, але ён хутка паяўляецца ў іншым месцы. Пасля, аднак, яго зусім затуліў хмызняк, і Войцік расслаблена апусціўся за хвояй.

«Чорт яго ўвогуле ведае, што гэта за чалавек, - падумаў ён. - Быцца як свой? Ці, можа, падладжваецца, каб увесці ў зман?» Канешне, яго трэба дужа асцерагацца ўдзень, а калі яшчэ ўначы? Не, заставацца з ім нанач Войцік не меў намеру, ён адчуваў, што трэба як найхутчэй вызваліцца ад гэтага Сушчэні. Перайсці шашу і стрэльнуць. А то яшчэ стрэльне самога...

Аднак пакуль што кепскага нічога не здарылася, Сушчэня хутка паявіўся з кустоўя, і Войцік адначасна з ім падышоў да распластанага ў доле Бурава.

- Ну?

- На шашы пуста, - сказаў Сушчэня. - Нідзе нікога.

- Тады пойдзем, - рашыў Войцік. - Пакуль нікога няма. Трохі счакаем і пойдзем.

- Добра, - пакорліва азваўся Сушчэня.

Яны зноў апусціліся долу абапал Бурава, які, падкурчыўшы рукі, у чорнай картовай кашулі ляжаў на баку. Раскудлачаныя валасы і шырокія плечы нябожчыка былі аблеплены павуціннем і абсыпаны ігліцай, боты нізка спаўзлі з ног, і ўсё ягонае цела здавалася ненатуральна даўгім і няўклюдым. Сушчэня паправіў на яго жываце перакручаны падол мокрай ад крыві кашулі.

- Даўно знаёмыя былі? - запытаўся Войцік.

- Змалку. Цераз вуліцу іхняя хата стаяла.

- Да-а, - сказаў Войцік, нешта пачынаючы разумець. - Во гэта і падвяло. Яго і цябе.

- Яно, можа, і так, - неахвотна пагадзіўся Сушчэня. - Ды толькі мяне падвяло не тое.

- А што ж яшчэ?

Сушчэня працягла выдыхнуў і сашчапіў пальцамі рукі.

- Што не ўмёр там, у паліцыі. Во што.

- Гэта, можа, і праўда, - падумаўшы, сказаў Войцік. - Але паміраць не трэба спяшацца. Бураў вунь паспяшаўся. Праз сваю дурасць.

- Бураў не ў пару. Малады яшчэ. Шкада...

- Табе чаго шкадаваць?

- Бо праз мяне быдта. Але ж я ні пры чым. Ці ж я хацеў? Я толькі там, у балоціне, не хацеў ляжаць.

- Вот лёг бы ў балоціне, Бураў жывы быў бы. Так жа?

- Гэта так, мусіць, - паморшчыўся Сушчэня. - Але вы ўжо скажыце там, камандзірам...

- Што сказаць? - насцярожыўся Войцік.

- Ну пра мяне, калі што. Калі не дайду. Усё ж жонка ў мяне, дзіця...

- А, во што! - здагадаўся Войцік. - Гэта скажу. Не турбуйся. Шчэ мо і напісаць прыйдзецца.

- Напісаць гэта добра. Усё ж дакумант.

- На дакумант спадзяешся? - здзівіўся Войцік.

- Ну. Усё ж, можа б, разабраліся калі.

- А ўсё ж завербавалі, ага? Ну прызнайся!

Войцік пільным выпрабавальным позіркам павёў на Сушчэню, і той ад няёмкасці крыва перасмыкнуў вуснамі.

- Каб жа завербавалі, дык не ж! Вербавалі, ага! Але я не мог. Ну не мог я, і ўсё.

- Так ужо і не мог? - сказаў Войцік.

Сушчэня шчыра здзівіўся:

- Ну як жа можна, памяркуйце самі! На такое дзела? Мала, што сябе загубіш, дык яшчэ і сям'ю. Як жа ім жыць?..

Ён гаварыў тое быццам бы і шчыра, адзначыў у думках Войцік, і калі меркаваць наогул, дык пэўная праўда была ў ягоных словах. Але ўсё роўна паверыць яму Войцік не мог. Войцік за жыццё ўжо зведаў, як дасканала хітруе вораг, як прыкідваецца сваім, сябрам, нават партыйцам. Як той Хмялеўскі. Колькі гадоў віў сваю шкодніцкую вяровачку, прытвараўся, арганізоўваў слабыя калгасы. Ды ўсё ж выкрылі разумныя людзі, заўважылі і пакаралі. І хіба аднаго Хмялеўскага! А дырэктара школы Пратасевіча, міліцэйскага начальніка Лакцёнка, старшыню райспажыўсаюза Кузьміча. Ды ў кожнай вёсцы, у кожным калгасе. А ў вобласці! Скрозь паналезла процьма заядлых ворагаў, шкоднікаў, здраднікаў. А ў вайну іх вылезла яшчэ болей. Надта шмат было тых урокаў класавай барацьбы, каб і дурань чаму-нічаму навучыўся. Не, мусіць на тое дадзена і пільнасць, каб заўжды быць начаку і не паддавацца на зман. Не даць адмякнуць у сабе непрымірымасці і

заўжды да ўсіх прыглядацца. Да суседа, да сябра, а то і да бацькі з маткай. Ці мала што? Часам, можа, шкадаванне возьме да каторага, асабліва калі знаёмы ці там радня. Але тое бабскае пачуццё міласэрнасці належала задушыць у сабе, сцяць зубы і намагчыся на тое, чаго вымагае бязлітасны класавы прынцып. Канешне, бывае агідна, боязна нават, часам не хапае рашучасці. Ну, але гэта таму, што ў Войціка слабы характар. Што зробіш...

- Ну, яно ўсяляк бывае. Вядома, вайна, - знарок прымірэнча зазначыў Войцік.

Але тыя ягоныя словы Сушчэня падхапіў з нязгодай і загаманіў са сцішаным запалам у голасе, чым нават здзівіў раздумна-насцярожанага Войціка.

- Вось вы кажаце - вайна! Што ўсё бывае... Але ж ці за год гэтай вайны ўсё так змянілася? Хіба людзі так хутка могуць мяняцца? Каб да вайны адзін, а ў вайну - іншы. Я тут усе трыццаць сем год пражыў, мяне ўсе ведаюць. Заўжды ўсе паважалі, ні з кім не пасварыўся ні разу. Але ж чаму цяпер перасталі верыць? Вот палучаецца, што немцам вераць, а свайму чалавеку - не. І суседзі, і вы. Жонка нават і тая... сумняваецца. Перамяніўся! Як гэта я перамянюся, калі мяне нарадзілі такім? - з ціхім абурэннем гаварыў Сушчэня.

- Э, шчэ як мяняюцца! - сказаў Войцік. - Асабліва няўстойлівыя элементы. Калі жыць захочацца...

- Вот іменна: калі жыць захочацца, дык як жа на горшага мяняцца? Гэта калі ўжо смерць, дык, быць можа, усё роўна. Але ж жывы на жывое спадзяецца. Хай не для самога, дык для дзіцёнка, можа. Калі хоць таму жыць пашэнціць

Адхінуўшыся на адстаўленую руку, Войцік пазіраў у недалёкі прытуманены падлесак, не надта ўважліва слухаў Сушчэню і думаў, што доўга марудзіць тут нельга. Відаць, гэты чалавек умеў сваёй памаркоўнасцю размякчыць сэрца. Бач, прыпомніў ужо і дзіцёнка! Так, чаго добрага, нядоўга і пашкадаваць яго, а там

недалёка застанецца і да апраўдання.

Не, трэба канчаць.

Вось пяройдуць шашу, і Сушчэня яму ўжо не спатрэбіцца. Дарогу далей Сушчэня збольшага ведаў, неяк дабярэцца. Бурава трэба будзе дзесь прыхаваць, каб пасля прыехаць па яго на фурманцы. Цяпер холадна, суткі-другія пачакае разведчык. Гэта - калі камандзір загадае. А можа, і не загадае. Атрад мяняе дыслакацыю, пад пушчу наехала карнікаў, мабыць, цяпер будзе не да забітага Бурава.

Цямнела, аднак, марудна. Белаваты туман хвалямі расплываўся па лесе, асядаў зверху і насоўваўся нізам, змрокам і сцюжай ахінаючы голае кустоўе падлеску, цёмнае куп'ё маладых хвоек паблізу.

- Так, давай! - прыўзняўся на каленях Войцік. - Пярэйдзіш, дзе пачакай. Я - следам.

Сушчэня не дужа ахвотна падняўся, Войцік рупна памог яму ўзваліць на спіну цела Бурава, і той, трохі хістаючыся, павалокся ў падлесак.

Як толькі Сушчэня схаваўся ў падлеску, на душы ў Войціка нядобра зашчымела - здалося, ён даў прамашку. Нешта ўжо надта ахвотна гэты здраднік нясе на сабе труп Бурава, паслухмяна выконвае ўсё, што яму скажуць, - мусіць, у гэтым тоіцца нейкая хітрасць, - занепакоена думаў Войцік, лежачы ніц на імшаніку. Усё ж яго не мог ашукаць той імпэт, з якім Сушчэня спрабаваў апраўдацца, на памяці ў Войціка ўжо былі выпадкі, калі гэтак жа апантана, а то са слязьмі і кляцьбой, спрабавалі апраўдацца некаторыя здраднікі ці нямецкія паслугачы; іншыя ж наадварот - нібы гублялі мову і ўпарта маўчалі. Войцік ведаў, што ў такой справе ўсё залежала ад характару чалавека, паводзіны якога зусім не вызначаюць ступені ягонай віны або невіноўнасці. Ён не ўяўляў, як бы паводзіў сябе сам, калі б незнарок выплыў на свет ягоны леташні выпадак у Вайноўскім урочышчы, што ледзьве не скончыўся для яго пагібеллю. На шчасце, не выплыў, і ўсе

малавясёлыя драбніцы таго здарэння ён насіў у сваёй памяці, глыбока схаваныя на самым сподзе душы. Хаця часам яны і варушыліся там, неспакойна і апрыкла, і трэба было намаганне, каб прыглушыць пачуццё вінаватасці, улагодзіць развярэджанае сумленне. Напэўна, аднак, будзе доўга помніцца яму той світальны золак на пачатку зімы, калі па гразкаватым цаліку ён таропка бег з хутара ў Вайноўскае ўрочышча, дзе яны, трое раённых саўработнікаў, туліліся ў выкапанай на пагорку зямлянцы. Увогуле там было схоўна, спакойна і нават утульна каля напаленай бляшанай печкі ў кутку; харч здабывалі па чарзе ў навакольных вёсках ды на рэдкіх, уцалелых ад даваеннага зносу хутарах. Таго разу чарга падышла да Войціка, і ён позняй ноччу прывалокся на гэты адзінокі хутар. Гаспадара хутара рыжага Клімку і яго маўклівую бабу ён ведаў даўно, яшчэ з калектывізацыі, людзі яны былі неблагія, хоць і не дужа ласкавыя, і менавіта з тае прычыны да іх уладкавалі хворага акружэнца лейтэнанта Свірыдава. У адну з чарговых вылазак за харчам той спярша намок пад дажджом, а пасля падмёрз у мокрым адзенні і неўзабаве захварэў на гарачку. Баючыся за жыццё лейтэнанта, яны тыдзень таму прывезлі яго на гэты хутар. Тады Войцік адведаў хворага, добра пад'еў, сагрэўся і нават неўпрыцям задрамаў у цяпле на лаўцы. Але на сваю бяду, задрамаў трошкі болей, чым трэба, і калі выйшаў на сцежку, пачало віднець. Ён устрывожана наддаў кроку, наперадзе ў кустоўі трэба было перайсці дарогу і далей каля рова, пералескамі прабірацца да іх урочышча. У сідары за спіной у яго ляжаў бохан хлеба і муляла з паўвядра бульбы, якой яго надзяліў рыжы Клімка. Увогуле не багата, але пакуль што павінна хапіць, думаў Войцік, а там сходзіць хто іншы, прынясе яшчэ. Людзі ў навакольных паселішчах былі чулыя на чужую бяду і без прынукі дзяліліся ўсім, што мелі самі.

Войціку ўжо зусім трохі заставалася да кустоўя і дарогі, як невыразна яшчэ ў світальным сутонні ён згледзеў наперадзе людзей. Іх было трое, і яны таксама ўбачылі яго ў полі, насцярожана знерухомеўшы, чакалі. Сэрца ў Войціка скаланулася ў грудзях, але ён, быццам па

інерцыі, дробнымі крокамі ўсё бег па ледзьве прыкметнай у мокрым снезе сцяжынцы. Зброі ў яго не было - за харчам яны заўжды хадзілі без зброі - і цяпер ён затрывожыўся: хто тыя людзі? Здалёку было не згледзець, але, падышоўшы бліжэй, Войцік і зусім азмрачнеў душой - на дарозе чакалі яго трое мужчын з вінтоўкамі. Рабіць, аднак, не было чаго, ён пераскочыў канаву і апынуўся насупраць. Адзін з іх груба спытаўся «куды?», пасля «адкуль?», двое іншых аблапілі за спіной яго сідар, садралі з плячэй вераўчаныя почапкі. Войцік зразумеў, што апраўдвацца было бескарысна, тым больш што тыя ўжо аблаялі яго «бандзюком» і пачалі дапытвацца, дзе ўзяў прадукты. Усё ж Войцік паспрабаваў выкруціцца, сказаў, што не ведае дзе, маўляў, завітаў да знаёмага чалавека і папрасіў. Пасля нядоўгае лаянкі тыя загадалі зараз жа паказаць хату гэтага знаёмага і руляй зараджанай вінтоўкі балюча піхнулі яго між лапатак у спіну.

Рабіць не было чаго, Войцік павярнуў на праклятую сцяжынку, якая гэтак па-здрадніцку завяла яго ў пастку. Ваўкавата зацяўшыся, паліцаі ішлі следам, а ён ашалела думаў, куды іх прывесці? На пагорачку ў полі сцежка дзялілася на тры: адна бегла ў недалёкую вёсачку пры нізінцы, дзе ён ніколі не быў і нікога там не ведаў, другая вяла ўбок, да недалёкага Фамічоўскага хутара, гаспадар якога, казалі, ужо знюхаўся з паліцыяй. І толькі трэцяя кіравала па полі да Клімкавага хутарка, што сціпла прыткнуўся ў хмызняку да рова. Войцік нерашуча мінуў першую паваротку, усё пакутна думаючы, куды яму скіраваць? Вельмі яму не хацелася весці іх да Клімкі, дзе выкашліваў хворыя лёгкія Федзя Свірыдаў, але куды ж яшчэ ён мог павесці? Фамічоўскі хутар адпадаў з тае прычыны, што гэтыя самі там маглі начаваць сёння, значыць - толькі да Клімкі. І ён прайшоў паўз і другой паваротки - цяпер ужо выбару ў яго не заставалася, і ён усё з большай пакутай уяўляў, што будзе далей. Але што ён мог зрабіць? Ён толькі прымарудзіў крок, каб як мага даўжэй расцягнуць гэты апошні кіламетр шляху. Але як ён яго ні расцягваў, усё ж яны апынуліся нарэшце на Клімкавым падворку, і паліцаі сунуліся ў дзверы.

Дзверы, аднак, былі зачынены, паліцаі пачалі стукаць, гучна патрабуючы адчыніць, і тады за дзвярыма грукнула разам тры ці чатыры стрэлы. Адзін паліцай выпусціў з рук вінтоўку, да яго кінуўся другі, а трэці, разбіўшы прыкладам акно, кінуў у хату гранату. Як толькі там грымнула, са звонам сыпануўшы на двор бітым шклом, Войцік сарваўся з месца, кінуўся за вугол, абабег хляўчук і праз кустоўе стрымгалоў скаціўся па схіле ў роў. Падхапіўшыся на ногі, што было сілы паімчаў прэч ад гэтага хутара. Па ім стралялі, стралялі на хутары; там яшчэ колькі разоў выбухнулі гранаты, і хутка ў неба паваліў белы дым - яны падпалілі хутар. Зрэдчасу азіраючыся, ён доўга бег па рове, пакуль не выбраўся на раўнейшае, збочыў у лес і, з паўдня паблукаўшы па ўрочышчы, дабраўся нарэшце да іхняга стойбішча. Там ён сказаў толькі, што раніцай хутар абклала паліцыя, яму пашэнціла ўратавацца пад дымам, а што сталася з іншымі, ён не ведае. Праз суткі, аднак, стала вядома, што хутар згарэў з людзьмі, адзін паліцай там забіты, другі паранены. Але паліцаі, відаць, аказаліся не тутэйшыя, Войціка з твару не ведалі, і жахлівая сустрэча і імі заставалася тайнай, якою ён не меў ахвоты з кім-небудзь дзяліцца. Канешне, часам было непрыемна перад сабой, але яго супакойвала думка, што гэта яшчэ не прадажніцтва, што іншыя прадалі болей, чым гэты богам забыты хутар з трыма жыхарамі. Ды і хіба ён прадаў? Ён толькі быў змушаны пад пагрозай расстрэлу паказаць, дзе ўзяў прадукты, і ці яго віна, што паліцаяў на хутары сустрэлі стрэламі праз дзверы? Усяго кантакту з паліцыяй у яго было якіх паўгадзіны ці гадзіна часу, але і таго хапіла, каб пагубіць трох чалавек. Сушчэня ж праседзеў два тыдні ў СД і яшчэ наважваецца хлусіць, што не здаўся. Выстаяў, не скарыўся. Ведаем мы такіх нескароных, зласліва разважаў Войцік. Зламалі і завербавалі, інакш не магло і быць.

Але што ж, мабыць, цяпер было позна праяўляць пільнасць - ён яго ўпусціў, дарэчы, са зброяй, бураўскім наганам у кішэні, - як бы неўзабаве не атрымаць з яго кулю ў лоб. Каб яно ўсё згарэла! - лаяўся Войцік. І які нячысцік наслаў на яго гэтага здрадніка! Чым бліжэй

яны прыходзілі да партызанскай пушчы, тым усё больш неспакой агортваў Войціка, і ўсё праз таго Сушчэню.

Хвілін, можа, праз дзесяць пасля Сушчэні Войцік таксама падняўся, яшчэ раз паслухаў - быццам нідзе нікога. Наваколле прыцьмела, ужо трэба было добра ўгледзецца, каб адрозніць у доле гнілы пень ад маленькай хвойкі. Пад нагамі часам глуха шорхала апалае лісце, і ён стараўся ступаць цішэй. Ціхенька выбраўся з драбноты падлеска, падышоў да дарожнае выемкі, зірнуў у адзін канец гразкай шашы-гравійкі, у другі. Трохі памарудзіў і па крутаватым адхоне засцярожліва, каб не ўпасці, пайшоў уніз. Толькі ступіў некалькі крокаў, як паслізнуўся на стаптаных абцасах, і ягоныя вінтоўкі ззаду знянацку стукнуліся прыкладамі. Стукнуліся зусім трошкі, ледзь-ледзь, але тут, над шашой, іхні стук прагучаў страхавіта-далёка, і Войцік занепакоена зірнуў па баках і насупраць. І ў тое ж імгненне ён сцяўся, знерухомеў, зусім збянтэжаны. На тым баку за адхонам шарэлі ў тумане нерухомыя постаці двух чалавек - адзін, як можна было зразумець, узіраўся праз хмызняк у поле, а другі, тонка падпяразаны і высокі, бы жардзіна, трывожна матлянуў рукой.

- Стой!

Крутнуўшыся на травяністым сціле, Войцік адразу сцяміў, што ўліп. Чамусьці на імгненне здалося, што другі побач з гэтым даўгім - Сушчэня; значыць, навёў, падпільнавалі ўрэшце. Войцік роспачна сігануў па адхоне ўгору; карабін яго, споўзшы з пляча, зваліўся пад ногі, толькі ён ухапіў яго, як туманны прыцемак ззаду агняна пыхнуў ад траскотнай аўтаматнай чаргі. Кулі ўдарылі ў траву на адхоне, здаецца, адна ляснула па карабіне з ціхім вуркатам адляцела ў цемру. Ззаду ўжо закрычалі, злосна і патрабавальна, зноў пратрашчала чарга, здалося, бліжэй; яму ўжо зусім трошкі заставалася гэтага адхону, у лесе ён, можа б, уратаваўся. Але ўсё ж не хапіла якіх пяці метраў, куля з наступнай чаргі імпэтна выцяла пад лапатку - бы

загнала ў грудзі гарачы кастыль, ён захліпнуўся, выпрастаўся і паляцеў назад - уніз галавой па мокрым, травяністым схіле. Вінтоўкі таксама паляцелі кудысь з плячэй, ды, мусіць, вінтоўкі яму ўжо былі не патрэбны, ён ужо адчуў, што забіты. Забіты недарэчна, не ў пару, па-дурному, праз сваю неабачлівасць. Нашто ён пусціў Сушчэню...

Ён апынуўся ў быльнягу ля самай канавы, зрок яго заслала чорным туманам, ён удыхнуў - трудна, з клёкатам у грудзях - і не меў сілы выдыхнуць. Пачулася недалёкая гамана, выкрыкі, спярша на шашы, пасля галасы загучалі бліжэй - яго ўжо шукалі. Ён чакаў урэшце пачуць знаёмы голас Сушчэні, каб канчаткова праклясці яго перад пагібеллю, ды не пачуў. Гучней за іншыя чуўся гугнявы, нібы прастуджаны ці задыханы голас чалавека, які гукаў да кагосьці:

- Панімаеш, азірнуўся - стаіць! Ах ты... Недзе тут ён. Хадзі сюды...

- Чакай ты...

- Ды во ён... Ляжыць!

Голас той быў не Сушчэнеў, але надта знаёмы Войціку, які ўжо чуў яго недзе, толькі цяпер не мог прыпамятаць дзе.

- Во вінтоўка! Ну я ж казаў...

Зусім блізка пачуўся шоргат травы, крокі, што болем аддаліся ў Войцікавых грудзях. Затым ён пачуў зморанае хрыплаватае дыханне побач.

- Бандыт, во! - задыхана вымавіў нехта, дужа дзёўбнуўшы яго нагою ў бок.

- Забіты?

- Забіты, мусіць.

Яны ўжо былі ля яго, двое ці болей, нагнуліся, папіхалі ў бок. Войцік не кратаўся і не адзываўся, усё на свеце

стала яму чужым і апрыклым. Рэшта жыцця яшчэ трымалася ў ім, але цела было ўжо не яго. Яго заставаўся хіба пякельны боль у грудзях, які засланіў цяпер ад яго ўвесь белы свет.

- Во кабура... пустая. А дзе наган?

- Трэ пашукаць. У траве недзе...

Тое, што спыталіся пра наган, дало зразумець Войціку, што Сушчэні з імі не было, Сушчэня наган не шукаў бы. Яны ўхапіліся за яго дзягу, расшпілілі спражку і выдралі дзягу з-пад цела. Пасля перакацілі на другі бок, пачалі знімаць паддзёўку. Войцік не кратаўся і нават не дыхаў, ён ледзь трываў боль і амаль не адчуваў свайго цела. Яму балюча заламалі руку, здзіраючы рукаў, паліцай злосна вылаяўся, і тады раптам Войцік пазнаў: то быў пляменнік Хмялеўскага Драбіна. Невядома, ці то было прозвішча, ці мянушка, але мінавіта гэтак клікалі ў мястэчку таго даўгалыгага худога мужчыну, што перад вайной паліў печы ў местачковай лазні. Ён жа тады памагаў Кацярыне Іванаўне пілаваць дровы, якімі Войцік падзяліўся з удавою Хмялеўскага. Аднойчы яны нават трохі пагаманілі цераз плот уранку, як Войцік бег у выканком на працу. Цяпер гэты Драбіна, пэўна, не пазнаваў Войціка, ды Войцік яго пазнаў і са спазнелым пакаяннем падумаў: во ўпусцілі, не дадушылі ў свой час. Цяпер прападай. Ад рук во такіх...

Тым часам яны аблапалі яго кішэні, выцягнулі кашалёк з паперамі, лыжку і ладны жалезны складанчык на два лязы са штопарам. Ён яшчэ быў жывы. У грудзях ужо не клёкала, кроў ціха сцякала праз дзірку прадранага на локцях світэра на сцюдзёны травяны дол. Урэшце яны адступіліся, і ён падумаў: прыйдзецца канаць. Усведамленне задоўжанай смерці нават спалохала яго - як вытрываць яму, калі доўга? Лепш бы адразу. Але ён не мог ні азвацца, ні нават заенчыць - мог толькі ляжаць тут, нібы труп, і ціха сплываць крывёю.

Ліпкая млявая знямога ўрэшце пачала засціць ягоную памяць, ён то забываўся, то пачынаў разумець, што здарылася, і адчуваць пад сабой стылую вогласць травы.

Неяк падумаў, што яны пайшлі, і тады ў ім пыхнула кароценькая надзея: а раптам... А раптам яшчэ ўратуецца. Можа б, Сушчэня... Аднак ён не паспеў нічога дадумаць - пэўная думка яшчэ не аформілася ў яго змарнелай свядомасці, як блізкім абвалам зноў затаўкліся таропкія крокі побач.

- Гамашы ў яго! - надта гучна ўначы прагучала паблізу, і Войцік адчуў балючы ўдар па назе ля калена.

- Давай хутка...

Паліцай, мусіць, прысеў ля яго на кукішкі, Войцік адчуў гэта па стомленым выдыху побач, і ўзяўся здзіраць з ног гамашы. Адзін з натугай садраў, не разбэрсваючы, на другім спярша разарваў пальцамі вузлаватыя шкуматы-завязкі. І тут, мабыць, яму штосьці ўчулася, паліцай насцярожыўся і брыдка, разлютавана вылаяўся.

- Ах ты смоўж!.. Жывы яшчэ...

- Стрэльні, і айда, - данеслася здаля, ад шашы, - то быў голас таго ж Драбіны. Побач шчоўкнуў затвор, і Войцік паспеў адчуць толькі, як агняна-сляпучая бліскаўка пыхнула ў твар...

Сушчэня тады перайшоў шашу, пераскочыў неглыбокую сухую канаву і з астатняе сілы ўскараскаўся на супрацьлеглы адхон. Ззаду і на дарозе ўсё было ціха, у тумане яго не маглі згледзець здалёк, а зблізку не было нікога. Па гэты бок ад шашы хвой ужо не было, адразу за тэлеграфнымі слупамі з сякім-такім хмызам унізе пачынаўся нешырокі сенакосны прасцяг, воддаль за якім у тумане зноў шарэла кустоўе, - там, ведаў Сушчэня, цякла рэчка Рэса. Каб найхутчэй аддаліцца ад шашы, Сушчэня наўпрасткі пашыбаваў да таго кустоўя, мяркуючы, што Войцік неўзабаве дагоніць яго. Задыханы, ён пралез нешырокі алешнікавы гушчар і спыніўся, зваліў з сябе Бурава. Далей зноў быў адхон з драбналессем, і недалёка ўнізе пад абрывам бліскаў праз туман нешырокі паварот ракі - мабыць, тут трэба было пашукаць, дзе цераз яе пералезці. Але спярша трэба было дачакацца Войціка.

Толькі Сушчэня бокам зморана апусціўся ля Бурава, як ззаду, на шашы, раздаўся прыглушаны крык - незразумелы, але, як здалося Сушчэню, страхавіта-пагрозлівы, і зараз жа дробна пратрашчала чарга, за ёй другая і трэцяя. Сушчэня спярша ўгнуўся, прыпаў да зямлі, потым успомніў пра свой наган і дрыготкамі пальцамі выдраў яго з кішэні. Нейкі час ён не ведаў, што яму трэба рабіць - затаіцца, уцякаць ці бегчы насустрач Войціку, які, пэўна, трапіў у бяду. Чэргі і яшчэ трашчалі, між іх чуліся глухаватыя крыкі, толькі адсюль ён нічога зразумець не мог - невядома нават, на якой мове крычалі. На шчасце, аднак, крыкі не набліжаліся, яны гучалі ўсё ў выемцы, там жа трашчалі і стрэлы; куляў тут не было чуваць, значыць, стралялі не ў гэты бок. Урэшце Сушчэня наважыўся і крадком з наганам у руцэ прадраўся праз край алешніку, асцярожна паглядзеў праз хмызняк.

Добра ўжо затуманеная вечаровым прыцемкам сенажаць ляжала пустая, Войціка нідзе не было, і Сушчэня сумеўся зноў: што ж яму цяпер тут рабіць?

Тым часам стрэлы на дарозе спыніліся, з туманнай цішы нядоўга даносіліся глухаватыя галасы, але не крыкі, падобна, там гаманіла некалькі чалавек запар, але зноў, на якой мове - зразумець было нельга. Нарэшце ляснуў адзіночны стрэл, і ўсё сціхла. «Што яны там нарабілі? Што нарабілі?» - білася ў галаве ў Сушчэні недарэчная думка-пытанне. Але што нарабілі - няцяжка было здагадацца, ды ён не хацеў верыць у тое - ён ўсё ўзіраўся ў прарывістую грыўку кустоўя каля шашы пад слупамі і чакаў, што адтуль паявіцца Войцік. Ды Войцік не паяўляўся, ад стомы і непружання ў Сушчэні пачало дваіцца ўваччу. Ён і не заўважыў, як зусім змерклася - змрочны туман зусім праглынуў хмызняковы шнурок пад правадамі, сцяну хвой па той жа бок шашы, неўпрыкмет заслаў і нешырокі прасцяг сенажаці. На трохі яшчэ светлаватым небе ўгары адбілася чорнае суччa алешын - настала ноч. Нядоўгая трывога на шашы ўляглася, галасы змоўклі, падобна было, што там усё затаілася. Ці, можа, яны паехалі? Але маторнага грукату ён не пачуў, хіба там не было

аўтамабіляў? Тады што там было і адкуль узялося?

Усё не ў стане саўладаць з хваляваннем, Сушчэня вярнуўся назад, да Бурава, які, даўно абыякавы да ўсяго, ляжаў на спіне пад кустоўем. Тут ён пастаяў і паслухаў, думаючы, што мо Войцік паявіцца з іншага месца. Толькі дарма. На лесавых прасторах заўладарыла золкая восеньская ноч, ад рэчкі несла зябкаю сырасцю, а Войціка нідзе не было. Але куды ж тады было падацца Сушчэню? Сцяміўшы, што, мабыць, Войціка тут не дачакацца, ён аж здрыгануўся знячэўку - гэта было жахліва... Мала таго, што Бураў, дык яшчэ і Войцік! Што ж тады ён адзін без іх, куды ён падасца?

Ён выйшаў з кустоўя, ступіў некалькі крокаў па сенажаці, паслухаў. Цяпер ужо можна было не хавацца, у змроку начы і зблізку няшмат чаго можна было згледзець. Хуткім крокам Сушчэня прайшоў па траве ўздоўж кустоўя, перадумаў - пайшоў у другі бок. Увагу яго ўсё цягнула да сябе шаша, пэўна, трэба было падысці туды. Ён баяўся: там маглі сядзець ворагі, пільнаваць яго або Войціка, калі таму пашчасціла ўцячы. Але тое месца, дзе ён перайшоў шашу і дзе павінен быў перайсці яе Войцік, уладарна цягнула яго да сябе, і Сушчэня наважыўся. Праўда, ён не пабег наўпрост цераз сенажаць, а павярнуў наўзбоч, даў добрага крука, пакуль абышоў тое злашчаснае месца і ля тэлеграфнага слупа з падпорынай вылез на адхон. Адхон тут быў яшчэ болей высокі, удзень, мусіць, дарогу з яго можна было бачыць далёка. Але гэта ўдзень. Цяпер жа ні здалёк, ні паблізу нічога не было відаць, у выемцы, нібы ў праваллі, трохі курэў змрочны туман. Сушчэня прысеў на адхоне, пасядзеў, паслухаў. Пасля з наганам у руцэ ашчадна, каб не паслізнуцца, спусціўся да шашы, перабег яе па сырым гравію і ўскараскаўся на адхон насупраць. Ніхто яго не ўбачыў; нідзе ніхто не азваўся. Тады ён дужа асцярожна, праз кожныя пяць крокаў спыняючыся, пачаў красціся да таго месца, дзе пераходзіў шашу на той бок. У травяністым доле і асабліва ў выемцы нічога не было відаць, і ён болей спадзяваўся на сваё адчуванне, калі шукаў тое месца. «Здаецца, недзе тут блізка, - урэшце падумаў ён, добра

такі пратупаўшы пад адхонам. - Ці, можа, далей...» Так разважаючы, ён згледзеў у тумане ледзьве прыкметны бляск лужыны і ўзрадаваўся, зразумеўшы, што праходзіў менавіта тут. Але што з таго? Войцік мог пайсці іншым шляхам, мог наогул не выйсці з лесу... Усё ж Сушчэня прайшоў раз і другі па адхоне, паўзіраўся ў чорныя баравыя нетры паблізу. Нідзе не было нікога... Зрэшты, Войцік мог і ўцячы, ці яны маглі забіць яго і забраць з сабой. Шмат было магчымасцей у ворагаў, а вось у яго, здаецца, ужо не засталося ніводнай.

Пастаяўшы на адхоне і нявесела разважыўшы, ён з апануранным сэрцам пачаў спускацца ўніз. І нечакана ў траве натрапіў нагою на штось мяккае, хапіў рукою і пазнаў: то была кепка. Жорсткая суконная кепка з цвёрдым даўгім казырком - знаёмая кепка Войціка. Аж спалохаўшыся ад тае знаходкі, ён замітусіўся на адхоне, прабег паўз канавы і ў стаптаным быльнягу ледзьве не наскочыў на чалавека. Цёмнай нерухомай купінай той ляжаў ніцма, і штосьці белае на ім выразнаю плямай свіцілася ў змроку.

Поўзаючы на каленях, Сушчэня абмацаў яго - то быў Войцік, і быў ён нежывы, ужо стаў халодны, як і зямля, на якой ляжаў. Вінтоўкі нідзе не было, паддзёўку з яго, мабыць, здзерлі, гамашы таксама - за адной нагой валакласяануча, другая нага была босая. Кішэні штаноў матляліся вывернутыя, мабыць, шукалі зброі ці якой маёмасці, - забілі і кінулі. Сам не адчуваючы сябе ад страхавітага хвалявання, Сушчэня ўпоперак на плечы ўзваліў шчуплаватае цела Войціка і подбегам адолеў шашу. Трохі цяжэй было ўзлезці на адхон. Але наўкола па-ранейшаму ляжала цішыня, нават не гулі правады ўгары, і ён, гучна дыхаючы, кінуўся па сенажаці да рэчкі.

Апошнія крокі да таго месца, дзе ляжаў Бураў, ён ужо ледзьве брыў, знясілены раптоўнаю стомай, неяк усё ж датупаў з забітым на плячах да другога забітага і разам з ношаю ўпаў на дол. Здаецца, сілы ў яго ўжо не засталося, бо не засталося надзеі, усё зайшло ў абсалютны тупік, і толькі яшчэ недарэчна доўжылася

яго жыццё, якое цяпер немаведама навошта яму. Што яму рабіць цяпер з ягоным жыццём, чым яму абараніць яго і ці варта абараняць наогул? Каму будзе шчасце з таго абароненага ім жыцця? Хто ўзрадуецца таму жыццю, калі самому яно ўжо не на радасць, а на беспрасветныя злыя пакуты.

Трохі паляжаўшы, ён заварушыўся, сеў. Выпрастаўшы ногі, сядзеў на золкім доле пагорка. Праз туман і голае вецце кустоўя ўнізе па-начному цьмяна і санліва паблісквала рака, і ляжалі побач двое забітых. Дзіўна, яны прыехалі на станцыю, каб забіць яго, ды ўсё атрымалася інакш: ён вось жывы, а яны мёртвыя. І во дзіва: яму няма з таго радасці. Нібы ён сам таксама ўжо мёртвы.

Сушчэня трохі пацягнуўся, паправіў Войціка - перакаціў яго на спіну. Пасля, падумаўшы, стаў на калені, падцягнуў яго танклявае, нібы ў падлетка, цела, паклаў побач з Буравым. Два партызаны, як у страі - плячо ў плячо. Толькі адзін босы, а так абодва ў кашулях, без шапак. Старэйшы і малады. З вольнымі рукамі, без зброі.

Зброя была ў яго - чорны міліцэйскі наган з сямю патронамі ў барабане. Але нашто яму сем патронаў? Яму патрэбны ўсяго адзін. Каб падвесці апошні рахунак жыццю. Ці выкараскацца з гэтага тупіка, у які яго загналі немцы, вайна і жыццё... Сумленна, як усе, на роўных правах з людзьмі жыць ён не мог, а несумленна ён не хацеў. У яго была жонка, радня, рос сынок Грышачка, як было класці пляму на іхнія лёсы? А не запляміць было ўжо немагчыма. Насуперак свайму жаданню, усім сваім намаганням. Што ж яму яшчэ засталося?

Ну, але, што ж, мусіць, усё мае свой сэнс і свае законы. Чалавек не ўсё можа. Часам ён не можа нічога. Загінулі ж гэтыя людзі, партызаны і патрыёты, чым ён лепшы за іх? Ён жа ў іх смертны час быў разам з імі і ўжо хоць бы таму заслужыў такую самую смерць? Хай яму даруюць людзі, жонка Анэля, сынок. Ён заўсёды стараўся быць добрым мужам і бацькам, ды вайна ці няшчасны лёс

сталі мацней за яго. Бог ведае, як ён любіў іх і колькі натрываўся за іх! Мусіць, было б усё інакш, калі б не гэтая яго любоў, якую скарысталі з разлікам тыя, што загналі яго ў гэтую пастку, пакінуўшы іх заложнікамі. Немец Гросмаер скруціў яго лёс, але ён не пераможа ягонае волі. Ягоная вольная воля - можа, тое адзінае, што засталося непадлеглым нікому. Усё ж ён памрэ на свой выбар... Хай хоць гэта суцешыць яго ў яго горкай долі. Іншага суцяшэння сабе ён ужо не знаходзіў...

Золкай туманнай ноччу група падрыўнікоў партызанскай брыгады «Дзядзі Сашы» прабіралася на шашу, каб замініраваць мост цераз Рэсу. Хлопцы трохі заблудзілі звечара і выйшлі на дарогу ўбаку ад моста. Каб зноў не блукаць паначы і зэканоміць час, паціху пайшлі над адхонам. Ішлі моўчкі, насцярожана, след у след за пярэднім - старшым групы, вайсковым сяржантам з акружэнцаў. Вёсак паблізу тут не было, паліцыя ўначы не надта гойсала гэтай лесавой дарогай. Але ўсё ж...

Але ўсё ж трохі ўбаку і зводдаль нечакана раздаўся стрэл - нягучны шчоўкнуў у тумане, і хлопцы ўсе разам прыселі. Ды стрэлаў больш не было. Хвойны бор за дарогай моўчкі чарнеў у туманным паўзмроку, па другі бок, за сенажаццю, наогул няшмат што было відаць. Недзе ўгары, за аблокамі, ужо ўзышоў месяц, трохі падсвятліў ноч, якая, аднак, мляўка таілася ў шэрай туманнай навалачы.

- Так, балуецца нехта... Дурак нейкі, - ціха сказаў той, што ішоў за старшым. Старшы недаверліва пакруціў галавой у пілотцы, паслухаў і, мабыць, нічога больш не ўчуўшы, засцярожліва пайшоў далей.

Іншыя павалакліся следам.

Іхні галоўны клопат чакаў іх наперадзе.

## Аблава

## Раздзел першы. Чалавек на імшарыне

Прырэчная лугавая імшарына з раскіданымі па ёй бухматымі купкамі лазняку ды грыўкамі зрудзелага бярэзніку дружна зелянела позняю восеньскай атавай. У доле скрозь было мокра, няўходна, мох часам асядаў пад нагамі, і тады з-пад яго цвіркала мутная жыжа. Але мох дужа не правальваўся, дрыгвы тут не было. Гэта цяпер, увосень, імшарына набрыняла вадой і стала падобнаю на балота, а ўлетку, у пару сенакосу, дык тут скрозь было суха, вольна хадзілі касцы, бабы і нават ездзілі на брыках, калі звозілі сена. Дзе-нідзе ў доле яшчэ і цяпер налітыя чорнай вадой блішчэлі сляды конскіх ног. Пасля дажджоў прырэчнае балота шырока разлілося, заліло імшарыну, якая, бы цеста на дražджах, пачала пухнуць мяккім вільготным мохам. Скураныя пасталы на нагах у чалавека даўно раскіслі ад балотнай вады, анучы наскрозь змакрэлі. Але чалавек не заўважаў таго і між кустоўя ўпарта імкнуўся кудысьці. Наўкола стаяла цішыня, нідзе не было нікога. Людзі завіхаліся на палетках, выбіралі бульбу, – нашто цяпер каму гэтая дальняя прырэчная імшарына? Чалавек, мабыць, ведаў тое і ўсё ж адчуваў сябе неспакойна, нават трывожна; хада яго была такая насцярожаная, што, здавалася, варта недзе каркнуць вароне, як ён здрыганецца і абамрэ на месцы.

Быў ён немаладога веку, даўгалыгі і шырокі ў плячах, але надта худы, з жылаватай выцягнутай шыяй. На даўно не голеным твары чырванеў даўгі прастуджаны нос, з-пад святлявых броваў насцярожана зыркалі шэрыя вочы. Рот яго быў трохі разяўлены – ад стомы ці залішняй увагі, і з-пад абвіслых вусоў вытыркаліся два ніжнія зубы, іншых спераду не было відаць. Дыханне ў чалавека чулася сіпатае і частае – усё ж, мусіць, далася яму ў знакі гэтая хада па балоце. Апрануты ён быў у зрудзелы ад старасці вясковы армячок-паддзёўку, залаплены на плячы чорным суконным лапікам, на запалым жываце скасабочана трымалася раменная папружка. Пакамечаная кепка на галаве даўно ўжо страціла сваю ранейшую форму і выглядала нібы аблавушка – відаць, насілі яе не адзін год. Мабыць,

таксама, як і порткі, спераду і ззаду абсаджаныя лапікамі, на якія, у сваю чаргу, былі прышыты новыя лапікі – такія зношаныя былі порткі. Бадай, самае спраўнае на чалавеку былі ягоныя пасталы, хоць і раскіслыя ад вады, але з моцнай сырамятнай скуры, туга сцягненыя на нагах вераўчанымі забэрскамі, канцы якіх былі абкручаны аднізу на калашынах тых нехуцавых порткаў. Ніякай ношы ці хатулька ў чалавека не было відаць, вольныя рукі яго, аднак, не матляліся, а напаўсагнутыя насцярожана віселі па баках.

Відаць было па ўсім, што чалавек даўно ішоў адзін, звыкся са сваёй адзінотай і старанна абмінаў людзей. Людзі для яго былі найвялікшаю небяспекай у полі, на дарогах, ці не таму ён выбіраў шлях воддаль ад дарог, паселішчаў, між параснікаў і балацявін або цераз лес. За час блукання ён адвык ад чалавечага голасу, сам маўчаў, толькі напружана, да болю ў галаве, думаў і безупынна ўзіраўся ў наваколле. Слых яго стаў такі востры, што ён лёгка заўважаў самы кволы птушыны шолах у кустоўі, за вярсту лавіў стук калёс на дарозе; нягучны дзіцячы вокрык даваў яму знаць, дзе пасвіцца вясковы статак. Статка ён не баяўся, ужо разы тры, натрапіўшы на пастушкоў, разжываўся ў іх хлебам ці бульбінай, аднойчы нават паспытаў трохі сала. Сала дала дзяўчынка, якая разам з другой гэткай жа малечай пасвіла шэсць каровак на ржышчы пад лесам, і ён, вылезшы з кустоўя, спярша папытаўся, якая вёска здаля на пагорку і як клічуць дзяўчынку. Мусіць, тая ўсё ж напалохалася, але адразу выняла з кішэні бацькавай світкі загорнуты ў чыстую анучку свой полудзень і моўчкі аддала дзядзьку. Ён узяў, адышоўся і, хоць быў згаладнелы, бы воўк, не мог узяцца есці – так узрушыў яго той яснавокі позіркі дзяўчаці, які неспадзеўкі нагадаў яму ягоную дачушку Волечку. Добра адышоўшыся па ўзлеску, ён зашыўся ў гушчар і не стрымаўся – заплакаў, мо першы раз з таго часу як пахаваў дачушку. Не суджана было ёй пабачыць сваю зямельку, прыбраў бог на чужой старане, навек супакоіў над жвіровым абрывам далёкай сцюдзёнай ракі.

А бацька дайшоў.

Прырэчная імшарына разам з ракой крута паварочвала ўбок, наперадзе між кустоўя засінеўся хвойны грудок, і Хведар Роўба запаволіў хаду, гатовы зусім спыніцца. На твары яго адбіўся выраз тугі, нават болю, ён зморшчыўся сваімі зашчаціненымі маршчакамі, нібы збіраўся заплакаць. Ды і сапраўды ледзь не заплакаў, расчулены, можа, пазнаўшы памятную з дзяцінства мясціну – той пясчаны грудок сярод балацявіны, на якім зімой і ўлетку зелянела купка стромкіх старых хваін. Там, ведаў, была дарога, якою ён калісьці ездзіў на станцыю, у мястэчка, малы – з бацькамі на кірмашы, затым у раён да начальства, колькі разоў вазіў нарыхтоўкі збожжа, падатак просты і два разы цвёрды. Грудок, здаецца, не змяніўся за ўсе доўгія пяць гадоў, як Хведар не бачыў яго, хвойкі нібы папрыгажэлі нават і бухмата зелянелі зводдаль, быццам слалі яму прывітанне з таго даўняга самотнага дня, як ён апошні раз глядзеў на іх з воза па дарозе на станцыю.

Вельмі яму хацелася падысці да грудка, каб хоць зірнуць на знаёмыя мядзяныя камлі хвой, сухі жвірысты дол, ды ён не пайшоў. Блізка было і жадана, але... Наперадзе, мусіць, чакалі яго і яшчэ болей родныя мясціны, а там, за грудком на дарозе, маглі паявіцца людзі. Свае, знаёмыя, дзеравенцы. Але сустрэчы са сваімі і знаёмымі ён баяўся болей за ўсё.

«Божа літасцівы, чаму ж я такі нешчаслівы? – звыкла падумалася Хведару, як думалася бадай штодня ўсе пяць гадоў ягоных пакут. – Жывуць людзі, спакойна ходзяць па гэтай зямельцы, і, мусіць, ніхто не ведае, як без яе. А я...» А ён, калісьці гвалтам адарваны ад яе, здаецца, здзічэў нутром ад самоты па ёй, спарахнеў розумам. Двойчы за апошні год ён уцякаў – па-дурному, без падрыхтоўкі і аніякага шанцу, дзе ж было дапяцца да ўдачы. Але во ці не пашэнціла ўсё ж, калі ўжо зніклі ўсе спадзяванкі. Здаецца, і напраўду хутка ён убачыць свой родны кут, сваё поле, стрэхі маленечкай падлеснай вёскі Нядолішча, з яе малаўрадлівымі палеткамі, балоцістым выганам і парасьнікамі, дзе мінулі яго

маладыя гады, дзе будучыня калісь паклікала яго да незабыўнага, зманлівага шчасця. Няўжо цяпер яму надарыцца такое? Ад таго грудка па дарозе заставалася тры вярсты да канчатковае мэты яго падарожжа. Няўжо яна спраўдзіцца?

Каб не ісці па дарозе і размінуцца з грудком, трэба было неяк праскочыць па вузенькай голай лагчынцы з ручаём, перайсці па той бок дарогі, бо на гэтым пачыналася балота, па якім ён, мабыць, не пройдзе. Тут ужо ён наскрозь усё ведаў, не трэба было пытацца. Ён і раней ні пра што не пытаўся, хіба дзе ў пастушкоў, аднойчы – у бабкі, што з кійком у руках брыла па дарозе ў полі. І ніколі – у мужчын ці маладых хлопцаў, дзевак, якія хутка маглі яго затрымаць, здаць у міліцыю. На маладых надзеі не было ніякай, тыя цяпер спрэс камсамольцы, выхаваныя ў нянавісці, падазрэнні да кожнага чужога, незнаёмага. А да такога знаёмага, як ён, – тым болей.

Дарогу ён перабег удала, паблізу нікога не было відаць, і, трохі захінуўшыся за кустамі алешніку, даклыпаў да большага лесу. То быў край вялікага Казённага лесу, у якім некалі выдзялялі дрэвы сялянам – на пабудову. Ён і сам пілаваў тут на хату, як будаваўся пасля вайны на сваім толькі што прыдбаным надзеле, які тады наразаў яму сельсавет – дванаццаць дзесяцін – па дзве дзесяціны на душу. А было ў яго тады шэсць душ: ён з жонкай Ганнай, двое старых, сынок Мікалай ды малая дачушка Волечка, якая ў той год нарадзілася. І ён, пагарджаны парабак, патомны беззямелец, стаў уладаром гэткага багацця зямлі з былога панскага прасцягу пад лесам. Помніў, душа яго спявала ад шчасця, белы свет здаваўся несканчона зіхоткім раем. Пабудаваў хату, гумно, хляўкі – зажылі...

Недзе тут, у лесе, між негустых таўшчэзных хваін, павінна была трапіцца яму старая дарожка, але ён не стаў шукаць яе, пайшоў наўпрост. Стомлены, згаладнелы, з настылымі мокрымі нагамі, ён не мог адолець у сабе трывожнага неспакою і міжволі імкнуўся наперад – каб толькі хутчэй. Часам нават забываўся на

асцярогу і шыбаваў наўпрост, праз хмызняк і кустоўе, хрускаючы апалым суччом; перайшоў беразнячок-падлесак і выбраўся на амаль чысты і голы расцяроб-дзялянку. Дзесьці паблізу была і ягоная дзялянка, дзе ён са шваграм Тамашом пілаваў узімку бярвенне, падлетак Міколка памагаў тады абсякаць суччо. Дзе цяпер той Тамаш?..

Усё ж ён трохі прабег па зарослай травой лесавой дарожцы – ісці спакойна ўжо не ставала сілы, – усё ў ім імкнулася наперад, туды, дзе на ўзлеску павінна было паказацца поле і ягоная асірацелая без гаспадара сядзіба. Канешне, не пустуе, хтось там жыве… А няшчасны гаспадар, здаецца, траціў развагу ад нецярпення, узрушэнне калаціла яго нервовай дрыжакай, так хацелася яму згледзець хутчэй дранкавы дах з чырвоным комінам, саламяныя стрэхі хляўкоў, гародчык пад вокнамі, некалі поўны вяргіняў, яблынькі ў садку па-над сажалкай. Як садзіў ды прышчэпліваў, былі яшчэ малыя, са жменькай лісточкаў у суччы, а цяпер… Цяпер, мабыць, ужо стаяць з яблыкамі. Не дзіва, мінула столькі гадоў.

Ён выбраўся на ўзлесак ля старой, знаёмай з дзяцінства раскарэкі-грушыны, травяны дол пад якой быў спрэс абсыпаны свежымі і ўжо гнілаватымі грушамі; безліч іх жаўцела ў пажухлай лістоце. Адсюль ужо добра відаць быў вялізны прасцяг узаранага на зябліва поля. Хведар марудна клыпаў па ўзлеску, усё пазіраючы ўніз, да ручая, дзе ляжаў ягоны сіроцкі надзел. За ім віднеліся ўдалечы крайнія хаты Нядолішча – стрэхі хляўкоў, садкі і платы ля гародаў. На крайнім агародным шнурку, сагнуўшыся, поркалася жанчына ў чырвонай хусціне, мусіць, нехта з Антосевых баб выбіраў бульбу. Але дзе ж ягоная сядзіба, дзе хаты і будынкі? На раўнінным, трохі пакатым пляцы надзелу з слабенькай восеньскай рунню гойдалася на ветры некалькі велікаватых ужо дрэў садка, ніводнай жа будыніны не было побач. Скрозь ляжаў прасцяг голага поля – ад лесу аж да самай сажалкі ўнізе.

Хведар яшчэ ішоў, нязграбна шоргаючы пасталамі ў

сухім быльнягу ля ўзлеску, але сілы яго ўсё марнелі, крок рабіўся ўсё цяжэйшы, і ён стаў. Пасля вяла апусціўся на ўзмежак ля альховых кустоў і знерухомеў.

Ну во і дабрыў. Дапяўся. Бадай што праз тры месяцы неверагоднага шляху, пакут і цярпення. Але на што было спадзявацца і на што наракаць? Чаго ён хацеў? На што разлічваў? Найперш, каб пабачыць. Ну вось і пабачыў... Ці тут павінен яго хто сустракаць, хто прывячаць – уцекача з таго свету? Ці хоць бы ашчаджаць яго пакінутую сядзібу – мусіць, пайшла на патрэбу іншым. Можа, кудысь перавезеная, дала прытулак добраму чалавеку. З дзецьмі і старымі. Ужо, напэўна, шчаслівейшаму, чым ён. А зямля?.. Зямля во засталася і нават зелянее рунню. Здаецца, і неблагая рунь. Толькі на тым канцы каля сажалкі зачарнелася ад вільгаці, там заўжды ўсё пасеянае вымакала. Некалі ён стараўся там саджаць бульбу, два разы сеяў каноплі. Збажына ж каля сажалкі не радзіла. Але гэтыя цяпер, мусіць, не ведаюць. Засеялі ўвесь прасцяг жытам, думаюць, будзе расці...

Ён сядзеў так, апанураны, у абсалютнай знямозе, і глядзеў на ўсё тое, чаго не бачыў гады і да чаго гэтак імкнуўся. Над полем і вёскай маркатнеў восеньскі адвячорак, з лесу плыў густы пошум ветру, і кудысь ляцелі ўгары раскудлачаныя дажджавыя хмары. На полі і паблізу не было нікога, людзі адно трохі варушыліся ў вёсцы на гародах і падворках, за платамі і парканамі. З канца вуліцы выехалі калёсы з падлеткам, які сярдзіта махаў пугаўём на гнядога кастлявага коніка – з ціхім грукатам калёсы пакаціліся ў раўчук за вёскай. Падлетка Хведар ужо не стараўся і пазнаць, хоць тут, вядома, некалі ведаў кожнага, старога і малога. Але ж мінулі гады, за якія, мабыць, сышлі на той свет старыя, павырасталі малыя. Ці ён пазнае каторага? Але не дай бог, каб тут пазналі і яго. Ці хоць бы заўважылі. Схамянуўшыся, споўз з узмежка, стуліўся, сеў ніжай. Нядаўняе ўзрушэнне патроху міналася, ён ужо болей спакойна стаў пазіраць на знаёмае з дзяцінства поле, палетак азіміны, рэдкія адзінокія дрэўцы на былых межах, кустоўе ў нізінах і каля балотцаў. У тым канцы

вёскі зелянела шыракаватая купка хвоек, нешта бялелася пад імі. То былі тутэйшыя могілкі з усёй ягонай раднёй, старымі, дзядамі і прадзедамі – усім яго родам. І шмат якімі вясковымі родамі, што адышлі, аджылі сваё, адпакутавалі. Зайздросная ўсё ж доля, падумаў Хведар: навек разам з усімі, у сваім кутку. А ягоная жонка Ганулля, спакутаваная вясковая кабетка, не ашчаслівілася нават і гэткаю доляй – легла ў балотную ямку пад сцюдзёным Котласам. Ці думалася калі. Ці хто чуў тут тую незразумелую назву, якая во стала яе страшным лёсам. Ды ледзьве не стала і яго таксама.

Хведар доўга сядзеў на ўзмежку з кустоўем, узіраўся ў прасцяг. Пачалі зябнуць яго мокрыя ногі, ды і самому стала халаднавата, прыкметна халаднела пад вечар. Відаць было, у вёсцы ішло звычайнае вечаровае жыццё, людзі, мусіць, прыйшоўшы з поля, ладзілі свае дваровыя клопаты. Па сцежцы на гародзе прайшла баба з каромыслам на плячах, нетаропка набрала вады са студні, паазіралася, счакала і, цяжка ступаючы, панесла ваду назад. У хатах запалілі грубкі, пачалі варыць бульбачку на вячэру, з двух ці трох комінаў вецер панёс клочча дыму. Хведар прагна азіраў наваколле, узіраўся ў падворкі, але найбольш ягоную ўвагу прыцягвала сваё колішняе жытло. Здавалася яму, што ля ўцалелага садка ўсё ж застаўся нейкі няпэўны след ад ягоных будынін, можа, не ўсё там панішчана. Адгэтуль відаць быў густы зараснік быльнягу, нешта грувасцілася там – на месцы падмурка, ці што. І ён думаў, што трэба ўсё ж дабрысці туды, паглядзець, хоць бы памацаць зямельку, якая некалі абяцала яму столькі радасці, а дала – адно гора. Але было яшчэ відна, трэба было счакаць. І ён цярпліва чакаў. Як хаты ў вёсцы трохі завалакло вечаровым сутоннем і ўжо мала што ў полі можна было згледзець, устаў. Хістаючыся, пабрыў наўкось па азіміне да ледзьве прыкметнай у ветраной шэрані купкі садовых дрэўцаў.

Як ён і здагадваўся, котлішча не было заарана, някратаным застаўся падворак, ацалелі падмуроўка ад хаты і вуглавыя камяні ад свірна... Камяні былі

аграмадныя, асабліва адзін, што паклалі пад ніжні вугол будыніны. Іх прывалаклі з Гараняў. Яшчэ тады яму памагаў швагер Тамаш, і яны ўдвух ледзьве ўскацілі на калёсы гэты камень, які і цяпер гладкім бокам вытыркаўся з зарасніку крапівы, ніхто яго не зрушыў. Падмуроўка пад хатай месцамі выкрышылася, абрасла пустазеллем, ганка з трох пляскатых камянёў не было зусім, мусіць, тыя камяні ўзялі разам з хатай на новае месца. Там, дзе некалі была печ, грувасцілася аброслая палыном куча бітае цэглы – усё, што засталося ад печы. Яно і вядома, болей не магло застацца: цэгла была нехуцавая, дрэнна абпаленая, ён бачыў гэта тады, як купляў, ды на Савацееўскай цагельні не было лепшай: там не хапала паліва. Тады казалі: нічога, для печы згадзіцца. Яно і згадзілася, печ неяк праслужыла год з восем, толькі комін мусілі перакласці – на комін ён прывёз ад Тамаша сотню старых цаглін, яшчэ даўняй, царскага часу фармоўкі. Сумна яму было сланяцца па гэтым пабураным котлішчы, душа аблівалася крывавымі слязьмі. Адно што парадавала яго – дык гэта садок, дрэўцы ўвабраліся ў самую сілу і былі куды большыя за яго чалавечы рост. Яны бесклапотна ляскаталі лісцём на ветры, нібы зусім безуважныя да таго, хто даў ім жыццё. Тры антонаўкі прышчапіў на другім годзе свайго тут жыцця, дзве грушкі – праз год. Чаранкі прывёз аж з Фарынава, купіў у знаёмага настаўніка на станцыі. Першы прывой, аднак, не прыняўся, увосень прышчэпліваў зноў, тады ўдалося лепей. Цяпер ён абышоў дрэўцы, пакратаў іх таўставатыя камлі, нібы павітаўся з кожным. Было ўжо цемнавата, і яго зацікавілі яблыкі – ці было хоць што ў суччы? Паўзіраўшыся ў цёмнае лісце, пакратаў навобмацак ніжнія галіны, трошкі страсянуў крайнюю антонаўку. Не, нідзе нічога не варухнулася нават і не ўпала долу. Ці абабралі ўжо? І тады ён згледзеў апушчаны долу паламаны сук, другі, што ляжаў у траве, і зразумеў, што, мабыць, яблыкаў тут даўно ўжо няма. Як тут ім быць – садок сярод поля, неабгароджаны, занядбаны, без гаспадара і догляду. Ведаў здаўна: яблыні, як кветкі, без чалавечай любові расці не будуць.

Хведар абышоў і іншыя мясціны котлішча. Там, дзе быў

калодзеж, зеўрала аброслая быльнягом яміна, ад зруба ці калаўрота не засталося і знаку; на дрывотні ў голым доле трохі прыкметны былі зляжалыя трэскі, але дроў тут не відаць было ні палена. Пастаяў, узлезшы на кучу бітае цэглы сярод быльнягу, успомніў, як некалі грэўся на печы, прыехаўшы ўзімку з лесу ці з дарогі, як тут спалі старыя ды і жонка Гануля таксама. Але бядотная яго Ганулька, можа, меней за ўсіх тут грэлася – болей тупала перад чалеснікам, кожнага рання гатуючы харч на немалую сямейку, чыгуны бульбачкі для жывёлы. Не мела часу і пагрэцца нават у маразы і сцюжу, калі сіберныя ветры выдзьмувалі іх хутар. А цяпер ужо навек супакоілася і ніколі ўжо не пагрэецца, лежачы ў чужой мёрзлай зямлі, акрай сумных балотных могілак. Хварэла яна нядоўга, перад тым як легчы, штодня цягалася на лесасекі, дзе з брыгадай такіх, як і сама, жанчын збірала і паліла суччо. Нямоглая была ўжо даўно, з грамніц, дужа кашляла ноччу, жалілася на боль у баку, але да дактароў не хацела – баялася дактароў, таксама як і начальства, старалася як мага менш з імі знацца. Узімку ёй трохі памагла загаворам старая Банадысіха, высланая аднекуль з-за Воршы зямлячка, казала тады, быццам зрабілася лепей. Але ненадоўга. Якраз у чысты чацвер, прывалокшыся з дзялянкі, лягла і болей не ўстала. Яму не было як даглядаць яе, самога выганялі штодня на тралёўку, рыхтаваліся да веснавога сплаву, трэба было назапасіць шмат дрэва да крыгаходу. Начальнік участка не даваў нікому дыхнуць, і брыгады рабілі ў лесе ад зары да змяркання. І ён, абліваючыся горкімі слязьмі ў душы, кінуў яе на малую Волечку, якая цэлы дзень то плакала, то тоненькім дзіцячым галаском пяяла маці ўлюбёную ёю «Вутачку». Мабыць, так яна і адышла з гэтага свету пад жаласны спеў дачушкі, і, як ён прыплёўся ўвечары ў барак, Волечка сядзела, ціхенькая і журботная, сказала: мамачка спіць. Ён кінуўся да Ганулькі на нары, затузаў, загукаў, пасля разгарнуў ашмоцце, якім яна была ўкручана, – Ганулька ўжо асцюдзянела. Удваіх з Волечкай пачалі плакаць – яна голасна і няўцешна, ён – моўчкі, душачыся нутранымі слязьмі.

Назаўтра яго аслабанілі ад працы, з прыкрасцю і

вядома, дзеля перасьцярогі, каб чаго ня выйшла. Але ўжо пэўна нічога ня выйдзе — немцы ўжо ня тыя, што ў ранейшыя гады, і нават у ранейшыя месяцы. Як чатыры месяцы таму пад Балатонам, калі яны задалі нам клопату. Прарвалі фронт і гналі аж да Дунаю. Тады наш полк страціў усе гарматы і мноства людзей. Рэшта даваёўвае ў пяхоце.

— Кананок, — паклікаў я маладога салдата. — Адвядзі ровар. Вунь у той дом.

Кананок, як заўжды, сьпярша ніякавата заўсьміхаўся, зірнуў на ладны катэдж пад гарой, за бурліваю горнай рачулкай.

— Нішто сабе дамок! Палац.

Ну, не палац, канечне, але катэдж сапраўды быў спраўны, — каменны, двухпавярховы, з абведзенымі белаю фарбай высокімі вокнамі. Каля ўваходу расьлі дзьве старыя елкі, а па гранітнай сьцяне распаўзлася густая крапанка плюшчу, які спазьнела зелянеў першай дробнай лістотай. Уздоўж рачнога берагу відаць была невысокая драцяная агароджа. Ззаду між дамоўкай і стромкай скалой высіліся старыя дрэвы, з куп'я якіх выглядваў чырвоны дах, завершаны невялічкаю, пад зялёным каўпаком, вежаю. Мусіць, гаспадарыў там ня бедны аўстрыец.

Я прысеў на снарадную скрынку між станін, а Кананок цераз вузкі драўляны масток над рачулкай пакаціў ровар. За рэчкай ён прыпыніўся каля, мусіць, зачыненай брамкі, нешта гукнуў. І тады зь дзьвярэй паказалася постаць нейкае дробненькай жанчынкі ў вузкіх штоніках, яна рухава наблізілася да брамкі і ўзялася адмыкаць дзьверцы. Кананок, відаць было, загаманіў штось, і яна, падобна, адказала. Хвіліну яны там быццам перагаворваліся, але адсюль не было чутна, пра што. Хаця пра што мог гаварыць Кананок, які наўрад ці ведаў хоць бы дзясятак словаў па-нямецку.

— Ты глядзі! — зайздросна вымавіў ззаду Сьцяпанаў. — Наш Кананок ужо немачку палюе. Ужо дамаўляецца...

— Ня немачку — мабыць, аўстрыйку. Але праўда, спрытная дзяўчына, — высунуўся з раўка чарнавусы тэлефаніст Муха.

Мабыць, і праўда. Нават здаля дзяўчына выглядала зграбнай — асабліва сваёй хлапчуковай постацяй, рухавай і невялічкай, і ўжо тым захапіла салдацкую ўвагу артылерыстаў. Яна пераняла ў Кананка ровар, лёгенька крутнуўшы галавой, адкінула назад пасму коратка пастрыжаных валасоў і павярнулася да дзьвярэй у катэдж. Кананок, аднак, усё гукаў да яе нешта, і яна, прыпыняючыся, адказвала, пакуль ня зьнікла за елкамі. Салдат трохі пастаяў яшчэ, а пасьля, усё азіраючыся, пайшоў цераз масток да агнявой пазыцыі.

Я зірнуў назад, на дарогу, — “віліс” усё стаяў пад сьцяной разьбітага дому. Афіцэры схіліліся над ягоным капотам, над разасланай картай; мабыць, яны ўжо страцілі да мяне ўвагу. Ды ня ўсе. Адзін з-за сьпінаў іншых усё ж разы два зірнуў у наш бок — ці ня той лагодны маёр, падумалася мне. Але ў той час у раўку зазумерыў тэлефон, і тэлефаніст Муха паклікаў:

— Камбат, таварыш лейтэнант!

Я скочыў у равок, узяў трубку. Камбат пытаўся, колькі ў мяне снарадаў — асобна бранябойных, асобна асколачных. Я сказаў, што трэба падлічыць, тады далажу. Нібы між іншым камбат папярэдзіў:

— Там недзе першы ля вас. І асабіст.

— Ужо бачу. Стаяць на дарозе.

— Як паедуць, зьвякні — куды?

Я паклаў слухаўку і вылез з раўка. Машыны былі на ранейшым месцы, але афіцэры там, відаць было, заварушыліся, перасталі разглядваць карту. І той лагодны маёр у фуражцы ўжо не пазіраў сюды. Значыць, гэта й ёсьць наш брыгадны асабіст, упаўнаважаны страхавітага “сьмерша” (сьмерць

шпіёнам). Дагэтуль я нідзе ня бачыў яго, ці, можа, ён у брыгадзе нядаўна? Нашага палкавога “сьмершаўца” усе добра ведалі, той заўжды тоўкся на батарэях, асабліва на маршах ці на фармоўках, любіў пасядзець з афіцэрамі ў вольны час ды з чаркай. І яшчэ быў вялікі аматар сьпеваў — хоць “Распрагайце, хлопцы, коней”, хоць “На позицию девушка провожала бойца”. Казалі, у полк прыехаў з Далёкага Ўсходу і ўжо праз пару месяцаў на фронце атрымаў два ордэны, як і наш камбат, які топае па перадавой ад самага Харкава і два разы паранены. Ну, але здаўна вядома, што Бог няроўна дзеліць ня толькі ў мірным жыцьці, але й на вайне.

Машыны з афіцэрамі нарэшце паехалі па дарозе ў тыл, трэба было папярэдзіць камбата. Палкавыя батарэі ў гэтай цеснай горнай даліне разьмяшчаліся па адной у некалькі эшалёнаў — першая батарэя была наперадзе, па той бок гарадка, адразу за пяхотай; па гэты бок наша, за ёй астатнія. Усе сядзелі пры адной дарозе. Вядома, камбаты цікавалі за няўрочным рухам камбрыга і паведамлялі аб ім адзін аднаму, каб ня быць захопленымі зьнянацку. Начальства, як і праціўніка, належала асьцерагацца на вайне. Я ўлез у цесны равок і патэлефанаваў камбату, а як вылез, Кананок ужо быў на агнявой. Ягоны ўсьмешлівы твар зьзяў стрыманым захапленьнем, і тое адразу прыкмецілі нашыя зубаскалы-хлопцы.

— Ну, дамовіўся? Калі пабяжыш?

— А можа, ён сюды яе прывядзе? У госьці...

Кананок, аднак, без увагі да іх адразу зьвярнуўся да мяне:

— Там зямлячка ваша, таварыш лейтэнант.

— Якая зямлячка?

— Ды зь Беларусі, кажа.

— Як зь Беларусі? Савецкай? — ня мог зразумець я.

У сярэдзіне Аўстрыі, напрыканцы вайны, у гэткім

шыкоўным катэджы — зямлячка? Штосьці тут незразумелае...

— Ну, — толькі й адказаў нешматслоўны Кананок. Мабыць, болей ён ня ведаў нічога.

Тая навіна ня толькі кранула — яна амаль узрушыла мяне. Землякі наогул мяне абходзілі, за ўсю вайну я стрэў іх, можа, чалавекі тры. Мабыць, таму, што гэты Ўкраінскі фронт быў наводдаль ад Беларусі, салдаты ды й афіцэры ў нас болей паходзілі з Украіны, Паўночнага Каўказу, дзе фармавалася брыгада, ну і, вядома, з Расеі. Беларусаў жа ў палку, здаецца, не было ніводнага. Аднойчы дачуўся, быццам начальнік ГЗМ — беларус і пры выпадку запытаўся ў самога, адкуль ён. Але не, не зь Беларусі, хоць вымаўленьне яго было дужа падобнае да беларускага. Казаў, смаленец. Я быў расчараваны. Так хацелася сустрэць родную душу, хоць бы адкуль-небудзь з блізкага ці далёкага раёну, успомніць, пагаманіць пра даваеннае. А можа, і дазнацца што пра сучаснае з родных мясьцінаў, ад якіх я быў адарваны з пачатку вайны.

Вайна вайной, але, мабыць, належала зашыць разадранае рукаво. З тае прычыны, што тут гойсала начальства, распранацца ня стаў, папрасіў Кананка зашыць гімнасьцёрку на мне, і той выняў зь зімовай шапкі ржавую іголку зь нясьвежаю ніткаю. Толькі ён прыладзіўся зашываць, як ззаду завухалі нашыя гаўбіцы; цераз галовы, праразаючы тугое паветра, са шморгатам паляцелі цяжкія снарады. Спакваля зь іншага боку глуха загаўкалі нямецкія мінамёты — гэтыя, як і ўчора, пачалі біць па гарадку. Між дахаў і дрэваў пыхнулі ўгору дымныя выбухі — два зь іх зусім побач, за лесапільняй.

— А ну ўсе ў равок!

Цесьненька, адзін ля аднаго, мы стуліліся ў вузкім раўку; на агнявой ля панарамы гарматы, як заўжды, застаўся адзін наводчык Сьцяпанаў. Выбухі таўклі наваколле, разьбівалі ўшчэнт дахі дамовак. Невядома было, колькі працягнецца той абстрэл, калі толькі гэта

звычайны абстрэл безь якога руху пяхоты. Калі зь пяхотай, будзе горш справа, можа, і нам прыйдзецца ўключыцца ў бойку.

— Абармоты! — бурчэў тэлефаніст Муха. — Не дадуць і пасьнедаць.

Так, сьняданак, між тым, затрымліваўся, як бы не давялося есьці яго разам з абедам. Як пазаўчора. Тут, у Аўстрыі, зусім ня тое, што нядаўна было ў Вэнгрыі, калі мы пра кухню ня дбалі, харчаваліся з цывільнага харчу — ня трэба была ні пярловая каша, ні вэрмішэлевы суп. У кожнай хаце лёгка было здабыць кавалак вяндліны, колца прыперчанай каўбасы, бохан белага хлеба. Ды яшчэ бутлю, а то й болей віна — чырвонага ці белага. Але Вэнгрыя каштавала нам немалой крыві і засталася ззаду, а ў Аўстрыі з харчам было тугавата. Аўстрыякі самі сядзелі на картках. Увогуле, галадалі. І мы мусілі есьці тое, што варыў старшына. А той, вядома, ня дужа даваў сабе клопату — частаваў тым, што прывозілі з тылу.

Абстрэл доўжыўся з гадзіну, стралялі нашыя артылерысты і немцы. Разы два выбухнула на дарозе, ля тога паўразьбітага дому, дзе раніцай стаялі машыны, — паленым смуродам пацягнула ў наш бок, да рэчкі. І мне раптам стала клопатна: хоць бы не патрапілі ў той слаўны катэдж. За адну сэкунду маглі спляжыць усё гэтае ўтульнае хараство, над якім шчыравала, можа, не адно пакаленьне ягоных уласьнікаў. Тым часам па той бок гарадка на перадавой было быццам ціха. І то добра, значыць, атакі не было ні з чыйго боку. Можна было трохі расслабіцца, адыйсьці ад напругі, і я вылез з раўка. Ля наводчыка Сьцяпанава ўжо сядзеў камандзір гарматы Мядзьведзеў, — ня ў лад са сваім прозьвішчам худы, даўгалыгі сяржант з вузкім, стараватым тварам. Абстрэл прыпыніў яго ранішні сон пад плашч-палаткай ля бруствэру, і цяпер сяржант нэрваваўся.

— Якога д'ябла! — зазлаваў ён, калі выбухнула зусім блізка, здаецца, за агароджай лесапільні. — Запаляць, будзе сьмярдзець да вечара.

— І без таго смуроду хапае, — сказаў наводчык.

— Такі гарадок пляжаць. Безь якой патрэбы. Усё роўна хутка канец, нікуды ня дзенуцца.

— А можа, таму й пляжаць, што напасьледак, — сказаў Сьцяпанаў, — каб нікому не дасталося.

Што напасьледак, гэта пэўна, падумаў я, бо дужа няшмат засталося. Толькі мы штось замарудзілі, уперліся ў нейкую перашкоду. З захаду па Аўстрыі ўжо наступалі амэрыканцы. Часам батарэйны радыст лавіў іх ня так і далёкія перамовы на ангельскай мове, якая перамешвалася ў эфіры зь нямецкай, чаго раней не чутно было ніколі. Значыць, яны тут недалёка і, можа, днямі ўдараць насустрач нам з захаду. Калі да таго часу гэты гарадок неператвораць у руіны. Чамусьці раней пра тое ня думалася. Будынкі, гарады і сёлы на вайне наогул ня браліся пад увагу і аднолькава руйнаваліся і намі, і немцамі. Але цяпер во паявілася новае пачуцьцё, новыя адносіны як да чалавечых жыцьцяў, так і да чалавечай маёмасьці. Ды яшчэ такой, як у гэтай пакутніцы Аўстрыі, таксама па-сутнасьці нямецкай ахвяры.

Як трохі пацішэла ўгары, прыйшлі нашыя салдаты з кухні. Атрошчанка і Скібаў прынесьлі па два кацялкі, боханы хлеба ў рэчмяшках — харч для ўзвода на ўвесь дзень. За імі чамусьці валюхаста валокся праныра санінструктар Пятрушын, і я зласьліва падумаў: а гэты навошта? Мне ён не падабаўся ніколі, гэты трыццацігадовы сяржант, які ў прамежках паміж абстрэламі бадзяўся па батарэйных тылах. Калі ж узьнікала якая патрэба, дык санінструктара было не знайсьці. Зноў жа праз ягоны ровар я сёньня перажыў сутычку з камбрыгам. Мабыць, адчуваючы тое, Пятрушын адразу пачаў трошкі нават лісьліва, нібы паддобрываючыся:

— Ну, як? Дастаецца вам тут? На самым, лічы, перадку. Ня тое, што ў трэцяй — сядзяць, як у бога за пазухай. Камбат на акардэоне грае. Параненых няма? — запытаўся ён.

Салдаты павылазілі з раўка, пачалі рэзаць хлеб на палатцы, усаджваліся над кацялкамі з астылай пярлоўкай. Пятрушын, падобна было, пасьнедаў ужо і не выказваў цікавасьці да ежы. Ён дастаў з кішэні “бархотку” і, паставіўшы бот на станіну, узяўся яго начышчаць. Пасьля старанна начышчаў другі. З усіх сяржантаў у палку адзін ён фарсіў у зграбных хромавых ботах, аб якіх не пераставаў дбаць нават у часе абстрэлаў.

Начысьціўшы боты і палюбаваўшыся на іх амаль люстраны бляск, санінструктар раптам успомніў:

— А дзе мой трафэй?

— Які трафэй? — знарок не зразумеў я.

— Ровар.

— Ровар камбрыг адабраў, — схлусіў я.

— Ды ну? Так і адабраў?

— Менавіта адабраў. Вунь хай Кананок скажа.

Пятрушын павярнуўся да Кананка, які з маладым Атрошчанкам распачаў сьнедаць на бруствэры. На мае словы той сьпярша заўсьміхаўся.

— Ну, адабраў...

— Так я і паверыў, — засумняваўся санінструктар. — Схавалі недзе.

Ён пачаў азірацца каля агнявой, шукаць ровар: зазірнуў у апусьцелы равок, за штабэль снарадных скрынак пад брызэнтавай накрыўкай.

— Не шукай, ня знойдзеш, — раптам сказаў Мядзьведзеў. — Камбрыг загадаў аддаць.

— Каму аддаць?

— У каго ўзялі.

Ну, навошта было гаварыць тое, зласьліва падумаў я, хай бы шукаў, дзе хоча. Але Пятрушын адразу зразумеў, што Мядзьведзеў не падманвае і, ні слова ня мовіўшы, пераскочыў бруствэр.

— Ты куды? Назад!

Той толькі буркнуў штось на хаду і хуткім крокам скіраваў да катэджа. Гэта ўжо мне не спадабалася, але што было зь ім рабіць? Па службе ён мне не падпарадкоўваўся, а зьвяртацца цяпер да камбата ня мела сэнсу. Камбат з гэтым сяржантам чуўся ў надта прыязных адносінах: той нядаўна яшчэ цягаў яму бутлі зь віном, выручаў, калі ён, перабраўшы, ляжаў у кабіне “студэбэкера”, казаў па тэлефоне: камбат хворы, дыягназ — малярыя. Той і праўда хварэў на малярыю, як зрэшты, шмат хто на батарэі. Але хварэлі ўлетку і ўвосень, зімой малярыя ня брала.

Абстрэл ужо сьціхаў, здаецца, з абодвух бакоў; закацілася за вяршыні гор далёкае рэха, надоўга ці не — невядома. Санінструктар перайшоў масток, рашуча пераскочыў цераз невысокую брамку і скіраваў да дзьвярэй катэджа. Штосьці пагрозьлівае здалося мне ў той яго самаўпэўненай, амаль злой рашучасьці, быццам і я ўжо меў пэўнае дачыненьне да таго катэджа. Я выскачыў з агнявой і, накульгваючы на пабітую нагу, перайшоў масток, пералез цераз агароджу. З дамоўкі ніхто не паказваўся, а Пятрушын раз-пораз дубасіў кулаком у цяжкія дзьверы.

— Адчыніце!

Я падбег ззаду і рвануў яго за плячо.

— Прэч адсюль!

Санінструктар павярнуўся, працяў мяне злым позіркам, але паслухаўся і пайшоў да брамкі. Здаля толькі брыдка нягучна вылаяўся. Я павярнуўся быў, каб падацца сьледам, як ззаду забразгалі дзьверы.

— Дзякуй вам. Ён другі раз ужо...

На парозе ў паўрасчыненых дзьвярах стаяла яна — мая зямлячка. Толькі зірнуўшы ў яе кірпаценькі, зь некалькімі рабацінкамі ля пераносься тварык, я адразу пазнаў наш паўзабыты дзявочы выраз — ветліва стрыманы, мо трошкі з боязьзю перад незнаёмым чалавекам. З выгляду яна была зусім яшчэ дзяўчо, падобная на хлопчыка-падлетка, — у цёмнай кофтачцы зь белым каўнерыкам і вузкіх штоніках замест спаднічкі. Сьпераду быў прышпілены куртаценькі белы фартушок — як у пакаёўкі, ці што. Уражаны гэтай сустрэчай, я на момант забыўся пра санінструктара і нават ня бачыў, як той пералез цераз брамку.

— Вы зь Беларусі? — зьдзіўлена папытаўся я.

— Ну, — ціхенька адказала яна і бы насьцярожылася затым.

— І я ж таксама.

— Ведаю. Мне ваш салдат сказаў.

— Але... Вы тут даўно?

Падобна было, яна ўздыхнула ці толькі памкнулася да таго, стрымаўшы ўздых. Затым павярнулася ў дзьвярах, не запрашаючы мяне заходзіць, але й сама не выходзячы на нізенькі каменны ганак. Уся такая спрытненькая, тоненькая, бы цьвічок, з адзнакай чагось устрывожанага на прывабным тварыку.

— Як вам сказаць... Хутка ня скажаш, — вымавіла яна й зрабіла нясьмелую спробу трошкі ўсьміхнуцца. Бы на разьвітаньне. Але разьвітвацца зь ёю мне ўжо не хацелася.

— Нікога не пушчайце, — сказаў я, адчуўшы цьмяную прыязнасьць да яе. — Калі будуць стукаць, не адчыняйце. Мы вас абаронім.

— Тут ужо стукаліся.

— Хто стукаўся?

— Вашыя ваенныя, — сказала яна і памаўчала. — То можа, зойдзеце? — нечакана папыталася ці прапанавала яна і трошкі збочыла ў дзьвярах, пераступіўшы на сьлізкім граніце маленькімі, у мяккіх пантофліках ножкамі. Я міжволі зірнуў на свае белыя ад пылу кірзачы і ступіў на нізкі парожак.

Тут быў ня дужа вялікі, з высокаю столяй вэстыбюль, бы шахматная дошка, вымашчаны чорна-белаю кафлянаю пліткай, з высокаю чорнай шафай збоку і двума стрэльчатымі вокнамі насупраць. Пасярэдзіне стаяў лёгенькі прыгожы столік на выгнутых ножках, пакрыты квяцістым абрусам. Некалькі гэткіх жа гнутых зэдлікаў мясьцілася побач, а ля сьцяны стаялі два цяжкія скураныя крэслы. Скрозь было чыста, дагледжана і цемнавата: вокны знадворку напалову затулялі галіны старых зазелянелых дрэваў.

— А вы тут — адна? — папытаўся я, трохі зьдзіўлены яўнай заможнасьцю яе жытла.

— Не, чаму ж... Гаспадары ёсьць, — сказала яна, стоячы насупраць. Яна ня зводзіла зь мяне сваіх зыркіх вачэй, бы чагосьці чакала. Чакала пытаньня.

— Немцы, канечне?

— Не-а. Аўстрыйцы.

— Во як! Але ж... Як вы тут апынуліся?

Яна не пасьпела адказаць, як паблізу знадворку раскоціста грымнула, аж, чуваць было, штосьці з дробным стукам пакацілася з даху. Дзяўчына міжволі скаланулася, у позірку яе мільгануў спалох, і я выскачыў у дзьверы. За маёй агнявой якраз над лесапільняй вецер разганяў у небе руды клубок дыму — то немцы пальнулі шрапнэляй. У такіх выпадках лепей было схавацца ў доме ці дзе пад дахам. Але я змушаны быў бегчы на агнявую.

Я бег да агнявой і думаў, ці не прыстрэлачная гэта шрапнэль? Ці не засеклі яны пазыцыі маіх гарматаў?

Другі разьлік узвода быў па той бок заваленай дошкамі лесапільні, як бы яму там не дасталося. На гэтай агнявой усе сядзелі ў раўку, хоць ад шрапнэлі ў раўку не схаваесься. У гэты час яшчэ з прарэзьлівым трэскам разарваліся два шрапнэльныя, але цяпер далей — па той бок дарогі. Я гукнуў Скібаву зьбегаць у другі разьлік даведацца, ці не параніла каго там. Немцы тым часам перанесьлі агонь за дарогу, мабыць, штосьці там згледзелі — ці ня рух пяхоты? Скібаў толькі адбег, як зазумерыў тэлефон — гэта камбат пытаўся, што ў нас здарылася. Сказаў, нічога пакуль ня здарылася. А калі ў каго й здарылася, дык ня ў нас, гваздаюць пакуль па суседзях. Можа, па пяхоце.

Паклаў трубку і сядзеў, прытуліўшыся да нейчай сьпіны, думаў, што абстрэл, вядома, паганая справа, але ў адным здатная — абстрэлу ня любіць начальства таксама. Калі абстрэльваюць, дык можна не асьцерагацца, што на цябе нечакана наедзе які-небудзь “віліс” з крыклівым камандзірам ці прыдзяўбецца які нахлебнік-камсорг, парторг ці асабіст. У час абстрэлу ты сам сабе гаспадар, лейтэнант-узводны, і болей за немца ворага тут няма.

Абстрэл шрапнэляй цягнуўся, здаецца, бясконца доўга. Усё яснае неба над гарадком было спляжанае жоўта-рудымі плямамі, якія спакваля расплываліся, выцягваліся ў ветраныя космы, і сярод іх пыхкалі новыя — па адным, парамі, а то й па чатыры адразу. Прарэзьлівы трэск выбухаў голасна аддаваўся горным рэхам; ад асабліва блізкіх закладвала ўвушшу і прыгнятала да глыбіні душы. Толькі б стрываць. Толькі перачакаць. Не загінуць. Гінуць напрыканцы вайны — проста жах...

Але во ўрэшце ў небе над горадам змоўкла. Праўда, штось выбухнула напасьледак удалечыні, і настала няпэўная, амаль загадкавая цішыня. Прыбег Скібаў, сказаў, што ў другім разьліку ўсе цэлыя, нікога не параніла, толькі побач у двары забіла двух коней зь пехацінскага абозу. Коні ляжаць, і ўжо прыходзіў нехта з цывільных, прасіў дазволу адрэзаць кавалак каніны на

біфштэкс. Бедныя аўстрыякі! Мы ўсё ж, як ні былі галодныя, нават на Ўкраіне ня елі каніну, хоць некаторыя й казалі, што каніна — зусім неблагое мяса. Але, мусіць, сапраўды — голад ня цётка.

Наогул пакуль што не прыкмячалася ніякага руху — ні на ўскраіне гарадка, ні на дарозе. Пяхота штосьці прыціхла, нават не вяла агню зь перадавой. Але не зважаючы на той зманлівы спакой, я адчуваў, што доўга мы тут ня выседзім, усё ж мусім наступаць, дабіваць ворага ў ягонай бярлозе. Асабліва калі наперадзе, з таго боку, наступаюць амэрыканцы.

Салдаты па адным павылазілі з раўка на цесную пляцоўку агнявой пазыцыі, расьселіся на станінах, снарадных скрынках. Камандзір гарматы Мядзьведзеў адыйшоўся на хвіліну пад недалёкі плот лесапільні, а як вярнуўся, я нягучна сказаў, каб іншыя ня надта ўчулі:

— Схаджу туды...

— Вазьміце каго. А то...

Ну, ведама — а то. Я акінуў позіркам маіх хлопцаў і сустрэў усьмешысты твар Кананка.

— Пайшлі!

Той падхапіў на плячо аўтамат, і мы хуткім крокам пайшлі да катэджа. Брамка была зачыненая, і на гэты раз пералазіць цераз яе было трохі няёмка, ня тое, што раней. Затое грукаць у дзьверы не давялося, тыя адразу прачыніліся, як я ступіў на нізенькі каменны ганак.

— Ну, як вы тут? Жывыя?

— Ой, страхоцьця колькі! Заходзьце, калі ласка, — відавочна яшчэ не супакоіўшыся ад перажытага, сказала дзяўчына.

— Нічога! Нядоўга засталося. З захаду ідуць амэрыканцы.

— Праўда? Але ж мы нічога ня ведаем. Дык, можа,

сядайце? — няўпэўнена прапанавала яна.

Я не сядаў, марудзіў. Кананок тым часам кіўнуў на дзьверы:

— Я там, таварыш лейтэнант.

Ён пайшоў на ганак, а я застаўся адзін. Можа, і ня варта было б тут затрымлівацца, але мне хацелася болей дазнацца пра маю зямлячку.

— Дык як цябе завуць?

— Мяне — Франя. А вас?

Стоячы ля чорнае грувасткае шафы, яна, бачна было, з большым, чым раней, даверам вывучала мяне.

— Зьмітрок Барэйка, — трохі сумеўшыся, адказаў я. — Родам зь Бешанковічаў. А ты адкуль?

— Прыкладна, адтуль жа, — скупа адказала Франя, нібы прыслухоўваючыся да чагосьці. Знадворку, аднак, ня чулася нічога асаблівага, хіба за рамамі вузкіх вокнаў ціхенька ляскатала на ветры блізкае лісьце дрэваў. Удакладняць сваё паходжаньне Франя, аднак, ня стала.

— Але пачаставаць вас няма чым. Хіба гарбаткай?

— Добра — гарбаткай! — аж узрадваўся я, учуўшы гэтае знаёмае зь дзяцінства слова. Так некалі вымаўляла маці, вясковая настаўніца; бацька ж заўсёды казаў “чай”, а маці ўпарта папраўляла яго: “гарбата”.

— Дык пасядзіце, я хуценька, — сказала Франя і ціхенька высьлізнула ў сваіх мяккіх пантоплях праз бакавыя дзьверы.

Я застаўся адзін і засьцярожліва падумаў: хоць бы чаго ня здарылася. Усё ж побач немцы, і невядома, хто гаспадар гэтага катэджа. Праўда, Франя ўсё ж служыла нейкім гарантам, што ўсё абыдзецца. Я падыйшоў да аграмадзіны шафы, даверху застаўленай шэрагамі тоўстых кніжак у чорных вокладках з залачонымі

гатычнымі літарамі, якія я ня надта навучыўся чытаць у школе. Побач на сьцяне вісела нейкая цьмяная карціна ў дужа тоўстай і таксама счарнелай ад часу раме. Наогул усё тут было старое, можа, зь мінулага стагодзьдзя, са сьлядамі аблезлай пазалоты, што безумоўна сьведчыла пра знатнасьць паходжаньня гаспадароў. Можа, нават цяперашніх фашыстаў — хто ведае.

Франя, аднак, бавілася, і я ўжо падумаў, ці не пайсьці адсюль да сябе на агнявую. Але нейкая далікатнасьць усё ж стрымлівала мяне, і я дачакаўся. Расчыніліся дзьверы, і ўвайшла Франя, абярэжліва несучы маленькі блішчасты падносік з двума кубачкамі гарбаты і нейкай закускай на белым зь сінім беражком сподку.

— Цукру, аднак, ня маем. Паклікаць салдата?

— А ты?

— Я гарбату ня п'ю, — сказала Франя і запыталася: — А можна, каб сюды зайшлі гаспадары?

— Гаспадары? Ну, хай...

Гаспадары ніяк не ўваходзілі ў мае пляны, бачыць іх тут мне зусім не хацелася. Але калі яна просіць?.. Тым часам у памяшканьне неяк нясьмела ўсунуўся дужа высокі стары ў чорнай старасьвецкай піжаме, што, бы на вешаку, вісела на ягоных худых плячах. Зрэшты, таксама, як і штаны зь недарэчнымі, бы ў генэрала, бляклымі лямпасамі сіняга колеру. Ён быў зусім лысы, з надзіва касматымі брывамі, пад якімі глыбока сядзелі зыркія вочы.

— Іх грусэн, гер афіцыр*, — старэчым голасам вымавіў ён, трошкі схіліўшы галаву ў паклоне.

* Я вітаю, пан афіцэр.

— Здравія жалаю, — стрымана сказаў я. У гэты час за ім паказалася ў дзьвярах невялічкая сухая кабетка з зусім белаю, бы дзьмухавец, галавой. Абое прыціхла спыніліся каля дзьвярэй. Расставіўшы ногі, я па-гаспадарску

нязрушна сядзеў каля століка.

— То доктар Шарф і фраў Сабіна, — ціхенька прадставіла гаспадароў Франя. Пра мяне яна, мабыць, сказала ім раней, і цяпер, падступіўшы да гаспадыні, ласкава прыхінулася да яе пляча. Ну і ну, сказаў я сабе, нешта, аднак, пачынаючы разумець у іхных узаемадачыненьнях.

— Кайнэ нацысты?

— Кайнэ, кайнэ, — разам паўтарылі гаспадары.

— Яны не нацысты, — сказала Франя. — Доктар Шарф — прафэсар біялёгіі.

— Я, — пацьвердзіў гаспадар. — Унівэрсытэт штадт Гановэр.

Ну, калі прафэсар, дык, мабыць, сапраўды не фашыст, усё ж біялёгія як навука можа абыйсьціся без фашыстоўскай ідэалёгіі, падумаў я. Гэтая абставіна трохі зьмякчыла маё стаўленьне да гаспадара і, напэўна, ягонае да мяне таксама. Я быў узяў са стала кубачак гарбаты, як гаспадар мовіў “мамэнт” і выйшаў праз бакавыя дзьверы. Я так зразумеў, што трэба пачакаць. І праўда, ён хутка вярнуўся, з важнасьцю ступаючы на нягнуткіх нагах па сьлізкай падлозе, паставіў перада мной маленькі графінчык, да паловы наліты залацістым напоем.

— Дас іст коньяк.

— Во як! — вырвалася ў мяне.

Гаспадыня штосьці гукнула Франі, тая ціхенька высьлізнула за дзьверы і, вярнуўшыся, паставіла на столік чатыры мініятурныя чарачкі на тонкіх ножках.

— Доктар Шарф частуе. Паклікаць салдата?

— Я сам.

Я выйшаў на ганак — мой Кананок сядзеў на краі

прыступкі і пазіраў цераз рачулку на сваю пазыцыю, дзе, відаць было, сядзелі і ляжалі яго таварышы. На двары было цёпла, ярка сьвяціла сонца; над гарадком і далінай між гор ляжала паўдзённая цішыня. Нібы й не было вайны. Я загадаў Кананку зьбегаць на агнявую, прынесьці хлеба.

— І там у Мядзьведзева тушонка была. Папрасі банaчку.

Кананок пабег на агнявую, а я вярнуўся ў вэстыбюль. Гаспадары былі тут, толькі цяпер сядзелі ля сьцяны ў скураных крэслах — старыя і аднолькава бездапаможныя, то было відно зь першага позірку. За столікам Франя наліла ў чатыры чаркі.

— Трохі счакаем, — сказаў я. — Зараз прынясуць закусь.

— То добра, — сказала Франя. — Немцы як выпіваюць, не закусваюць.

— А мы закусваем. Калі ёсьць чым.

— У нас дык і нічога няма. Тыя дні я па хлеб на ровары езьдзіла. Па картках выдавалі. А цяпер усё скончылася. Як будзе далей?

— А ўжо неяк будзе, — сказаў я. — Галоўнае, вайна сканчаецца. Амэрыканцы сюды ідуць. Скора і тут — Гітлер капут!

Старыя з крэслаў пакутнымі позіркамі глядзелі на мяне, савецкага афіцэра, які ў іхных вачах поўніўся здаровым, маладым аптымізмам. Але, падобна, мой аптымізм іх мала ахвоціў. У іх былі нейкія свае адносіны да вайны і да жыцьця таксама. Але тое мяне ня надта цікавіла. Я чакаў Кананка, які хутка прынес цагліну салдацкага хлеба і бляшанку сьвіной тушонкі, — усё паклаў на край цеснага століка.

— О, амэрыкен, — ціха зазначыў стары, згледзеўшы пяціканцовыя зоркі на бляшанцы.

— Лэнд-ліз, — сказаў я.

Франя прынесла сталовы нож, якім я разрэзаў кансэрву, і яна адрэзала ад бохана некалькі тоненькіх лустаў.

— Зараз я нарыхтую вам сэндвічы.

Пакуль яна рыхтавала сэндвічы — намазвала на хлеб тлушч з бляшанкі, я тайком, з даўно не адчуванай любасьцю, назіраў за хуткімі рухамі яе спрытных пальчыкаў, раз-пораз кідаючы позіркі на яе ажывелы, радасны, дужа прывабны дзявочы тварык. Мне яна падабалася ўсё болей. Скончыўшы сваю працу, паклала дзьве лусткі на сподак і найперш паднесла гаспадарам у крэслах.

— Данке шон, — кіўнуў гаспадар, затым падняўся і дрыготкімі пальцамі ўзяў са століка чарку. Фраў ня зрушылася зь месца, яна на ўсе вочы разглядала мяне.

Мы выпілі — я, гаспадар і Франя, чацьвертая чарка засталася на століку.

Каньяк аказаўся моцны, здаецца, я адразу пачаў п'янець. Ці, можа, таму, што быў нязвыклы да яго — дасюль ва Угоршчыне мы пілі віно і ведалі яго моц. Ці, болей дакладна, ведалі: ад віна мала моцы. Толькі адзін раз у жыцьці, пад Шыяфокам, я таксама пачаставаўся каньяком, дык дасюль не забыўся таго пачастунку. Затое зразумеў: каньяк — не віно, яго трэба ўжываць памяркоўна.

— Пан прафэсар, — вымавіў я чамусьці па-польску. — Вы тут ня крыўдзіце маю зямлячку?

Гаспадар, мабыць, ня надта зразумеў маё пытаньне, і Франя патлумачыла яго па-нямецку. Праўда, тут жа і адказала:

— Яны ня крыўдзяць. Яны для мяне як бацькі.

— Ну то добра, калі так. Гут!

— Гут, гут, — згодна паўтарылі гаспадары.

— Але цяпер мы яе забярэм, — сказаў я, набіраючыся п'янай рашучасьці, і зірнуў на Франю.

Я чакаў, што яна перакладзе мае словы гаспадарам, тая, аднак, маўчала. Лёгкі клапотны цень прамільгнуў па яе тварыку, і я сьцяміў, што тут штосьці ня так. Ня так, як звычайна, калі мы вызвалялі ў гарадах працоўныя лягеры, перапоўненыя людам баракі, зь якіх іхныя насельнікі адразу кідаліся кожны ў напрамку сваёй радзімы. Усе рваліся дамоў. Я чакаў, што ў гэты момант найперш мне падзякуе Франя, а затым і гаспадары — за вызваленьне ад фашысцкай няволі. Аднак не дачакаўся таго.

Настала трохі няёмкая паўза. Я сядзеў ля століка, Франя насупраць рыхтавала маленькія, з запалкавы карабок, сэндвічы. Старыя нерухома сядзелі ў сваіх мяккіх крэслах. У вэстыбюлі ўжо стала відней — праз вузкія вокны зазірнулі сонечныя промні, паклалі на керамічную падлогу рваны ўзор ад рухавай лістоты знадворку. Пару нарыхтаваных сэндвічаў Франя вынесла на ганак Кананку і вярнулася з пустым сподкам — Кананок абышоўся бяз сподка.

Пасьля таго, як я выпіў чаркі са тры, і ў графінчыку засталося няшмат, старыя падняліся і нямогла патэпалі ў бакавыя дзьверы — на кухню, ці што. Франя тады прысела за столік, неяк са стрыманай увагай угледзелася ў мяне.

Я трохі ап'янеў, але пачаў адчуваць, што мае ранейшыя, звыклыя на вайне меркі трохі захісталіся, сутыкнуўшыся зь іншаю, не знаёмаю дагэтуль рэальнасьцю. Усё ж гэта быў інакшы, чым ранейшы мой сьвет, зь яго інакшымі складанасьцямі, у якіх я быў, мабыць, прафан. Ня тое што мая зямлячка, беларуска Франя — яна ў гэтым сьвеце жыла, а я зь ім толькі знаёміўся. Цікавасьць мая да яе ўсё большала. Але распытваць яе было трохі няёмка, а яна, бачна было, ня дужа сьпяшалася расказваць пра сябе. Ці хоць бы паскардзіцца, як гэта звычайна любяць жанчыны. Франя ня скардзілася, хоць і радасьці на яе твары я заўважаў ня шмат. Ці яна так навучылася — хаваць свае

пачуцьці? Але ж нашто хаваць іх, усё ж я ёй не чужы. Я зямляк на чужыне.

Там, на агнявых пазыцыях, я ня надта дбаў пра свой зьнешні выгляд — выпацканыя ў зямлі штаны, нячышчаныя кірзачы, неахайна зашытае рукаво. Цяпер у гэтым вэстыбюлі прыйшло іншае адчуваньне, і я спрабаваў стаць ці павярнуцца такім чынам, каб мае хібы ня надта траплялі каму на вочы. Але пасьля, мусіць, забыўся на тое і не схаваў разадраны рукаў ад хуткага позірку Франі.

— Дайце зашыю, — сказала яна дужа проста, і ў тых яе словах мне пачулася забытая інтанацыя маёй малодшай сястры Ніны, пра якую я нічога ня ведаў з пачатку вайны.

— Дайце, дайце! Я хутка. А то... Непрыгожа так, — сказала яна і ўсьміхнулася.

Мусіць, тая яе ўсьмешка ўсё й вырашыла, — адразу прагнала маю няёмкасьць. Я расьпеазаўся, сьцягнуў цераз галаву маю заношаную гімнасьцёрку, нечакана і зь непрыемнасьцю апынуўшыся ў нясьвежай споднява сарочцы зь недарэчнымі матузамі на грудзях. Памкнуўся быў адмовіцца ад Франінай паслугі, ды дзяўчына ўжо ўзяла гімнасьцёрку і кароткім дакладным рухам распрастала яе на каленях. Яна спрытна зашывала маю прарэху, і тое яе зашываньне азначыла дужа шмат у рухах маёй, ужо скіраванай да яе душы.

Як гэта я здаўна рабіў на вайне, дзе б ні быў і чым бы ні займаўся, скрозь справы і размовы звыкла ўслухоўваўся ў навакольле, лавіў гукі, якія маглі данесьці знакі трывогі, нейкія зьмены у абставінах. Найперш кепскія зьмены. Мусіць, тая мая насьцярожанасьць перадалася Франі, позірк якой таксама час ад часу пыхкаў трывогай.

— Яшчэ страляць будуць?

— Будуць, вядома. Пакуль усё тое ня скончыцца.

— А як скончыцца?

— Тады будзе мір. І шчасьце. І жыцьцё, — сказаў я не безь некаторага пафасу. Канечне, цяжкі клопат сядзеў і ўва мне, цяпер я стараўся заганяць яго ўглыб, каб ён не замінаў маёй лагодзе да Франі. Здаецца, я ўжо пачынаў адчуваць нейкую радасную магчымасьць, што абяцала нязьведанае. Але ўсё тое было дужа няпэўнае і невыразнае, якое магло зараз жа зьнікнуць.

Франя ціхенька ўздыхнула.

— У мяне якраз сястрычка такая, як ты. Сямнаццаць гадоў, калі жывая яшчэ, — сказаў я.

— Мне крышку больш, — ціха зазначыла Франя. — А дзе зараз сястрычка?

— Можа, у Нямеччыну пагналі.

— У Нямеччыне кепска. Апроч усяго — бамбёжкі жахлівыя. Мае ж гаспадары таму й прыехалі сюды. Як дом разбамбілі.

— А тут лепей?

— Дагэтуль лепей было. Пакуль вайна не дакацілася. Дзіўна, раней я думала: можа, у Нямеччыне цішэй будзе, а то ж у нас ужо немагчыма стала: усе ўсіх б'юць, забіваюць. Партызаны б'юць немцаў, немцы б'юць усіх без разбору. Жыць нельга стала. Як мой дзядзька Лукаш казаў: хоць жывы ў труну лажыся.

— Усё Гітлер пракляты.

— Гітлер, канечне. Але й другія ня лепшыя, — ціха сказала Франя і змоўкла.

Ну, вядома, ня лепшыя, усе гэтыя гаўляйтары і генэралы, Герынгі і Гебэльсы. Пагубілі столькі людзей, разбурылі Эўропу. Але цяпер хутка ўжо ім канец, нарэшце Эўропа вызваліцца ад гэтага крывапіўца, ці ж гэта ня радасьць? Так, прыкладна, я запярэчыў на Франін пэсымізм, і яна, памаўчаўшы, сьціпла

зазначыла:

— Радасьць. Аднак не безаглядная, — сказала яна і нeяк прабачліва ўсьміхнулася, бурачы невялічкую нязгоду між намі. Дзіва, аднак, што можа міжвольная жаночая ўсьмешка, ды яшчэ дзяўчыны, якая табе падабаецца. Але на зьмену прыемнай лагодзе ў мяне мільганула дзікаватая думка.

— А ў тваіх гаспадароў сын ёсьць?

— Быў, — проста сказала яна.

— І?..

— І сплыў, — напаўжартам скончыла Франя, здаецца, адразу адчуўшы маю падазронасьць. — Летась загінуў у Прусіі.

Тое яна гаварыла лёгка, бяз клопату, але мне пачулася некаторая фальшывінка тае яе лёгкасьці, і я маўчаў.

— Прыслалі паведамленьне, ягоныя дакумэнты, лісты. І нумар магілы. А што вас тое зацікавіла?

— Ды так.

— Старыя дужа пераживалі. Фраў Сабіну было аж паралізавала — інсульт. Ледзьве адыйшла. Цяпер ходзіць з кіёчкам. Радню, якая была, разбамбілі ў Гамбургу. Нікога не засталося. Пляменьніца памерла во ў гэтым горадзе, дык ад яе катэдж дастаўся. Думалі дасядзець тут да канца вайны. Аж вайна і сюды дакацілася.

Яна скончала зашываць маё добра-такі расшкуматанае рукаво, на якое не хапіла адной ніткі, і Франя ўзялася сучыць другую. Усё тое рабіла з дакладным спрытам, і я зь любасьцю назіраў за даўно ня бачаным жаночым клопатам. Яе нядаўняе страхавітае напружаньне таксама, здаецца, мінулася. Ці можа, мне толькі здавалася тое.

— Вайна скончылася, але... Замест немцаў тут жа

заваладараць рускія. Старыя дужа перажываюць...

— Во як! Гэта чаму ж?

Схіліўшы галоўку над шытвом, Франя коратка цепнула плечуком, нібы кажучы тым: хто іх ведае? Я таксама ня ведаў. Усё сказанае ёю было для мяне нязвыклае і нечаканае, унутрана я не пагаджаўся, але і ня ведаў, як запярэчыць. Мусіць, тое адчувала і Франя і, каб зьняць мой невыразны клопат, сказала:

— Ай, ня будзем пра тое.

Хай ня будзем, я не пярэчыў. Тое цяпер мяне меней за ўсё цікавіла, мяне вабіла гэта дзяўчо, і я міжволі імкнуўся толькі да гарэзьлівай вольнасьці нашых адносінаў. Хацелася жартаваць, але ўсё не выпадала здатнага для таго моманту ці настрою. Усё ж над намі вісела вайна.

Не пасьпела, аднак, Франя дашыць маё рукаво, як прачынілася палавінка дзьвярэй, і ў вэстыбюль зазірнуў белабрысы твар Кананка.

— Таварыш лейтэнант...

Па ягоным устрывожаным голасе я зразумеў, што там нешта здарылася, і ў адной сподняй сарочцы выскачыў на падворак. На агнявой быццам усё было як заўжды, але насупраць на дарозе стаяў незнаёмы, бяз тэнту “додж”, і ад яго наўпрасткі цераз пустку кіравала сюды група вайскоўцаў. Наперадзе крочыў рослы, плячысты чалавек быццам бяз зброі (ці, можа, зь пісталетам на баку), за ім яшчэ трое — два, відаць было, з кароценькімі аўтаматамі ППС. Яны ўразброд, неяк з маўкліваю пільнасьцю набліжаліся да мастка. Я насьцярожана падаўся да брамкі насустрач.

— Ты хто? — запытаў пярэдні, спыняючыся перад зачыненай брамкай. На ягоных плячах былі ўсяго толькі пагоны старшыны, і ў мяне трохі апала трывога.

— А ты сам хто? — як мага спакайней запытаўся я. Замест адказу старшына вызьверыўся мэталічным

голасам:

— Хто займае асабняк?

— Ну, я займаю.

— Асвабадзіць нямедленна! — голас яго стаў зусім свалачны. — Я з разьведроты гвардзейскай арміі.

— Другі пашукайце! — з раптоўнай рашучасьцю выпаліў я. — Тут процітанкавы полк.

— Які яшчэ полк! — старшына лёгка пераскочыў цераз брамку.

— Стой! — крыкнуў я, раптам пашкадаваўшы, што пакінуў свой пісталет у вэстыбюлі. Тады я выхапіў аўтамат у Кананка, які сьцішана стаяў ззаду. — Стой!!!

Старшына, і праўда спыніўся, утаропіўшы ў мяне зласьлівы позірк. Пасьля азірнуўся назад, дзе за брамкай напагатоў стаялі яго памагатыя. Тыя, здаецца, таксама браліся за зброю.

— Ты што! Пад трыбунал захацеў? — пагрозьліва прарычэў ён, варухнуўшы жаўлакамі на цьвёрдым, сьвежа паголеным твары. Але за свой “парабэлум”, што вісеў на ягоным сьцягне, пакуль не хапаўся.

Хвіліну мы стаялі так, адзін супраць аднаго, — я з нарыхтаваным для стральбы аўтаматам, а ён, мабыць, набіраючыся рашучасьці для апошняга кроку. Але ўсё ж штосьці замінала яму ў той ягонай рашучасьці. Пасьля ён азірнуўся, але не на сваіх прымоўклых сяброў за брамкай, а на прасьцяг за рачулкай, і згледзеў там маіх артылерыстаў.

— Твае?

— Мае.

Так, мае артылерысты, мабыць, мала што разумеючы з таго, што тут адбывалася, аднак, з прыкметнай увагай узіраліся сюды з агнявой, і тое, здаецца, пахіснула

набрынялую рашучасьць старшыны.

— Ладна, — вымавіў ён болей спакойна і, перш чым пераскочыць назад цераз брамку, прыгразіў: — Горка пашкадуеш, мудак!

Не вяртаючыся назад цераз масток, яны хуткім крокам скіравалі кудысь па гэтым беразе, — мабыць, да іншых ускраінных будовак. Я аддаў аўтамат Кананку і вярнуўся ў катэдж.

Не сказаць, што гэтая сутычка далася мне лёгка, без хваляваньня. Ведаў, тое мне, мабыць, проста не абыдзецца, яшчэ можа быць ліха. Адчуваў, што гэта ня так сабе, не выпадкова, штосьці тут усунулася тайнае і малапрыемнае. Ці не пашчыраваў тут наш санінструктар, іначай чаму б яны скіравалі адразу да гэтага катэджа? Ужо пэўна не таму, што ён тут самы прыгожы? Што ў іх там, у тыле, мала здатных, прыгожых будовак для разьведроты гвардзейскай арміі? Ды і ці для разьведроты яны рупіліся?

З дрыготкіх рук прымоўклае Франі я ўзяў сваю гімнасьцёрку, моўчкі надзеў цераз галаву. Франя чамусь ні пра што не пыталася, — мабыць, і бяз роспыту адчувала, што здарылася на падворку, і на яе азмрочаным тварыку прадаўжаў трымцець спалох.

— Ня бойся, — сказаў я, падпярэзваючыся. — Мы абаронім.

— Дзякуй вам, — ціхенька адказала дзяўчына.

— І гэта... Заві мяне на ты. Добра?

— Добра, Міця.

Усё ж я задоўжыўся на гасьцях, нельга было так доўга адсутнічаць на агнявой. Хоць навакол было ціха, але трывога магла ўзьнікнуць кожнай хвіліны. Зноў жа камбат там, мабыць, ужо неаднойчы тэлефанаваў Муху, патрабаваў узводнага. Мядзьведзеў, канечне, выручыць, як звычайна, скажа, што лейтэнант пайшоў у другі разьлік, дзе не было тэлефону. Але ўсё ж не на паўдня

ён пайшоў у той разьлік.

— Я вярнуся, — сказаў я Франі, якая, не выходзячы на ганак, стаяла ў расчыненых дзьвярах. — Нікога не пушчайце!

На агнявой, аднак, усё было як заўжды, калі не было абстрэлу. Наводчык Сьцяпанаў дыміў сваёй махоркай; гультаяваты Атрошчанка ляжаў дагары на бруствэры, зьвесіўшы на пляцоўку даўгія ногі ў шырокіх трафэйных ботах. Малады Скібаў дзёўбаў пад сашнікам рыдлёўкай — каб павялічыць радыюс абстрэлу гарматы. Ягонай лянівай працай прыдзірліва кіраваў камандзір Мядзьведзеў, што сядзеў насупраць на станіне.

— Глыбей, глыбей вазьмі. А то як дасьць на адкаце — наводчыку сіняк і пасадзіць. Абед вам, лейтэнант, у кацялку на скрынцы, — сказаў ён да мяне. — На двух з Кананком.

— Еш, Кананок, я ня буду.

Мне было не да абеду. Адчуваў, каньячны хмель яшчэ не мінуўся, як не мінулася ўзрушэньне ад нядаўняй малапрыемнай сутычкі. Адкрыты “додж” кудысь зьнік з дарогі, і я не заўважыў, куды. Ці яны, можа, зьехалі зусім, ці шарылі дзе паблізу. Маглі зноў налезьці на той асабняк. І я ўвесь час пазіраў туды, хаця й ня ведаў, што зрабіў бы, калі б убачыў іх там. Я сказаў Франі не пушчаць, але разумеў, што магчымасьці яе ў тым надта абмежаваныя. Калі гэтыя захочуць, іх не спыніць і танку. Што ім гэты катэдж! У мяне ўжо была падобная сустрэча, праўда, ня тут — ва Ўгоршчыне, ля Балатону, у адным графскім маёнтку, які мы занялі надвячоркам. Толькі ўлезьлі з-пад дажджу пагрэцца на ноч, як на падворак укацілася некалькі “студэбэкераў”, і такія во хлопчыкі з аўтаматамі пачалі нас выкурваць. Маўляў, вымятайцеся, тут будзе ўправа гвардыі палкоўніка Маляванага. Хоць на самой справе таму палкоўніку спатрэбіліся зусім не халодныя графскія пакоі з партрэтамі продкаў на сьценах, а хутчэй сутарэньні пад імі, дзе было што-нішто зь пітнога. І закусі. Як яны нас вытурылі ў поле, дык пасьля да раніцы гаспадарылі там,

а на золаку, пакуль не пачаўся бой, тыя “студэбэкеры”, цяжка валюхаючы па калдобінах, павезьлі іхныя трафэі. А мы толькі ляскалі зубамі, седзячы ў мокрай пасадцы пры дарозе. Ну але там быў камбат, ён прымаў рашэньне застацца ці ўступіць. Вырашыў уступіць, можа, і правільна — таньней абыйшлося. Бо што б мы зрабілі з тою п'янoю хэўрай, надзеленай уладай высокага начальства? Тут жа камбат далёка, рашэньне належала прымаць мне. Во я і прыняў. Цяпер буду чакаць наступства.

Між тым было чутна, як у раўку штось стрымана прамаўляў па тэлефоне Муха, але, мяркуючы па голасе, не з начальствам, — хутчэй са сваім братам-сувязістам. Пагутарыўшы трохі, устаў ад тэлефону і голасна абвясьціў:

— Брацьця славяне! Вайне канец!!

Мы ўсе на агнявой зьнерухомелі, змоўклі, чакаючы тлумачэньняў радаснай навіны, і Муха, натапырыўшы свае вусы, з важнасьцю аб'явіў:

— Брыгадныя радысты падслухалі: заўтра капітуляцыя.

— А чаму нам нічога ня кажуць? — запытаўся Мядзьведзеў.

— Мабыць, скажуць...

Муха зноў зьнік у раўку, прыпаўшы да свае трубкі — цяпер адтуль чакаліся незвычайныя навіны, ад якіх радасьцю займалася салдацкая істота, сонцам асьвятляўся ўвесь белы сьвет. Гэта ж трэба — скончылася вайна, і ты жывы! Цябе не забілі. Ты будзеш жыць доўга, доўга. Ня будзеш трэсьціся ў зямлі і чакаць апошняга свайго выбуху. Ты вернесься дамоў, зноў убачыш маму. Знойдзеш сваё каханьне, якое дасьць табе законнае шчасьце ў жыцьці. Канец вайне!..

Але калі канец вайне, дык, мусіць, доўга мы тут ня ўседзім. Мусіць жа, мы некуды рушым — назад ці наперад. Толькі наперад чамусь не пушчаюць немцы —

ці яны ня ведаюць пра сваю капітуляцыю? Ці, што зусім кепска, ня згодныя зь ёй? Калі якія эсэсаўцы, дык ведама, тая капітуляцыя дае ім няшмат радасьці — яшчэ яны паваюють. Не дачакаўшыся, аднак, болей дакладных навінаў, я ўзьлез у равок і патэлефанаваў да камбата. Ці праўда, што ўжо фініта?

— Будзе фініта — скажам. Ні на хвіліну ня спозьнімся. А пакуль захоўвайце пільнасьць, — ахалодзіў мяне камбат.

Мабыць, так. Калі загадана захоўваць пільнасьць, дык мабыць, нічога і не адбылося. Мабыць, радысты пасьпяшаліся. Можа, дзе і капітулююць, а ў нас будуць марудзіць. Чакаць загаду. Таксама, як і мы чакаем загаду зьверху. У гэтым сэнсе нічога не мяняецца. Хоць і канец вайне, усе падпарадкуюцца ўласнаму начальству. Як і заўсёды. Толькі начальства вырашае, замірыцца ці ваяваць.

Але ўсё ж калі капітуляцыя, дык, мабыць, не пакінуць нас у гэтай зямлі. Цяпер ужо ў зямлі не сядзелася, і я выйшаў з агнявой на зялёную траўку побач. У наваколльлі стаяла зусім мірная ціша, не стралялі ні мінамёты, ні гарматы. Не чуваць было і апрыклай трывожнай страляніны на перадавой. Штось усё сціхла, стаілася. Чакала. Сапраўды, ці не канец гэтай праклятай калатнечы? Настрой мой то поўніўся радасьцю, то азмрочваўся невядомасьцю, калі я кідаў позірк на недалёкі катэдж. Ужо мне карцела туды, да Франі. Як ёй быць цяпер з гэтымі старымі аўстрыякамі? Трэба дадому. У Беларусь. Але як? Куды я яе вазьму? Да маіх артылерыстаў на агнявую? Вядома, хлопцы былі б радыя. Але што скажа начальства?

Сонца схавалася за аграмадзінай гор, у даліне напоўз даволі прахалодны цень; усё навокал спахмурнела, хутка губляючы сваю нядаўнюю веснавую ўрачыстасьць. З-за шчыльнага плоту лесапільні патыхала паленым, далятталі па ветры горкія подыхі пажарышчаў. Нічога паблізу, аднак, не паказвала на небясьпеку, і я наважыўся. Сказаў Мядзьведзеву, каб у выпадку чаго прыслаў Кананка, той ведае. Мядзьведзеў кінуў скупое “ладна”, і я скіраваў да мастка.

Яшчэ я не ўзяўся за разлапістую жалезную клямку дзьвярэй, як тыя расчыніліся, за імі ў прыцемку пакорліва стаяла Франя. Яна чакала мяне. На гэты раз яна была без свайго фартушка, у кароценькай шэрай кофтачцы паверх тых жа чорных і вузкіх штонікаў. Была надта прывабная і з сарамлівай гасьціннасьцю ўсьміхнулася мне.

— Капітуляцыя, Франя!

— Праўда? А божачка мой...

— Яшчэ не афіцыйна. Але паведамяць.

— Няўжо дачакаліся? Няўжо праўда? — бы дзіця, радавалася дзяўчына. — Трэба старым сказаць.

Яна пабегла кудысь з вэстыбюля, а я застаўся ля засланага квяцістым абрусам століка з трыма цюльпанчыкамі ў фарфоравай вазцы. Я трохі недаўмеўся: што б значыла гэтая яе пасьпешлівасьць наконт гаспадароў? Ці сапраўды ўдзячнасьць, ці добра выхаванае пачуцьцё абавязку? Я ня ведаў яшчэ, як да таго паставіцца, калі праз расчыненыя дзьверы ў вэстыбюль сунуўся той высачэзны стары прафэсар са сваёй фраў. Апошняй ускочыла ажывелая Франя. Трохі адсопшыся ад мабыць доўгага пераходу, гаспадар глухім голасам сказаў нейкую даўгую фразу, якую тут жа патлумачыла Франя.

— Доктар Шарф віншуе з канцом вайны і дзякуе пану афіцэру за вызваленьне ад нацызму.

— Калі ласка, — велікадушна пагадзіўся я. — Жывіце ў міры.

Доктар уважліва выслухаў Франін пераклад, трохі памаўчаў. Відаць па ўсім, гаварыць яму было цяжка, ці ён цяжка зьбіраўся з думкаю. Франя перакладала:

— Ён кажа: старыя шчасьлівыя, што дачакаліся канца вайны. А маладым цяпер прыйдзецца самім ладзіць будучыню Эўропы. Важна не памыліцца.

— Ды ўжо як-небудзь. Не памылімся. Калі дагэтуль не памыліліся — перамаглі, — самаўпэўнена адказаў я і адразу адчуў, што перабраў: ня трэба было гэтак катэгарычна. Франя пераклала адказ.

— Доктар Шарф кажа: перамагчы ў вайне — яшчэ ня ўсё.

— А што ж яшчэ?

— Пасьля цяжкай вайны непазьбежны і цяжкі мір, — ціха, нібы нават не згаджаючыся з чымсьці, пераклала Франя.

Я не зусім зразумеў, што ён мае на ўвазе, гэты стары аўстрыяк. Можа, аднак, і праўда, можа і цяжкі мір. Але ўжо не цяжэйшы, чым гэтая вайна.

— Ён кажа: рускія павінны зразумець, што нацызм і камунізм ёсьць два канцы адной палкі.

Гэтыя развагі я чуў упершыню, і яны здаліся мне дзіўнаватымі — адной палкай мераць Расею і Нямеччыну. У нас гэткім чынам ніхто не разважаў нават пад хмелем, за такія словы кожны мог апынуцца далёка. Мы не адважваліся гэтак нават падумаць. Ды і не было патрэбы так думаць — усё ж мы ваявалі з фашыстоўскай Нямеччынай за свабоду сваёй краіны. Пры чым тут два канцы адной палкі?

Мабыць, разгубіўшыся, я маўчаў. Напэўна, адчуўшы маю ніякаватасьць, гаспадар таксама нядоўга падумаў і, стрымана кіўнуўшы на разьвітаньне, павярнуўся на выхад.

— Пачакай трошкі, — ціхенька кінула да мяне Франя, таксама кіруючы за старымі.

Аднак мне не сядзелася, і я падыйшоў да акна. Гэта зразумела, што за перамогай настане мірнае жыцьцё, але чамусьці не хацелася пра яго думаць, цяпер усе думкі не ішлі далей перамогі. Той самай, да якой мы нарэшце наблізіліся і пра якую столькі марылі ў цяжкія часы малых і вялікіх няўдач. У такія хвіліны яна

здавалася нам як зьдзек, як жульніцкая пустая абяцанка. Шмат для каго менавіта такой і засталася, і яны нічога пра яе ніколі не пазнаюць. Іншыя во дажылі да яе, і можа, яшчэ пакарыстаюцца яе плёнам.

З вузкага вакна з высокім, бы ў царкве, падваконьнем ня шмат што было відаць, а мне ўсё ж патрэбна было бачыць мае гарматы. І я сказаў пра тое Франі, калі яна прыбегла ў вэстыбюль. Дзіўна, як за паўдня зьмяніўся яе настрой, яна стала цяпер жвавая, амаль бесклапотная. Лёгкая і імклівая, яна зрабілася падобнаю на гарэзьлівую школьніцу.

— Ідзем, — сказала яна і кудысь павяла мяне праз бакавы ход да скрыпучых і пакручастых прыступкаў — на гарышча ці што, падумаў я. Але то было не гарышча? а сьветлая цесьненькая вежа, што, нібы шкляначка, прыгожа выглядала здаля на чырвоным даху.

— Адсюль ўсё відаць.

Выгляд з гэтай вышыні быў сапраўды цудоўны — амаль палова разьбітага выбухамі гарадка, вуліца да павароткі, задымлены падворак лесапільні, завалены грудамі дрэва і дошак: мае гарматы — адна адразу за рэчкай, а другая па той бок лесапільні. Насупраць за дарогай разьлёгся шырокі горны адхон, зьнізу парослы хвойным маладняком, які вышэй браўся на добры хваёвы лес. З другога боку відно было ня шмат — стромы чарапічны скат даху ды вершаліны груvасткіх дрэваў, блізка за якімі навісла голая скала гары. У цесьненькай шклянцы-вежы стаяла лёгенькая канапка, цямнеў расчынены люк, празь які мы сюды ўлезьлі. Утульнае было месьцейка, і я захваляваўся нават. Здалося, Франя прывяла мяне сюды ня так сабе, а дзеля пэўнага інтыму, і таму дзяўчо яшчэ болей мне пабліжэла.

— А вунь і твае салдаты, — паказала Франя.

Я агледзеў зьверху мае пазыцыі — нічога асаблівага. Салдаты паселі на станіны, мабыць, цяпер гаманілі пра мір, да якога, падобна, дажылі — хіба ж не падстава для

радасьці? Кожны ўжо настройваўся на дом, гаспадарку і мірнае жыцьцё на ёй. То было зразумела. Маладзейшыя марылі пра вучобу і каханьне, пра сваё месца ў жыцьці, наканаванае кожнаму шчасьце. Цяпер усё тое было магчыма. Мы заслужылі на гэта права, перамогшы ў страшнай вайне. Мабыць, далейшае залежала ад кожнага і не залежала ад вайны. То было шчасьце.

Я сеў на зручную белую канапу, Франя стала насупраць ля шырокіх, зашклёных у дробныя шыбкі вокнаў.

— Доктару Шарфу лекі дала. Дрэнна пачуваецца. Дужа напалоханы.

— Кім напалоханы?

— Нямецкімі нацы, але й нашымі таксама.

— Нашымі? Калі ж гэта яны пасьпелі яго напалохаць? — зьдзівіўся я. Здалося, што Франя гаворыць штосьці няслушнае.

— Ты ня ведаеш. Можа, ня трэба табе гаварыць...

— Ня бойся. Я яму зла не зраблю.

— Я веру, што ня зробіш. Ты ж не такі, як... Гэта ж учора ноччу мы да ранку ня спалі...

— Не спалі?

— Ну. Як зьмерклася, прыехалі вашыя. Ну, з асобага аддзелу, сказалі. Мяне прагналі ў вэстыбюль, а самі там да чатырох гадзінаў яго дапытвалі.

— Во як! Але завошта?

— А хто іх ведае. І мне доктар Шарф нічога не сказаў. Фраў Сабіна плакала...

— Ну, а ты? У цябе яны пра што-небудзь пыталіся?

— Ад мяне адабралі падпіску, што буду маўчаць.

— Во як!

Гэта было горш. Зрэшты, я ўжо ведаў, што там, куды лезьлі гэтыя, і не магло быць добра. Ну, але хай гэта ў нас — у войску, у тыле. Ды пры чым тут аўстрыякі? Пры чым нарэшце Франя? Ужо яна навошта ім спатрэбілася? Ці чым не дагадзіла? А можа, яна замінала ім у нейкай іх цёмнай справе?

Хаця, заспакойваў я сябе, да таго патрэбна быць гатовым. Усё ж у гэтых малойчыкаў свае, спэцыфічныя абавязкі, якіх простым людзям ніколі не зразумець. Найперш шукаць ворагаў. Але няўжо ж і гэты стары прафэсар біялёгіі — таксама вораг? Шпіён? Дывэрсант? Ці можа, яны самі вярбуюць шпіёнаў? Але як жа ў такім выпадку тут застававацца Франі?

— А доктар Шарф не фашыст?

— Ну, што ты! Ён ня любіць фашыстаў — страх! Бывала, у Гановэры, як бяжым у бомбасховішча, дык ён груба лае іх. Вакол усё грукоча, ніхто нічога ня чуе..

— Як ніхто ня чуе, можна і палаяць, — сказаў я. — А ты сядай побач, во тут, ля мяне.

Неяк нерашуча Франя прысела ў куточку канапы. Настрой яе зноў, здаецца, рабіўся мінорны, яўна заклапочаны. Яе захапіла перажытае. Я быў настроены інакш, але таксама радасьць мая панікла. Франя між тым пачала расказваць.

— Там жа бамбілі кожную ноч. Алярмы гэтыя зь вечару да ранку. У горадзе пекла, усё гарыць ды рушыцца. Немцы ратуюцца ў бомбасховішчах. Было, што і бамбасховішчы рушыліся, і ўсе гінулі. Як пачнецца, мы адразу — у склеп. Да таго ў мяне ўсё ўжо нарыхтавана — тэрмас, пледы. Сядзім, яны там моляцца. Я, як умею, таксама.

— А што ў іх — свой дом!

— Не, кватэра. У вялікім доме. Праўда, і кватэра немалая, а я адна пакаёўка. І за кухарку. Работы процьма. Але я старалася. Сьпярша прыглядаліся да

мяне, як што ўмею. Я і праўда, ня шмат умела. Але вучылася. Хацела дагадзіць. Бо як жа іначай жыць у чужых? Трэба дагаджаць. Так мама заўсёды казала. Ну што зраблю ня так — ня лаялі, не каралі, як некаторыя. Вучылі. Фраў Сабіна спакойна раскажа, пакажа. Што, я тыя дзьвярныя ручкі дома калі начышчала? Ды ў нас іх і не было, такіх бліскучых. Сьпярша мне пра тое сказалі, паказалі. Ну, а пасьля я ўжо і сама рупілася. Каб было чыста і прыгожа. Дома ніколі так не было.

На цеснай канапцы Франя сядзела блізка ад мяне, але я пасунуўся яшчэ бліжэй, і яна не адхінулася. Мае свавольныя рукі яна перахапіла ў свае і цесьненька трымала іх на каленях.

— Дык ты ў іх за прыслугу? — з затоеным папрокам сказаў я.

— Ну, ведама. А для чаго ж яны мяне ўзялі. Але розная прыслуга бывае, і розныя гаспадары. У Гановэры цераз вуліцу жыла Клава, таксама остаўка. Дык кожны дзень плакала ад сваёй гаспадыні. Загінула ў бамбёжку. Малако кіпяціла, быў налёт, колькі хвілінаў трэба было пачакаць, каб малако закіпела малому. Спазьнілася ў сховішча, ну і заваліла. І малога таксама. А маці таго ўцалела. Справілася з шостага паверху ўніз. Як наш дом разваліўся, вылезьлі мы на вуліцу з пустым тэрмасам і адным пледам. Болей нічагусенькі — ні дома, ні маёмасьці. Што рабіць? Іншыя б сябе ратавалі, а мае безь мяне нікуды. Трохі часу разам жылі ў нейкай канторы, пасьля ў салдацкім бараку. Пасьля прыйшлі дакумэнты з Аўстрыі, і яны паехалі. Мяне таксама ўзялі. Грошай амаль не было, фраў заклала ў банк свае завушніцы, брошку. Тут, праўда, спадчыну атрымалі.

— Ну добра, — сказаў я. — А мова? Дзе ты так навучылася па-нямецку? У школе?

— Трохі ў школе, праўда. Але ў асноўным тут. Здольная была, умела слухаць. Слых добры маю. Зноў жа фраў Сабіна трохі разумее па-польску.

— А ты што — таксама ўмееш па-польску?

— Трохі ўмею, ага. Мама ж каталічка, з майго ж імя відно. А ў нас каталікі, хоць і беларусы, а разумеюць папольску. Ты пасядзі тут, — выпусьціла мае рукі Франя. — Я зараз.

Яна зьнікла ў прыцемках люка, зьнізу пачуўся мяккі стук яе пятак па дошках-прыступках, і недзе нягучна бразнулі дзьверы.

Я ўстаў з канапкі, аглядзеў праз шыбкі гарадзкое навакольле. Па дарозе з-за вугла паўразбуранага дома, дзе я так ганебна пляснуўся з ровара, хутка праімчаў знаёмы трафейны “хорх”, на якім езьдзіў наш “сьмершавец”, і я з прыкрасьцю падумаў: чаго ён тут гойсае? Хоць вайна канчаецца, а гэтым няма спакою, усё нешта шчыруюць, уведваюць, мабыць, нешта камусь рыхтуюць. За сябе ўвогуле я быў спакойны, здаецца, вялікіх грахоў ня меў. На акупаванай тэрыторыі ня жыў, з харкаўскага акружэньня выйшаў не адзін, а з групай, і тое “злачынства” было ўжо добра дасьледавана “сьмершам” і, пэўна, здадзена ў архіў. Але, мабыць, гэтак жа думаў і камандзір узвода сувязі Ляжнеўскі, якога месяц таму рэпрэсаваў “сьмерш”. Той, выпіўшы, даў сабе волю паразважаць наконт “несправядлівасьці” да акружэнцаў, якіх пасьля вызваленьня спрэс накіроўвалі ў штурмбат. Сам апынуўся праз тое ў штурмбаце, і ніхто з нас яго болей ня бачыў.

Над гарадком вечарэла, горы паволі асядалі ў цень, толькі сьнегавыя вяршыні яшчэ блішчэлі здалёк сонечным водсьветам. На фоне блакіту вечаровага неба той бляск рабіўся надзвычай выразным, набываў перад ноччу сілу. Як добра было б сядзець тут зь мілым дзяўчом да ночы, ды і ўночы таксама. Слухаць яе, адчуваць і — кахаць. Каб не вайна. Але калі б не вайна, дзе б я сустрэў яе? Дзіўна, але менавіта вайна зьвяла нас тут, наводдалі ад радзімы, сярод гэтае альпійскае прыгажосьці. Як бы і не разьвяла таксама, — раптам падумалася мне.

Амаль нячутна ў вежу паднялася Франя, штосьці прынесла ў руках. Разадрала ўпакоўку і паставіла на канапу невялічкі пакуначак.

— Во, частуйся, Міця. Акурат, як нашыя да вайны.

То былі цукеркі, знаёмыя зь дзяцінства “падушачкі”. Мабыць, ня дужа сьвежыя, некаторыя пазьліпаліся, і Франя аддзірала іх па адной, частавала мяне. Сапраўды, не зважаючы на ня надта апэтытны выгляд, цукеркі, як і ў дзяцінстве, былі салодкія і пахкія.

— Сорак капеек сто грамаў. Прыпамінаеш?

— Прыпамінаю, — сказаў я. — У сельмаг бегалі на перапынку.

— А яшчэ былі ірыскі...

— Дык усё ж, адкуль ты родам? — папытаўся я.

— Ды зь Менску. Там і нарадзілася.

— І даўно адтуль?

— Зь Менску даўно. Зь Менску ж я сьпярша перабралася ў Чэрвень, адтуль ужо ў Нямеччыне апынулася. Ды тут, каб не пашэнціла, прапала б. Як прапалі мае дзяўчаты.

— Дзе прапалі?

— А на хімічных заводах у Руры. Паатручваліся і пагінулі. Усе чацьвёра чэрвеньскіх.

— А ты?

— Ведаеш, тут, можа, лёс такі. Можа, якая выпадковасьць. Гэта ж як мы прыехалі ў нейкі гарадок ля Гановэра, нас пачалі разьмяркоўваць. Ну, пастроілі ў шарэнгу, прыйшло нейкае начальства — у форме і ў цывільным — хто якія, мы тады мала разьбіраліся. І пачалі перабіраць, каго куды. Але сьпярша прыйшлі вайскоўцы, як пасьля аказалася, афіцэры зь вэрмахту. Яны былі ў водпуску з фронту, і ім дазвалялася выбраць у свае сем'і абслугу. А я была самая маленькая, схуднелая за дарогу, бедна апранутая. Стаю, ледзьве дыхаю... Перад тым ня спалі тры ночы, пакуль нас

мутузілі па станцыях, згаладнелыя. А яны ідуць — сытыя такія, здаровыя бугаі, два ў эсэсаўскай форме і трэці — афіцэр вэрмахту, малады юнак, танкіст. Тыя павыводзілі дзяўчат, што здаравей, ну, рослых, дужэйшых. А я стаю самая апошняя. І во гэты вэрмахтаўскі лейтэнанцік прайшоў раз, ды, мусіць, яму ўжо не хапіла дужэйшых. Тады ён вяртаецца і да мяне — “ком”, кажа. Я ледзь не самлела, так ён холадна паглядзеў на мяне, і голас такі, чыста салдацкі, бы на пляцу. Выйшла. І мяне аформілі ў гэтую во сям'ю доктара Шарфа. А той афіцэр быў іхны сын Курт. Дома ён зусім не такі страшны аказаўся, як там выглядаў — ветлівы і ціхі. І надта ўжо сумны. Праз два дні паехаў на фронт, а праз два тыдні загінуў у танку. Як падумаць, дык ён выратаваў мяне. Каб ня ён, атруціцца б і мне на той хіміі.

— Аднак гісторыя! — сказаў я, уражаны гэтым аповедам. — Можа, табе і пашэнціла.

Франя спахмурнела і хвіліну роўненька сядзела, апусьціўшы на калені маленькія, з вострымі локцямі рукі.

— Можа, адной мне і пашэнціла. І я ўсё думаю: як бы чаго ня сталася. Усё ж шчасьце, яно падманлівае. Гэта няшчасьце — назаўсёды. Я тут кожны дзень бяды якой чакала, ну, думаю, няўжо ж мне і далей будзе так шанцаваць?

— Цяпер ужо можна не баяцца. Скончыцца вайна, дамоў вернесься. Ці ты іначай думаеш? — запытаўся я і насьцярожыўся, чакаючы яе адказу. Франя ўздыхнула.

— Хто ж ня хоча дамоў. Але што дома? Каб жа ён быў хоць, той дом. Ды і аднаклясьнікаў — нікога ж не засталося. Як во жыць сярод незнаёмых? І тут незнаёмыя, і там незнаёмыя...

Ну, ведама, зьявяцца новыя знаёмыя і нават сябры, гэта я ведаў па сабе. Але аднаклясьнікаў, сяброў дзяцінства ўжо, мабыць, ня будзе. Тое ўжо адрэжацца назаўжды. Мабыць, кепска жыць з адрэзаным дзяцінствам? Я неяк

пра тое ня думаў. Франя ж во думала...

Здаецца, неўпрыкмет за гаворкай мы скончылі той цукеркавы пакуначак. Я пасунуўся яшчэ бліжэй, і Франя не адсунулася — ужо не было куды.

— Бедная дзяўчынка! — шчыра вымавілася ў мяне з самай душы і нечакана для сябе я пацалаваў яе ў шчаку. Франя на момант зьнерухомела і раптам скаланулася ўсім целам у незразумелым бязгучным плачы.

— Ну што ты! Ну што ты! — ледзьве не спалохана казаў я, усё цалуючы яе мокры ад сьлёз твар, і яна не адхілялася, не ўнікала маіх вуснаў. Аднак патроху марудна спакайнела і раптам бездапаможна ўсьміхнулася празь сьлёзы.

— Ты прабач мне...

— Ну нічога, нічога...

Я і яшчэ цалаваў яе, каб неяк суняць яе боль і выказаць глыбіню маёй да яе пяшчоты.

— Я ўжо сто гадоў... Сто гадоў ня плакала. Знаеш, ня кепска яны да мяне адносяцца, але ж не магу я паскардзіцца ім. Ці заплакаць. Два гады на адзіноце. Душа змарнела, і во раптам ты. Трэба было... Прабач, Міця.

— Я разумею. Ну, супакойся...

Усё ж патроху яна сунялася, прыгладзіла далонькай сваю прычоску, і стала для мяне яшчэ больш блізкай і жаданай.

— Гэта ж трэба! — усё чамусьці зьдзіўлялася Франя. — Няшчасная мая мамачка. Каб яна дажыла да гэтага часу. Усё выбірала мне хлопцаў, ды гэтак прыдзірліва. Калі з кім прайдуся, дык яна: то надта даўгалыгі, то кароткі, то сьмешна шморгае носам. А той малапрыкметны, той не камсамолец. Ты ж, мабыць, член партыі?

— Яшчэ не, — сумеўся я. — Але камсамолец. А што мама — парцейная?

— А то як жа!

— А бацька?

— А бацька вораг народа. У трыццаць восьмым пасадзілі і прапаў. Мама адмовілася пасьля ад яго. Мне па сакрэту сказала, што тое — дзеля нашага паратунку. Тады шмат хто гэтак рабіў. Яно й зразумела: яшчэ маладая, прыгожая. І ўсё роўна не ўберагласе — сябе загубіла.

— А бацька — які кіраўнік быў?

— Бацька... — Франя памарудзіла з адказам, мабыць, гаварыць пра бацьку было ёй ня проста. — Бацька ў органах працаваў. Яшчэ ад рэвалюцыі. Ён жа зь Дзяржынскім у адной турме сядзеў.

— Во як!

— Ну. Дзяржынскі яго і ў Менск накіраваў. Працаваў дзень і ноч, мы яго й ня бачылі. Толькі раз неяк быў выходны ці якое сьвята, ня памятаю. Дык паехалі на рэчку, рыбу вудзіць. Праўда, вудзіў адзін татачка, мама на лужку кветкі зьбірала, а я бегала па водмелі, малькоў разганяла. Бы гуляла зь імі. Так мне гэта спадабалася, ведама, малая была. Пасьля ўсё прасіла бацьку — зьезьдзім яшчэ. Ён абяцаў, але ўсё было неяк. Некалі і некалі. А адзін раз кажа: сёньня на працу не іду, і сеў на ложак, сядзіць. Смутны такі. Я пачала прыставаць: паедзем на рэчку. А ён кажа: не, ужо не паедзем. Даседзеў так да начы, а ноччу яго і ўзялі. Так я болей і не пабачыла рэчку.

Шэрае сутоньне ахутала вежу і навакольле, ужо ня стала відаць ні ўскраіны гарадка, ні гор, ні дарогі. Не відаць было і маіх пазыцыяў. Гарадок патануў у змрочным тумане, толькі дымы ад пажарышчаў бялявымі космамі мкнулі кудысь над руінамі.

— І я сваіх з сорак першага году ня бачыў. Ня ведаю, ці

жывыя, — сказаў я, пранікаючыся яе клопатам.

— Маму ж немцы павесілі. У Менску. Як партызаны іхнага гаўляйтара падарвалі, дык немцы пачалі хапаць падпольшчыкаў. Ну якраз і маму маю. Павесілі ў сквэры.

— А ты ж як?

— А я? Кепска я. Жылі на кватэры ў Грушаўскім пасёлку, ну, пасьля маці засталася адна. Кватэрная гаспадыня, праўда, неблагая была кабета. Але ў самой трое малых, мужа няма. Харчу ніякага. Прывезла з раёну мех бульбы, хутка яго зьелі. Прадалі, што было можна прадаць. Я апошнія рукавічкі прадала, што перад вайной мама зьвязала. Можа б як і далей бавілі час, ды на бяду да суседзяў сталі на кватэру два паліцаі. Ну і адзін, Вінцэсь, стаў заходзіць. П'янтос такі, брыдкі і нахабны, не было ад яго паратунку. Прыб'ецца калі, сядзіць да поўначы, балбоча невядома што. А то пачне прыставаць. Я ўжо адшывала яго, як умела, ды й гаспадыня старалася — нічога не памагае. Закахаўся, кажа.

— Ну, ведама, прыгожая дзяўчына...

— Ніякая не прыгожая. Гэта цяпер трохі, а тады, бы брыдкае качанё.

— Ну ладна, ладна, — з раўнівай ноткай сказаў я. — Не прыбядняйся.

— Я й не прыбядняюся. А тады... Тады цётка Мар'я кажа: давай адвязу цябе да дзядзькі на вёску. У таго адна дачка, твая аднагодка, будзеце разам. Пакуль зіма скончыцца. А там паглядзім, можа, і вайна замірыцца. Неяк у нядзелю паехалі на санях — далёка, аж у Чэрвень, а там яшчэ кілямэтраў шэсьць, прыехалі ўжо ноччу, пастукаліся ў вакно. Дзядзька пусьціў, гаспадыня яму пачала тлумачыць, пасьля прасіць. Я ўсё гэта слухаю... Неяк упрасіла, назаўтра паехала. А я засталася. Незнаёмая, чужая ў чужых людзей. Зоська і праўда, амаль мая аднагодка, шаснаццаць гадоў. Ну, з

гэтай мы быццам сышліся, нічога была дзеўка, ня злая. Толькі недалёкая, страх. Да вайны скончыла шэсьць клясаў, а да хлопцаў цягнулася, бы да магніту. Так да вясны дабылі. А вясной загуло ў навакольлі — прыйшлі партызаны. Сталі ў нашу вёску наведвацца, наладжваць сувязі. Ну і некаторых хлопцаў сагітавалі, а за імі і дзевак. Зоська засталася, бацька не пусьціў. А мяне не пушчаць не было каму, пабегла зь дзяўчатамі. Пачалося лясное жыцьцё. Атрад “Бальшавік” называўся, камандзір — былы пагранічнік, прозьвішча Сокал. Дні праз тры ставяць мяне ў каравул — на ўзьлеску ля кладкі, вінтоўку далі, настрашылі наконт пільнасьці. Ноччу стаю, баюся. А тут прыходзіць каравульны начальнік, таксама з пагранічнікаў — на праверку. Праверыў, я ўсё правільна адказала, а ён не ідзе назад. Тое ды гэта, бачу, пачынае самым нахабным чынам. Што мне рабіць? Крычаць, ці што? Крычаць нельга. Неяк той раз ад яго выбавілася, сказала: пажалюся камісару. Адчапіўся. Вядома ж, нікому скардзіцца не пайшла, дык неўзабаве ўсё пачалося па-новаму. І хто — сам камандзір атрада. Не адмовішся ж, калі загадвае куды ісьці. Ідзеш, а ён з ад'ютантамі сьледам. Вярнуся, а ён: пачаму не спалняеш загад? За неспалненьне загаду — расстрэл на месцы. Пасьля пераходу ляжам дзе стомленыя на хвойным лапніку, адразу ў сон. А ён ноччу падкочваецца, ну і... Як закрычу! Тады лаецца: пачаму дэмаскіруеш групу? За дэмаскіроўку групы — расстрэл. Гэта былі нейкія не такія, як іншыя, партызаны, як пасьля даведалася — асобага прызначэньня. Усё хадзілі на маршы. Нашая задача была Менск, туды дзяўчат пасылалі, адтуль да нас прыходзілі. Але болей пасылалі. Меней вярталіся. Не вярнулася Тоня Быстрова, Валя і Жэня-хахатушка, былі такія дзяўчаткі. Камсамолкі ўсе. Ну і я камсамолка. А начальнікамі над намі хлопцы, а то й дзядзькі ў гадах ужо. Тыя нікуды не хадзілі, толькі за намі сачылі. Каб ня дай бог бязь іхнага ведама — нікуды. І любілі пакарыстацца дзяўчаткамі... Намесьнік камандзіра Кашэльнікаў бывала кажа: што ж такога — ля калодзежа жыць, ды вады не напіцца? Труцень такі мардаты. Як не вярнулася Жэня, мая сяброўка, таксама мянчанка, у Калодзішчах да вайны жыла, клічуць у

будан мяне. Той самы Сокал і кажа: табе заданьне прабрацца ў Менск і арганізаваць явачную кватэру. Будзеш яе абслугоўваць. А дзе я яе арганізую? А хоць бы ў гаспадыні тваёй, у якой на кватэры была. Як успомніла я цётку Мар'ю і яе трох малых, дык мне млосна стала. За сябе ўжо не баялася, але за іх. Гэта ж праз тую явачную кватэру і мая мамачка папалася. Пайшла на яўку ў Сьляпню, там яе і ўзялі. Можа, хто выдаў. І павесілі. І гаспадара, і ўсіх ягоных сямейнікаў — шэсьць душ усяго. Ну, што мне рабіць? Адмовіцца нельга, за адмову, канечне, расстрэл. Аднак я спрабую, кажу: там жа дзеці малыя. А ён мне на тое: ага, дзяцей шкадуеш? А табе на савецкую родзіну напляваць? Я кажу: гаспадыня мяне не паслухаецца. А ён: не з гаспадыняй, дык з паліцаямі паладзіш, яны ласыя да такіх прыгожанькіх, сама ведаеш. Гэтак ён мне намякае на нешта. Брыдка мне стала, я ўжо яго ўзьненавідзела, а што рабіць, ня ведаю. Але ў той дзень не паслалі, група мяняла дысьлякацыю, абходзілі па лясах Чэрвень. Неяк адышлася я ўбок, у бярэзьнічак, кінула ў траву вінтоўку — і ў сваю вёску. Ужо недалёка было. А ў суседняй вёсцы ўжо паліцэйскі гарнізон усталяваўся. Што я ў партызаны пайшла, мала хто ведаў. Думалі, зь Менску, ну, можа, у Менск і паехала. Ды і прапартызаніла я, можа, месяц — ня болей. Пайшлі з Зоськай сена сушыць на балота. Улетку яно й няблага, ягады пасьпелі. Неяк надвячоркам шэсьць капешак нагрэблі, дамоў зьбіраемся, ажно бачым: бяжыць цётка, Зосьчына маці, кажа: прыяжджалі двое конных, цябе шукаюць. Усё ў хаце і гумне перарылі, дык не ідзі дамоў, хавайся. Ну мы з Зоськай і зашыліся ў стажку. Так на тым балоце праседзелі тыдзень, цётка хлеб з малаком насіла, ягады елі. Ды пайшлі дажджы. Зоська занатурылася: хачу дамоў. Ну, і пайшла, а я яшчэ дзён колькі заставалася. Але таксама ня вытрымала адна, вярнулася ў вёску, пару дзён у асеці спала. А тут аб'явілі набор у Нямеччыну, і на Зоську выпаў нарад. А Зоська ня хоча. А бацька кідаецца да старасты, да паліцаяў, ведама — адна дачушка. Неяк павячэралі, і дзядзька кажа: Франя, можа б ты замест Зоські пайшла? Усё ж адна, што табе? Калі што здарыцца, дык перажываць няма каму. Сірата. Зноў жа разумнейшая,

чым гэтая дурніца Зоська. Ну што ж, думаю, калі іншага не выпадае — пайду. І пайшла, за сябе ці за Зоську — ужо ня думала. Пасадзілі ў цягнік з такімі няўдакамі, як я, павезьлі ў Нямеччыну. Натрывалася, нагаравалася, пакуль на вочы Курту не трапіла. Вось, ты кажаш: прыгожая, і людзі мне пра тое казалі. А ведаеш, як я праклінала тую сваю прыгажосьць, колькі празь яе натрывалася. Думала, лепш бы я нарадзілася якой недарэкай, можа, б тады шчасьлівейшая была. А то... Ды яшчэ характар такі, нягрубы, дабрыні хочацца.

— Ну якая ў вайну дабрыня? Тут азьвярэць можна, — сказаў я.

— Праўда. І ўсё ж яна ёсьць, дабрыня. Я во ўспамінаю сваю грушаўскую гаспадыню. Ды і на Чэрвеньшчыне...

— Ну, а тут, у Нямеччыне?

— Дык і ў Нямеччыне ёсьць. Болей сярод старэйшых, якіх яшчэ фашызм не перайначыў.

— Ну, а ты сама добрая? — запытаўся я і прыціх, чакаючы яе адказу.

— Наўрад ці. Усё ж я адтуль, дзе рэлігіяй была жорсткасьць, непрымірымасьць. Гэта ўжо сядзіць у нас унутры. Ведаю, тое кепска, а што зробіш? Мабыць, натура мацней за розум. Вось да праўды сябе не прывучу. Асабліва, калі праўда калючая. Усё прыгожай хлусьні хочацца.

— Гэта канечне. Прыгожае заўжды прыемнае.

— Галоўнае, што паверыць у прыгожую хлусьню заўжды надта лёгка. Яна сама на душу кладзецца. Вось ты сказаў — прыгожая, і я ўжо растала. Я ўжо за адно гэтае гатовая цябе пакахаць.

— Праўда?

— Ну, — адказала яна проста, як некалі казалі ў нас, і ціхенька засьмяяўшыся, прыгарнулася да мяне.

— Але ж я бяз хітрасьці. Ты ж і сапраўды прыгожая.

— Калі побач няма прыгажэйшай, — гарэзьліва скончыла яна.

— Але ж ты яшчэ й разумненькая.

— Ну ўжо не. Я, можа, і была б разумная, калі б была шчасьлівая. Няшчасная дзяўчына разумнай ня будзе. Гэта хлопцы на горы вучацца. А дзяўчыну гора зьядае. І розум яе, і прыгажосьць.

— Навошта дзяўчыне розум, калі ёсьць прыгажосьць? — трохі жартоўна зазначыў я.

— Ну, ведаеш, розум — гэта ўсё ж адносная якасьць. Я недзе чытала, што каб паразумнець, трэба адчуць сябе дурнаватым. А ўвогуле розум — ня самае галоўнае ў чалавеку. Разумны можа быць і злачынца. Разумны для сябе.

— А што ж галоўнае?

— Чалавечнасьць, во што. Тое, што ідзе ад Бога, а не ад д'ябла. Ці ад малпы, як дарвіністы пісалі. Усё ж у нас дужа мала боскага. Ці яшчэ не набылі, ці бальшавікі адабралі. Аддзялілі народ ад Бога.

— А ў немцаў хіба больш... боскага?

— Ведаеш, больш. Усё ж яны болей з Богам жылі. Зноў жа яны Бога шукалі. Пратэстанты, напрыклад. Ён быў ім патрэбны, казаў доктар Шарф. А мы свайго так і не знайшлі.

— Хай сабе яны і з Богам. А мы ўсё роўна іх перамаглі.

— Перамагчы, можа, і магчыма, — не адразу, падумаўшы, сказала Франя. — Але ці магчыма бяз Бога жыць? Ніводзін народ, нават самы адсталы, не жыве бяз Бога. Мабыць, гэта немагчыма. Бяз Бога, ён проста сам сябе зьесьць. Асабліва прымітыўны народ.

— Ну мы ж во не прымітыўныя, а жывем бяз Бога і —

нічога. Ня зьелі яшчэ адзін аднаго.

Франя трохі прымоўкла, зьбіраючыся з думкай, і сказала надта сьцішаным голасам:

— Ведаеш, даволі пасьпяхова елі. Клясавая барацьба — хіба ня тое ж самаедзтва? Хаця нас, можа, ратуе, што нас многа. Ня надта хутка можна адзін аднаго зьесьці!

Я ўжо не пярэчыў, унутрана я пачаў зь ёй згаджацца. Я адчуў, што яна разумнейшая за мяне, хоць і ня надта прыемна было ў тым прызнавацца сабе. Усё ж я не лічыў сябе дурнем — што-ніштo разумеў у жыцьці, памятаў са школьнай гісторыі ды й прачытаў трохі кніжак. У размовах з такімі, як я, не выглядаў дурнейшым за іншых. Але пра што былі тыя размовы? Пра нашую праклятую вайну, пра несправядлівасьць начальства. Пра артылерыю ды нямецкія танкі, як іх падбіваць. Пра жыцьцё мы наогул не гаварылі, можа таму, што яго ў нас яшчэ не было. Не было ў нашым кароценькім мінулым, а на будучае мы ня надта спадзяваліся. Нам часта было незразумела, як дажыць да вечара, дзе ўжо было разважаць пра Бога. А яна вось разважала. Усё ж я ня ведаў дзяўчат. Духоўнае сталеньне ў іх, мабыць, адбываецца інакш, чым у хлопцаў. Усё ж яны нараджаюцца не для вайны — для жыцьця. Якое для хлопцаў — заўжды праблема. З Богам ці безь яго.

Тое, што я пачуў, уражвала не адным толькі выказаным ёю. Было там штось малапрыемнае для мяне — усё гэта яе партызанства ў атрадзе асобага прызначэньня. Але я падумаў, што гэтак па шчырасьці расказаць можа толькі даверлівая натура. Я ўжо ведаў, якія бываюць хамы і жлабы сярод нашага брата-вайскоўца, меў уяўленьне пра тых начальнікаў, якія і ў войску налаўчыліся ваяваць чужымі рукамі. За кошт чужых жыцьцяў. У партызанах тым болей. У партызанах, расказвалі некаторыя, хто там быў, для начальства наогул рай — рабі што хочаш. Камандаваньне далёка, аж у Маскве, па радыё вешай яму локшыны на вушы — ня прыйдзе, не праверыць. Во і рабілі подзьвігі з гэткімі во дзяўчаткамі, якіх па адной і дзясяткамі кідалі ў

пашчу вайны. Новых заўжды хапала — яны любілі радзіму і ляцелі на вайну, бы матылькі на агонь.

— Ведаеш, я ж таксама Богам ня надта цікавілася, — сказала Франя. — Выхоўвалася ж ваяўнічаю атэісткай. Аж покуль во тут, у Нямеччыне, не пабыла на імшы. Як пачула арган ды сьпевы “Авэ Марыю”, усё ўва мне перавярнулася. І я зразумела — раптам і назаўжды — Бог ёсьць. Яго проста ня можа ня быць. Нягледзячы на ўсё жахлівае на зямлі.

Што ж, можа й так, думаў я. Шкада, што тое да мяне яшчэ не дайшло — раней дайшло да яе. Моўчкі я прыгарнуў да сябе дзяўчыну, і яна не адхінулася. Здаецца, яна ўжо давяралася мне, хаця штосьці яшчэ не да канца адоленае стрымлівала яе адказаць на мае пяшчоты. Але пяшчота гоіць усё, мабыць, пачала яна гаіць і Франіна гора. Нясьмела яшчэ, з далікатнай стрыманасьцю яна пацалавала мяне і зьнерухомела. Я зьнерухомеў таксама.

Гэта быў мой першы пацалунак, дагэтуль ніводная зь дзяўчат не цалавала мяне. Ды й я таксама. Я быў удзячны лёсу, што ён падарыў нам гэтую пару на зыходзе дня. Падумалася, можа, падорыць і шчасьлівую ноч? Я адчуваў сябе дужым, удачлівым і пачаў даваць волю рукам. Яна, падобна было, хмялела ў маіх абдымках, маўчала, толькі цалавала мой твар. А пасьля і зусім расслабілася, аддаючыся на маю хлапечую ўладу.

— Любая...

І раптам страпянулася, спрабуючы вырвацца з маіх абдымкаў.

— Ня трэба! Пашкадуй мяне. Потым... Я ж сірата...

Тыя словы раптам ацьверазілі мяне, і я адхіснуўся. На самой справе, што ж гэта я? Як жа я? Я ж кахаю яе.

— Я ж нікога яшчэ не цалавала, Міцечка. Цябе першага. Пашкадуй мяне.

Ну ведама, я ж цябе не пакрыўджу. Я добры. Я справядлівы, бо я кахаю цябе...

— Любая!..

Я адчуў, яна не давяраецца інстынктам, не дае заснуць розуму. І ашчаджае мяне. Усё ж я не такі, як тыя, што траплялі на яе шляху. Я кахаю яе і шкадую. Найперш, можа, шкадую. Ці не — найперш кахаю. А каханьне — заўсёды сіла, так мне здавалася...

Глухі грукат у дзьверы не адразу данёсься ў нашую шкляную вежу, сьпярша падумалася, што гэта дзесьці страляюць. Але Франя нядобра напружылася ў маіх руках і ўскочыла.

— Міця!!

— Гэта за мной, — здагадаўся я.

Як не скруціўшы сабе галаву па цёмнай і стромкай лесьвіцы, я скаціўся ўніз, навобмацак знайшоў у вэстыбюлі дзьверы, у якіх гулка грукаталі знадворку.

— Таварыш лейтэнант!..

Франя ледзьве ўправілася зь цяжкім засовам, а як адчыніла дзьверы, і я выскачыў на цёмны падворак, Кананок абвясьціў:

— Камбат кліча.

— Што такое?

— Кажуць, зьнімацца нам.

Ну, усё зразумела, таго трэба было чакаць.

У суцэльнай цемрадзі мы дабрылі да агнявой, на якой ужо тоўпіўся разьлік, і Мядзьведзеў, як заўжды ўначы, сьцішана вытлумачыў:

— Загад — згортвацца. За машынай паслаў, зараз прыедзе. А вас камбат патрабуе.

Я ўлез у змрочны равок, навобмацак пераняў з рукі Мухі тэлефонную трубку.

— Ты дзе там блудзіш? — загучаў устрывожаны голас камбата. — Гадзіну чакаць цябе трэба. Зараз жа згортвай баявы парадак, грузі боепрыпасы і — на дарогу. Чакайце мяне.

Пачыналася звычайная ліхаманка пасьпешлівых збораў. Зь цьмяным сьвятлом падфарнікаў прыпоўз на агнявую аграмадны “студэбэкер”, другі побач пабрыў каля плота ў суседні разьлік. Гэты пачаў разварочвацца, здаваць да агнявой задам; неўзабаве праз расчынены борт хлопцы ўзяліся грузіць цяжкія скрынкі нерасстраляных снарадаў, брызэнты, зброю, markрознае салдацкае майно. Усе працавалі радасна і спорна, бо падобна было на тое, што рушым ня ў бой, а мабыць, з бою, туды, дзе ўжо скончылася вайна. Урэшце канец вайне, і мы ўсе жывыя, здаровыя. Во дзіва дзівоснае! Цуд!

У маёй душы быў вэрхал пачуцьцяў — радасьць перамогі ўсё ж засмучалася клопатам ростані. Ведаў, адчуваў, што паедзем адсюль. Але куды? Ці далёка? Я хацеў вярнуцца сюды, мне дужа патрэбна было тое. Хоць на гадзіну, хоць на пятнаццаць хвілінаў. Я ж нічога не сказаў ёй. І нічога ад яе не пачуў.

Не стрываў, пакуль чакалі другую гармату, я выбег на пустку і прыпусьціў да мастка. Брамка на гэты раз была не зачыненая, і толькі я ўскочыў на падворак, як расчыніліся дзьверы у катэдж. На парозе стаяла Франя. За ёй нерухома шарэлі два цені яе старых.

— Франя, мы едзем!..

Франя маўчала. Застыла, бы зьнямелая, і не краталася.

— Мы едзем! Ты чакай! Я вярнуся...

Зь цемры вэстыбюля на мяне пазіралі старыя, і я, недарэчна засаромеўшыся, нават не пацалаваў яе. Толькі абняў крышку за плечы ў цесных дзьвярах і адхіснуўся. Я ня мог бавіцца тут: на дарозе, чуваць

было, пачынаўся ўжо рух, ішлі аўтамашыны. Некаторыя нават сьвяцілі фарамі, чаго ніколі не было на фронце. Ужо ж, мабыць, сапраўды вайна скончылася. Я перабег масток і ўскочыў на шырокую падножку “студэбэкера”, што з маёй апошняй гарматай вырульваў на шашу.

Над горнай далінай днела: праясьнелася неба, на закрайку яго цьмянымі зубамі вяршыняў азначыліся горы. Бліжняя гара за катэджам яшчэ ўся была, бы змрочны маналіт — і гара, і дрэвы пад ёй. Толькі шэры сілуэт катэджа вылучаўся сьвятляваю плямай на змрочным, зьлітым у адно фоне. Здаля я усё пазіраў туды, намагаючыся згледзець маленькую постаць на ганку, ды нічога ня згледзеў. Яшчэ б паўгадзіны пастаяць тут, калі б лепей стала відаць...

Але паўгадзіны нам не далі. Нейкая шалёная пасьпешнасьць запанавала на дарозе, адны машыны пад'яжджалі, спыняліся, іншыя, абмінаючы іх, шалёна кіравалі далей. Старэйшыя афіцэры падганялі — хутчэй, хутчэй! Камбат накрычаў на мяне за спазьненьне, хаця, як я прыехаў зь дзьвюма гарматамі, батарэя яшчэ колькі хвілінаў нікуды ня рушыла. Чагось чакала. Але зьвягі і крыкі камбата былі для мяне звыклыя, на іх крыўдаваць не належала. Крыўда і шкадаваньне дапякалі за іншае, і тое іншае засталося ззаду. Бы штось адчувала мая душа, ды не магла хіба вымавіць, каб я зразумеў выразана. Толькі шчымела нутраным невыразным болем.

Нейкі час полк ліхаманкава выцягваўся ў паходную калёну. Паўз “студэбэкеры” з гарматамі на прычэпе па ўзбочыне праімчаў “віліс” камбрыга, які штось крыкнуў з машыны, але я не зразумеў, што. Мая ўвага ўжо была скіраваная наперад, дзе ў ранішняй шэрані стаяў на дарозе камбат, і аднекуль ля яго зьявілася знаёмая кругленькая постаць заўжды жвавага капітана, нашага палкавога “сьмершаўца”. Трафэйнага “хорха”, аднак, не было відаць. Штось яны нядоўга там гутарылі, хаця, здаецца, болей гаварыў “сьмершавец”, камбат заклапочана слухаў. Затым абодва павярнуліся тварамі назад, быццам уставіліся позіркамі ў кагось у калёне,

здалося — ці не ў мяне? Але, можа, толькі здалося, бо абодва ня рушылі зь месца. “Сьмершавец” расшпіліў тонкую пляншэтку, што заўжды боўталася на ягоным задзе, штосьці каротка пазначыў на паперыне, у якую зазірнуў і камбат. Што яны там запісвалі, і што ён усё капаў між людзей, гэты нястомны барацьбіт са шпіёнамі? Цікава, ці бачыў ён хоць аднаго зь іх у сваім жыцьці? Я падумаў, што, як камбат застанецца адзін, падыду да яго, запытаю. Ды не пасьпеў. Падалі каманду “Па мясцох!”, і я пасьпяшаўся зьбегчы з дарогі.

Нарэшце неяк няўпэўнена, з прыпынкамі, рушылі разьбітаю вуліцай гарадка ў бок недалёкай перадавой. Пакуль я выглядваў “сьмершаўца”, у кабіну майго “студара” ўлез пасажыр — наш палкавы прапагандыст, маёр з мудрагелістым прозьвішчам, якога я ня мог запомніць. Я змушаны быў прыткнуцца на пляскатым крыле ля фары, як нярэдка езьдзіў на перадавой. Цёплаю парой тут было ня горш, чым у кабіне, ды й зручней было пры нечаканым абстрэле саскочыць на зямлю. Належала толькі трымацца. Перад тым як рушыць, ніхто з камандзіраў не сказаў нічога, але калі рушылі адкрыта, значыць, немцы не супраціўляліся. Яны зьніклі. За дашчэнту разьбітымі дамамі ўскраіны пераехалі лінію акопаў нашай пяхоты, якой ужо там не было, затым і нямецкую лінію. Нямецкія акопы выглядалі, як пры пасьпешлівым адступленьні — скрозь валялася вайсковае майно, зброя, скрынкі боепрыпасаў; упоперак бруствэра на сошках стаяў нарыхтаваны да бою кулямёт з абвіслай у акоп стужкай, поўнай патронаў. Але салдатаў нідзе не было відаць — ні жывых, ні забітых. Здаецца, учора, расстраляўшы збольшага боекамплект, яны падаліся на захад. На сустрэчу з амэрыканцамі. З намі яны сустракацца не захацелі.

Ужо добра разьвіднела, хаця сонца з-за гор яшчэ не паказалася, і ў горнай даліне панавала прахалодная засень. Мы няхутка ехалі па асфальтавай шашы на захад, мінулі першы не крануты вайной гарадок з дбайна дагледжанымі дамкамі ў стылі фахвэрку абапал вузенькіх вулічак, зь цёмнай кірхай сярод купкі

разложыстых дрэваў. Людзей было мала відаць, але скрозь з бальконаў і вокнаў зьвісалі белыя прасьціны — знакі капітуляцыі. Пасьля сталі трапляць і людзі — старыя, дзеці і жанчыны; з расчыненых вокнаў яны махалі нам і ўсьміхаліся. А некаторыя плакалі — відаць і такое. Салдаты з кузаваў махалі ў адказ, выкрыквалі самае цяпер зразумелае "Гітлер капут!" ці яшчэ што — вясёлае і гарэзьлівае. Усім было весела і радасна — вайне нарэшце канец.

За тым гарадком дарога павярнула ўгору, пачаліся павароты — то ўправа, то ўлева. Нечакана на горным схіле калёна спынілася: наперадзе за паваротам пачуліся гарматныя выбухі, усе насьцярожыліся. Я саскочыў з крыла, думаў, зараз будзе якая каманда, можа, прыйдзецца адчапляць гарматы. Але ніякай каманды не падавалі. Афіцэры павылазілі з машынаў, пасталі на ўзбочыне, узіраліся наперад. Некаторыя ішлі далей, дзе было начальства і дзе раздаліся гэтыя нечаканыя выбухі. Што там адбывалася, было невядома. Я таксама прайшоў трохі ўздоўж батарэйных машынаў і згледзеў наперадзе свайго камбата. Разам з камандзірам першай батарэі яны ўсё ўзіраліся ў галаву калёны, мабыць, таксама чакалі якога сыгналу. Гэтыя два афіцэры, два капітаны з выгляду былі дужа розныя — маленькі хударлявы камбат-1 і цыганскага выгляду, камлюкаваты камбат-2. Зь іх ціхай гаворкі было зразумела, што нас абстраляла нямецкая самаходка, якая, аднак, змоўкла. Экіпаж яе, пэўна, даў драла. Так што нявартa хвалявацца, зараз паедзем. І праўда, неўзабаве з галавы калёны прагучала каманда "Па машынах!" Камандзір першай батарэі пабег да свайго "студэбэкера", а мой трохі затрымаўся, усё ўзіраючыся наперад.

— Капітан, хачу запытацца.

— Што? — павярнуў да мяне незадаволены твар камбат.

— Што гэта тут асабіст раніцой высьледжваў?

— А ты ня ведаеш, што? — камандзір батарэі ўпёрся ў мяне нядобрым позіркам. — Не адчуваеш?

— Не адчуваю, — сказаў я, пачынаючы, аднак, здагадвацца.

— Зь якой гэта ты зямлячкай там зьнюхаўся?

На хвіліну я анямеў — так яно і казалася, як я меркаваў. Я моўчкі чакаў, што яшчэ скажа камбат, але ён таксама змоўк, мабыць, пашкадаваўшы, што і без таго сказаў шмат.

— Зноў жа, бацькі твае дзе? На акупаванай тэрыторыі пражывалі?

— Пражывалі. Ну?

— Во табе і ну! — няпэўна скончыў камбат і крута павярнуўся да свае машыны. Наперадзе ўжо загырчалі маторы, здаецца, калёна рушыла.

Я подбегам вярнуўся да машынаў свайго ўзвода і зноў ускочыў на шырокае крыло “студэбэкера”. Вось табе і радасьць: называецца, сустрэў зямлячку. Ды яшчэ й бацькі на акупаванай тэрыторыі. Але дзе тыя бацькі, што я пра іх ведаў? Думаў, прыеду пасьля вайны, буду шукаць. Нехта ж павінен ведаць, як і дзе яны прапалі летась пад Ушачай. Былі ў партызанах, ды зьніклі. Магчыма, у час прарыву зь нямецкага акружэньня. Можа, загінулі, а можа... Тое можа дацінала мяне ўжо паўгода. Шкада, на парозе міру рушыліся ўвогуле нармальныя адносіны з камбатам, які яўна злаваў на мяне, мабыць, з падачы асабіста. Хаця з ягонай падачы як не зазлуеш? Тут не на жарт спалохацца можна.

Калёна рушыла далей, і неўзабаве мы ўбачылі тую самаходку, што абстраляла нашую калёну. Экіпажа яе там ужо не было, самаходка стаяла пакінутая за рэчкай на схіле. Зрэшты, шкоды яна нам не ўчыніла. А на другім павароце пад абрывам ляжала ў рэчцы нашая перакуленая трыццацьчацьвёрка, і горны паток булькатаў ля яе гарматнае вежы. Здаецца, там засталіся і танкісты, — відаць, надта пасьпяшаліся да перамогі.

Мы зноў зьехалі ў даліну, на раўнейшае, машыны

прыбавілі хуткасьці. Я ўсё сядзеў на крыле, трымаючыся за абрашотку фары. І раптам мы ўбачылі немцаў. Немалая калёна іхнай пяхоты маршавала акрай дарогі, зважліва прапускаючы нашыя аўтамабілі, — зморыныя, схуднелыя, аброслыя шчэцьцю твары, — бязладны, прытомлены строй. Усе абвешаныя шынялямі, коўдрамі, тарбінамі з паходным майном, але бяз зброі. Ужо раззброіліся. Нібы палонныя. Ці падрыхтаваліся ў палон. Афіцэраў было мала відаць — дзе-нідзе збоч калёны тупаў абыякавы да ўсяго лейтэнант ці обэр-лейтэнант з адной-дзьвюма бубкамі на кароткіх пагонах. Нашыя салдаты з машынаў свавольна крычалі ім “Гітлер капут!”, яўна выказваючы тым і радасьць, і зьдзек, і зласьлівасьць. Немцы амаль не адказвалі, толькі засьцярожліва пазіралі на сваіх учарашніх ворагаў і тупалі сабе далей. Тады салдаты, па-дурному жартуючы, пачалі крычаць звыклае для немцаў “Хайль Гітлер!”, ускідваючы ўгору руку. І некаторыя зь немцаў стрымана адказвалі сваё “хайль”, няўпэўнена рухаючы ўгору рукой. Як на запясьцях некаторых відаць быў раменьчык ад гадзіньніка, нашыя стукалі зьверху ў кабіну “Стой!”, шафёр прыпыняў машыну, нехта саскокваў на дарогу і кідаўся ў нямецкі наўтоп. Неўзабаве зьяўляўся адтуль з гадзіньнікам, а то й двума ў руках, ужо на хаду чапляўся за борт “студэбэкера”. Камандзіры сёньня зрабіліся надзіва добрыя і глядзелі на тое паблажліва, некаторыя й самі выскоквалі з кабінаў. Мой маёр-прапагандыст таксама разы два вылазіў на дарогу. Аднаго разу, вярнуўшыся, кінуў на сядзеньне новы, сталёвага колеру афіцэрскі плашч, а ў другі, мабыць, таксама разжыўся гадзіньнікам. Увогуле мне рабілася сумна...

Так мы даехалі да чарговага гарадка і спыніліся на яго ўскраіне. Далей было не прабіцца, ды, мусіць, ужо й не было патрэбы куды прабівацца. Усе вуліцы, цэнтар і наваколльле былі поўныя войска: пяхоты, артылерыі, некалькі 76-мм самаходак, грузавікоў, “вілісаў” і “доджаў” начальства. Начальства дзе на машынах, а дзе пехатой упарта прабівалася наперад, на бераг ракі, дзе раней за нас зьявіліся амэрыканцы. На чорным шыкоўным “хорху”, усё сыгналячы, каб саступілі

дарогу, хутка праехаў знаёмы ўсьмешысты маёр, брыгадны “сьмершавец”. Цяпер ён, аднак, не ўсьміхаўся, выглядаў аж надта заклапочаны за ветраным шклом аўтамабіля, — мабыць, спазьняўся на сустрэчу. Ці яшчэ куды. На мяне ён і не зірнуў нават, і я падумаў: хоць бы так і не заўважаў ніколі.

Нашая калёна трохі пастаяла на ўезьдзе ў гарадок, а затым нехта з начальства павярнуў яе ў бакавы завулак. Неўзабаве мы апынуліся на гарадзкой ускраіне, ля шырокай надрэчнай лугавіны. Не пасьпелі выраўняць у які-небудзь парадак аўтамабілі з гарматамі, як нас апанавалі вясёлыя людзі ў нябачанай, спартыўнага крою форме, грубых груваcткіх гамашах, яшчэ болей груваcткіх касках з чахламі. То былі амэрыканцы. Яны адразу кідаліся ў абдымкі зь першым, хто ім трапляўся насустрач — салдат ці афіцэр, гучна ляскалі па плячах, штось ва ўсё горла крычалі на незразумелай мове. Нешта разумеў па-ангельску толькі мой пасажыр-маёр, і яны пасьля першых ягоных словаў з радасным крыкам пачалі кідаць яго ўгору, бы найвялікшага савецкага героя. Нашыя салдаты сьпярша неяк нясьмела паддаваліся іх весялосьці, пасьля пачалі сьмялей і ахвотней, гучна здароўкаліся і таксама па-свойму крычалі, бы да глухіх. Некаторыя з гасьцей ужо паўзлазілі на нашыя машыны, аднекуль зьявіліся бутэлькі ды салдацкія пляшкі, ужо налівалі ў кварты, а то і жлукцілі па чарзе з бутэлек. Лугавіна ўмомант ператварылася ў гаманкі бязладны кірмаш, замест вазоў застаўлены вялізнымі “студэбэкерамі” з гарматамі на прычэпе. Ніхто не камандаваў, не імкнуўся навесьці парадак. Тут былі толькі малодшыя афіцэры, камбаты і ўзводныя, старэйшыя камандзіры кудысь пазьнікалі, мабыць, туды, дзе быў мост цераз раку і дзе цяпер адбывалася галоўная сустрэча.

Але нам і тут хапала радасьці. Некалькі амэрыканцаў, здаецца, ужо на добрым падпітку, апынуліся перад маёй машынай і ўжо весела гарланілі, двое абдымаліся з тэлефаністам Мухам. Аказваецца, гэтыя разумелі па-польску, таксама, як і Муха, што трапіў у полк з польскай арміі. І ўжо там чутна было, як гучала “Бардзо

прошэ”, “Пан капрал”, “германско быдло”. Убачыўшы мяне, Муха радасна растлумачыў:

— Таварыш лейтэнант, во дзіва! Землякі! Іхныя бацькі з-пад Познані. Во ромам частуюць...

Адзін з тых землякоў — расхрыстаны, плячысты вярзіла ўжо соваў мне вялізную бутэльку, у якой яшчэ штось плёскалася, а Муха падахвочваў: “За пабеду, лейтэнант!” І я выпіў — без вялікай ахвоты некалькі глыткоў цёплага сьмярдзючага пойла. Пасьля мяне спаважна выпіў сяржант Мядзьведзеў. Затым аднекуль зьявілася алюміневая пляшка, жвава пайшла па руках. Муха раздаваў невядома дзе ўзятыя цьвёрдыя кавалкі шакаляду — на закусь. Мы яшчэ выпілі, і ля мяне апынуўся здаравенны белазубы негр, увесь у хакі, пачаў бесцырымонна мацаць на грудзях маю “чырвоную зорку”.

— Прэзэнт, сэр афіцыр? Эс, прэзэнт? Эс?

Я не разумеў, што значыць — прэзэнт? Ці ня хоча ён атрымаць у падарунак мой ордэн? Сапраўды, мабыць так. У адплату ён ужо скінуў з рукі мэталічны бранзалет гадзіньніка і соваў мне. Як было ад яго адчапіцца? Іншыя, аднак, не адчапляліся, скрозь адбываўся п'яны абмен сувэніраў — гадзіньнікаў, зорак зь пілотак, дзягаў і нават пісталетаў. Гляджу, мой ціхі Кананок ужо прыцэльваецца кудысь у кузаве з ладнай амэрыканскай вінтоўкі, выменяў ці што? Не наваяваўся хлопец. Побач сядзіць на борце і паблажліва ўхмыляецца расхрыстаны амэрыканец.

— Ну, яшчэ трохі прымем за пабеду, — трохі разьвязна соваў мне пляшку Мядзьведзеў.

— Давай!

Чорт яе бяры, сапраўды перамога. Найвялікшая перамога ў найвялікшай вайне. Давай, Мядзьведзь, будзем піць. За тых, хто ніколі ня вып'е.

І я выпіў, ці ня першы раз са сваім падначаленым,

камандзірам гарматы. Увогуле тое не было ў нас прынята — піць з падначаленымі. Калі й пілі, дык болей з роўнымі сабе: узводныя — з узводнымі, камбаты — з камбатамі. Але тут такая падзея — канец вайны. А мы зь Мядзьведзевым болей за чатыры месяцы кожны дзень і кожную ноч разам. У адным акопчыку і ля адной гарматы. А з адной пляшкі выпіваць не даводзілася.

— Усё ж маглі ў адной яме ляжаць, — сказаў Мядзьведзеў, боўтаючы паднятую пляшку і быццам не адважваючыся дапіць.

— Пад Шаманторніяй?

— Пад Шаманторніяй гэтай. Там я ўжо не спадзяваўся. Нявыкрутка поўная.

Так, ён казаў праўду, на Шаманторнію я не забыўся. У час веснавога прарыву нямецкіх танкаў нашую гармату адрэзалі ад сваіх, мы суткі праседзелі ў кукурузе, ужо не спадзеючыся выбрацца жывымі. Наперадзе на вышыні былі немцы, ззаду на дарозе нямецкія танкі, наш цягач “студэбэкер” згарэў яшчэ ранкам ля пераправы. І мы апанурыліся. Тады Мядзьведзеў кажа: трэба, як пацямнее, паслаць каго ў пяхоту, каб далі чалавек пяць, і тады б мы паспрабавалі выкаціць гармату. Так і зрабілі. Паслалі Сьцяпанава, той прабраўся між нямецкіх танкаў і прывёў чатырох зь пяхоты; пад ранак у тумане мы неяк выкацілі з кукурузы нашую гармату і прабраліся да сваіх. Нават нікога ня страцілі. Але натрываліся — дай Бог! Уранку па той кукурузе ўжо гойсалі нямецкія грэнадзёры.

Якраз да нашае вясёлае купкі далучыўся і Сьцяпанаў — дужы, немалады ўжо малодшы сяржант з ордэнам Славы на зашмальцаванай гімнасьцёрцы — гэта за той яго ня надта звычайны подзьвіг. Зьлез з машыны Кананок. На гэтым кірмашы гарэзнае весялосьці ён выглядаў нейкім найменш радасным, заўсёдная яго ўсьмешка сёньня сышла з курносага твару, і я разумеў, чаму. Скончылася вайна, а ў хлопца ніводнага мэдаля, што, пэўна, яго засмучала. Казалі: не заслужыў. Праваяваў зіму побач з усімі, як і ўсе, трываў пад агнём,

але во — не заслужыў. Бо малады і сьціплы. Хаця галоўнае — заслужыў жыцьцё, ці гэта не найбольшая ўзнагарода для кожнага салдата?

Наўкола гуў, гаманіў, мітусіўся салдацкі наўтоп. Салдаты нашай ды іншых батарэяў палка перамяшаліся з амэрыканскімі, якіх прымалі сапраўды як братоў, — гаманілі, абдымаліся і пілі разам зь імі. Але і між сабой у нашых бруіла ніколі дагэтуль ня чутая радасьць. Дзесьці зводдаль ужо гарланілі “Кацюшу”, а бліжэй узьнікала новая песьня, якую пачынаў прыгожы барытон батарэйнага запявалы:

*Пакахай мяне, салдацік,*
*Буду вернай жонкаю...*
*А забудзеш — толькі разам*
*З роднаю старонкаю...*

Мядзьведзева, падобна было, хмель браў ня хутка, выглядаў ён цьвярозым і ціхім голасам прамаўляў мне:

— Заміраецца — прыяжджай на госьці. Калі можна, зь сям'ёй. Ці адзін. Я ж каля Цяляцкага возера жыву.

Тое я ведаў. За зіму і вясну даволі ўжо наслухаўся пра яго возера, поўнае рыбных цудаў і незямной прыгажосьці. Але сяржант і зараз ня мог стрымацца, каб не напомніць пра тое.

— Гэта ж возера — цуд. Першае месца займае па хараству.

— Можа, і прыеду, — сказаў я няпэўна.

— А чаго? Малады, жаніцца трэба. А ў мяне глядзі — і нявеста гатовая. Тоська мая якраз упару...

Я ведаў і пра ягоную Тоську. Мядзьведзеў быў удвая старэйшы за мяне, меў дарослую дачку і сына-кулямётчыка, што загінуў пад Сталінградам. Засталася адна дачка, во ён і стараўся годна ўладкаваць яе ў жыцьці. Але наўрад ці я гадзіўся ў жаніхі да алтайскіх нявестаў.

Ззаду між мной і Мядзьведзевым праціснуўся санінструктар Пятрушын — зь перакручанай на галаве пілоткай і счырванелым тварам. Гэты ўжо быў на добрым падпітку.

— Чур, Мядзьведзь, не сватай дачку лейтэнанту. Мне абяцаў.

Мядзьведзеў толькі паморшчыўся ад п'янага нахабства.

— Зашмат хочаш, — ціха вымавіў ён і працягнуў мне пляшку. — Дык вып'ем, лейтэнант.

Здаецца, я і яшчэ выпіў зь Мядзьведзевым, а пасьля і са зважлівым Кананком і нават зь Пятрушыным. Я ўжо не злаваў на санінструктара, тым болей, што ён не злаваў на мяне і сам мне пра тое сказаў. Падобна, пасьля мы нават абдымаліся зь ім, і ён усё пахваляўся, як яго паважаюць афіцэры; начальнік санслужбы заўжды вітаецца зь ім за руку. Ужо п'яным позіркам я згледзеў перад сабой хісткую постаць маёра-прапагандыста, — здаецца, поруч з камбатам ці яшчэ з кім, каго я ўжо не пазнаў. Марудна, але пэўна я адключаўся, прыхінуўшыся да крыла “студэбэкера”. Нейкі час яшчэ чуў вялікую гаману побач, як скрозь пілі, сьпявалі, сьмяяліся. А некаторыя і плакалі п'янымі гаручымі сьлязьмі. Аж покуль узварушаную лугавіну не змарыў п'яны сон.

Як я заснуў, дык і не прыкмеціў, але прачнуўся раптам на золку. Намацаў ля галавы вялізнае пыльнае кола “студэбэкера” і, неяк учапіўшыся за яго, сеў.

На ўсёй лугавіне стаялі ўразброд нашыя “студэбэкеры”, ніхто іх не параўняў, — як учора паставілі, так і засталіся. І між іх, пад станінамі гарматаў, на стаптанай траве, у кузавах і парасчыняных кабінах ляжалі, спалі, храплі салдаты — савецкія ўперамешку з амэрыканскімі — хто дзе і хто як. Побач выцягся той учарашні нэгр, што хацеў у мяне выменяць ордэн; на ягоныя ногі ўзьлёгся хтось з нашых, пад ім, утаптаны ў зямлю, валяўся чыйсьці карабін. Кабур у амэрыканца ўжо быў пусты і расшпілены, — мабыць, ужо падарыў камусьці

свой кольт. Ці памяняў на гэты іржавы карабін. Я з натугай падняўся на ногі. Балела галава, нязвыклая слабасьць адчувалася ў целе. Але новае памкненьне адразу ахапіла мяне. Я памятаў прыкладна, зь якога боку мы сюды прыехалі і хістка пабрыў у тым накірунку. Абыйшоў “студэбэкеры” сваёй батарэі, нідзе ня зглелзеў камбата і падумаў, што так, можа, і лепш. Праўда, натыкнуўся на знаёмыя боты санінструктара Пятрушына, які, зьвесіўшы ногі з расчыненай кабіны, салодка спаў на мяккім сядзеньні. Мусіць, перабраў, — падумаў я, хоць сам быў ня ў лепшым стане.

Сонным правулкам, скрозь застаўленым пераправачнымі амфібіямі, выйшаў на галоўную дарогу. Усюды было пустэльна й бязьлюдна, бы пры канцы сьвету. Скрозь усе ўсюды спалі, — у машынах, на падворках ды, мабыць, і ў дамах таксама. Пасьля вялікай натугі-вайны.

Апанаваны пэўнаю мэтай, я пабрыў па дарозе на ўсход. Раз за разам азіраўся, чакаючы, што недзе зьявіцца якая машына. Ды не зьяўлялася, не даганяла, нідзе не было ніякай. Тым часам зусім разьвіднела, блакітнае ранішняе неба было без адзінай хмурынкі. Першы дзень міру, вялікі дзень перамогі. Урэшце наперадзе зьявіўся нейкі аўтамабіль з двума афіцэрамі ў кабіне, але ён ехаў насустрач. За ім праз працяглы час паказаліся два прысадзістыя аўстрыйскія аўтамабілі з кузавамі, поўныя вызваленага эўрапейскага люду. Іх было чутна здалёк, яны гарланілі свае песьні, ім было весела. Я ўсё спорна крочыў і крочыў, пакуль гарадок не застаўся далёка ззаду. Дарога стромка прастала па ўзьбярэжжы даволі шырокай ракі. На тым яе беразе, здаецца, таксама пралягала шаша, і дарожны рух там быў нашмат большы, чым тут. Аўтамабілі так і снавалі ў абодвух кірунках, і я здагадаўся, што там — амэрынкацы. Рака сталася мяжой паміж дзьвюма зонамі.

Але што было мне рабіць? Здаецца, я памалу цьверазеў пасьля ўчарашняга і ўсё выразьней адчуваў авантурнасьць майго намеру. Гэтак пехатой я не дайду,

усё ж мы далекавата ад'ехалі ўчора ад нашага апошняга рубяжа. А калі і пашэнціць урэшце з машынай, дык ці спраўлюся я ўпару. Усё ж, як ні круці — я ў самавольнай адлучцы, і ў палку хутка заўважаць маю адсутнасьць. Мабыць жа, пачнуць урэшце цьверазець пераможцы. Начальства прымусіць.

Але й вяртацца ўжо не было як — не дазваляў гонар.

Мусіць, калі надта патрэбна, дык Бог памагае. Праўда, не заўжды ў час, бывае зь немалым спазьненьнем. Калі ўжо позна і пакарыстацца той боскаю міласьцю. Як нашаму камбату Рукавіцыну. За баі на Днястры паслалі на Героя, так хацеў камбат атрымаць залатую зорку, ды загінуў пад Секешфехерварам. Толькі пахавалі, як прыйшоў указ. Ды каму ён тады быў патрэбны? Так прыкладам падумаў я, і тады ж, азірнуўшыся, убачыў машыну. Толькі падняў руку, як машына згодна затармазіла і мякка спынілася на шашы. Гэта быў магутны ЗІС, з кабіны якога высунулася вясёлая галава ў аблезлай пілотцы.

— Што, лейтэнант? Сядай, пракачу.

Цераз задні борт я ўскочыў ў кузаў, амаль увесь заняты нейкаю старасьвецкаю шафай ці буфэтам з пазалочанымі выкрунтасамі на шкляных дзьверцах; ля самай кабіны тырчэлі яшчэ тры нейкія скрынкі. Месца для пасажыра тут увогуле не было, толькі ззаду ля борта заставалася нешырокая шчыліна, у якую ўціснуліся мае ногі. Трымацца не было за што, і я няспрытна абапёрся рукамі аб сьлізкі бок шафы.

— Во, будзеш трымаць, каб не пасунулася. А то стукнецца, каму адказваць?

Аказваецца, і ў дзень перамогі ня ўсе пілі-елі, падумаў я. Некаторыя займаліся іншымі справамі. Але хай, на здароўе... ЗІС няшпарка каціўся па неблагой дарозе, вясновы вецер прыемна абвяваў мой спатнелы на хадзе твар. Маё жаданьне ўсё ж абяцала зьдзейсьніцца, я быў амаль задаволены. “Пакахай мяне, салдацік, буду вернай жонкаю. А забудзеш — толькі разам з роднаю

старонкаю”, — само сабой сьпявалася ў душы. Не, я цябе не забуду, мілая дзяўчынка, запэўніваў я сябе. І ўсё ж нейкі цьмяны, самотны неспакой трывожнымі токамі перадаваўся маім адчуваньням, усё карцела — хутчэй! Я баяўся спазьніцца.

— Перамога, лейтэнант! Глядзі ты, дажылі аднак! — празь вецер ляцеў голас з кабіны, таксама да паловы закладзенай нейкімі пакункамі.

Насустрач пайшлі машыны — легкавыя, штабныя, грузавікі. Гэтыя са спазьненьнем таксама імкнуліся за перамогай, на спатканьне з саюзьнікамі. У вокнах аднаго трафэйнага аўтобуса мільганулі вясёлыя дзявочыя твары і данеслася музыка — там граў гармонік. Мабыць, які армейскі ансамбаль, здагадаўся я, з тых, што натхнялі нас на перамогу. Спазьніліся, аднак, на вялікае спатканьне, трэба было раней.

У знаёмым, бязьлюдным учора гарадку цяпер ва ўсю буяла ажыўленьне, сапраўдны вулічны фэст, зь безьліччу людзей і, як я зразумеў, ня толькі аўстрыйцаў. Сюды зьбіраліся, здаецца, з усяго навакольля, зь недалёкіх горных паселішчаў. На плошчы ля кірхі замільгалі сьцягі — францускі трыкалёр, ангельскі і яшчэ незнаёмы нейкі. Гэта тоўпіліся іншаземцы, сагнаныя Гітлерам з усёй Эўропы для працы на вайсковых заводах. Цяпер яны вольныя і імкнуцца дадому, кожны ў сваім кірунку і пад сваім сьцягам. Мне таксама трэба было дамоў, але мая чарга яшчэ не настала. Зноў жа мяне тут чакала яна.

Трохі ад'ехаўшы ад люднай плошчы ЗІС крута завярнуў на нейкі прасторны падворак і стаў. Вясёлы шафёр саскочыў на брук.

— Прыехалі! Табе куды, лейтэнант?

— Мне далей.

— Што, у армейскі тыл? Не, туды я ня еду.

Заклапочаны, я азіраўся па баках. У двары ўжо стаялі

два “студэбэкеры” — пусты і чымсьці гружоны. Але куды яны едуць? І калі? Запытаць не было ў каго. Я абыйшоў іх з другога боку і пад тынкаванай сьцяной убачыў ровар. Жоўтыя, з дрэва ў елачку дзьверы, ля якіх ён стаяў, былі зачыненыя, ніхто адтуль не выходзіў. Я асьцярожна ўзяў ровар і разьвярнуў яго колам да вуліцы. Ніхто мяне не спыніў, не крычаў, і я пакаціў на асфальт.

Сьпярша імчаў, колькі было сілы, шалёна круціў пэдалі. Затым замарудзіў. Усё ж за мной ня гналіся, мабыць, можна было і спакайней. Сустрэчныя аўтамабілі ў асноўным шыбавалі па сваім баку і дужа не заміналі. Толькі аднойчы на павароце я ледзьве разьехаўся з шалёным “доджам”. Адкуль чулася п'яная гамана — пяцёра афіцэраў з бутэлькай сьвяткавалі перамогу. Вакол рассьцілаўся маляўнічы ляндшафт горнай даліны з парослымі хвойнікам схіламі гор; дзе-нідзе ўдалечыні на ўзьлесках відаць былі белыя й шэрыя забудоўкі з шырокімі дахамі; вуліцы прыдарожных паселішчаў упрыгожвалі стракатыя фасады ў стылі фахвэрку. Удалечыні з-за сьнегавых вяршыняў неяк раптоўна выкаціла сонца і зноў, як нядаўна, ударыла ў твар зыркім сьляпучым праменьнем. Сонца з усходу. Там была мая радзіма — бяз гор і прыгожых забудовак, са сваім мілым для мяне зялёным хараством. Цяпер я вярнуся туды. І не адзін.

Памалу акрыяўшы, той мой намер умацоўваўся ўсё болей, перарастаючы ў пэўную нязрушную мэту. Як яе ажыцьцявіць, было ня дужа зразумела. Але мэта аформілася і ўсё болей прарастала ў сьвядомасьць, рабілася неадчэпнай. Адчуваў, адкладваць нельга, задуманае трэба ажыцьцяўляць зараз жа. Дый чаму не? Вайна ж скончылася. Мне было крыху за дваццаць гадоў, і я яшчэ не спазнаў каханьня. Не было калі й не было каго пакахаць. Неяк у шпіталі пад Знаменкай дужа спадабалася медсястра Нюра з фізкабінэту. У яе разьвівалі недалечаныя рукі-ногі, круцілі “веласіпед”, сьціскалі нейкія спружыністыя “раскарэкі”, Аднойчы я зь ёй пасядзеў на дзяжурстве, пагаварылі, дужа яна здалася мне ласкавай. Яна й сапраўды была ласкавая,

ды, на бяду, не да мяне аднаго. Нeяк яна дала мне рапіру і прапанавала пафэхтаваць зь ёю. Фэхтавальшчык я аказаўся няўдалы, яна лёгка і ня раз укалола мяне. Але з таго фэхтаваньня я, здаецца, гатовы быў пакахаць яе. Пакуль не пабачыў, як яна фэхтуе з параненым у галаву капітанам-лётчыкам. Мабыць, той быў спрытнейшы за мяне ва ўсіх адносінах і, як ён выпісаўся, сястрычка паехала зь ім са шпіталю. У авіяцыйны полк. Я ж яшчэ застаўся далечваць маю прастрэленую руку. Нюра была ладная спартовая дзеўка, у тым уся справа.

Я прамінуў яшчэ адзін невялікі гарадок у даліне — купку белых і шэрых дамкоў-катэджаў. У вокнах і на гаўбцах матляліся на ветры белыя прасьціны: людзей, аднак, было відаць малавата. У дварах і на ўзбочынах дзе-нідзе стаялі нашыя вайсковыя аўтамабілі, ля іх варушыліся-снавалі вайскоўцы, тут ужо ўладкоўваліся тылы. Мяне ніхто не спыніў ні разу, не запытаў, куды еду. Што значыць — канец вайне! Калі яна доўжылася, хоць тут, за мяжой, ці на нашай зямлі, у тыл за два-тры кілямэтры ад фронту паткнуцца было немагчыма. Скрозь заслоны, шлягбаўмы, кантроль і праверка. Нават параненым трэба было мець дакумэнт — картку перадавога раёну. Крывавая рана яшчэ нічога ня значыла. А цяпер... Хаця ўсё зразумела — вайна ж скончылася.

Вось нарэшце й той наш гарадок — ушчэнт разьбітаю вуліцай ён узьнік з-за павароту. Я пераехаў лінію нямецкіх акопаў, пасьля сваіх. Знаёмая вуліца, як і ўчора, была густа закіданая ўжо раструшчаным коламі друзам, кавалкамі дахоўкі; патыхала гаркотай недагарэлых пажарышчаў. Гэтаму не пашэнціла, напасьледак не ўбярогся, як уберагліся тыя, што ад яго на захад. Лёс гарадоў, мабыць, як і лёс людзей, асабліва ў вайну. Але шчасьце, што ацалеў знаёмы зарэчны катэдж — з-за разьбітага дому на рагу я адразу ўбачыў яго пад гарой, і сэрца маё радасна заляскатала ў грудзях.

Аднак, штось мяне трывожна штурханула знутры, як я

згледзеў з мастка напаўрасчыненыя дзьверцы брамкі. Заўжды яны былі зачыненыя, і я пералазіў цераз іх зьверху. Кінуўшы на зямлю ровар, я подбегам патрухаў да блізкіх дзьвярэй. Але дзьверы... Што гэта? Чаму ўвесь ніз іх выламаны, а каменная сьцяна побач чарнее агнянай падпалінай? Яшчэ не разумеючы, што гэта магло азначаць, я піхнуў разламаныя дзьверы нагой і ступіў у знаёмы, як і тады цемнаваты, вэстыбюль.

І адразу ўбачыў яе.

Яе маленькае, бы ў падлетка, цела зьнерухомела на сьлізкіх плітках падлогі якраз на сярэдзіне вэстыбюля, дзе ўчора стаяў круглы столік. З усёй вопраткі на ёй засталася толькі разадраная на грудзях кофтачка, кароткія русявыя валасы разматляліся вакол закінутай на падлогу галавы, на востранькім падбародзьзі сьцёк і запёкся струменьчык сукравіцы. Шырока расплюшчаныя вочы невідушча глядзелі ў змрок высокага падстольля.

Я не дакранаўся да яе, толькі апусьціўся побач на кукішкі і сядзеў так, глядзеў, аглядаў яе мёртвы тварык і ня ведаў, што мне рабіць — плакаць ці, можа, крычаць? Дужа карцела выць і крычаць. Але хто мог пачуць мой крык, зразумець зьдзічэлы мой боль? Страшэнную несправядлівасьць гэтай пагібелі? Вайны ці жыцьця наогул...

Калі надыйшло нейкае адхланьне, я ўстаў і ўпершыню азірнуўся наўкола. У вэстыбюлі панаваў разгон. Усе дзьверы шафы былі расчыненыя, вакол на падлозе валяліся кнігі. Лёгкія зэдлікі ляжалі ў розных месцах вэстыбюлю, століка чамусьці нідзе не было відаць. Два скураныя крэслы, што стаялі каля сьцяны, былі ссунутыя са сваіх месцаў, зь іх парэзаных сядзеньняў тырчэў віты дрот спружын. Марудна адыходзячы ад раптоўнай прастрацыі, я зазірнуў праз расчыненыя дзьверы на кухню, дзе таксама ўсё было параскідана, посуд пабіты, мэбля перакуленая. У наступным, болей прасторным памяшканьні, мабыць, была сталовая з даўгім сталом пасярэдзіне і цёмнымі карцінамі на сьценах. Пустая, аздобленая залатой лепкай рама

ляжала на стале, крэслы былі паваленыя і бязладна валяліся па ўсім памяшканьні. А ля наступных дзьвярэй з-за стала вытыркаліся на паркеце доўгія ногі ў чорных з цёмна-сінімі лямпасамі штанах. Доктар Шарф быў застрэлены ў галаву, і лужынка крыві расьцяклася ад яго да дзьвярэй. Я прачыніў тыя дзьверы і адчуў перашкоду, далей якой яны не адчыняліся. Праз шчыліну аднак стала відаць у доле беленькая, бы дзьмухаўка, галоўка фраў Сабіны. Яна таксама была нежывая.

Я хадзіў пасярод гэтага дзікунскага разгрому, перабіраў невідушчым позіркам раскіданыя, патаптаныя, папсаваныя рэчы, вопратку, мэблю і не разумеў нічога. Я быў панішчаны, зьдзіўлены і прыгаломшаны. Хто гэта ўчыніў? За што? Скончылася ж вайна, як жа так? Ці гэта помста, ці рабаўніцтва? Ці, можа, палітыка? Зноў выйшаў у вэстыбюль. Абыякавая да ўсяго Франя ціхенька ляжала на ранейшым месцы. Дык вось як ёй наканавана скончыць жыцьцё. І калі! Напрыканцы вайны. На парозе міру. Калі ў мяне нарадзілася спадзяванка на тое жыцьцё. А ёй менавіта ў такі час суджана было памерці. У свае васямнаццаць гадоў...

Я роўненька склаў уздоўж цела яе маленькія рукі, самкнуў разам яе голыя, скрываўленыя ногі. Нелюдзі і гады! Гады і нелюдзі! Хто б яны ні былі — нашыя ці немцы! Бальшавікі ці фашысты. Чаму не разьвярзьнецца зямля, не праглыне іх? Я падняў побач скамячаны квяцісты абрус са століка і роўненька накрыў ім Франю. Але што было рабіць далей?

Дужа пакутна было пазіраць на гэты разгромны вэрхал, бачыць нерухомыя скрываўленыя целы. За вайну я нямала нагледзеўся на забітых, расшкуматаных снарадамі людзей — сваіх і немцаў. Але то былі мужчыны і салдаты. Тут жа маленькае юнае дзяўчо, маё нечаканае каханьне. Мне патрэбна была дапамога, хоць бы якое душэўнае апірышча. Калі б побач былі сябры ці хоць бы мае хлопцы з узвода. Але іх не было, а што я мог адзін? Ісьці на дарогу, дзе сноўдалі аўтамабілі невядомых вайсковых частак, прасіць афіцэраў — хто зь

іх зразумеў бы мяне?

Што-небудзь тлумачыць я ня меў сілы. Ды і каму тут справа да гэтай трагедыі ў багатым катэджы? З гэтымі аўстрыякамі ды іхнай служанкай? Мясцовыя ўлады? Дзе мне шукаць іх? Ды і ці ёсьць яны тут, у гэтым разьбітым, учора яшчэ франтавым гарадку? Мабыць, тут панавала бязладзьдзе, і гэтая трагедыя — найперш вынік менавіта таго бязладзьдзя.

Можа, трэба было ехаць у полк? Але полк быў далёка, і я ня мог кінуць тут Франю ды і гэтых няшчасных яе старых. Мабыць, трэба было даць ім якое рады. Апошняй на гэтай зямлі.

Ня ведаючы яшчэ пэўна, па што, я пабрыў у гарадок. Не па той зруйнаванай вуліцы, зь якой прыехаў сюды — пайшоў перавулкамі па-над рэчкай. Тут пашкоджаных дамоў трапляла менш, некаторыя былі з глуха зачыненымі аканіцамі і выглядалі пакінутымі. Дзе-нідзе ў гародчыках, ля ганкаў чырванелі вясновыя кветкі і зацьвітаў бэз. За адным кустом ля фахвэркавай сьцяны я зглядзеў чалавека. То быў немалады аўстрыяк у капелюшы, ён падмятаў закіданы друзам падворак і зьдзіўлена знерухомеў зь мятлой у руках.

— Паслухайце, там у катэджы забітыя...

— Ніхтс фарштэйн, — выслухаўшы, крутнуў галавой аўстрыяк.

— Ну забітыя, разумееце? Морд!

— Морд?

— Ну, морд. Там, у катэджы...

— Найн, найн! — апантана закруціў галавой аўстрыяк. — Іх цывіль, нейтраль мэнш. Найн...

Не разьвітваючыся, я скіраваў далей. Чорт бы яго ўзяў, гэтага нейтральнага мэнша. Ці ён зразумеў мяне, ці не захацеў зразумець. Я перайшоў на другі бок кароценькай ускраіннай вулічкі. Якраз на рагу за

невысокай цаглянай агароджай размаўлялі дзьве кабеты, і я паклікаў іх з вуліцы. Сьпярша да агароджы падыйшла старэйшая, дзябёлая кабета ў фартуху, затым да яе засьцярожліва наблізілася маладзейшая — худая і кашчавая, у мужчынскім убраньні і штанах.

— Прашу прабачыць фраў. Там — морд, разумееце? Трэба памагчы. Доктар Шарф унд фраў. Шарф унд фраў.

— Доктар Шарф! — жахнуліся кабеты. — Морд?

— Ну. Забітыя. І дзяўчына, фройлен.

Яны штось хуценька загаварылі між сабой, а я каторы раз за вайну пашкадаваў, што калісь абыякава паставіўся да нямецкай мовы. Шчыраваў у іншых школьных прадметах, а ў тым, які найбольш спатрэбіўся б на вайне, ня надта. Я стаяў і маўчаў.

— Гэр афіцыр, — кірхэ! Кірхэ, фарштэйн? — пачалі абедзьве паказваць за рог дамоўкі.

Так, я пачаў здагадвацца, што трэба ў кірху, пазелянелы шпіль якой тырчэў між уцалелых дахаў дзесь на краі гарадка. Дзіўна, што ён ацалеў у нядаўняй калатнечы, хіба яго засьцярог Бог. Яшчэ ня верачы, што там мне дапамогуць, я пабрыў туды па гарадзкіх перавулках і сапраўды праз трохі часу выйшаў да каменнай агароджы-сьцяны. Далей высіліся старыя дрэвы і за вастраверхай брамкай відаць стаў шырокі ўваход у кірху. Была яна ня дужа вялікай, даволі змрочная з выгляду і старая. Я нясьмела ўвайшоў у сярэдзіну, дзе панаваў паўзмрок і прахалода, але далей, відаць было, гарэлі сьвечкі і чуўся ціхі, напаўголаса, сьпеў. Ступіўшы з-за калёны-слупа яшчэ некалькі крокаў, я ўбачыў купку людзей, што тоўпіліся перад адкрытымі трунамі; за імі з малітоўнікам у руках стаяў сьвятар. Тут адпявалі нябожчыкаў, цывільных ці вайскоўцаў, я не разгледзеў. Мабыць, заўважыўшы мяне, аднекуль збоку зьявіўся чалавек у чорным, недаўменна прыпыніўся насупраць.

— Сьвяты айцец, — дрыготкім голасам сказаў я. — Там

морд, доктар Шарф...

— Доктар Шарф? — паўтарыў сьвятар роўным, як здалося, абыякавым голасам. — Морд?

— Морд, — сказаў я. — Фраў і дзяўчына, фройлен.

— Фройлен? Драй морд?

— Драй морд.

Кароткім рухам двух пальцаў сьвятар звыкла азначыў крыж на грудзях і нешта патлумачыў мне, хоць я й не зразумеў, што менавіта. Спакваля здагадаўся, што, мабыць, трэба пачакаць. Тады я выйшаў з гнятлівага паўзмроку кірхі на заценены дрэвамі падворак. Чакаць? Сапраўды так. Бо, мусіць жа, ім трэба аб чымсьці дазнацца, а мне штось растлумачыць. Тут жа злачынства — забойства і рабаўніцтва. Хоць сьвятары, вядома, ня сьледчыя. Але ж...

Так разважаючы, я нядоўга стаяў перад старой, бы закапцелай ад часу кірхай, і каторы раз пакутна спрабаваў зразумець: хто? Хто іх панішчыў — і гаспадароў, і дзяўчыну? Ці ўсе былі выпадковыя бязьвінныя ахвяры, ці тут быў які пэўны лягічны намер? Можа, вінаваты ва ўсім той прыгожы знадворку катэдж? У нядобры час, відаць, атрымалі яго гэтыя Шарфы ў спадчыну. Хаця... Падумаўшы, няцяжка было здагадацца, хто мог тое ўчыніць. Ужо такое здаралася і ня толькі на аўстрыйскай зямлі. Летась на фармоўцы пад Луцкам перад строем палка былі расстраляныя двое з транспартнай роты. Гэтыя ўволю павесяліліся — напіліся і згвалцілі на хутары жанчыну, забілі яе сына-падлетка. Праўда, тыя не рабавалі. Мабыць, не было што. Тут жа зьявіліся немалыя магчымасьці і знайшліся такія, што не супроць пакарыстацца імі. Тым болей у логаве зьвера, нялюдзкім буржуазным грамадзтве...

Бедная Франя! Ратавалася ад вайны ў Эўропе, ды менавіта ў Эўропе вайна дагнала яе. Але чаму менавіта яе? Я ж во меў болей падставаў на сьмерць, а жыву.

У кірху прайшлі яшчэ дзьве кабеты ў чорных капелюшах, зьдзіўлена паўзіраліся ў мяне, — мабыць, зусім недарэчную тут істоту. Я й сам увесь час адчуваў сваю тут недарэчнасьць, але я чакаў. На вялікую прыязнасьць, вядома, разьлічваць не даводзілася. Хоць яны й ня ведалі пэўна, хто ўчыніў разбой у кватэры Шарфа, але, мабыць, здагадваліся. А можа, і падазравалі. Таму я чакаў тут, ля кірхі. Калі ўжо чаканьне маё гатова было скончыцца, аднекуль з завулку да брамы пад'ехала фура. Два біцюгі, ледзьве варушачы тоўстымі, як бёрны, нагамі, пакорліва спыніліся насупраць. З пляскатай фуры саскочыў чалавек з паголеным тварам і бэрэтам на галаве. Убачыўшы мяне штось замычэў, замахаў рукамі, і я здагадаўся, што гэта — нямы.

З кірхі выйшаў той самы сьвятар, які са мной ужо гутарыў.

— Он прывазіт вэрсторбэнэ* кірхэ бегрэбен**, — сказаў сьвятар.

* *Нябожчыкі.*
** *Хаваць.*

Здаецца, я яго зразумеў і выйшаў з-пад аркі. Нямко тым часам заляскаў раменнымі лейцамі, і мы рушылі па-над агароджай. Я ішоў наперадзе, фура ўвесь час адставала. Мусіць, я залішне сьпяшаўся, а магутныя біцюгі не маглі хутчэй.

Усё ж мы дабрылі-даехалі да злашчаснага катэджа над рэчкай. Тут усё было, як раней, калі я яго пакінуў. Мы зь нямко спыніліся перад дзяўчынай, і я прыўзьняў абрус. Згледзеўшы нежывую Франю, нямко загергетаў штось невыразнае, роспачнае, запляскаў аб сябе рукамі, выказваючы тым сваё гняўлівае пачуцьцё. Я свае пачуцьці, як мог, таптаў на сподзе душы, паказваць ці перажываць іх я ня меў ўжо сілы. Удвух мы асьцярожна паклалі дзяўчыну на абрус і, трохі загарнуўшы, панесьлі на фуру. Тут ўжо я ня мог стрымаць слёз, і не пасаромеўся нямога. У каторы раз я праклінаў усё на сьвеце. І сябе ў тым ліку. Навошта

было яе кідаць тут, трэба было ўчора забраць. Дык пабаяўся, пасаромеўся. Сваіх хлопцаў, камбата, “сьмершаўца”. Цяпер вось не саромеюся, і не баюся. Нікога. Але што карысьці... За Франяй гэткім жа шляхам на тым самым абрусе перанесьлі ў фуру доўгае цела доктара Шарфа і ягонае фраў. На шырокай фуры хапіла месца для ўсіх. Нямко накрыў абрусам нябожчыкаў, і мы рушылі тым жа шляхам да кірхі. Нямко зь лейцамі ішоў па адзін бок фуры, а я — па другі. Дзе-нідзе з падворкаў і вокнаў на нашую сумную працэсію пазіралі людзі, рэдкія жыхары гэтага горадка. Я ж не пазіраў нікуды. Брыў, бы сьляпы, не адчуваючы ні вуліцы, ні людзей, ні перамогі. Здаецца, я выпаў з часу і перастаў адчуваць сябе. Мяне ашукалі. Людзі ці лёс. Ці вайна. А можа, перамога, якую цяпер безь мяне сьвяткавалі на той лугавіне. Мне ж выпала іншае сьвята. Чорнае сьвята бяды.

Як мы прыехалі да кірхі, зь цьвінтара выносілі труны тых, каго адпявалі раней. Мы трохі счакалі, і тады да нашае фуры падступілі людзі. Безь вялікага смутку яны агледзелі забітых, штось коратка перагаворваліся, уздыхалі і жагналіся. Я стаяў збоку і чакаў, што яны падступяцца да мяне — можа, з крыўдай, папрокам ці лаянкай. Але ніхто на мяне не зважаў. Быццам і не прыкмячаў нават. І я думаў: няўжо яны столькі пахавалі, што ім ужо нічога не цікава? Хто і чаму забілі? Хаця што б я сказаў ім? Што я сам ведаў? Па адной труне яны пераносілі нябожчыкаў за кірху. Я туды не пайшоў, толькі адыйшоўся пад засень дрэваў і назіраў здаля.

За кірхай прыткнуўся да каменнай агароджы невялічкі могільнік — дужа акуратныя, пасыпаныя жарствой дарожкі, заімшэлыя магільныя камяні з аблезлымі надпісамі, прысадзістыя лютаранскія крыжы з чорнага і шэрага мармуру. У дальнім канцы могілкаў, дзе ўжо не было дрэваў, цяпер хавалі. Раскапаная зямля, чалавек пяць жанчын у чорным убраньні. Ці ня там пахаваюць і маіх нябогаў? І Франю. Я хацеў пайсьці паглядзець тую мясьціну, ды не адважыўся. Я мусіў быць паблізу ад уваходу ў кірху.

Я ня ведаў, што рабілася ў сярэдзіне кірхі, куды мяне не паклікалі і я ня йшоў. Я ўсё ня мог саўладаць сам з сабою. Часам гатовы быў зарыдаць, ды не рыдалася. Здушыла штосьці ў горле і не адпускала. І я хадзіў так па дарожцы ля кірхі — узад і ўперад. Людзі, што заходзілі з вуліцы ці выходзілі з кірхі, не пераставалі са зьдзіўленьнем пазіраць на мяне. Але ніхто не запытаўся нічога, быццам для іх усё было надта звычайнае. І тое, што тут хаваюць, і што тырчыць ля кірхі савецкі афіцэр. А можа у той іх няўвазе было пэўнае стаўленьне? Я б не хацеў тое прызнаць, хоць і цалкам адмовіць таксама не было падставы.

Зрэшты, людзкія адносіны да мяне цяпер ня дужа мяне цікавілі. Адзіная мая цікавасьць была цяпер у царкве. Дзеля яе я тут і хадзіў — сюды і туды, туды і сюды. Я прыпамінаў начны аповед Франі, нашыя зь ёй размовы. А таксама словы, сказаныя небаракам доктарам Шарфам. Тады я не пярэчыў ні наконт міру, ні наконт вайны. Усё ж вайна для нас вялікая школа, я шмат што спасьціг на вайне. Нават і ў яе апошнія дні. Найперш тое, што нічога ня трэба баяцца. На вайне табе нічога ня зробяць, апроч як заб'юць ці параняць. Тое і другое надта ўжо проста, амаль прымітыўна. Здаецца, аднак, толькі пасьля вайны з твайго жыцьця могуць зрабіць пекла. Калі не захочацца і жыць.

Можа, праз гадзіну ці дзьве мяне паклікалі, і я зразумеў, што набліжаецца самае важнае. Сунуўшы ў кішэню зьнятую з галавы пілотку, увайшоў у паўзмрок кірхі. Там ужо чакалі мяне два сьвятары. Худзенькая белатварая манашка ў чорнай хустцы была за перакладчыцу.

— Хай пан скажа, як былі змарлыя людзі, — зьвярнулася яна чамусьці па-польску. Сьвятары ўважліва пазіралі на мяне.

— Я ня бачыў, — хрыпата адказаў я. — Як прыехаў, яны ўжо былі мёртвыя. Іх забілі.

— Хто іх зрабів змарлымі?

— Ня ведаю.

— Какой імець канфэсія маладая паненка?

— Хто ведае. Можа, каталічка.

— Добжа, — сказала манашка і штось загаманіла да сьвятароў па-нямецку. Тыя згодна паківалі галовамі. Болей яны нічога не запыталіся, мабыць, тая справа для іх была ўжо звыклая. Яны падаліся да нябожчыкаў, і тады я зірнуў у труну, што была на краі. Да падбародзьдзя прыкрытая чымсь, Франя ляжала ціхенька, нібы жывая, і толькі прыкідвалася мёртвай. Прыкідвалася, аднак, назаўжды.

Купка людзей, што была ў кірсе, пачала адпяваньне. Я не разумеў словаў, але ад шчымлівай мэлёдыі адразу пачало выварочваць душу. Дужа баяўся не стрымацца, баяўся заплакаць. Сьлёзы засьцілалі зрок, я ледзьве стрымліваў іх, каб не паплылі з вачэй. Дзіва, што навакол ня плакаў ніхто, толькі сьпявалі, быццам у якім экстазе, і гукі анёльскага харалу самотна луналі пад цёмным скляпеньнем кірхі. Можа, гэта было апошняе пахаваньне вайны. Спазьнелае пахаваньне. Злыя сілы вайны дабіралі свае ахвяры. Быццам ня ўсё дабралі за чатыры гады.

Як пачалі зачыняць векамі труны, я памкнуўся бліжэй, ды спазьніўся і Франі больш не пабачыў. Чорнае века назаўжды схавала яе ад мяне. Людзі ўзяліся паднімаць труны, каб вынесьці іх. Усё ж мужчын тут было няшмат, труны выносілі па адной. Як паднялі труну з Франяй, я таксама падставіў плячо. Труна была ня цяжкая, хіба вялікаватая для маленькага цела дзяўчыны. Мабыць таму, як ішоў, здалося, што яна там варушыцца. Але варушылася, мусіць, ад нашых нязладных крокаў. Мы абыйшлі кірху і жвіровай дарожкай патупалі ў самы канец могілак. Ля каменнай сьцяны ў куце было ўжо накапана некалькі купін-магіл — тых, каго тут пахавалі раней. З апошніх магіл узьлятаў угару жвір, то заканчвалі сваю працу два далакопы. Адзін зь іх быў той самы нямко ў сінім бэрэце, зь якім мы езьдзілі па забітых. Франіну труну мы паставілі на дол ля яе

магілы, і мужчыны вярнуліся да кірхі па астатнія. Трохі разважыўшы, я пайшоў зь імі.

Калі ўсе труны былі вынесеныя, сьвятар з крыжам у руках сказаў сваю казань, усе захрысьціліся. Я таксама перахрысьціўся. Затым тройчы перахрысьціў труну Франі. Далакопы на вяроўках хутка і спрытна апусьцілі труну ў яму.

Ну во і ўсё.

Як апусьцілі астатніх, я ўжо не глядзеў. Я закопваў Франю. Гарнуў і гарнуў рыдлёўкай на чорную накрыўку труны. Як яна схавалася пад жвірам, крыху перадыхнуў і пачаў сунуць жвір зноў. Так да самага верху магілы. З рэшты жвіру, наскрэбенай побач, змайстраваў кароценькі, бы дзіцячы, пагорачак — якраз у рост Франі. Заплаканая кабета ў чорным шаліку зводдаль моўчкі перахрысьціла мяне. Што ж, дзякуй табе, добрая аўстрыячка. І пухам табе аўстрыйская зямля, мілая мая зямлячка.

Ні з кім не разьвітаўшыся, я зморана пабрыў да брамы. Было не да разьвітаньняў, не да падзяк. Не хацелася болей чуць нічыіх і ніякіх словаў. Ні нават бачыць людзей. Я чуўся спустошаным і зьнясіленым. Толькі адыйшоўшыся па завулку ад кірхі, надзеў на галаву пілотку і азірнуўся. Гэтак звычайна рабіў на вайне, калі куды меў патрэбу вярнуцца — каб лепей запомніць шлях. Сюды я павінен быў вярнуцца. Я меў цьвёрды намер на тое.

І — не вярнуўся ніколі.

## Балота

Выбраўшыся са змрочных, воглых на ранку лесавых нетраў, дзе яны праблукалі палову начы, Гусакоў апынуўся на краі жытняга поля і аж уздыхнуў з палёгкай – тут хоць стала відаць. Наперадзе, над прысмужанай сцяной суседняга лесу, паўзло ўгару

зырка-агнянае кола летняга сонца. Промняў ад яго яшчэ не было ў чыстым пагодным небе, якое шырока залілося над лесам ранішняй чырванню і хутка святлела. Святлела і ў полі, дзе жытнёвыя нівы-палоскі чаргаваліся з ячменнымі, пшанічнымі, а то і бульбянымі ніўкамі. Зусім як калісь у аднаасобніцкай Заходняй Беларусі, дзе Гусакоў бліз году служыў у пагранкамендатуры. Але тут не заходняя, тут павінна быць усходняя, тут тыя ніўкі даўно павінны быць перааранымя трактарамі, а зямля абагульненая ў калгасы. Другі раз за сённяшнюю ноч яго агарнула трывога: а ці туды яны трапілі? Першы раз ён затрывожыўся, калі на вялізным скошаным лузе, дзе яны прызямліліся на парашутах, іх ніхто не спаткаў, ніякага партызанскага дазору там не было. Праўда, не было і нямецкай засады. У глухой цемры яны паспелі сабраць свае надзімастыя парашуты і пасля трохі завалтузіліся ў балацявіне, пакуль патапілі іх пад лазовым кустоўем. Добра намоклі прытым, ён набраў у боты вады, а ягоны памагаты Агрызкаў аж да пояса ўваліўся ў багну. Зрэшты, тое – бяда не вялікая, дзень абяцаў быць пагодны – высахнуць. Горай, што ўначы нельга зарыентавацца, вызначыць, дзе яны і куды патрапілі. Заставацца на лузе было небяспечна, і яны па компасе рушылі хмызнякамі на захад. Пасля ўзбіліся на палявую дарожку, і яна прывяла іх у стары хвойны лес, з якога ўрэшце выбавіліся ў гэтае жытняе поле.

Трохі счакаўшы спадарожнікаў, Гусакоў памалу пайшоў па жытнёвай мяжы, сцёбаючы воглымі з начы ботамі ў рамонках, васільках ды іншых палявых красках, усё ўзіраючыся наперад, каб не наткнуцца на якую нечаканасць. Найбольшая небяспека, вядома, ішла ад людзей. Людзі, канешне, могуць быць розныя – партызаны, падпольшчыкі, але ж, мабыць, нямала і здраднікаў ды паліцаяў, спатыкацца з якімі зусім нс выпадала савецкаму камандзіру Гусакову. Уначы, ведама, было лепей, ноч памагала, але як было мінаваць дзень? Можа, лепей перадняваць, зарыентавацца па карце і пасля рашаць, куды ісці далей, думаў Гусакоў. Бо ўжо было пэўна, што яны апынуліся не там, дзе павінны былі апынуцца і дзе іх

чакалі. Але хто ў тым вінаваты? Канешне, летуны. Ім абы куды скінуць, а там як хочаце, – хоць у палон да акупантаў. Яны дакладуць, што заданне выканана, – рыхтуйце ўзнагароды. Хто іх праверыць? А тут выгрэбвайся як умееш.

У полі яны пайшлі рэдкім ланцужком на дыстанцыі бяспекі, – як і належала паводле партызанскай інструкцыі, якую тры дні перад вылетам вывучаў Гусакоў. Там было ўсё вызначана: як зарыентавацца ў лесе па пні спілаванага дрэва, як пры сырых запалках распаліць вогнішча, як правільна закласці толавую шашку пад рэйку ды шмат што іншае. Але не было сказана, што рабіць, калі цябе не спаткалі там, дзе павінны былі спаткаць. Або як знайсці ў гэтых лясах патрэбную базу, калі яна строга засакрэчаная. Кажуць, – компас, ідзі па компасе. Але што компас, калі невядома, дзе ты ёсць, дзе апынуўся пасля шаталомнай начы? Застаецца хіба – ісці ў вёску і пытацца ў якой цёткі: дзе знаходзіцца партызанская база?

Во становішча! І гэта ў першыя суткі пасля прызямлення. Жытнёвая ніўка канчалася, у канцы яе цямнела прывабная здаля купка маладога бярэзнічку, і Гусакоў павярнуў туды. Трэба было памеркаваць, што рабіць далей.

Пад бярозкамі ляжаў густы росны засень, ён тут няблага туліў ад наваколля, у якім непадалёк за жытам вытыркаліся вяршаліны бухматых дрэваў. «Ці не ад якой вёскі?» – з засцярогай падумаў Гусакоў перш чым апусціцца на дробную траўку долу. Неўзабаве падышоў старшына Агрызкаў, – статны, крутаплечы хлопец у юфтовых ботах. Ні пра што не пытаючыся, ён зняў з пляча свой ППШ і як быў – з цяжкаватым рэчмяшком за спіной адкінуўся на траву. Яны моўчкі аддыхваліся, чакалі трэцяга з іхняе групы – фельчара Тумаша, чалавека старэйшага за іх абодвух, канешне ж, з запасных, якога належала даставіць партызанам.

– Што? – хрыплавата вымавіў той, валюхаста датэпаўшы да астатніх. – Перакур?

– А ты курыш? – перапытаў яго Агрызкаў. Пазнаёміліся яны толькі на аэрадроме перад тым, як скокнуць у ноч, раней Тумаша нават не бачылі і цяпер прыглядаліся да новага чалавека. Які ён?..

– Я дык не куру, – мовіў Тумаш. – Але ж вы, мабыць, курыце?

– І мы ня курым, – сказаў Агрызкаў, з асалодай выцягваючыся ў доле. – Курыць урэдна для здароўя.

– Яно так. Здароўе і партызану не шкодзіць...

Гэта была звычайная балбатня падначаленых, якія ні за што канкрэтна не адказвалі. Не тое што камандзір групы, галава якога трашчала ад нязбыўнага клопату, што гэтак знянацку на іх зваліўся. Яго спадарожнікі ляжалі сабе, з асалодай выцягнуўшыся на траўцы, счакаўшы і Гусакоў зняў з-за плячэй свой рэчмяшок, расшпіліў кірзовую палявую сумку, з якой найперш выняў даволі пакамечаную за дарогу карту і разгарнуў на траве.

– Ну што там? – лежачы, азваўся Агрызкаў. – Далёка топаць яшчэ?

– Спярша трэба ўведаць, дзе мы? – азваўся Гусакоў. – Гэта як мінімум.

– А максімум?

– А максімум – той жа мінімум, – загадкава патлумачыў начальнік.

– Да-а... Раздалбаі летуны...

Пэўна ж так, раздалбаі лётчыкі. Нельга ж дапусціць, што іх не спаткалі партызаны. Такога не магло быць... А можа, і было – і тое і гэта зусім нават магчыма, нечакана падумаў Гусакоў. Працуючы ў штабе партызанскага руху, ён ужо што-колечы чуў пра летуноў, як і пра партызанаў таксама. Але і Агрызкаў павінен быў што-нішто ведаць, бо хоць за лінію фронту выпраўляўся ўпершыню, усё ж служыў у дыверсійным

аддзеле. Ня тое што Тумаш.

– Доктар, ну як ты скокнуў? – звярнуўся да яго Агрызкаў. – У штанах суха?

– Ды скокнуў! – адмахнуўся Тумаш. – Добра, што ноч, ні чарта не відаць. А ўдзень усё магло быць.

– У некаторых горай бывае, – тонам бывалага парашутыста сказаў Агрызкаў. – І ўначы тожа.

З выгляду яны быццам бесклапотна перагаворваліся, а твары ў абодвух былі напружаныя, і ўсё часцей абодва пазіралі і на камандзіра, ад якога залежала цяпер усё наступнае. Ды і што ён мог ім сказаць? Колькі хвілін ён вывучаў карту, і ўсё больны неспакой агортваў яго – ніводнага знаёмага арыенціра. Ні лугу, ні лесу, ні якога падобнага да гэтага поля. Яўна карта ніяк не дастасоўвалася да канкрэтнай мясцовасці. Дзе тая, патрэбная ім дарога да возера, дзе Востраў Барок ва ўрочышчы Багавізна, што зялёнаю плямай балота заняло палову аркуша карты? Дзе яны ў натуры? У якім накірунку? На захад, поўдзень, усход? Куды ім кіравацца далей? Мусіць, сапраўды давядзецца ісці ў вёску.

– Старшына! – клікнуў камандзір з ціхай рашучасцю. – Трэба вызначыцца.

Агрызкаў адразу насцярожыўся, хаця і не скрануўся з месца.

– Гэта як?

– Трэба спытацца, якая то мясцовасць. Якая вёска?

– А дзе вёска?

– Там, за полем.

Старшына пачаў уставаць – відаць было, марудна і неахвотна. Седзячы, начапіў на сябе рэчавы мяшок, падняўся на адно калена, затым на другое.

– Рэчмяшок пакінь. Тумаш возьме.

Борзда скінуўшы з плячэй цяжкі рэчмяшок, Агрызкаў з аўтаматам у апушчанай руцэ паціху пайшоў па мяжы жытняй нівы. З-пад нізка навіслага веццяя Гусакоў прасачыў за ім аж пакуль той не схаваўся за збажыной.

– Да-а, – няпэўна зазначыў Тумаш. – Як цяпер быць? Камандзір нервова перасмыкнуў тварам. Фельчар яўна разьлічваў на размову ці хоць бы на адказ, але Гусакову было не да размовы. Свой клопат ён прывык трываць моўчкі і менш ім дзяліцца з кім бы то ні было. Тым болей з чалавекам староннім ці падначаленым. Зрэшты, на тое самае напіралі і ў асобым аддзеле, куды яго выклікалі перад вылетам і дзе ён пакінуў немаведама якую па ліку «падпіску аб неразглашэнні». Кепска, што ягоных спадарожнікаў у каманду сабралі паспешліва, мабыць, каго трэба было тэрмінова перапраавіць у партызанскі тыл, карыстаючыся ягонай камандзіроўкай. Інструктаж давалі кароткі, для адчэпнага, як, зрэшты, і яму таксама. Хаця хто думаў, што ўсё так атрымаецца? Ён ужо ведаў, як гэта небяспечна блукаць па варожым тыле, поўным нямецкага войска, паліцыі, розных мясцовых здраднікаў. Але ж во давялося... Як цяпер выйсці з такога становішча?

– Тумаш, ты дзе ваяваў? – запытаўся Гусакоў, уважліва зірнуўшы на фельчара, на яго зморшчаны, мабыць, нядаўна абгарэлы, чырвоны твар.

– Ды ў танкавай брыгадзе.

– Танкіст, значыць?

– Фельчарам быў.

– Панятна, – сказаў Гусакоў і падумаў: трэба было яго, а не старшыну паслаць у вёску, бо старшына, хоць і назваўся разведчыкам, аднак ці не трапіў у тую разведку ўпершыню?

Ведама, тут назвацца можна як хочаш – дакументы і

пагоны яны здалі ў штаб і з выгляду былі ўсе роўныя.

Засцярожліва азіраючыся па баках, Агрызкаў выйшаў з-за жытняе нівы і стаіўся пад грушкай.

Грушка была маладая, нізкарослая і бухматая на сонечным прыволлі, калючае яе суччаа абвісала да самага долу і добра затуляла чалавека. Наперадзе за платамі і агароджамі ляжала невялічкая прылесная вёска – агароды, бульбоўнікі, далей – хлеўчукі і будынкі пад саламянымі стрэхамі, за імі некалькі высокіх дрэваў. З закапцелага коміна крайняе хаты віўся ўгару слабы дымок, гатаваўся сьняданак. А за плотам, сярод бульбяных баразнаў хадзіла танклявая, мабыць, не старая яшчэ кабета, штось узіралася долу, часам нагіналася, поркалася ў баразёнках. Болей паблізу ў вёсцы нікога не было бачна. Збоч, крыху наводшыбе ля кустоўя пасвіўся прывязаны на вяроўку конь. Каб там быў чалавек, Агрызкаў падышоў бы да яго, занытаў. Ды чалавека ля каня не было, зыачыць, давядзецца яму гукнуць тую цётку. Ён, аднак, не спяшаўся, лежачы пад грушкай, чакаў, калі кабета падыдзе бліжэй. Сонца ўжо даволі высока паднялося ў небе і няблага прыгравала ягоныя плечы, штаны ззаду і боты памалу падсыхалі пасля начнога купаньня ў балоце. Агрызкаў думаў, што ўвогуле то – кепскі знак, такі няўдалы пачатак. Галоўнае – не было сувязі. А ён ужо чуў, як нядаўна гаварыў ягоны начальнік генерал, што без сувязі ў тыле ворага – вельмі блізка хана. Можна аддаць жыццё за радзіму. Агрызкаў аддаваць сваё жыццё не хацеў. Нават і за сваю савецкую радзіму. Ён хацеў жыць.

Яшчэ ён чуў, што нямала ў іх справе залежыць ад тых, хто побач, з кім ісці на заданне. Іхняя група яму не надта падабалася, калі не сказаць – не падабалася зусім. Не кажучы ўжо пра абгарэлага фельчара, які так сабе, збоку-прыпёку. Гэтаму абы дабрысці да якіх партызанаў ды там і застацца. А не ўдасца да партызанаў, дык няблага патаварышавацца і з паліцаямі-немцамі. Цяпер фельчары-дактары патрэбныя ўсім – мусіць, пораненых ды трыпернікаў даволі і ў тых, і ў іншых.

Агрызкаву не надта падабаўся і камандзір, гэты штабны пацук, які намагаецца камандаваць, але без патрэбнай рашучасці. Зрэшты, тое і зразумела: каб мець рашучасць, трэба ведаць куды ісці, а ён хіба ведае? Перад адлётам у асобым аддзеле яму сказалі: за камандзіра адказваеш галавой. Найперш нельга дапусціць, каб высокія ўрадавыя ўзнагароды трапілі ў рукі ворага. Калі такая небяспека надарыцца, ведаеш, што трэба зрабіць? Агрызкаў зрабіў выгляд, што ведае і не мае патрэбы ў тлумачэньнях.

Мабыць, ён доўга праляжаў пад грушкай, а цётка ўсё не падыходзіла да плота, калупалася на сярэдзіне бульбоўніку. Тады Агрызкаў падняўся і, затуліўшы за бокам аўтамат, паціху пайшоў да гародаў. Кабета пакуль што ня бачыла яго і ён змушаны быў ціха гукнуць:

– Цётка, можна вас на мінутку?

Спалохана войкнуўшы, кабета згледзела яго за плотам і кінулася па бульбоўніку да падворку. Агрызкаў нягучна вылаяўся. Далей стаяць тут было небяспечна, бо чорт ведае, што наробіць тая кабета? Тым болей, калі можа стацца, што гэта сядзіба паліцая ці старасты. І ён, усё затуляючы сабой аўтамат, памалу пайшоў уздоўж плота, беручы ўбок, бліжэй да палеткаў. Добра ці не, але на гародах і на падворках быццам нікога не было і ніхто тут не згледзеў яго. Трымаючыся наводдаль, Агрызкаў памалу пайшоў у другі канец вёскі – да выгану.

Трохі яшчэ прайшоўшы па канцы агародаў, ён набрыў на нейкую сажалку з абтаптанымі жывёлай берагамі, здаецца, тут быў выган, ва ўсякім разе збажына тут канчалася. І праўда, за парослым альшынамі раўком, відаць было, пасьвіўся невялічкі статак – некалькі кароў хадзілі па сенажаці, збоч сноўдала жаночая постаць. Здаля былі чутныя абураныя покрыкі на кароў, якія, падобна, нахабна мкнуліся да жытнога. Мабыць, варта было туды падысці, падумаў Агрызкаў, мяняючы накірунак – ад вёскі ў поле.

Дзеля таго, каб патрапіць да статка, трэба было пералезьці равок, па крутаватым схіле якога трушком збег Агрызкаў. А як вылез на той бок раўка, адразу ўбачыў незаўважанага здаля пастуха. То быў хлопец-падлетак у даўгаватай, выпушчанай на штаны кашулі і насунутай на лоб вялікай, мабыць, бацькавай кепцы. Стоячы ля краю жытняй нівы, ён раздумна сцёбаў па траве кароценькай пужкай.

– Прывет, парань! – дружалюбна, амаль радасна сказаў Агрызкаў. – Не палохайся, я – партызан. Цябе як зваць?

– Косця, – разгублена прамовіў падлетак.

Косця тым ранкам устаў рана, пабудзіла маці, – падышла радоўка на пасту. Праўда, прачнуўся не адразу, і маці аж тройчы гукала яго з варотцаў у паветку, дзе ён спаў на сене. А як прачнуўся, кароў ужо выганялі, іхняя Красоля, падоеная, стаяла на падворку. Косця ўзяў з-пад страхі раменную пужку і, як быў, босы, у адной кашулі, пагнаў карову на выган.

Радоўка яму сёньня выпала з бабай Аўгустай, старой, але рухавай кабетай, якая, аднак, заўсёды дужа крычала-сварылася на неслухмяных кароў ды і на свайго памочніка-падпаска. Падпасак, ведама ж, быў у бабы Аўгусты на пабягунстве – то ідзі адвярні тую, то не пушчай гэтую. Ды чаго марудзіш, не бяжыш, малады ж яшчэ, бяжы скарэй!.. Не любіў Косця пасьвіць кароў з бабай Аўгустай, ды так выходзіла, што менавіта з ёй часцей за ўсё і выпадала.

Сама найгорш было пасьвіць каля жытнога, куды цераз узьмежак увесь час наравілі ўлезьці каровы. Тут Косця крыху пабегаў за ранак, пакуль згаладнелыя за ноч каровы трохі пад’елі, паспакайнелі, і ён нарэшце аддыхаўся якраз на жытнёвай мяжы.

Косця пасьвіў кароў, бегаў за імі, ляскаючы па касцістых азадках кароткай пужкай, але думкамі быў далёка ад гэтых кароў і гэтага поля. Болей за ўсё на свеце Косця любіў чытаць кніжкі – дзіцячыя, прыгодніцкія ці не надта цікавыя з класікі - абы-якія,

каб толькі чытаць. Да вайны ён перачытаў, мусіць, усё, што было ў дзьвюх шафах школьнай бібліятэкі, але цяпер бібліятэкі ня стала, як і самой школы, што згарэла ў першую ваенную.восень. Другую зіму Косця не вучыўся, што трэба было, рабіў дома, памагаў па гаспадарцы маці. Апроч яго ды маці, болей працаўнікоў у іх не было – Віцька яшчэ малы, а бацька... Бацьку як змабілізавалі зімой у паход па зброю, дык і прапаў. Можа, застаўся на фронце і цяпер недзе ваюе ў Чырвонай Арміі. А можа, дзе ўжо загінуў па шляху да фронту. Сусед Казлюкевіч прыплёўся па вясне з адною рукою на перавязі, казаў, што шмат іх пагінула ў Віцебскіх варотах, дзе немцы наладзілі пастку і білі з кулямётаў на лёдзе возера. Там шмат паклалі іх, бяззбройных партызанаў, што мкпулі па той бок фронту, – па зброю і боепрыпасы, якія меліся прынесці ў нямецкі тыл. Ды рэдка каму пашчасціла прынесці хоць сваю галаву. Як таму ж Казлюкевічу.

З кніжкамі цяпер была поўная нявыкрутка, чытаць не стала чаго. А дзе ў каго захавалася якая кніжка, дык курцы падралі на цыгаркі. Скурылі і ўсе падручнікі, што ў каго з дзяцей засталіся ад даваеннай школы. Добра, што ў Косці курыць не было каму, і ён свае схаваў у паддашшы. Усё ж, думаў, вайна скончыцца, і ён пойдзе ў шосты клас. Калі б не вайна, скончыў бы ўжо восьмы. Тым часам падрасце Віцька які будзе адбываць надакучныя радоўкі, а яму хопіць і дарослай працы – капаць гарод, касіць сена, малаціць снапы ды цягаць з лесу дровы. Каня ж у іх не было. Хіба што вернецца з фронту бацька...

І раптам на жытнёвай мяжы ля куста алешніку ён згледзеў чалавека, апранутага быццам ў вайсковае, нават з аўтаматам у руцэ. Здалося на момант – там недзе і бацька, – можа, далей у кустоўі і вось-вось пакажацца з-за алешынаў. Але то не бацька – бацькі там не было.

– Гэта... Падыдзі сюды, – кіўнуў галавой вайсковец. Азірнуўшыся на кароў, Косця нерашуча пайшоў за кусты, мусіць, каб ня бачна было ад вёскі.

– Пасвіш? – няпэўна запытаўся Агрызкаў, мусіць, каб пачаць размову.

– Ну.

– То якая дзярэўня? – кіўнуў ён на вёску.

– То Скрыпачы.

– Харошая назва. А дзе Багавізна, знаеш?

– Багавізна? Ды там, – махнуў рукой Косця ў бок лесу, і Агрызкаў раптам спахмурнеў, падумаўшы, ці не туды гэты хлопец паказвае, адкуль яны ішлі ноч. Але што ж тады атрымліваецца? Кепска атрымліваецца. Ды тут ужо хай разбіраецца камандзір, які іх вядзе.

– Ты гэта... Прайдзі са мной. Тут недалёка.

Косця заклапочана азірнуўся на кароў, здаецца, усе былі трохі зводдаль ад жыта, і ён памалу пайшоў за Агрызкавым, якога адразу ж прызнаў за партызана. Усё чакаў, што той скажа штось важнае ці, можа, нават каго пакажа. Але нейкі час Агрызкаў вёў яго краем жытнёвай нівы, як зразумеў хлопец, да недалёкага бярэзніку. У нядужа рослых жытніх калівах ззаду заставаўся прыкметны след, і Косця трохі сумеўся – усё ж нягожа было таптаць чужое жыта, за гэта яго маглі палаяць у вёсцы.

Як толькі яны падышлі да крайніх бярозак, Косця ўбачыў у доле яшчэ двух вайскоўцаў у зялёным убранні. Бацькі там не было.

– Вот дзярэўня Скрыпачы – паведаміў Агрызкаў, і Гусакоў незадаволена насупіў лахматыя бровы.

– А гэта хто?

– Пастух.

Хвіліну Гусакоў насцярожана моўчкі сядзеў у доле.

– Дзе Багавізна – знаеш? Урочышча Багавізна?

– Знаю, – не адразу сціпла адказаў хлопец.

– Хай пакажа, у якім баку, – запрапанаваў Агрызкаў. – Ну, там, – зноў паказаў Косця ў бок лесу.

– Ці бачылі? – зазначыў Агрызкаў. – Што ж тады атрымліваецца, камандзір?

– Ярунда атрымліваецца, – абвясціў Гусакоў. – Калі гэтаму верыць.

– Але ж нядьзя і ня верыць! Куды ж далей топаць?

Косця тым часам маўчаў, ды і што было гаварыць? Хто ў іх не ведаў, дзе і ў якім баку Багавізна, куды бабы ўлетку хадзілі на ягады, а ўвосень збіралі грыбы. Неяк перад вайной на канікулах Косця вазіў туды бацьку падшытыя гумай валёнкі, калі той з калгаснай брыгадай рабіў на лесанарыхтоўцы. Праўда, то было ўзімку, ехалі на санях праз балота, якое месцамі кепска ўмерзла, і яны каля рэчкі-балацявінкі нават уваліліся з коньмі ў багну, ледзьве выбраліся. Добра, тады з ім быў дзед Багацёнак, той ведаў на балоце ўсе летнія і зімовыя сцежкі. Дзед памёр на пачатку вайны.

– Во хлопец правядзе, – прапанаваў Агрызкаў. – А то самім глядзі, каб зноў куды не ўлезьці.

Гусакоў штосці напружана думаў, выпрабавальна-сурова ўзіраючыся ў хлопца.

– Правядзеш да Багавізны, – ні то папытаўся, ні то загадаў камандзір. Косцю на момант зрабілася горача. Ён адчуў, як штось у ягоным жыцьці можа крута зьмяніцца, але яшчэ не разумеў у які бок – горшы ці лепшы. Найперш ён адчуў, што ўсё тое дужа не ўпару: ён жа – на пасце, а там каровы, з якімі засталася адна Аўгуста. Мабыць, яна ўжо там сварыцца на ўсё поле.

– Я гэта – кароў пасу, – нясмела заўважыў ён да камандзіра, якога ўжо вызначыў пэўна ў гэтым чалавеку пры партупеі, з наганам на баку. Камандзір, аднак, ягоныя словы пакінуў без увагі. Борзда ўстаўшы на ногі, ён ужо вешаў на сябе рыштунак – зялёны

рэчавы мяшок, кірзовую палявую сумку. Тое ж самае рабілі і два яго спадарожнікі – маладзейшы, што прывёў яго сюды, і старэйшы, нават зусім стараваты дзядзька з тугой брызентавай сумкай, на баку якой шырока чырванеўся крыж. Санітар, значыцца, зразумеў Косця.

– Твой бацька дзе? – ссоўваючы наперад кабуру з рэвальверам, папытаўся Гусакоў. – Ці няма бацькі?

– У парцізанах, – ціха сказаў Косця, не ведаючы, ці казаць ім праўду пра бацьку, ці не. Але пра бацьку гэтыя болей не пыталіся, і ён змоўчаў.

– Паліцыі ў вас многа?

– Дык няма нікога. Паліцыя ў мястэчку. За васемнаццаць кіламетраў. А ў нас няма і старасты. Як парцізаны застрэлілі...

– Добра, – нарэшце пагадзіўся Гусакоў. – Тады шагам марш!

– Але ж каровы, – нерашуча прыпыніўся Косця.

– Абыдуцца без цябе каровы! – рашуча зазначыў камандзір. – Ты – вядзі. У якім напраўленні?

Ды во праз лес...

Яшчэ не ўсё разумеючы, Косця пайшоў па мяжы ў бок лесу. На хаду азірнуўся, але адсюль ягонага статку не было відаць. Непатрэбную цяпер пужку сунуў пад травяны ўзьмежак, і хлопцу зрабілася дужа не па сабе – мусіць, рабіць так было нельга. Але ж то – савецкія партызаны, ім жа трэба было памагчы, мабыць жа, справа ў іх адказная і сакрэтная. Інакш бы яны не сталі да яго звяртацца, знайшлі б каго іншага. Ужо ён не мог ад таго адмовіцца – іхняя справа, напэўна ж, важней за ягоную пасту. Можа, не разбягуцца каровы, Аўгуста неяк управіцца...

Неўзабаве яны ўвайшлі ў лес, дзе можна было ісці дарогай, але Косця збочыў на ўтаптаную між ляшчыннiку сцежку і павёў партызанаў наўпрост. Ззаду

за ім, не адстаючы, хутка крочыў камандзір Гусакоў, крыху зводдаль Агрызкаў. Апошнім не надта ўпраўна тупаў з немалым грузам на плячах і ў сумцы фельчар Тумаш.

Мясціна на хвойным грудку была даволі прыгожая. Узьнёслыя сосны ўгары, бухматыя зараснікі ляшчынніку ўнізе і на схілах раўка, дзе, пэўна ж, журчэў ручаёк і бруіла крынічка, выклікалі амаль замілаванне ў душы фельчара Тумаша. Ад пачатку вайны ён ня бачыў гэткага хараства, сярод якога некалі нарадзіўся і жыў, а ваяваць яму давялося на поўдні, на гарачыні, сярод пяску, пылу без жаднага ценю ў стэпавым бязлессі. Летні ранак увабраўся ў самую сілу, ды ў лесе не было горача, з раўка веяла прахалодай. І ўсё ж Тумаш спацеў, спацелі спіна пад нялёгкаю ношай, лоб пад пілоткай. Адно плячо млела ад почапкі санітарнай сумкі, а другое ад рамяня вінтоўкі СВТ. Як фельчару і малодшаму лейтэнанту яму ыалежала мець пісталет ТТ ці наган, ды ў шпіталі перад адпраўкай, мабыць, не знайшлося пісталета, узброілі самазараднай вінтоўкай – не мог жа ён выпраўляцца ў тыл да ворага без аніякай зброі. Праўда, у дадатак да немалое колькасці медыкаментаў у сумцы яму наклалі ў рэчмяшок яшчэ чатыры пачкі толавых брыкетаў і дванаццаць ручных гранат-лімонак – на падарунак партызанам. Падарунак – то добра, думаў фельчар, толькі вось блудзіць з ім па беларускім лесе – малая прыемнасць. Зрэшты, добра яшчэ, што ім пашчасціла з прызямленнем уначы, а то калі б патрапілі ў бой, глядзі, узляцеў бы Тумаш высока ў неба. З такім выбуховым грузам тое было зусім верагодна.

Увогуле ён меў поўнае права быць незадаволеным, калі не абураным найперш працэдурай свайго прызначэньня ў партызаны. Хто і дзе прызначыў яго ў тыл да ворага, Тумаш не ведаў і цяпер, мабыць, ужо не ўведае ніколі. Усё ж раней ён ваяваў у танкавым корпусе, цягаў танкістаў з падбітых танкаў, пакуль не падпалілі самога. Абпаленыя рукі і твар і праз дзесяць месяцаў пасля таго памятнага ранку пад Калітвой смылелі і гарэлі – часам зусім невыносна, асабліва на сонцы. Хоць

і даўно ўсё зажыло, нарасла тоненькая скура, сцягнулася, зморшчылася, брывоў ня стала зусім, а вушныя ракавіны зрабіліся маленькія. Скукожыліся, як казала хірург Міціна, што ў маскоўскім шпіталі лячыла ягоныя апёкі. А як падлячыла, Тумаша прызначылі памагаць у ардынатуры – за брата міласэрнасці. Што ж, справа была знаёмая, Тумаш не наракаў на новую службу і не ірваўся на фронт, як некаторыя маладыя. Ён лічыў, што сваё адваяваў, – за восем месяцаў хапіла яму пад завязку.

Ды во раптам спахапіліся – заседзеўся ў тыле. Надвячоркам выхаднога дня прыбегла камісарка шпіталю – хутка, тэрмінова атрымаць зброю, боезапас і – на аэрадром. Праз дваццаць хвілінаў – машына. Без разгавораў. Ён ужо ведаў, што ў войску ўсё – «без разгавораў» і ўвогуле быў заўсёды гатовы да найгоршага ва ўласным лёсе. І ўсё ж, пэўна, ён меў права ведаць – куды? Там скажуць – быў на ўсё вычарпальны адказ. Але дзе – там і хто скажа?

Канешне, не праз дваццаць хвілінаў, а гадзіны праз тры ён быў гатовы, атрымаў што было трэба і нават трохі счакаў ля прахадной, прыехаў грузавік поўны вайсковага люду. Узлезці ў высокі кузаў з яго немалым грузам на спіне было цяжкавата, але хтось падаў руку, і ён узабраўся. А трохі агледзеўся, аж здзівіўся – куды гэта трапіў? Скрозь маладыя дзявочыя твары пад новымі пілотачкамі, рыштунак на вузкіх плечуках, рэчмяшкі. І хто такія? – падзівіўся ў думках Тумаш, спярша падумаўшы – медыцына. Аказалася – не медыцына, а сувязь: радысткі, тэлефаністкі... Але куды? І хіба яго, фельчара, таксама з імі? Ды – там скажуць.

Невядома, што сказалі тым маўклівым дзяўчаткам, якіх грузавік павёз далей, а яго ссадзілі на паваротцы ў аэрапорт. Ужо вечарэла, горад застаўся ззаду, на ўзлётным полі раўлі маторы цяжкіх бамбардзіроўшчыкаў, і яго прывялі ў часовы брызентавы закутак, дзе немалады лейтэнант у лётнай фуражцы гэпнуў перад ім аграмадны ранец: «Снаражайся!» – «Што гэта?» – здзівіўся Тумаш. «Як

што? Парашут. Ці ты ня бачыў?»

Ён сапраўды першы раз у жыцці бачыў гэткую грувасткую штуковіну і няўцямна ўзяў яе ў рукі – цяжкаватая падла! Але што з ёй рабіць? «Як што? Ну і дзівак, не выпіў, а жартуе, – хіхікнуў лейтэнайт. – Ці без парашута скокнеш? Але ж, мабыць, высока»,

Зусім зніякавеўшы,Тумаш узяў яшчэ і гэтую напхануюю чымсьці торбу, ня ведаючы, куды яе прыладзіць на сябе. Спіна ў яго была ўсяго адпа і на ёй ужо груваcціўся цяжэнны рэчмяшок з толам і гранатамі, плячо ціснула не меней цяжкая санітарная сумка, на другім вісела зусім ня лёгенькая СВТ. Куды было надзяваць парашут? Тут да яго падышоў баец без пагонаў, – то быў Агрызкаў. Гэты, відаць, меў нейкі парашутны вопыт і, дазнаўшыся, што яны ляцяць разам, памог фельшару нагрузіць на сябе увесь яго рыштунак, ад якога Тумаш зрабіўся падобны да шматгорбага вярблюда. «Што, першы раз?» – папытаўся Агрызкаў і, атрымаўшы збянтэжаны адказ, толькі і вымавіў: «Да-а-а...»

Гэта яго шматзначнае «да-а-а» болей чым што іншае ўразіла, дык, мабыць жа, давядзецца ляцець. А ён у сваім жыцці ні разу не толькі не скакаў з парашутам, але і не сядзеў у самалёце. Нямала наездзіўся на фурманках і конна, калі пасвіў у дзяцінстве коней, пасля на аўтамабілях (вядома, у кузаве), наездзіўся на бране танкаў. Але не ў самалёце.

Аднак жа давялося.

У вялікай брызентавай палатцы пры святле сіняй лямпачкі іх пачалі ладкаваць па камандах.

Тады ўжо ля іх з Агрызкавым паявіўся гэты рашучы камапдзір Гусакоў, які з паперкай у руках адшукаў іх у гурце іншых і сказаў трымацца яго, не адставаць. Яны і трымаліся. Тоўпіліся ў палатцы, затым ля самалёту ў дальнім канцы аэрадрома, пры пасадцы – ля кароценькага дзюралевага трапа. У самалёце селі двума радкамі, чалавек васемнаццаць парашутыстаў, усе маўчалі. І Тумаш таксама маўчаў – што і каму ён мог

сказаць? Абвясціць, што не ўмее скакаць з парашутам, але тое, мабыць, палічылі б за сімуляцыю, за няўклюдны намер выкруціцца ад небяспечнага задання. На тое ў Тумаша не ставала адвагі, і ён рашыў: як усе, так і ён. А калі разаб'ецца, дык, мабыць, тое яму і наканавана. Не згарэў на зямлі, дык загіне ў паветры. Ды і хіба разбіцца аб зямлю горш, чым згарэць у танку? Ці быць на шмаццё расшкуматаным артылерыйскім снарадам? Мабыць, адна халера. Да пагібелі ён даўно быў гатовы.

Але спачатку яму давялося нямала адпакутаваць з іншай прычыны.

Як яны падняліся ў паветра, Тумаш аберуч ухапіўся за берагі металічнае лаўкі і ўжо не выпускаў яе да канца палёту. Увесь гэты бляшаны самалёт трэсла, бы малярыйніка ў ліхаманцы. А пасля пачало яшчэ і кідаць угару і ўніз, сюды і туды праз усё неба. Тумаш думаў, званітуе, і з усяе сілы стрымліваў знаёмыя прыступы, бо было сорамна як доктару калі б першы не ўтрымаўся. Іншыя, як ён бачыў, пачуваліся не лепей, але маўчалі, трывалі. Ну дык і ён трываў. Палёт іх доўжыўся, здавалася, бясконца, некаторыя ўрэшце і званітавалі. І калі над кабінай пілотаў замільгала лямпачка, людзі бы нават з палёгкай заварушыліся, сцяміўшы, што пакуты канчаюцца. Затое пачаліся іншыя. Для Тумаша дык пэўна яшчэ куды горшыя.

З кабіны выйшаў тоўсты лятун у футравай камізэльцы, – штось гыркнуўшы, насцеж расчыніў самалётныя дзверы. Студзёнае начное паветра шырока шыбанула ў самалёт, парашутысты адразу паўскоквалі, канцы ад іх парашутаў ужо былі ўдзетыя на агульную вяроўку ўгары. І па камандзе «Пашол!» адзін за адным пачалі знікаць у чорным прадонні начы.

Праз хвіліну ў самалёце засталіся толькі яны ўтрох, іхні палёт доўжыўся яшчэ хвілінаў дваццаць. Нарэшце настала іхняя чарга, зноў расчыніліся страшныя дзверы, праз аглушальны роў матораў Гусакоў штось гукнуў да яго і, торкнуўшы кулаком у бок, выскачыў у ветраную цемру. За ім трэба было скакаць Тумашу. Але

ён спалохаўся. Так спалохаўся, што яго бы спаралізавала, ён не мог ступіць кроку да прорвы-дзвярэй і сцяўся ля лаўкі. «Ну!» – вызверыўся тоўсты лятун. «Дык я не ўмею», – бязгучна прашаптаў Тумаш, і, мабыць, лятун пачуў тое, бо не паспеў ён яшчэ што падумаць, як атрымаў такога магутнага выспятка ў зад, што ў наступнае імгненне ўжо захлынуўся ў віхуры начнога паветра.

Усё далейшае, што з ім адбывалася, ён кепска памятаў, адчуў толькі, як паваліўся ў нейкую калючую траву – трава, мабыць, яго і ўратавала. Парашут яшчэ трохі пацягнуў яго па зямлі і паволі абвяў у зацішным прыцемку. Гусакоў з Агрызкавым, што прызямліліся раней, адшукалі яго на лузе, памаглі сабраць слізкія пухіры парашута. «Хутчэй, хутчэй, не адставай, матаем адсюль», – шэптам камандаваў Гусакоў.

І яны адматалі па начы, можа, кіламетры чатыры ці болей. Напаткаўшы балацявіну, хуценька патапілі ў ёй свае парашуты і шыбанулі далей за камандзірам, які ж, пэўна, ведаў, куды іх вёў. Аказалася, вёў не туды.

Лясная сцяжына неўпрыкмет вывела іх на гэткую ж лясную дарожку – крывулястую, з гразёй у нізкіх мясцінах, аброслую крапівой, лазняком і алешнікам. Хвойнік застаўся ззаду, пачыналася забалаць. Нікога паблізу не было, ніхто ім пе спаткаўся. Косця асцярожна і моўчкі вёў камандзіра, які не пераставаў турбавацца: а ці туды яны ідуць?

Сапраўды, турбавацца была прычына. Гусакоў у думках усё лаяўся – трэба ж, каб гэтак не пашанцавала на самым пачатку. Перад палётам яго тузаў непакой – як давядзецца ляцець? Усё ж, хоць і ноч, а могуць спаткаць нямецкія знішчальнікі ці зенітны агонь над лініяй фронту. Ды і – само дэсантаванне. Гусакоў не прызнаваўся нікому, што і сам скочыў уначы першы раз, набраўся нямала страху, але страх давялося зацяць у сабе – іншага ў ягоным становішчы не выпадала. Якраз самае страшнае мінулася нечакана ўдала. Гэта пасля пачалося іншае – завязаўся вузел нейкіх недарэчнасцяў, якія дасюль невядома як развязаць.

Галоўнае, аднак, – пільнасць і пільнасць. Як ужо ведаў капітан Гусакоў з свайго вайсковага і давайсковага вопыту, пільнасць – аснова поспеху. Страта пільнасці ёсць пагібель. Ды яшчэ тут, у тыле ворага.

Хлопец вёў іх рухава і ўпэўнена, відаць, тутэйшыя сцежкі ведаў няблага. Гусакоў трымаў яго на дыстанцыі пісталетнага стрэлу, каб у выпадку чаго... Ці мала што магло здарыдца, і камандзір мкнуўся быць гатовым да ўсяго. Яны абышлі гразкай узбочынай застаялую лужыну пад лазовым кустом і тады з-за хмызняковай павароткі ўбачылі будынкі. Падобна, то была вёска – платы, за якімі зелянеў бульбоўнік, стажок свежага сена ля хлеўчука. Гусакоў ціха гукнуў да хлопца:

– Гэй! Што гэта?

– Барсукі, – бяспечна азірнуўся Косця. – Тут нічога. Нікога няма...

«Як гэта – нікога няма?» – незадаволена падумаў камандзір, адчуўшы міжвольны пратэст супраць з’яўленьня гэтае вёскі, да якой іх бяспечна прывёў хлопец. Але ўжо, мабыць, было позна што-небудзь мяняць – іх убачыла нейкая кабета з крайняга ад лесу падворка. Убачыла і знерухомела, усё ўзіраючыся, узіраючыся ў іх, бы ў лясных звяроў. Гусакоў ужо ведаў гэткую звычку сялянскага люду, ад якой заўжды адчуваў сябе прыкра. Цяпер тым болей.

Невядома, ці вялікая была то вёска, гэтыя Барсукі, але Гусакоў не знайшоў іншага варыянта і пакорліва пайшоў за падлеткам. Той спакойна брыў сабе сярэдзінай вуліцы, а камандзір збочыў да плоту; тое ж загадаў задэнім, выразна махнуўшы рукой. Вуліца пакуль што была пустая, толькі пад плотам у дзядоўніку ён спудзіў колькі курыц, якія з кудахтаннем пабеглі да свайго падворка. Тады з суседняга двара па другі бок вуліцы забрахаў сабака, відаць было – малы ды звяглівы, ягоны брэх яшчэ пабольшыў камандзіраў неспакой. Здалося, зараз выбегуць... І ён пашкадаваў ужо, што пайшоў за хлопцам, трэба было вёску абысці.

Але сабачка пабрахаў і сціх, а наперадзе, відаць было, вуліца ўжо канчалася, толькі на адным баку стаялі дзве хаты, а насупраць, за плотам, каласавала ладнае жыта. У перадапошнім двары, аднак, хтосьці варушыўся – раз-пораз з-за паркана вытыркалася жаночая галава ў белай хустцы і яшчэ хтось. Падышоўшы бліжэй, Гусакоў зразумеў – там парадкавалі сена. Пасярод падворка стаяла брыка з сенам, і баба з сівабародым дзядком, упорваючы ў сена вілы, насілі яго кудысь за вугал – у пуню або паветку. Калі ён падышоў бліжэй, дзед апусціў вілы і зняў з потнай галавы картуз.

– Здраствуйце вам, – ціха мовіў да Гусакова, які, аднак, толькі здзівіўся – што гэта значыць? За каго ён прымае іх? За партызанаў ці, можа, за паліцаяў? Аднак жа ён стрымана кіўнуў у адказ – на ўсялякі выпадак. Косця наперадзе, здалося, без аніякай увагі на тое мінуў падворак і тады азірнуўся – супакоена і адкрыта. Мабыць, таму, што ўсё абышлося, і яны перайшлі вёску.

Тая супакоенасць, што, на думку Гусакова, межавала з бяспечнасцю, пе спадабалася камандзіру. Пакуль, аднак, даводзілася мірыцца з тым, што адбывалася. Ягоная камандзірская воля нібы пераходзіла да гэтага хлопца, а той, мабыць, і не адчуваў таго. З вясковае вуліцы Косця выйшаў на палявую дарожку і спакойна сабе ішоў, па грудзі затулены рослым жытам. Жыта шапацела калоссем пад лёгкім ранішнім ветрам і здалося б нават прыгожым, калі б не клопат, які не пакідаў камандзіра.

– Косця, а што гэта ў вас скрозь палоскі? – запытаў Гусакоў, азіраючы раздзелены межамі палявы прастор. – Ці немцы зямлю аддалі?

– Самі пабралі, – сказаў хлопец. – Дзе чыя ў каго была.

– Зноў аднаасобнікамі сталі? Ну.

«Гэта дрэнна», – падумаў камандзір. – Займеўшы зямлю, ці япы пойдуць да партызанаў у лес? Будуць у зямлі калупацца. Але хто ж тады разгорне масавую барацьбу з акупантамі?» Пагранічнік Гусакоў памятаў нядаўнія

даваенныя гады ў Беларусі, як неахвотна расставаліся сяляне з зямлёй у калектывізацыю. Колькі тады было гора і слёз! Урэшце загналі-такі ў калгасы. І цяпер усё насмарку. Хітрыя, аднак, гэтыя акупанты, ведаюць, што мужыку трэба. За слова супраць – расстрэл, а за зямлю – нічога.

Непадалёк наперадзе цямнеўся новы лес, і Гусакоў думаў: хутчэй бы туды, да лесу. Усё ж у полі, нават сярод жыта, ён не адчуваў патрэбнай бяспекі. Ці мала што... Тым болей, калі ў вёсцы іх бачылі і напэўна распазналі. Хоць ні пагонаў, ні зорак на іх не было, а паліцаі і партызаны, як ён ведаў, апраналіся хто ў што. Тым не менш – беражонага і Бог беражэ, падумаў камандзір і ўсміхнуўся. Вядома, ён быў бальшавік і бязбожнік, але ведаў, што як прыпячэ, дык успомніш не толькі Бога. Хаця менавіта Бога, можа, і не варта было яму прыпамінаць. Перад Богам капітан Гусакоў быў грэшны яшчэ з даваенных часоў, як яны, пагранічнікі, мацавалі савецкую ўладу ў мястэчку, дзе была іх пагранкамендатура.

Мястэчка тое было несамавітае паселішча пры возеры – некалькі брукаваных вуліцаў, аблепленых габрэйскімі халупамі, тры ці чатыры нарыхтоўчыя сельпоўскія крамкі, кузня і два вялікія дамы – школа ды пагранкамендатура, дзе другі год служыў Гусакоў. Мяжа праходзіла адразу ж за мястэчкам у лесе, для яе аховы там была збудавана новая пагранзастава на адзін погранузвод. Але самым прыкметным збудаваннем у мястэчку была старадаўняя царква, купалы якой былі бачны здалёк – ці не з усяе акругі. Можа, нават і з таго боку, з-за мяжы, што ўжо было недапушчальна з меркаваньняў дзяржаўнай бяспекі. Царкву, канешне, у свой час зачынілі, папа арыштавалі, – тое было проста, за адну летнюю ноч. З царкоўнымі ж купаламі сталася горш – як было іх пабурыць? Тая справа дасталася лейтэнанту Гусакову з дзесяткам яго пагранічнікаў.

Каб разбурыць купалы, спярша належала выдраць з іх аграмадныя жалезныя крыжы, якія толькі з зямлі выглядалі лёгкімі, амаль бязважкімі ў вышыні.

Дабіраліся да іх цэлы дзень – гэтак было высока і небяспечна. Самы адважны з яго каманды чырвонаармеец Сямёнаў, абвязаўшы сябе вяроўкай, палез са званіцы на дах, але праваліўся ў праіржавелую дзірку і дужа параніў нагу. Болей смелых не знайшлося, давялося лезці на купал самому. Раней ён і ня ведаў, якая гэта агідная справа – вышыня і колькі ён натрываецца страху, пакуль дабярэцца да таго хісткага іржавага крыжа. Але мусіў дабрацца. Найперш таму, што бачыў у тым свій абавязак маладога бязбожніка-бальшавіка, якога тыдзень таму прынялі кандыдатам у партыю. Зноў жа, з зямлі, з пляца, падворкаў і нават дзятва ад школы сачылі за яго антырэлігійным подзвігам, і там, ведаў ён, былі не толькі добразычліўцы. Мусіць, зманліва было ім убачыць, як ён сарвецца. Ды не сарваўся, марскім вузлом завязаў тоўстую вяроўку за аснову крыжа і злез на зямлю. Цягнулі крыж усёй грамадой – купка пагранічнікаў як асноўная сіла, якой памагалі месתачковыя камсамольцы, усе партыйцы, а таксама некаторыя сяляне з навакольных вёсак. Цікава, што ніводзін яўрэй ім не памог, можа, таму, што сінагогі зачынілі раней. За той подзвіг на царкоўным купале Гусакоў атрымаў сваю першую адметнасць – знак «Выдатнік РСЧА», якім і ганарыўся да пачатку вайны. Можа, праз тую ўзнагароду пайшоў на павышэньне і прыдбаў новае званне. Але тое трошкі пасля.

Пыльная палявая дарожка, пакрывуляўшы сярод жытніх ніваў, спусцілася ў лажок з раўком; яны перайшлі раз’езджаную неглыбокую ручаіну і зноў узышлі на пагорак. Сонца ўжо ўзнялося высока і дужа паліла ў бясхмарным небе, гарэлі іх натруджаныя плечы пад цяжкаватымі, бы накладзенымі каменнем рэчмяшкамі. Усе спатнелі, прытаміліся, але Гусакоў не збаўляў хады, адно ўзіраўся наперад і па баках. На самым пагорку ён раптам ці не ўпершыню гучна вылаяўся: праз паўкіламетра наперадзе расцягнулася новая вёска, мяркуючы па ўсім, не маленькая – садкі, агароды, вулічныя прысады мкнулі да самага лесу. Не, у такую вёску ісці было нельга. Пра тое ён і гукнуў хлопцу. Косця нічога не адказаў, толькі заклапочана

агледзеў поле, ячменныя ніўкі, бульбянішчы, раўчук з алешнікам; і бульбяным узьмежкам павярнуў убок – у абход вёскі. Блізка ў полі людзей не было, але далей, на вясковай аколіцы, мусіць, на тамашняй дарозе, паявіліся дзве брыкі, борзда каціліся кудысь у поле – мабыць, па сена. Неўзабаве яны схаваліся ў раўку, і камандзір з палёгкаю выдыхнуў.

Па дзённай гарачыні яны неяк дабрылі да лесу, які тут аказаўся дробным алешнікавым хмызняком, і ззаду незадаволена азваўся Тумаш:

– Можа б, прыпыніцца, га? Папалуднаваць!.. Мабыць, сапраўды тут можна было прыпыніцца, падумаў Гусакоў, перакусіць з таго пайка, што яны атрымалі ў Маскве. Праўда, ён сам не адчуваў голаду, толькі хацелася піць. Але дзе нап’ешся? Не з балота ж піць брудную ваду, шчэ падчэпіш якое халеры. Але найперш трэба было паглядзець на карту. Тым болей, што побач была вёска, назву якой, пэўна ж, ведае Косця.

Адышоўшыся ад узьлеску, яны прыпыніліся на невялічкай, абсыпанай смалянкамі прагаліне, скінулі з сябе ацяжэлыя за дарогу валізы. Тумаш адразу паваліўся, дзе стаяў, Агрызкаў спярша ўладкаваў на рэчмяшок задраныя ногі. Адышоўшыся трохі ўбок, Косця сціпла прысеў у траве.

– Якая то дзярэўня? – запытаўся ў яго камандзір.

– Стараселле гэта.

– Дык колькі да Багавізны?

Усе прымоўклі, чакаючы адказу на важнае пытанне. Трохі падумаўшы, Косця сказаў:

– Хто яго ведае. Можа, кілометраў з дзесяць. Каб па дарозе, я б сказаў пэўна. А так...

– Па дарозе выключаецца, – раздумна сказаў Гусакоў і зноў упіўся вачыма ў карту. Стараселля там не было. Значыць, да іхняга ўрочышча яшчэ давядзецца патопаць.

Тумаш тым часам развязаў сваю валізу і дастаў пару сухароў. Злавіўшы на сабе хлапечы позірк, адзін сухар працягнуў Косцю.

– На, пачастуйся гасцінцам з Масквы, – прамовіў ён і тут жа змоўк пад прыдзірлівым позіркам камандзіра.

– Не надта афішуй свае гасцінцы. Паняў?

Так, ён зразумеў і адразу страціў ахвоту частаваць хлопца. Значыцца, не дазваляюць. Што ж, ці першы раз... Самому болей застанецца, як некалі казалі ў танкавым корпусе.

Старшына Агрызкаў таксама ўпарыўся за дарогу і быў ня супраць, каб гадзіну спачыць, але адчуваў, што камандзір не дазволіць. Бы заведзеная спружына, камандзір пнецца да мэты і, пакуль яе не дасягне, не супакоіцца і нікому спакою ня дасць. Мабыць, такі ўжо чалавек. Усё, аднак, ускладнялася яшчэ і тым, што ў яго канкрэтнае заданне, атрыманае вусна з забаронай дзе-небудзь запісваць ці нават адзначаць. Агрызкаву сказалі, куды яны павінны прыбыць, але толькі прыблізна – урочышча Багавізна, дзе базавалася кіраўніцтва партызанскае зоны. Урочышча вялізнае, нават не ўсё змясцілася на карце, але ўжо дайшоўшы да яго, яны знойдуць той пункт, што ім трэба. Ісці ўвогуле было бяспечна, ніхто за імі не бег, засад не было, хлопец вёў спраўна, і яны маглі б спачыць дзе ў вёсцы. Папіць малачка, а то і чаго іншага...

Пасядзеўшы трохі над картай, Гусакоў зноў злосна вылаяўся і ўстаў на ногі.

– Старшына, а ну адыдземся!

Агрызкаў падняўся, і яны трохі адышліся ў алешнікавыя зарасьнікі, каб іх не пачулі Тумаш і Косця.

– Ты ўпэўнены, што хлопец не падвядзе? – ціха запытаў Гусакоў. Агрызкаў паціснуў плячыма.

– Быць упэўненым тут ні ў чым нельга. Але – вядзе...

– А думаеш, ведае – куды?

– Мабыць, ведае. Ён жа тутэйшы.

– Тутэйшы! У тым і праблема. Бач, як гэтых тутэйшых купляюць? Зямлёй!

Старшына на тое не адказаў, ён адно пазіраў на спатнедага камандзіра і думаў: ну чаго мандражыш, падазраваеш? Кепскі табе праваднік, дык ідзі ў вёску, знайдзі лепшага. Але ж, мабыць, зноў пашлеш старшыну?

– Ты во што, – сказаў Гусакоў. – Прыйдзем – пра хлопца ні слова. Нават і органам. Паняў?

– Я дык паняў. Але...

У позірку камандзіра ледзянела падазронасць, і Агрызкаў, можа, упершыню падумаў: ці не здагадваецца ён, хто такі старшына на справе? Мабыць, яму як камандзіру групы сказалі ў штабе даставіць старшыну на базу і ўсё. А хто навошта – наўрад ці ён дапытваўся, тым болей, што, калі і сказалі, дык і ведаць нікому не належыць. Рэжым сакрэтнасці. Зрэшты, нават для разумнага чалавека было няпроста сцяміць, хто такі старшына, ужо хоць бы з тае прычыны, што Агрызкаў прысланы з развед-дыверсійнага аддзелу штабу. Значыць, дыверсант-разведчык, што для старшыны і няблага. Ужо ён не будзе тут нічога тлумачыць і ні ў чым апраўдвацца. Хай гэты капітан лічыць, як хоча.

Хаця, калі ён не дурань, дык разумее. Але навошта тады тузае старшыну, гуляе ў сакрэтнасць. Выпрабоўвае, ці каб падстрахавацца? Аднак старшына яму не падстрахоўшчык.

– Сумняваешся? Во і я сумняваюся, – сказаў, счакаўшы, камандзір. – Вот жа становішча, маць яго растакую!...

Так ні пра што канкрэтна не дамовіўшыся і ўвогуле не паразумеўшыся, абодва вярнуліся на палянку. Тумаш з Косцем ляпіва грызлі маскоўскія сухары, і камандзір адразу скамандаваў:

– Пад’ём! Патопалі далей. Ты, – павярнуўся ён да Косці, – вядзі! Але не туды завядзеш – пняняй на сябе. Паняў?

Косця не адказаў, толькі насупіўся з непрыемнасці ад камандзіравага дакору.

У хмызняковым гушчары яны натрапілі на зарасьнікі спелага малінніку – буйныя сакаўныя ягады вінаграднымі гронкамі звісалі з галінастых, у рост чалавека сцяблін. Шкада, не было калі іх збіраць, толькі на хаду, адбіваючыся ад камароў, яны паспыталі па колькі ягадзінаў. У лесе надвячоркам камары бы азвярэлі і, здавалася, за кожным кустом толькі і чакалі людзей. Хмары іх віліся над галовамі, кусалі лоб, твар, рукі, лезлі нават у нос і вочы – быццам згаладнеўшы, прагнулі чалавечай крыві. Косця, можа, прывыкшы, не надта на іх зважаў, затое астатнія адбіваліся ад іх аберуч, – то адной, то другой рукою. Хлопцу зрабілася крыўдна найперш на самога сябе, бо сапраўды ён неяк перастаў пазнаваць мясцовасць і часам блытаўся, у якім накірунку трэба ісці. Іншая справа – па дарозе, той шлях ён памятаў добра. Але ж камандзір сказаў, што па дарозе нельга, і ён бадай што пакутна перажываў недасканаласць уласнай памяці. Хіба пайсці ў вёску і папытацца? Але ці пусцяць аднаго ў вёску?

Пакуль, аднак, яго спадарожнікі маўчалі, упарта прабіраючыся праз хмызняк, маўчаў і Косця. Пасля камарынага гушчару пайшлі расцяробы і пералескі, тут хадакам стала лягчэй, можна было ісці шпарчэй. Часам ім траплялі лапікі сенажацяў, на якіх трава была скошана і сена звезена. Але тут Косцю стала балюча нагам, асабліва на рэштках дуддзя пад кустоўем. Хутка ён пракалоў ступню да крыві і прыкметна кульгаў. Ды камандзір не заўважыў таго, і хлопец не стаў яму гаварыць. Ён усё думаў пра Багавізну. Кепска, што давялося з’ездзіць туды ўсяго аднойчы і то зімовай парой. Зімой там, напэўна, усё выглядала інакш, чым улетку, і ён не надта запомніў драбніцы дарогі. Тады, седзячы ў санях, ён увесь час слухаў дзеда Багацёнка, які апавядаў пра тое, як быў малады і служыў у пана за фурмана, які злы і нядобры быў пан і якая добрая

маладая пані. У яе з фурманам усталявалася нават штосьці накшталт таемнага каханьня, але не такое, каб давяло да чагось брыдкага, а далікатнае і дужа жаласлівае. Яна шкадавала фурмана, у якога якраз перад тым памерла маладая жонка, і ён быў у скрусе. Пан на пачатку той, мікалаеўскай вайны загінуў у Галіччыне, а пані пасля рэвалюцыі з’ехала ў Варшаву. Болей яе фурман не спатыкаў і дагэтуль шкадуе яе. «А як звалі тую пані?» – папытаўся Косця. «Звалі пані Анэля», – сказаў дзед Багацёнак. «Анэля, Анэля», – ангельскім голасам гучала ў хлапечай душы тое імя, і Косцю здалося, што і ён кахае добрую маладую пані. Але тое ён зразумеў пасля, праз колькі гадоў, а тады ягоным клопатам было завезці бацьку валёнкі. На дальніх лесараспрацоўках бацька працаваў у чунях – вераўчаных лапцях; накладваў для цеплыні сена, закручваў анучы і так ішоў з мужчынамі ў лес. Адзіныя ў хаце лапленыя валёнкі пакінуў сыну хадзіць у школу, – казаў, што яму яны непатрэбны, бо іх штодня трэба сушыць, а сушыць там няма дзе. Мусіць, аднак, бацька казаў няпраўду, іншыя ж мужчыны недзе сушылі свой абутак. Тым не менш Косця палову зімы прахадзіў у школу ў бацькавых валёнках, аж пакуль з гораду не прыехала да іх добрая цётка Наста, якая прывезла гамашы. Гамашы былі ня новыя, але сталі ўжо цеснаватыя яе пляменніку, і дужа прыдаліся Косцю. Валёнкі ж яны з маці вырашылі адвезці бацьку, во ён і павёз іх у Багавізну. Дзед Багацёнак якраз ехаў на станцыю і паварочваў, не даязджаючы да лесанарыхтовак. Якіх пару кіламетраў Косця пратупаў пешкі па саннай дарозе.

Цяпер пра дарогу не было ў каго папытацца – дзед памёр, а бацька немаведама дзе.

Патроху адбіваючыся ад камароў, Косця прыстала брыў у хмызняку і ўсё думаў: а ці туды ідзе? Некалі чытаў у кніжках, што ў пэўных выпадках можна арыентавацца па сонцу, але не разумеў як. Бо ж сонца не стаіць на месцы, увесь час рухаецца ў небе і ўжо ніяк не паказвае, у якім баку Багавізна. З дому дык накірунак на яе быў пэўны – праз лес, на Барсукі, затым па дарозе

ля возера, праз расцяробы і Вялікае балота. Там усё было зразумела, а тут усё зблыталася. Можа, толькі інтуітыўна ён адчуваў, у які бок трэба рухацца, але пэўнасці ў тым ніякай не меў і пачаў асцерагацца, каб ягоную няпэўнасць не заўважыў камандзір, бо што тады будзе? Косцю было сорамна перад гэтымі партызанамі, прысланымі, як ён ужо зразумеў, з самай Масквы. Ён дужа хацеў ім услужыць, бо бачыў, як яны знемаглі са сваімі грузнаватымі валізамі, і гатоў быў пасабіць што несці. Але яму нічога не давалі. Ён быў бы рады, калі б далі хоць патрымаць вінтоўку ці аўтамат. Гэтую вінтоўку, званую СВТ, Косця бачыў упершыню. Звычайныя вінтоўкі ён ужо трымаў раней, ведаў, як зараджаць і як з іх страляць, а гэтую – не. Новая, значыць, зброя ў Чырвонай Арміі. Не тое, што ў партызанаў – куртатыя нямецкія аўтаматы, як у братоў Яхрэмавых, – ці далёка яны страляюць? Мінулай зімой браты прыязджалі ў вёску нарыхтоўваць для партызанаў прадукты. Прывязаўшы да саней трох кароў, павялі іх на Востраў Барок, у свой партызанскі штаб. Таксама дзесьці на Багавізне.

Ужо на зьмярканні яны набрылі ў кустоўі на ледзьве прыкметную ў травяным доле дарожку і пайшлі па ёй. Дарожка была закінутая; даўно не езджаная і пакручастая, але, здалося, вяла ў здатным для іх накірунку. Праз хуткі час і зусім сцямнела. Навакольны хмызняк самкнуўся ў суцэльным змроку начы, нават зблізку нічога не стала відаць. Дарогу можна было хіба мацаць нагамі, але ў травяністым доле тое было няпроста, і Косця напярэдзе замарудзіў хаду. Тады камандзір ззаду ціха гукнуў: стой! Хлопец прыпыніўся, прыпыніўся і камандзір. З прыцемак да іх падышоў і стаў побач Агрызкаў. Яны трохі счакалі Тумаша, які, нарэшце прыплёўшыся, стомлена-раздражнёна загаманіў:

– І колькі можна брысці? Усё без прывалу... Ці мы ад каго ўцякаем, ці каго даганяем... Дзіўна нават...

– Ладна, – сказаў камандзір. – Адыдземся ў старонку. На пару гадзін. Усё роўна ўжо...

Што ўсё роўна, ён не сказаў, сышоў з дарогі ў кусты, пралез праз нейкае рагатае голле і першы апусціўся, дзе стаў, – на росны травяны дол.

– Сядайма ўсе.

Яны адразу пасядалі, дзе хто прыпыніўся, пазнімалі ношкі, вольна выцягнулі натруджаныя ногі. Сядзелі моўчкі, міжволі прыслухоўваючыся да стоеных гукаў начы. Недзе з перапынкамі, але настойліва вёў сваю песню турок. Лясное наваколле і ўначы жыло мноствам праяваў-гукаў, якіх тут вынікала, можа, нават больш, чым удзень. Ці тыя гукі цяпер рабіліся болей чутныя, таго Агрызкаў зразумець не мог. Ён першы раз начаваў у лесе і не мог заглушыць у сабе агіднага адчування страхавітасці, амаль боязі начнога лесу. Ведаў, дарма ноччу намагацца што ўбачыць – убачыць у цемры амаль немагчыма нічога, а што разгледзіш, усё фальшыва-прывіднае. Мабыць, уначы кожны куст загадкавы, кожная пляма зводдаль тоіць падазроны знак. Болей пэўна ўначы служыць слых, які таксама часцяком памылковы. Яшчэ звечара як яны ішлі, дзесь убаку вуркала нейкая птушка, ці не балотны бугай? Трохі пераставала, бы задумвалася, а пасля пачынала зноў. Ці, можа, то была ўжо іншая птушка, – таго гарадскі жыхар Агрызкаў сцяміць не мог. І ў кустах паблізу пачулася нейкае кэшканне – можа, зайца, а можа, якой соннай птахі?

Але ўжо наўрад ці чалавека, як уначы можа здацца. Наогул тут чалавекам не пахне, думаў Агрызкаў, мабыць, яны ўлезлі ў такую глушэчу, што навакол толькі кусты ды балоты. І ніводнай вёскі. Малайцы партызаны, ведаюць, дзе трэба партызаніць. Дарма Гусакоў тузаецца ды залішне асцерагаецца. Хіба што адчувае? А можа, у камандзіра якое іншае заданне, апроч тых яго брандзэлак-узнагарод?

Пакуль, аднак, вялікіх складанасцяў старшына Агрызкаў не бачыў. Праўда, партызанаў яны не спаткалі, але не спаткалі і немцаў або паліцаяў. Вакол быццам мірная, як да вайны, зямля. На нівах каласуе жыта, сяляне нарыхтоўваюць сена. Ведама, усім трэба

есці. Але ж дзе ўсенародная барацьба з акупантамі?

Паводле дакументаў вайсковае службы Агрызкаў значыўся ў якасці разведчыка-дыверсанта і быў уведзены ў адпаведны штат адпаведнай сакрэтнай службы. Аднак з самага пачатку вайны тая ягоная служба склалася так, што ён не меў ніякіх адносінаў ні да разведкі, ні да дыверсіяў, бо рабіў адмысловым кухарам трэцяга разраду.

Тое ягонае кухарства пачалося калісьці неспадзявана, амаль знянацку. Яшчэ перад вайной па сканчэнні школы ці не ўсе ягоныя сябры паступілі ў лётныя вайсковыя вучэльні. Лёша Агрызкаў таксама падаў дакументы на лётчыка і нават паўгода рыхтаваўся – скакаў з парашутам з вышкі на гарадскім стадыёне. Экзамены ў вучэльню не былі цяжкія, экзаменатары асабліва не прыдзіраліся па навуках, але Агрызкава забракавала медкамісія – падвялі ногі. Ён нават не ведаў, што ў яго плоская ступня, заўжды хадзіў і бегаў нармальна. Аказалася, з такой хваробай у авіяцыю нельга. Ён спрабаваў спрачацца, у авіяцыі, маўляў, не ў пяхоце, хадзіць не трэба. Але тыя, у белых халатах, былі няўмольныя – не паложана і ўсё. З вялікай крыўдай Лёшка Агрызкаў вярнуўся дамоў. Маці, у якой ён быў адзіны, затое любімы сынок, надзіва, не бедавала і хутка ўладкавала яго ў кулінарны тэхнікум, што мясціўся ў ладным дамку на суседняй вуліцы. Праз два гады Лёшка атрымаў дыплом кулінара-кухара трэцяга разраду. Якраз пачалася вайна.

Як усчалі мабілізоўваць моладзь, што не служыла кадравай, ён зноў заявіў у ваенкамаце, што хоча ў лётныя часці. Але ў яго запыталіся пра адукацыю і, пачуўшы пра кулінарны тэхнікум, пераглянуліся. Сказалі заўтра зайсці на трэці паверх да палкоўніка-ваенкама. Той палкоўнік адразу ж даў накіраванне ў штаб акругі, дзе яго сустрэлі ў шырокім кабінеце, павялі на нейкія склады, абмундзіравалі ў новенькае і аформілі ў нейкі дыверсійны аддзел. Напачатку ён быў азадачаны, калі не збянтэжаны. Але замест нямецкага тылу яго прывезлі на прыгожае лецішча па Мажайскай

шашы, дзе ён стаў гаспадаром невялічкай кухні вялікага начальніка, стараватага генерала ў сіняй фуражцы, якога ўбачыў, аднак, толькі праз месяц.

Праца на кухні была даволі нудотная, ніякіх яго кулінарных ведаў там не патрабавалася. Ягоная кухарская навука была адкінутая, ён цалкам апынуўся ў падпарадкаванні генералавай жонкі Матруны Іванаўны. Тая лепей за яго ведала, як смажыць катлеты, адбіваць біфштэксы і варыць боршч. Нічога іншага і не патрабавалася. Мабыць, генерал быў задаволены тым, да чаго прывык, і ягоны шэф-кухар дакладна выконваў усе патрабаванні гаспадыні – наконт солі, перцу, і без усялякіх там выкрутасаў. Увогуле Аляксею Агрызкаву неўзабаве тая кухня нямала надакучыла, і аднойчы ён папрасіў генерала адправіць яго на фронт. Ды генерал ціхім голасам паабяцаў адправіць яго ў штрафную роту, калі ён не пакіне праяўляць свавольствы ў часе вайны. Агрызкаў палічыў сваю вайсковую кар’еру канчаткова збэшчанай і кожны дзень думаў, як уматаць з таго прасмярдзелага смажанінай і цыбуляй лецішча.

Так доўжылася год ці болей. Неяк узімку генерал аб’явіў, што трэба падрыхтаваць банкет у вузкім коле з радаснай нагоды атрымання ім на пагоны яшчэ адной зоркі. Агрызкаву, каб было ўпраўней, далі памочніцу – прыгожанькую вяртлявую Анечку, якая на другі ж дзень амаль выжыла з кухні і яго і старую генеральшу – так ліха і весела ўпраўлялася з каструлямі і патэльнямі, пякла-смажыла і з адмысловым густам сервіравала стол. Для сервіроўкі прывезлі аднекуль фанерную скрыню парцаляны і крышталю, якія Анечка тонкімі пальчыкамі да вечара расстаўляла-перастаўляла на даўгім пад белым абрусам стале. Як там балявалі басавітыя генералы і палкоўнікі, Агрызкаў не бачыў – шчыраваў з брудным посудам, затое Анечку разы тры, бы актрысу на біс, звалі ў залю. Пілі за яе здароўе і прыгажосць. Піла і яна. Але трошкі. Яна была дзяўчына разумная і не дазволіла б сабе напіцца.

Пасля таго вясёлага банкету генеральша, аднак, два дні праплакала, а пасля і зусім знікла. Куды – Агрызкаў не

пытаўся і яму ніхто не казаў нічога. Колькі дзён ён смажыў катлеты і варыў бошч на ўласны розум. А затым на генералавым лецішчы паявілася ўсё тая ж Анечка – ужо на правах гаспадыні. Да кухара Лёшкі яна аднеслася па-таварыску, бы да старога знаёмага. І надзіва яму – амаль перастала ўмешвацца ў яго кухонныя справы. Бы нічога ў іх і не цяміла. Упершыню ён адчуў на лецішчы немалую свабоду. Нейкія байцы прывозілі ўранку набор субпрадуктаў, ён атрымліваў іх па накладной, смажыў сьняданак генералу і яго маладой жонцы, удзень варыў украінскі боршч, які падабаў генерал, потым што-небудзь на лёгкую вячэру.

Праз хуткі час у генерала па службе здарылася запарка, ён пачаў дзесь прападаць да глыбокай ночы, а то і зусім не прыязджаць нанач. Пачаў адлучацца ў камандзіроўкі. Неяк вясной яго не было дзён дваццаць, – лётаў у партызанскі тыл, у Бранскія лясы. Анечка непакоілася, бедавала і сумавала і ўсё часцей наведвалася на кухню. Агрызкаў адчуў, што дабром тое не скончыцца.

З пачатку лета ён начаваў на салдацкім тапчане ў прыбудоўцы, пад разложыстай старой яблыняй, з якой пад восень гучна шпокалі аб толевы дах спелыя ружовыя яблычкі. Неяк ветранай ноччу, засынаючы пад іхняе шпоканне, ён не адразу адчуў, як стукнула засаўка і на яго дыхнула не яблычным пахам, а хвалюючымі жаночымі духамі, тонкія пальчыкі ашчаперылі яго крутыя плечы. Уся ноч мінула тады пад гэты духмяны хвалюючы пах і задышлівы шэпт прыгожай маладой жанчыны. Ды ці толькі адна тая ноч...

Анечка была трохі старэйшая за яго, дваццацідвухгадовага бэйбуса, але па-жаночы сталася мудрэйшаю на цэлы век. Ужо яна ўмела пускаць пыл у вочы – і мужу, і сяброўкам, і генералавым саслужыўцам. Пры людзях яна ставілася да кухара строга і нават прыдзірліва, не саромелася груба вымавіць за недасмажаныя ці перасоленыя катлеты (якія, зрэшты, заўсёды былі нармальныя). Затое пасля, як за гасцямі

зачыняліся дзверы, кідалася яму на шыю і абляпляла твар пацалункамі. Ці не з яе ініцыятывы дыверсанту Агрызкаву прысвоілі чын старшыны – мінаючы ўсе сяржанцкія ступені. Яна ўжо намякала яму і пра ордэн, які мог бы аформіць нейкі палкоўнік Ануфрыеў. Само сабой ён рэгулярна мяняў абмундзіроўку – апошні раз атрымаў афіцэрскую, з юфтавымі ботамі. Свае растаптаныя кірзачы кінуў цераз загарадзь на суседняе лецішча. Неяк у супакоеную хвіліну начной шчырасці Анечка распавяла маладому сябру пра сваю сардэчную драму, якая перавярнула ўсё яе жаночае жыццё. Яе муж – лётчык-герой – быў рэпрэсаваны ўладарнаю службай гэтага во генерала, і, хоць яе змусілі адмовіцца ад мужа, яна склала свой хітры, па-жаночы дасканалы план яго паратунку, палову якога ўжо выканала. Праз немалыя намаганні яна здолела завабіць сабой гэтага не надта старога яшчэ генерала і амаль сталася ягонаю жонкай. Яна дужа верыла ў сілу і моц свае жаноцкай прывабнасці і меркавала, што ўрэшце даможацца мэты. Зарукай таму было яе бязмежнае каханне да бязвінна трапіўшага ў бяду героя-лётчыка, дзеля якога Анечка была гатовая на ўсё. Трымаючы яе ў сваіх няслабых абдымках, Лёшка Агрызкаў кісла ўсміхаўся ў цемры: ён дужа сумняваўся, што на месцы таго летуна захацеў бы такога паратунку. Але ў Анечкі, відаць, былі адмысловыя наконт таго меркаванні, і ён змоўчаў, яшчэ мацней прыціскаючы да сябе трапяткое цела ласкавай жанчынкі.

Пры ўсёй яе жаночай дасканаласці Анечка, аднак, не ўлічыла некаторых асаблівасцяў прафесіі генерала-мужа. Хоць той і адлучаўся з дому, але, мабыць, не пакідаў яго без нагляду, і што-ніпто з яе адносінаў з кухарам яму стала вядома. Тыдзень таму, неспадзявана вярнуўшыся з камандзіроўкі, ён пакінуў свой «вiлiс» у пачатку вуліцы і да лецішча падышоў пехатой. У іхняй спальні наверсе жонкі не аказалася, Анечка ў той час бяспечна дасыпала сабе ў прыбудоўцы, а старшына-кухар распальваў пліту на кухні. Там жа генерал і абвясціў Агрызкаву, што яму ўсё вядома, што такія адносіны між кухарам і ягонаю жонкай недапушчальныя, і ён адсылае Аляксея ў партызанскую

зону – на выпраўленне. «Куды?» – запытаў збянтэжаны кухар. У распараджэньне беларускага сябра генерала, сакратара падпольнага абкаму. «Што ж, – абыякава падумаў Агрызкаў, – мабыць, і падпольныя сакратары любяць пажарскія катлеты, не ўсе харчуюцца канцэнтратамі з маскоўскага харчкамбіната імя таварыша Мікаяна». Таго ж дня ён сабраў сваё небагатае майно і, трохі пастаяўшы перад генеральскай спальняй, дзе, замкнуўшыся, плакала няшчасная Анечка, пайшоў на цягнік. У партызанскім штабе ўжо былі ў курсе, яго чакалі...

Тумаш заснуу адразу, як толькі паваліўся долу, і, здалося, яго тут жа піхнулі ў бок – уставай. Фельчар нават не адразу сцяміў, хто гэта і дзе ён. Аказалася, будзіць яго Агрызкаў, які стаіць над ім і штосьці ціха гамоніць.

Фельчар борздзенька сеў на траве і азірнуўся. Ну і месцечка яны выбралі для начлегу! Балота не балота, але і не лес – нейкая хмызняковая няўдобіца, парослая крапівой. Мабыць, ад яе ці, можа, ад камароў надта свярбелі рукі і твар. Ужо сьвітала ці, можа, і зусім развіднела, але тут, у алешніку, было змрачнавата, смярдзела грыбной мухаморнай сырасцю, і ён настыла скалануўся са сну. Камандзір насупроць поркаўся ў сваім шматкаштоўным рэчмяшку, хлопчык Косця з маркотным выглядам стаяў зводдаль, чакаў.

– Доктар, у цябе сухарыка не засталося? – папытаўся Агрызкаў. – То дай пагрызьці. А то ў нас пуста.

Тумаш развязаў сваю не новую, з дзіркамі, атрыманую ў шпіталі тарбіну, дастаў спадыспаду два акрышаныя сухары. Адзін сухар старшына разламаў напалам, палавіну працягнуў Косцю. Той пакруціў галавой.

– Не хачу.

– Думаеш малінай пітацца? – сказаў старшына і схаваў сухар у кішэню. Побач падняўся на ногі і камандзір. Ён па-ранейшаму быў заклапочаны, нават раззлаваны з твару, начапіў на сябе майно – кірзовую сумку і

рэчмяшок, дбайна паправіў гімнасцёрку пад дзягай з цяжкавата абвіслай кабурой. Увогуле ношку камандзір меў, мабыць, лягчэйшую за іхнія, падумаў фельчар, беручы з долу замакрэлую ад расы вінтоўку. Грузу ў яго ўсё ж набіралася болей за ўсіх.

– Хочаш, дам панясці, – сказаў ён да Косці, трымаючы за почапку санітарную сумку. Косця нясмела ўзяў яе аберуч, быццам паважыў.

– Не цяжкая, самы раз будзе, – запэўніў фельчар, зірнуўшы ў бок камандзіра, які строга пазіраў на яго. Але не сказаў нічога.

Хрумкаючы сухары, яны выбраліся з кустоўя на ўчарашнюю дарожку.

У хмызняковым наваколлі стаяла золкая ранішняя цішыня, неба ўгары паволі святлела, але сонца яшчэ не было відаць. Каля вушэй ціха зудзелі камары, але не так, як учора звечару. «Мабыць, яшчэ не згаладнелі», – падумаў Тумаш. І яму чамусьці прыпомнілася, як калісь гэткім жа росным раннем ён хадзіў з вудай на возера – парыбачыць. Тады ён быў малады, нядаўна скончыў фельчарскую вучэльню і на пару з доктарам Дашкевічам рабіў у мястэчковым медпункце. Быў халасты, вадзіўся з мястэчковымі дзеўкамі і неяк аднаго лета ўлёг у рыбалку, тым болей што адразу за мястэчковай аколіцай разлеглася невялікае маляўнічае азярко з трысняговымі берагамі. У адным месцы трысьнёг расступаўся, і на нешырокай пясчанай водмелі каля дарогі купалася ў поўдзень і надвячоркам галасістая мястэчковая дзятва. Тумаш абраў сабе рыбацкі закутак наводдаль, ля дуба, паваленага бабрамі ў ваду, дзе часам браліся краснапёркі і акунькі. Але як калі. Рыбак з Тумаша быў ня надта ўдачлівы, часам за ўвесь ранак прыносіў якіх пару плотачак – кату на сьняданак. Калі-нікалі, аднак, шчасціла болей. Аднойчы ён паставіў рэкорд – тузін акунькоў, якіх і засмажыў якраз на дзень уласных народзінаў і запрасіў на пачастунак калегу – доктара Дашкевіча. Дашкевіч быў чалавек у гадах, жыў халасцяком і кватараваў у сварлівай яўрэйкі Голды, з якой апошнім часам не

размаўляў, пасварыўшыся і назваўшы яе прагнай жыдоўкай. Болей пра ягоныя адносіны з гаспадыняй фельчару не было вядома, ды ён і не пытаўся пра тое, заняты сваімі клопатамі – дзяўчатамі, дочкамі Лейбы Модаля, у кватэры якога нядаўна пасяліўся. Адносіны доктара з фельчарам былі адно службовыя, чыста афіцыйныя, – такія запачаткаваў негаваркі, амаль заўсёды маўклівы Дашкевіч. Цікава, што ён ніколі і ні з кім не піў – ні на працы, калі прымаў хворых, ні на выкліках у вёсках, нават калі ездзіў да парадзіх. Тое не ўсім падабалася ў мястэчку, некаторыя не любілі доктара, казалі: ганарысты, грэбуе простым чалавекам. А тут на дні народзінаў калегі нечакана для фельчара выпіў, – можа, нават цэлую шклянку гарэлкі, бутэльку якой адмыслова для таго Тумаш купіў у сельпоўскай краме. І раптам доктар зрабіўся гаваркім, бы што ў ім прарвалася, – столькі ён нагаварыў за той вечар маладому фельчару, з жарам і болем, – і пра іхнюю занядбаную працу, і пра класавую барацьбу і калектывізацыю, пра ворагаў народу і нялюдскія органы. Аказалася, у горадзе арыштавалі доктаравага сына, навукоўца-хіміка, і бацька быў упэўнены, што бязвінна. Тумаш спярша аж спалохаўся, спрабаваў пярэчыць, не пагаджацца, але разумеў, што пярэчыць марна, доктар гаварыў праўду. Толькі пра тую праўду ў мястэчку не гаварыў ніхто, усе разумелі, але баяліся, нашто было гаварыць і доктару Дашкевічу? Хто не ведаў, што калгаснікі галадаюць, што інтэлігенцыя запалохана і прыцяла вушы, што над усім пануюць органы, якія ўзялі ў свае кіпці і партыйнае кіраўніцтва. У раёне ўжо сёмы сакратар райкама партыі, шасцёра ранейшых рэпрэсаваныя. Але рэпрэсавана і безліч калгаснікаў, дырэктар школы і дзве настаўніцы. Нашто было гаварыць пра тое? Ці доўга з такімі поглядамі можна было гуляць на волі?

Мабыць, разумеючы тое, Тумаш не здзівіўся, калі праз тыдзень, прыйшоўшы ранкам у амбулаторыю, убачыў на яе дзвярах сургучную пячатку – ноччу доктара ўзялі. На ягонай кватэры ў Голды ўсю ноч ішоў ператрус, а да амбулаторыі ў тых, мабыць, яшчэ не дапрасталіся рукі. Менавіта тады Тумаш спалохаўся: цяпер возьмуць яго.

Падумаўшы так, вярнуўся дахаты, узяў сваю звітую з конскага воласу вуду і зашыўся на возеры ў самы дальні закутак. Рыба, аднак, ня брала, ды ён і не надта сачыў за паклёўкай, ягоная галава трашчэла ад страхавітых думак – што цяпер будзе? Усё ж яны там, за бутэлькай, былі толькі ўдвух. Што можа падумаць доктар? Тумаш нічога не казаў нікому, але ж у старым і вялікім Лейбавым доме, апроч гаспадароў ды іхніх дачок, былі і яшчэ кватаранты. Цераз дашчаную, абклееную старымі газетамі сцяну кватараваў з сям’ёй настаўнік грамадазнаўства Квяткоўскі, з другога боку жыў пажылы бухгалтар сельпо – ціхі і непрыкметны чалавек, прозвішча якога за два гады так і не запомніў Тумаш. Можа, іхнюю гаворку пачулі? Напэўна пачулі! Але ж на каго было наракаць?

Тумаш чакаў і баяўся арышту, але яго не арыштоўвалі – яго толькі паклікалі ў райаддзел НКВД і далі прачытаць некаторыя з выказваньняў Дашкевіча. Пытанне следчага было пастаўлена рубам: казаў тое доктар ці не? Тумаш трохі павагаўся: увогуле ўсё было запісана правільна ці амаль правільна, мабыць, адмаўляць было марна, і ён пацвердзіў: так, гаварыў. І падпісаў. Тое следчага задаволіла, яго адпусцілі, сказалі: калі будзе трэба – паклічам.

Усё лета, восень, пачатак зімы, фінскую вайну і аж да пачатку Айчыннай фельчар Тумаш жыў пад гнётам страхавітага, трывожнага чакання – калі паклічуць? Праз тое панішчылася ягонае каханне з малодшай Лейбавай дачкой, ён ні з кім не ажаніўся, – страх перасіліў усё. Як пачалася вайна і яго мабілізавалі ў войска, Тумашу ў пэўным сэнсе стала нават лягчэй – чым далей, тым болей прыходзіла ўпэўненасць, што не паклічуць. І праўда, не паклікалі, і ён пакрысе адчуў сябе, як усе, з душы зваліўся штодзённы пакутлівы гнёт. Праўда, з вайной абрынуўся другі, які, пэўна, і выцясніў першы. Але то быў гнёт чакання пагібелі, які фельчар Тумаш перажываў не адзін, а нароўні з усімі. Тут ужо наракаць не было на каго.

– Возера? – са звыклай трывогай гукнуў камандзір,

убачыўшы, што Косця наперадзе спыніўся.

– Возера, ага. Я ведаю. Гэта Кузыроўскае...

Яны ўсе прыпыніліся на пагорку ў рэдкім прыазёрным хвойніку – наперадзе, між рэдкіх і стромкіх хвояў сонечна блішчэла роўная паверхня выцягнутага ўпоперак возера з аброслымі трыснягом берагамі. Пад супрацьлеглым берагам відаць быў густа парослы кустоўем невялікі астравок.

– Во і астравок. Пэўна! – узрадавана мовіў хлопец з нізка павіслай санітарнай сумкай, надзетай цераз плячо. – Цяперака трэба абысці. Тут блізка, цераз рэчку.

– Як называецца рэчка? – пытаўся камандзір. Ён ужо разгарнуў вынятую з сумкі карту, распрастаў яе на каленях. Але як называецца рэчка, хлопец не ведаў і няўцямна паціснуў худымі плечукамі.

Хвіліну камандзір углядаўся ў карту, агледзеў усе крывулястыя рэчкі з нязвыклымі курсіўнымі назвамі. Там іх было некалькі, але гэтага возера не было. Але, мяркуючы па ўсім, яны ішлі правільна, іначай хлопец так лёгка не пазнаў бы знаёмую мясціну. Той факт надта ўзрадаваў камандзіра.

– То – шагам марш! Вядзі ў абход, Косця! – бадзёра скамандаваў Гусакоў.

Косця паглядзеў у адзін бок, у другі і рашуча, амаль подбегам пусціўся між хвой з пагорка. Яны ўтрох жвава пайшлі следам.

На душы ў камандзіра паспакайнела, нарэшце з’явілася ўпэўненасць. Хоць на карце гэтай мясцовасці яшчэ не было, але, калі хлопец яе пазнаў, дык, мабыць, неўзабаве будзе. Гусакову галоўнае, каб якую адзнаку тае мясцовасці ўбачыць на карце, астатняе ён вызначыць без праблемаў. Незалежна ад каго б там ні было. Тым болей – ад гэтага хлопца-падлетка. Смешна будзе прызнацца каму ў штабе, што вясковы пастушок

два дні ратаваў іх, трох узброеных кадравых вайскоўцаў, вёў у партызанскі штаб, якога яны не маглі адшукаць нават з картай. Заблудзіліся, бы недарэкі. Бы апошнія малапісьменныя абармоты не маглі даць сабе рады...

Але, мусіць, так – заблудзіліся, хоць і не па сваёй віне – па чужой, як гэта ўсё ж часам бывае на вайне. Хоць капітан Гусакоў ваяваў нядоўга, да цяжкога ранення ў галаву, але хапіла на фронце і яму. Асабліва на пачатку вайны, калі ён з групай пагранічнікаў адступаў ад самага Беластока праз усю Беларусь да Салаўёўскай пераправы, дзе яго і параніла. Увесь час ішлі – удзень, а болей уначы па ўжо занятай немцамі тэрыторыі, харчаваліся, а то і хаваліся па вёсках і хутарах, спатыкалі markdown рознае. Былі харошыя дзядзькі і цёткі, кармілі, прывячалі, паказвалі шлях на ўсход, плакалі, успамінаючы сваіх крэўных, што вось так недзе мыкаюць вайсковую долю. Але былі і інакшыя. Такія, што хацелі, каб хутчэй прыйшлі немцы ды ўстанавілі еўрапейскі парадак, распусцілі калгасы і вярнулі сялянам іхнюю, адабраную ў калгасы зямлю. Адзін настаўнік, як яны начавалі ў сельскай школе, усё даводзіў увечары, што нямецкая нацыя культурная, верыць у Бога. Што краіна, якая дала свету Іетэ і Шылера, не можа зрабіць некаму кепскага, – наладзіць і ў Беларусі цывілізаванае жыццё. Абы толькі скончылася вайна, а там усё будзе добра, лепей, чым пры саветах. Таго надта разумнага настаўніка давялося шлёпнуць уранку пад сцяной яго школы. Нельга было такіх пакідаць акупантам, якія адразу зрабілі б з іх паліцаяў і паслалі забіваць камуністаў і камсамольцаў. Праўда, трохі было няёмка, што перад тым яны добра пасьнедалі ў яго, нават пачаставаліся мёдам. Ну, але мёд – асобна, а палітыка асобна, як сказаў пасля іхні палітрук Сядзёлкін.

А то было горш. У другім месцы, на хутары маладая прыгожая шляхцянка нават не захацела размаўляць з імі, адно дзяўбла: не разумем і не разумем. Хаця як было не разумець простых пытаньняў, якія ёй задавалі ясным рускім языком? Як пасля яны дазналіся ў суседнім сяле, муж шляхцянкі быў афіцэр польскага

войска, разбітага Чырвонай Арміяй у 39-м. Значыць, затаіла крыўду! Шкада, нязручна было вяртацца на хутар, а то б яны паказалі ёй, як крыўдаваць на савецкую ўласць.

Праўда, то было ў Заходняй Беларусі, толькі два гады таму далучанай да СССР, – уплывала доўгае знаходжанне пад буржуазнай уладай. Ва Усходняй жа было трохі інакш. Найперш складвалася ўражанне, што Усходняя абязлюднела – адны бабы ды дзеці ў вёсках, а мужыкі ці на фронце, ці ў партызанах, ці куды пахаваліся? Не магло ж так быць, каб усіх тамашніх калгасьнікаў рэпрэсавалі ў трыццатыя гады, калі ішла непрымірымая класавая барацьба. Хаця, калі і рэпрэсавалі, дык, мабыць, было за што. Калі б так у свой час не зрабілі, дык во цяпер, як пачалася вайна, яны б напэўна стралялі чырвонаармейцам у спіну. Як у Прыбалтыцы.

Возера яны абышлі ўдала – перабраліся цераз нешырокую багністую рачулку. Давялося пасцягваць боты, закасалі штаны. А старшына дык зняў і свае афіцэрскія брыджы, сказаў – надакучыла сушыцца, толькі ўчора падвечар высахлі пасля начнога купання з парашутам. Паводзіў сябе старшына даволі незалежна, не надта выдаючы патрэбную падначаленасць, і тое часам раздражняла Гусакова. Але што ж, старшына – часовы падначалены, з тым даводзілася мірыцца. Зноў жа, не зусім і вайсковец – ні армеец, ні партызан, толькі прыкамандзіраваны для дастаўкі ў партызанскі штаб. Камандзір меркаваў, што старшына звязаны з органамі, хаця і не бачыў у тым нічога асаблівага – хто з імі не звязаны. Канешне, з ім трэба трымаць вуха востра. Бо яшчэ невядома хто да каго прыкамандзіраваны, хто старшы, а хто малодшы. Вельмі нават можа стацца, што ён – і не старшына нават, не Агрызкаў, а хто-небудзь іншы. Зрэшты, Гусакову да таго справа маленькая. Таксама як і да фельчара, які ўсё наравіў адстаць. Усё яму не панораву: то груз на спіне надта цяжка, то горача, то ідуць вельмі шпарка. Адставакаў на вайне Гусакоў бачыў шмат, іхнія мэты былі яму знаёмыя. У тое першае ваеннае лета з іхняе групы, што

прабіралася на ўсход, ці не палова не дайшла, паадставала. Па розных прычынах – то знясілелі, то панаціралі ногі, то заблудзіліся. Але найперш не захацелі ваяваць, захацелі дамоў – да жонак і дзетак. Жыць захацелі, падлюгі.

За возерам мясцовасць нечакана змянілася – хвойны лес скончыўся, пачалося балота. Праўда, цяпер, у сухую пару, тут было суха – куп’істая імшарына з рэдкімі кустамі крушыны ды алешніку, дробнымі нізкарослымі хвойкамі. Месцамі з-пад ботаў сачылася чорная вада. Вакол была процьма журавінаў – кожная купіна як абсыпана чырванабокімі ягадамі. У пагодным, з рэдкімі аблачынамі небе кружыла наводдаль пара бацяноў, а над галовамі зноў пачалі віцца хмары камароў ды living
розная балотнай машкары, ад якой тут стала горш, чым у лесе. Старшына нейкі час спрабаваў адганяць іх веццем, але хутка кінуў – адагнаць іх было немагчыма. Добра, аднак, ім ніхто не спаткаўся, мабыць, тут не было ні людзей, ні якога жытла, падобна, мясціна гэта была зусім не заселеная. Адно – у высокім з аблокамі небе няспынна кружылі бацяны ды зрэдчас, хлопаючы крыллем, нізка праляталі качкі. Учарашняе напружанне ў душы камандзіра апала, хоць турботны неспакой яшчэ заставаўся, але ўжо стала вальней. Цяпер Гусакоў ішоў першы, за ім блізка – Косця, іншыя пляліся зводдаль. Згаладнелыя, раз-пораз нагінаючыся, яны рвалі журавіны. Было горача, нізенькія балотныя дрэўцы ценю давалі мала. Пмнасцёрка зусім прамокла ад поту, Гусакоў расшпіліў яе да апошняга гузіка, ацяжэлы рэчмяшок павесіў на адно плячо, каб трохі ахалонула спіна. У нейкай мясціне сярод балота, дзе дрэўцы здаліся яму болей бухматыя, ён прыпыніўся. Побач пад купкай крушынаў ляжаў звабны цянёк.

– Прывал!

Хутка яны ўсе сышліся ў тым цяньку, паселі радком – тварамі да балота, плячмі да дрэўцаў. Косця па сваёй патрэбе на хвіліну адхінуўся за купіну, а як вярнуўся, Агрызкаў спытаўся:

– А што ты не ў партызанах? Кажуць, у вас жа ўсе,

старыя і малыя, ваююць?

Косця памарудзіў, неяк перасмыкнуў не па-дзіцячы абвялым тварам.

– Дык няма як маму пакінуць.

– Не пушчае, ага?

– Не. Бацька пайшоў, дык сказаў – маці памагаць.

– Ну бацька прыйдзе, тады ты пойдзеш. На змену бацьку. Ага?

Косця на тое не адказаў, толькі засмучоным позіркам глядзеў у балотную далячынь, бы маючы намер убачыць бацьку. Туды ж з добрым тварам зірнуў і Агрызкаў.

– Харашо! – сказаў старшына. – Каб яшчэ і пажраць. Кацялочак пярлоўкі. Га, доктар?

– Можа, табе яшчэ і катлет захацелася? – не надта добразычліва прамовіў Тумаш. – Прыйдзем – накормяць. Ужо ў партызанаў пярлоўкі знойдзецца.

– Гэта яшчэ як сказаць! Хаця, канешне, не з пустымі рукамі прыйдзем, праўда, камандзір? – цягнула на размову старшыну. – Цікава, а якія там у вас узнагароды? Медалі, мабыць?

Пэўна, каб надаць важнасць размове, Гусакоў вытрымаў паўзу, пакуль развязаў лямкі рэчавага мяшка. Вялікая кардонная ўпакоўка з узнагародамі была ў поўнай спраўнасці, хіба трохі пакамечаная, але пячаткі на яе баках значыліся выразна.

– Каб ты ведаў, – не толькі медалі. Сем штук Баявога Чырвонага Сцяга, ордэн Суворава, тры ордэны Леніна...

– А медалі? – цікавіўся старшына.

– Ёсць і медалі. «Партызану Айчыннай вайны» першай ступені трыццаць восем знакаў, другой ступені – шэсцьдзесят. Восем – «За адвагу» і пяць – «За баявыя

заслугі».

– А «За баявыя заслугі» – каму? Папэжэ, мабыць? Ці ў партызанах няма папэжэ? Яны там усе з законнымі жонкамі...

На тое Гусакоў не адказаў – такі паварот гаворкі яму не падабаўся. Што і як у партызан, старшына пабачыць, як прыйдзе на базу. А то гэтыя роспыты былі надта падобныя на правакацыю.

– Да-а, будзе радасці партызанам, – сказаў старшына. – А вы, камандзір, узнагароджаны?

– Узнагароджаны, не бойся, – не надта ў тон адказаў Гусакоў.

– Нябось не меней, чым ордэнам Леніна?

– Не, не Леніна. Чым заслужыў, тым і ўзнагароджаны, таварыш старшына.

Старшына вольна адкінуўся на мяккі мох купіны.

– А я, ведаеце, яшчэ не. Не ўдастоіўся. Хіба ў партызанах палучу.

– Палучыш. У партызанах палучыш, – няпэўна азваўся Тумаш. – Ужо героя палучыш.

– Маю намер, – сур’ёзна зазначыў Агрызкаў. – Што ж – ваяваць ды не заслужыць узнагароду? Сам жа, мабыць, нахапаў у танкавых войсках?

– Дзе ўжо нам? Мы ж – медыцына, каб ратаваць вас, дужа хвацкіх. Вунь пад Мярэфай аднаго такога героя-камбата цягнуў пад агнём да дарогі, а ён на дарозе сканаў. Ну, думаў, за героя хоць медалёк падкінуць – дзе там! За што ж медалёк, калі сканаў, праўда?

– Гэта гледзячы, як сфармуляваць, – без ахвоты да размовы уставіў Гусакоў.

– Што сфармуляваць? – не сцяміў фельчар.

– Прадстаўленне. За адзін і той жа подзвіг можна медаль «За адвагу», а можна і Чырвоную Звязду. Гледзячы як аформлена.

– Слухай, доктар, вучыся, – зазначыў Агрызкаў. – Камандзір знае. Ён спец па фармулёўках.

Гусакоў прыпыніў размову, ён не надта любіў абмяркоўваць са староннімі свае службовыя справы. Што яны разумелі, гэтыя армейцы ці партызаны, з яго штабное спецыфікі, якую і ён спасціг не адразу. Спатрэбіўся час, праца і трыванне. Не абышлося без памылак і промахаў, – мабыць, як і ў кожнай адказнай справе.

Ва ўзнагародным аддзеле Гусакоў служыў без малога год – афармляў прысланыя з партызанскага тылу прадстаўленні, правяраў правільнасць фармулёвак і запісаў, вёў картатэку і строгі ўлік дакументаў на ўзнагароджаных. І ўсё – сакрэтна і абсалютна сакрэтна, як і належала ў адказнай штабной службе. Гэта толькі недасведчанаму магло здацца, што справа тая простая і для пісьменнага чалавека не мае вялікіх цяжкасцяў. Перадрукоўвай на добрай паперы прысланыя з часцей і злучэнняў рапарты, падкладвай у генералаву папку на подпіс ці зацвярджэнне – і ўсё. Часам забываюць, што ёсць яшчэ сакратарыят прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, ёсць дзяржкантроль і парткам, ну і асобы аддзел – як і паложана – і ўсе кантралююць і правяраюць з правам ануляваць ці вярнуць на выпраўленне памылкі. У адным дакуменце, напрыклад, напісалі Ціхмянёў, а ў іншым Ціхмянеў. Невялікая недакладнасць, як быццам, а яму, начальніку аддзела, давялося атрымаць вымову. Якраз напярэдадні дня Чырвонай Арміі, калі ўсе ў штабе атрымалі віншаванні і падзякі ў загадзе, а ён у іншым загадзе – вымову. Вось табе і нязначная граматычная памылка.

Горш за ўсё, што ягоная служба неяк выпала з усіх статутаў і нічым не рэгламентавана, што давала яму шмат магчымасцяў для ініцыятывы, але змушала і рызыкаваць. Ад ягонага ўмельства і сумлення залежала шмат што, у тым ліку і вырашэнне галоўнага пытання:

узнагародзіць ці не? Ягоны папярэднік Усачоў меў нешчаслівую руку і што ні аформіць – няўдала, вяртаюць назад ды яшчэ з рэкламацыяй, за якую яму – спагнанне. Яно і зразумела. Калі напісаць, да прыкладу, што камандзір атраду добра кіраваў боем, паспяхова ўзяў які населены пункт, дзе было забіта 12 паліцаяў і 2 узяты ў палон, – хто такому герою дасць ордэн Чырвонага Сцягу? Трэба трошкі паправіць, – зусім нязначна, але істотна. Найперш указаць сацыяльнае паходжанне камандзіра – тое, што ён з рабочай сям'і, што член ВКП(б). Калі беспартыйны, тое лепш не ўказваць, проста партыйнасць апусціць. Замест 12 забітых паліцаяў лепш указаць 21 гітлераўца. Розніца невялікая, а ролю іграе выдатную. Ну і абавязкова ў канцы дадаць (з чырвонага радка), што справе Леніна-Сталіна адданы, гэта галоўнае і дужа шмат значыць у вачах сакратарыята ВС, дзярж- і парткантролю, асобага аддзела таксама.

На пачатку ягонай службы ў аддзеле, калі ён яшчэ не набраўся пэўнага вопыту,.было некалькі выпадкаў, што ўзнагароду зніжалі, і тое выклікала абурэнне партызанаў. Але здарыўся і выпадак, калі ордэн падвысілі адразу на тры ступені. Гэта калі замест «Айчыннай вайны» партызану-снайперу далі ордэн Леніна. Тады ён ажно спалохаўся, бо прычынай таго стаў недагляд машыністкі, якая замест 28 забітых снайперам фашыстаў выдрукавала 82. У аддзеле быў вялікі спалох, але нядоўгі: скаргі з месца не паступіла, бо хутка і камандзіра таго снайпера няблага ўзнагародзілі.

Зноў жа трэба ўлічваць, каго ўзнагароджваюць. Калі радавых партызанаў, ну там падрыўнікоў, разведчыкаў ці падпольячыкаў, можна ня дужа дбаць – гэтым што дадуць, тое і добра. А калі камбрыгаў ці камісараў? Не дай Бог камісару брыгады аформіць меншы ордэн, чымсьці камбрыгу. А то прышлюць голы тэкст кшталту: вёў вялікую палітмасавую работу па згуртаванні партыйнай арганізацыі атраду (ці брыгады), натхняў масы на выкананне задачаў, пастаўленых таварышам Сталіным у загадзе нумар такім. А дзе канкрэтыка?

Начальства патрабуе канкрэтыку. І тады начальнік аддзелу капітан Гусакоў сядае за стол і піша: сакратар падпольнага бюро (райкаму, абкаму, акружкаму) у самы рашучы момант бою асабістым прыкладам павёў людзей у контратаку, сам лёгшы за кулямёт, знішчыў 127 эсэсаўцаў, астатніх абраціў у бегства. Тое падабалася і гарантавала ўзнагароджанне высокім ордэнам Чырвонага Сцягу. Звычайна герой і не падазраваў, каму абавязаны, думаў: непасрэднаму начальніку, які прыслаў на яго малапісьменную цыдулку. Але капітан Гусакоў не мае ніякіх ні да кога прэтэнзіяў, ён выконваў свой вайсковы абавязак – не болей.

Трошкі, праўда, рабілася крыўднавата, Кусала самалюбства. Столькім героям ён забяспечыў урадавыя ўзнагароды, а сам як атрымаў летась ордэн Чырвонай Зоркі, так з ім і хадзіў, нібы які камандзір узводу, а не працаўнік Цэнтральнага штабу. Можа, з тае прычыны ён і папрасіўся ў гэтае дэсантаванне, хоць і разумеў, колькі яно ўтойвае небяспекі. І яго зразумелі. Генерал Кругляк з аддзелу кадраў аўтарытэтна сказаў: едзь! Вернешся – узнагародзім. Што ж, дзякуй. Трэба толькі вярнуцца.

Была, аднак, у гэтай яго камандзіроўцы і яшчэ адна асаблівасць – пільная нутраная патрэба рэабілітавацца, ці што? Мабыць, у адным канкрэтным выпадку, афармляючы высокі ордэн, ён перастараўся. Увогуле ўсё адбылося гладка і паспяхова, начальнік атрымаў узнагароду, яго віншавалі і нават надрукавалі ў газетах. А потым... А потым таго начальніка ўзяў асобы аддзел, а Вярхоўны Савет ануляваў сваю ўзнагароду. Пачалося расследаванне, Гусакова выклікалі, дапытвалі. Не тое, каб наклалі спагнанне, ды ўсё ж узялі пад падазрэнне. Тут ён прызнаўся найперш самому сабе, што спудлаваў, паспяшаўся. Мабыць, ніколі не трэба спяшацца, самому дзешавей абыдзецца. Але ж тады хто ведаў? Усё ведаюць хіба адны органы...

Косця таксама акрыяў душой, калі ўбачыў знаёмае возера. Тут яны летась спыняліся, як ездзілі на

станцыю, паілі каня. Праўда, што знаходзіцца па той бок возера, хлопец ня ведаў, але напрамак на Багавізну адсюль вызначыў пэўна. Толькі ці далёка было да яе, сказаць таго ён не мог.

Па балоце ён ішоў разам з камандзірам, між куп’я па імшарыне тое было няцяжка. Санітарная сумка трохі муляла на ягоным плячы, ды нішто; ужо ён яе як-небудзь данясе. Тым больш, адпачыўшы ў цяньку пад кустом. Каб яшчэ што-небудзь з’есці. Але ежы тут не было, апроч хіба журавінаў. Ды хіба журавінамі пад’ясі?

Горш тое, што хацелася піць.

Можа, і дзіўна будзе каму гарадскому, што тут, на балоце, не было дзе напіцца, але пэўна так. Рэчка болей ім не трапляла, а вада з-пад імху была дужа непрывабная – рудая, з балотнай церухой, такой не пап’еш. І ён мусіў трываць, адно імкнучыся наперад, каб як-небудзь дапнуцца да берага гэтага бясконцага балота. Ён быў упэўнены, што Багавізна блізка.

Адпачыўшы на купіне, яны зноў рушылі па хмызняковай імшарыне. Але неўзабаве збавілі хаду і нават спыніліся – камандзір здорава праваліўся праз мох у багну, спярша адной, а затым і абедзвюма нагамі. Косця памкнуўся яму памагчы, ды і сам загруз босымі нагамі да самых каленяў. Тут яны агледзеліся, што наперадзе? Наперадзе аказалася яшчэ горш – пачыналася сапраўдная багна з асакой, аерам, вадзянымі вокнамі і дрыгвой.

Але што было ім рабіць? Ці, можа, вяртацца назад, ці спрабаваць прабірацца па гэтай дрыгве? Вяртацца, вядома, нікому не хацелася, і камандзір, пару разоў вылаяўшыся, сказаў:

– Трэба выламаць палкі. З палкамі надзёжна! У блізкіх кустах яны павыламвалі сабе крывулякі-палкі, якімі пачалі пароць у мох і ваду – мацаць дно. Ботаў ужо не скідалі, не было патрэбы, бо там даўно ўжо чвякала і сіпела – набралася вады. Пакрысе намоклі і штаны – у Косці ажно да пояса. Босыя Косцевы ногі лёгка

правальваліся ў дрыгву, затое лёгка і выцягваліся з яе. Не тое што ў Тумаша, які аднойчы згубіў свой кірзач. Пасля доўга лаяўся і шукаў у багне палкай, ды ўрэшце дастаў змакрэлай да пляча рукой.

Тут Косця зноў ішоў наперадзе – шукаў найлепшы кірунак, па якім брылі астатнія. Кожны крок даваўся яму цяжка. Спярша пароў у дрыгвяную кашу палкай – у адно, затым у другое месца, затым асцярожна ступаў туды і, калі не адразу правальваўся, хутка скакаў на два-тры крокі. А то кідаўся ўбок, каб не надта глыбока праваліцца. Камандзір за ім усё адставаў, губляў яго след і лаяўся. Косця адчуваў сябе вінаватым, але памагчы камандзіру не мог. Багна яна ўсюды здрадлівая, найлепш яе перайсці як мага хутчэй.

Мабыць, тое разумелі і астатнія, бо хоць зрэдчас і лаяліся, але ішлі за хлопцам. Тым болей, што наперадзе, трошкі ўбаку і зводдаль зацямнеўся нешырокі клінок маладога хвойніку, – падумалася: там будзе сушэй.

Косця брыў, прыкідваў на вока, куды ступіць, і шырока скакаў. Часам удала, а часам правальваўся аж да грудзей. Надвячоркам ён быў ужо ці не ўвесь мокры, перапэцканы чорнай тарфяной граззю. Ужо і санітарная сумка добра намачылася, як ён яе ні бярог ад вады. Тое яго болей за ўсё засмучала, але што зробіш? Іншыя таксама былі ўсе мокрыя з галавы да пят, з бруднымі рукамі і тварамі. Па гэткім балоце Косця яшчэ не хадзіў ніколі, не было патрэбы. Улетку сюды прыходзілі бабы па ягады, але збіралі іх там, дзе суха. Нашто каму было лезці ў багну? Зімой, як балота ўмярзала, мужыкі, можа, і пераязджалі куды на санях – каб напрасткі. А болей каму што трэба ў балоце?

Аднаго разу Косця недагледзеў і шухнуў у прорву ледзьве не з галавой. Хлопец спалохаўся – так можна і ўтапіцца. Ледзьве выбавіўшыся з прадоння, стаў на купіне, перакуліў сумку, у якую таксама набралася вады. Так стаяў колькі хвілін, пакуль з ягонай апраткі цурком сцякала вада, і думаў, што Рабінзону ўсё ж было лепш – той плыў па моры, у чыстай вадзе. І яшчэ ў яго

быў сябар – Пятніца... Удвух заўжды не так, як аднаму, – у два разы лягчэй у кожнай бядзе. Было б добра, калі б учора з ім пайшоў яго сябра Лёнька, яны, пэўна, хутчэй бы завялі партызанаў у Багавізну. Ды Лёнька паехаў вазіць з бацькам сена, а Косця адбываў радоўку на пасце. Кепска, што ён нічога не сказаў нікому, Аўгуста там, пэўна, раскрычалася на ўсю вёску. З паўдня з ёй на пасту, канешне, пагнаў брацік Віцька. Малы яшчэ бегаць за каровамі, але больш няма каму. Косця любіў брата, можа, болей, чым маці, браў яго на возера вудзіць уклейкі, катаў на брычцы, як звозілі сена. А ўзімку расказваў прачытаныя кніжкі. Віцька заўсёды ўважліва, амаль зачаравана слухаў, а пасля ўвечары мкнуўся расказаць пачутае маці. Маці, аднак, слухала кепска – яна болей плакала.

Каб хутчэй прыйшоў бацька, было б лягчэй, а галоўнае – весялей дома. І Віцьку, і Косцю, і, пэўна, павесялела б маці. А то ўсё сварыцца і плача, плача і сварыцца. Праклятая гэта вайна! Яна забрала іх бацьку. І вучыцца няма як. Няма школы, настаўнікі параз’язджаліся хто куды. Некаторыя ў горад ці ў якую вёску. А настаўнік матэматыкі Пётр Максімавіч, кажуць, стаў паліцыянтам у раёне. Ціхі быў, добры вучыцель. Чаму так?

Далей яны ішлі так: Косця, які трохі прызвычаіўся да дрыгвянога шляху, далекавата адрываўся ад астатніх – ён бы разведваў накірунак, пракладаючы ў імшарыне блытаны, разварушаны ў гразі след. Прайшоўшы, здаля чакаў камандзіра, які брыў не дужа рухава, болей ашчадна і, дагнаўшы хлопца, хвіліну адпачываў на купіне побач. Тады Косця зноў лез у багну і брыў далей. У адным месцы не было і купіны, каб спыніцца, і хлопец ледзьве не плыў, па плечы пагрузшы ў чорнай з аерам вадзе. Ля зарасніку жоўтых гарлачыкаў неяк выбраўся на мяльчэйшае, уладкаваў на кусце сваю дашчэнту мокрую сумку і быў гатовы заплакаць, што гэтак няўдала завёў партызанаў. Думаў, камандзір яго вылае, як падыдзе бліжэй, і каб не слухаць лаянкі, зноў памкнуў у багну.

Так яны і прабіраліся – быццам перабежкамі на полі

бою, як пажартаваў здаля старшына Агрызкаў. Малайцы партызаны, яшчэ сказаў ён, зашыліся так, што ніякі Пінкертон не знойдзе. Мабыць, так, думаў Косця, які таксама калісь чытаў пра Пінкертона, але цяпер чамусьці не адчуў жаднага захапленьня партызанскаю хітрасцю. Між тым хвойны грудок, куды яны трымалі накірунак, пакрысе набліжаўся. Хаця яшчэ доўга давялося ім боўтацца, правальвацца і караскацца на купіны, пакуль дасяглі цвярдзейшага пад нагамі. І не заўважылі нават, як за балотам села ў хмару нізкае сонца. Накаціўся вечар.

Нарэшце дасяглі хвойніку і выбавіліся з д'ябальскіх абдымкаў багны. Косця, як вылез з балота на вузенькі пясчаны беражок, адразу знясілена ўпаў і ляжаў, бы ў непрытомнасці. За ім вылез і таксама ўпаў камандзір. Павыбіраліся астатнія. Усе злосна, знясілена маўчалі...

Першы ачомаўся на беразе камандзір, – сеў, пачаў знімаць боты, выліваць ваду. Пасля павыкручваў анучы, прыпол гімнасцёркі. Ягоны рэчмяшок з каштоўнаю ношкай таксама быў добра падмочаны, як і палявая сумка. Але надта сушыцца ўжо не было як – сонца зайшло, удалечыні над балотам пачаў паднімацца лёгкі празрысты туманок. Агледзеўшы наваколле з хвойнікам, Гусакоў раптам нібы спалохана вымавіў:

– А гэта што такое?

Яны павярнулі галовы ў той бок, дзе недалёка канчаўся гэты пагорак-мысок з маладым хвойнікам – там, відаць было, тырчэў у неба драўляны знак трыгапункта, падобныя на які дзе-нідзе ўжо трапляліся ім на тутэйшых палях. Згледзеўшы яго, камандзір адразу схапіўся за карту, дрыготкімі рукамі разгарнуў на траве яе падмочаны аркуш.

– Так, так, так!! Дык гэта ж трыгапункт семдзесят пяць нуль. Точна! Старшына, а ну зірні, што па той бок сасняку.

Агрызкаў, як заўжды, неахвотна падняўся, узяў аўтамат і палез у хвойнік. Седзячы трошкі ўбаку ад астатніх,

фельчар заклапочана поркаўся ў сваім рэчмяшку, мармычучы, што ўсё намокла, прапалі лякарствы. Да яўнае радасці камандзіра, здаецца, ён быў абыякавы. А той, паспешна накручваў анучы, каб сунуць ногі ў мокрыя кірзачы. Аднак не паспеў ён абуцца, як з хвойнага гушчару вылез старшына.

– Ну што?

– Зноў балота.

– А за балотам што?

– За балотам нейкі барок. Лясок нейкі.

– Лясок! То ж – наш Востраў Барок! Мы ж прыйшлі нарэшце!.. – узнёсла абвясціў Гусакоў.

Ён падхапіў карту і, пакінуўшы на траве рэчмяшок, таксама кінуўся ў хвойнік. На нейкі час яны там зніклі. Косця і Тумаш засталіся чакаць на беразе. Тым часам хутка зьмяркалася, насоўвалася ноч – ці не апошняя на іхнім бязладным шляху...

Гусакоў не памыліўся: на самым мыску хвойнай пясчанай касы, што адкульсці выцягнулася ў балота, тырчэлі ўгару тры трухляватыя бервяны трыгапункта. На карце ён быў пазначаны лічбай 75,0. Зноў жа на карце ад яго цераз балота з выразнаю назваю ўрочышча Багавізна значыўся хвойны гаёк, падпісаны дробненькім курсівам Востраў Барок, – якраз тое, куды ім было трэба. Куды яны накіроўваліся, скакалі на парашутах, паўзлі па балоце. Да жаданае мэты заставалася не болей як кіламетр ці два па карце. Але таксама цераз балота.

Тое, што зноў давядзецца ісці цераз балота, Гусакова не надта палохала, ён ужо ведаў, як яго перайсці. Была б мэта. Мэта цяпер паўстала перад ім блізка, здавалася, хоць ты вазьмі і дакраніся да яе рукой.

– Дык што – пойдзем? – будзённым голасам мовіў старшына, які ўсё зразумеў без словаў.

Гусакоў чамусьці не адказаў нічога, яго трэсла – ад сцюжы ці ад нярвовага напружання, якое, падобна, раптам апала, пакінуўшы пустку ў душы. Цяпер, калі Востраў Барок ён ужо бачыць і зараз яны рушаць туды, узнік новы клопат – што рабіць з хлопцам? Раней, як ішлі, прабіраліся цераз балота, ён неяк не думаў пра тое. Хлопец памагаў, вёў, быў ім патрэбны – і добра. Але цяпер... Камандзір выразна адчуў, што яго нельга весці на базу і нельга адправіць дадому... Што ж з ім рабіць?

– Дык ідзём? – павярнуўся да хвойніку старшына.

– Пастой! Ты гэта хлопца прывёў?

– Ну я. А што?

Старшына спыніўся – ён ужо адчуў штосьці кепскае, але яшчэ не разумеў, што.

– Не разумееш?

– Не разумею.

Ён чакаў адказу, але камандзір хвіліну марудзіў. Відаць, яму не хацелася штосьці тлумачыць падрабязна.

– Хлопца нельга весці на сакрэтную базу.

Старшына маўчаў. Але, бачна было, аж захваляваўся і няўцямна сеў на пясчаны дол.

– Да-а, – збянтэжана вымавіў ён.

– Вот табе і да-а!

Гусакоў адчуў, што той усё зразумеў, – не маленькі! І нічога болей яму тлумачыць не трэба.

– Адвядзеш у староньку і застрэліш, – ціха сказаў Гусакоў і зацяў дыханне. Старшына азваўся не адразу.

– А чаму я?

– А хто ж? Ты прывёў?

– Я не буду! – падумаўшы, рашуча сказаў старшына і ўстаў з долу.

– Катэгарычна?

– Катэгарычна.

Заклапочана павярнуўшыся на месцы, Гусакоў паўзіраўся цераз балота, якое ўсё болей змрачнела. Яшчэ трошкі часу – і высокія дрэвы Барка за балотам засцеле змрочны туман. Трэба запомніць накірунак, бо давядзецца ісці паначы. Трошкі не хапіла відна.

– Ідзі пакліч фельчара, – загадаў камандзір. Старшына ўстаў і моўчкі палез у гушчар.

Гусакоў застаўся адзін, ён нервова лаяўся ў думках: вось жа халера! Не падумаў, што так можа ўсё стацца. Усё ішло ладна, яны без стратаў і сутычак дабраліся да мэты і – на табе; невялічкая балючая праблема. Даволі паскудны сюрпрыз! Але, можа, гэта толькі здаецца – праблема? Увогуле, – якая праблема? На акупаванай тэрыторыі. Аднаго чалавека. Хоць бы і хлопчыка. Немцы іх вунь колькі нішчаць кожнага дня – і хлопчыкаў, і дзяўчынак. Шкада, канешне, але ж бяспека партызанскага злучэньня важней. Адпусціш, а калі перахопяць немцы? Ужо ў гестапа ўмеюць выцягваць сакрэты. Не толькі ў падлеткаў-хлопчыкаў. А гэты старшына – не буду. Шкада. Быццам яму не шкада. Ці генералам, камандуючым на фронце не шкада гэткіх во ці трохі старэйшых хлопцаў, што тысячамі кідаюць у бой, і тыя не вяртаюцца, застаюцца ўгнойваць рускую зямлю? Мабыць, шкада. Але будзеш усіх шкадаваць, не дачакаешся перамогі. Сам ляжаш у зямлю.

Мусіць, што ляжаш сам – тое галоўнае. Для кожнага. І для яго таксама. Бо і ён у пастцы – хлопца ні пусціць, ні ўзяць з сабой нельга. Адразу ж прычэпіцца асобы аддзел: скуль? Хто дазволіў? А то і – хто ўнядрыў. Не, лепей за ўсё, калі хлопцу – хана. Можа, і для яго лепей таксама.

З хвойніку вылез Тумаш, маўкліва спыніўся воддаль.

– Тумаш, ты – балыпавік?

– Беспартыйны.

– Дзеці ёсць?

– Не-а. Не жанаты. Не паспеў...

Камандзір памарудзіў.

– Бяры хлопца, адвядзі ў кусты і стрэльні.

Тумаш моўчкі стаяў, бы глухі.

– Ну што маўчыш?

– Думаю, ці вы здурнелі?

– Здурнееш! – амаль закрычаў Гусакоў. – З вамі здурнееш! Што ж вы не разумееце, што я не маю права весці яго на базу? Там жа штаб усяго злучэння, што яны нам скажуць. Яны ж нас паставяць пад сценку, ты разумееш? Ці ты не ведаеш, што такое органы!

– А, органы...! І тут органы! – прабурчэў Тумаш. – Ну што ж... Маё дзела маленькае. Загадваеце – выканаю. Але я не адказваю. Вы...

Усё мармычучы нешта, ён палез у хвойнік, Гусакоў застаўся адзін. Яго ўжо здорава трэсла – ад мокрай апраткі, вечаровай золкасці, нервовага ўзбуджэньня ці ад усяго разам. Нядоўга пастаяўшы, ён таксама палез праз хвойнік на тое месца, куды яны вылезлі з балота і дзе заставалася яго ношка. Тумаша з хлопцам там ужо не было. Абапёршыся локцямі аб калені, на беразе сядзеў старшына; падобна, ён таксама калаціўся ад балотнае золі.

– Пайшоў?

– Павёў, – адчужаным тонам мовіў старшына. Побач ляжаў рэчмяшок камандзіра, а таксама санітарная сумка і валізка Тумаша. Вінтоўкі яго не было. Камандзір надзеў на плечы свой рэчмяшок, схаваў у сумку карту.

Яны пачалі чакаць – чакаць стрэлу. Ды стрэлу чамусьці не было. Уздоўж берагу, трывожна залопаўшы крыллем, паляцела кудысьці качка, за ёй неўзабаве другая. Ужо ці не павёў ён хлопца куды далёка, думаў Гусакоў. Усё ж фельчар франтавік вопытны і не павінен упусціць падлетка, калі той кінецца наўцёкі. Ды і не павінен пабегчы. Калі з ім ласкава, абыходліва, каб лішне не нерваваць перад стрэлам. Аднак жа трохі падазрона, што фельчар лёгка пагадзіўся. Усё ж, каб забіць чалавека, мабыць, трэба мець адмысловую рашучасць, якое вось Гусакоў не меў. Ён на вайне не забіў яшчэ ніводнага фрыца – не было нагоды. У гэтым сэнсе ягонае сумленьне чыстае. Хоць тое яго суцяшала.

Стрэлу яны чакалі, здалося, нясцерпна доўга – аж здрыжэліся абодва ад перанапругі. І стрэл нарэшце грымнуў – ня так і далёка, у хвойнічку. Глухаватае ў тумане рэха перакацілася цераз балота і заглухла. Мабыць, дасягла і ў іхні жаданы Барок. Ужо можна было б ісці па той бок хвойніку, але спярша трэба было дачакацца Тумаша.

Тумаш, аднак, усё не ішоў. Можа, заблудзіўся і павярнуў не ў той бок? А можа, куды падаўся? Калі наўцёкі?

Ужо і сцямнелася. Хвойны мысок зачарнеўся пакатым гарбом сярод дымнага туману над балотам. Страхавітае нецярпенне ўсё болей агортвала абодвух.

Яшчэ прадзіраючыся праз гушчар да Косці, Тумаш толькі дзівіўся, як у гэтых партызанаў усё хутка і проста.

Увогуле ў сваім жыцці ён пабачыў нямала агіднага і страшнага, на вайне таксама. Бачыў, як танкісты душылі на дарозе двух звязаных эсэсаўцаў, паволі наязджаючы на іх гусеніцамі. Рабілі тое прылюдна, напаказ пехацінцам-дэсантнікам, шмат якіх сабралася наўкола паглядзець цікавае відовішча. П’яны лейтэнант сядзеў на крыле трыццацьчацвёркі і ўзіраўся ў вочы звар’яцелых ад болю ахвяраў, голасна каментуючы, як у тых вылазяць вочы з арбітаў. Шмат якія вакол

захапляліся, крычалі: давай астатніх! Астатнія, чалавек восем палонных з паабдзіранымі пагонамі, чакалі свае чаргі. Але то былі эсэсаўцы, зацятыя гітлераўцы, якія ўпарта ваявалі і нават перад смерцю раз-пораз кідалі ўгору рукі – хайль Гітлер! А другі раз нашыя самаходчыкі каралі ўласаўца. Пасадзілі на тоўсты, бы бервяно, ствольны тормаз свае 152-міліметровай гарматы, звязалі ўнізе ногі і стрэлілі. Толькі ашмоцце паляцела ў паветра ды крывавымі пляцкамі заляпіла твары тых, што сабраліся наўкола. Добра, фельчар стаяў убаку. А цяпер во ўбок не адыдзешся.

Але ж тут – хлопчык. Не вораг і не партызан, можа, сын партызана. Узялі, пакарысталіся і – прэч. Бы якую анучу. І ўсё з меркаванняў бяспекі, сакрэтнасці, каб не прычыніць шкоды. Але каму? Тым, што сядзяць за балотам і бароняць краіну. І сацыялізм. І камунізм. Каб ім зручней і спакайней было бараніць, ён, беспартыйны фельчар, змушаны застрэліць хлопца. Тыя ж, канешне, страляць не будуць, яны таго сабе не дазволяць.

А ягонымі рукамі можна. Мабыць, чужымі рукамі ўсё можна – і забіць, і памілаваць.

Вось жа д’ябальская нявыкрутка! І што зробіш? Не выканаеш загаду, сам можаш атрымаць кулю ў лоб. Але і як выканаць?

Мабыць, зусім не прадчуваючы, што над ім навісла, Косця ў мокрай апратцы спакойна сядзеў сабе на сухім беражку і дробна трэсся ад сцюжы. І як удзень – у сваёй вялікаватай кепцы, якая адна і засталася ў яго сухая. Калі Тумаш вылез з хвойніку, хлопец запытальна ўгледзеўся ў яго – чаго, маўляў, тут марудзяць, не ідуць, куды трэба. Бо ж сапраўды Востраў Барок зусім побач, ён да яго прывёў, не заблудзіў, і тым быў амаль задаволены. Можа, нават чакаў падзякі ці ўзнагароды з ліку тых медалёў, што нёс камандзір. Хіба ж не заслужыў?

Тумаш, аднак, не чуў хлопцавых думак, ён дужа маркоціўся ад скрухі, бо не ведаў, як вымавіць тое слова, за якім пачнецца нялюдскасць. Ён ледзьве змусіў

сябе прыціхла прамармытаць: «Ну, пойдзем!...»

Хлопец устаў, здрыгануўся і чакаў, яшчэ не ведаючы, куды ісці. Сваё ён адвёў, цяпер, мабыць, павінны весці яго. Толькі куды?

– А куды?

– Туды. У сасоннік, – перасмыкнуўшы абпаленымі вуснамі, прамовіў Тумаш. – Тут, недалёка.

Відаць было ў паўзмроку, як Косця няўцямна цепнуў плячыма, але пайшоў, – спярша па беразе, а пасля мусіў улезці ў гушчар, бо прайсці па беразе ўжо не было як – не стала і берага. Тумаш палез за ім следам. Ужо ўпоцемку, прабіраючыся праз калючы хвойнік, хлопец пару разоў прыпыніўся, мяркуючы, што фельчар яму штосьці скажа. Але фельчар не казаў нічога – фельчар усё думаў – дзе? Дзе яму стрэльнуць? У гушчары было цёмна і нязручна, ён мог не трапіць. А пасля з’явілася маленькая думка – можа, ён уцячэ? Уцячы было ўвогуле лёгка, і Тумаш бы яго не дагнаў. А можа, і не спрабаваў бы дагнаць, што ён, сабака? Ці які міліцыянт. Ён фельчар, медык, ягоны абавязак лячыць людзей, а не забіваць іх. Ды во змушаны...

Але хлопец не ўцякаў, спакойна ішоў да свае пагібелі, і фельчару аж зрабілася злосна. Трэба нарадзіцца гэткаму дурню! Ці ён не разумее?

А хіба ж усё разумеў Тумаш?

– А куды... куды мы ідзём? – упершыню з ціхай трывогай папытаўся Косця. Яны ўжо далекавата адышліся ад берага, ужо трэба было паспяшацца зрабіць, што загадана, а Тумаш усё не мог набрацца рашучасці і толькі мармытаў штось бездапаможнае. І хлопец, мабыць, адчуў штосьці нядобрае ў настроі гэтага чалавека.

– Куды вы мяне ведзяце? – ужо голасна, з надрывам, папытаўся Косця і стаў. «Ах, каб ты прапаў, дурань, – падумаў Тумаш. – Ну што з ім рабіць?»

– Слухай, – няцвёрда сказаў ён. – Ты – бяжы!

– Куды?

– Бяжы ты, халера на цябе. Не разумееш, ці што?

– Бегчы? Дзядзька, вы не партызаны? Вы не партызаны! – раптам праз плач закрычаў ён, бы штось зразумеўшы.

– Уцякай! – крыкнуў Тумаш. – Бяжы, ну!..

Мабыць, Косця ўсё ж зразумеў, што ад яго патрабавалася, і падаўся ў чорны гушчар. Тумаш аж уздыхнуў з палёгкай, падняў сваю СВТ і стрэліў угару. Стрэл грымнуў нечакана гучна, аж аглушыў фельчара. Той стаіўся, трохі счакаў, пакуль заглухла над балотам далёкае рэха, услухаўся. Хлопца ўжо не чутна было ў хвойніку, мабыць, можна было вяртацца на бераг. Але вяртацца туды не хацелася, і Тумаш стаяў, слухаў, чакаў, аж покуль здаля не данесліся выгукі ці, можа, яму здалося. Але – не здалося, бо зараз жа за імі грымотна пратрашчэла чарга, другая, дзве запар – гучнае водгулле разнеслася над балотам. Тумаш спярша прысеў, затым ускочыў і кінуўся ў другі бок, – да камандзіра з Агрызкавым. Але па ягоным шляху гучна зашчоўкалі кулі, ссечаныя імі галінкі сыпанулі з хвой. «Авохці мне, ну ўліп! Ну ўліп!» – стукала пякельная думка. Бегучы, фельчар усё чакаў – зрэжа, во гэтая зрэжа і яго. Ён і прысядаў у хвойніку, і бег, бы заяц, – блытана і не ўлад, абдзіраючы галаву і твар аб калючае голле.

Як выскачыў з хвойніку на вузенькі асакаваты бераг, кулі хвасталі воддаль, мабыць, цяпер па яго двух спадарожніках – рыкашэтам разьляталіся і візгалі над балотам – Тумаш прыпыніўся, лёг. Куды ж было бегчы? Хто і адкуль страляў, яму было ўсё роўна. Тыя ці іншыя, але яго намагаліся забіць, і ён мусіў ад іх ратавацца. Толькі дзе тут было ратавацца? Памарудзіўшы, ён шаснуў у балотную глыб, адразу праваліўшыся па сцёгны. Добра, што ягоная ношка – рэчмяшок і сумка – засталіся там, улегцы яму стала зручней. І ён пабрыў па багне, далей ад хвойніку, усё болей улазячы ў ваду.

Вінтоўку, аднак, не кідаў, вінтоўка яшчэ магла спатрэбіцца. Хаця і не для паратунку – адчуваў, уратаваць яго магло толькі балота.

Як там спынілася страляніна, тады і ён спыніўся, стаіўся ў багне, прыціх, думаў, куды падацца.

Старшына на беразе скалануўся – пачуў галасы. Здалося, у тым баку, куды пайшоў Тумаш. Два ці тры выгукі, і даўгая аўтаматная чарга зрушыла начную цішыню. Зусім блізка – над галавой і побач страхавіта ціўкнулі кулі.

– Што гэта? – вырвалася ў Гусакова.

– Ярунда гэта, камандзір! – з адчаем выгукнуў старшына. Ягоны голас адразу заглушыла некалькі чэргаў зблізку – ужо з самага хвойніку. Білі ў бок трыгапункта, а кулі ляцелі цераз іх галовы па беразе, разляталіся над балотам. Старшына схапіўся за аўтамат, але камандзір побач крыкнуў:

– Не страляй!

Яны ляжалі на самым беразе, тулячыся да воглага пяску; бегчы ў балота, аднак, не адважваліся. Праз кароткі час зноў ударыла некалькі чэргаў – ужо з двух накірункаў, ад хвойніку і ад трыгапункта. Іх перакрыжаваныя трасы агнянымі мухамі нізка паляцелі над балотам і згаслі ў тумане. Камандзір з пісталетам у руцэ прыўстаў на каленях і хацеў штосьці крыкнуць. Але толькі войкнуў і споўз долу. Старшына ўцяўся ў пясок як мага ніжэй і ляжаў так, з аўтаматам у руках. Ён не страляў. Ён ужо разумеў, што гэта – свае і што зараз яны іх расстраляюць, як, мабыць, ужо расстралялі Тумаша. Гэтыя хлопцы сваю справу знаюць – спрактыкаваныя партызаны!..

Гусакоў зноў прыўзняўся на адно калена і зноў хацеў штосьці крыкнуць, ды ўжо не крыкнуў. Пад новай чаргой ва ўпор торкнуўся ілбом у пясок і заціх.

– Гэй, вашу маць! – губляючы вытрымку, ва ўсё горла

закрычаў Агрызкаў. – Што робіце, блядзі! – і лежачы, даў даўгую чаргу з аўтамата – у неба.

Надзіва, чэргі з хвойніку разам спыніліся, пачуліся недалёкія, бы сцішаныя галасы. З цёмнага гушчару вынікла шэрая постаць, прыгнуўшыся спынілася ў нерашучасці. За ёй з’явілася яшчэ адна.

– Тут яны! Во ляжаць...

– Улажылі такі.

– Іш адкуль падбіраліся. Думалі, не ўбачым...

Гусакоў не варушыўся. Наўкола на траве бялелі новенькія партызанскія медалі з расшкуматанага чаргой яго рэчмяшка. Старшына памалу падняўся і сеў на пяску, сціскаючы рукой плячо. Праз пальцы па рукаве горача лілася кроў, і было нясцерпна паныла...

Чорт ведае, што яны нарабілі!.

# Апавяданьні

## Пагорак

Позьняй веснавой раніцай мы з капітанам Лемешам сядзелі каля дымлівага цяпельца і бавілі час у ленай, нешматслоўнай гаворцы. Увогуле было маркотна, у мяне для радасьці не было падставы. Капітан жа мог бы і парадавацца, але яго, відавочна, займалі новыя думкі, далёкія ад гэтага пагорка і дагарэлага на ім цяпельца. Учора да нас на НП перадалі загад па дывізіі, якім капітан Лемеш прызначаўся начальнікам артылерыі суседняга палка. Для нядаўняга камандзіра батарэяў “саракапятак” гэта было падвышэньне, якое абяцала зусім іншую вайну і службу, іншую, чым тая, што за немалы час добра агоркла капітану. Тыдзень таму на

Днястры мы страцілі апошнюю нашу “саракапятку”, якую ўшчэнт разьнёс нямецкі снарад. Байцоў, што засталіся ад батарэі, перадалі на папаўненьне ў стралковы батальён, а самі пяты дзень сядзелі на НП камандзіра палка. Ноччу, пакуль камандзір спаў, мы дзяжурылі ў камандзірскім бліндажы, слухалі і глядзелі, што адбываецца на недалёкай перадавой, пераэвоньваліся з НП дывізіі. Вядома, мы разумелі, што гэтая наша служба — часовая. Полк вёў баі, спрабаваў наступаць, штодня нёс страты. У кожную хвіліну нас маглі накіраваць куды заўгодна, але найбольш верагодна — у які-небудзь стралковы батальён: капітана — камандзірам роты, а мяне — узводным. Каб не дарма елі салдацкі хлеб, як казаў капітан. Аднак яму нечакана пашанцавала — яго ўжо не пашлюць у стралковую роту, цяпер ягонае месца ў палкавым штабе. Але што чакае мяне?

Капітан быў чалавек выхаваны, паходзіў зь ленінградзкіх інтэлігентаў, мабыць ён разумеў стан мае душы і памкнуўся мяне суцешыць.

— Ладна, не тужы, лейтэнант. Станем у абарону, падкінуць гарматкі. Табе ж шмат ня трэба? Якіх пару...

— Хай не даюць, — няшчыра пярэчыў я. — Аўтамат знойдзецца.

— Аўтамат пасьпеецца...

Цяпельца то затухала, то пад лёгкім ветрыкам пачынала бязьлітасна дыміць, выядаючы вочы. Ісьці па дровы ў недалёкі вінаграднік не хацелася. Тут быў схіл пагорка, на якім з таго боку сапёры абсталявалі бліндаж назіральнага пункту. Там жа, за пагоркам, чутна было, грукацелі кулямётныя чэргі, але сюды кулі не залятаті, пагорак нас укрываў. Наперадзе ж перад намі разьлеглася даволі шырокая даліна, па той бок якой таксама на схіле відаць былі роўныя шнуркі вінаграднікаў і бегла крываватая палявая дарожка, абсыпаная абапал старымі і сьвежымі варонкамі ад выбухаў. Капітан усё ўзіраўся туды, чакаючы пасыльнага, які павінен быў прыехаць па новага

начарта. Але пасыльны затрымліваўся, хаця ўжо гадзіну таму па тэлефоне перадалі, што паехаў.

— Ат, ладна, — сказаў капітан і дастаў з-за пазухі алюміневую пляшку. — Давай вып'ем. Каб не апошнюю...

— Ну, вы цяпер маеце шанец...

— Шанец чаго? — насьцярожыўся капітан.

— Ну, на жыцьцё, — адчуўшы пэўную няёмкасьць, сказаў я. Падобна было, капітан пачуў у маім голасе нейкія ноткі зайздрасьці. Але тое была ня зайздрасьць да яго — болей клопат за свой незайздросны лёс. Я, напэўна, адчуваў, што ня сёньня, дык заўтра апынуся ў стралковым батальёне, дзе, вядома, жыцьцё нядоўгае. Хоць яно і ў супрацьтанкавай батарэі не даўжэйшае, але ўсё ж... Усё ж во мы ўцалелі.

— На вайне ніхто ня ведае свой шанец, — растлумачыў капітан. — Ну, глытнём!

Ён глытнуў сам і падаў мне пляшку, зь якой я глытнуў раз-два і папярхнуўся. Мусіць, то быў сьпірт, ад якога адразу заняло дых.

— Ну во, — сказаў ён. — Каб табе тут шчасьліва ваявалася.

— Дзякуй.

У той час унізе, у лагчыне, а зусім не на дарожным пагорку паказаўся чалавек, які вёў на повадзе каня — мабыць, гэта й быў той, каго мы чакалі. Ад выпітага сьпірту ці ад усьведамленьня канца нецярплівага чаканьня капітан прыкметна ажывіўся, піхнуў ботам канец галавешкі, ад якой пыхнула ў вочы ядучым дымам.

— Ты гэта во што... Калі там у батарэі недакамплект узводных, дык я цябе забяру. У свой полк.

— Ды ну! Ці варта...

— Варта, варта. Усё ж мы с табой разам з самай зімы. Лічы, чатыры месяцы.

— Чатыры месяцы...

— Можа, я цябе калі й дапёк, дык даруй. Знаеш, вайна — усё ж нэрвовая справа.

— Ды не. Я нічога...

— Ага, не крыўдуй... А давай яшчэ па глытку! — з раптоўнай рашучасьцю сказаў капітан і зноў выцягнуў з-за пазухі ватоўкі сваю пляшку. — Думаў, там — на абмыўку. Але й тут дарэчы.

Мы й яшчэ глытнулі патроху, пакуль коньнік узьяжджаў на пагорак. Гэта быў пажылы, вусаты баец у бушлаце, які неўзабаве спыніўся перад цяпельцам і зважліва папытаўся:

— Ці ня вы будзеце капітан таварыш Лемеш?

— Угадаў! — сказаў камбат і ўскочыў, — рослы, энэргічны, у туга аперазанай партупэяй ватоўцы. — Ну, лейтэнант, жыві да перамогі! На перамозе сустрэнемся.

Я таксама ўстаў, мы таропка абняліся, і капітан, прыняўшы ў пасыльнага повад, лёгка й спрытна ўскочыў у сядло. Не азірнуўшыся, ён паскакаў рысьсю ўніз, за ім, трохі адстаўшы, ехаў вусаты пасыльны. Я сеў на сваё ранейшае месца ля цяпельца. Мне было сумна й трохі зайздросна. Хоць надта зайздросьціць я ня меў падставы: усё ж камбат быў старэйшы за мяне, ваяваў у палку ад самага Сталінграда, узнагароджаны трыма ордэнамі, у тым ліку і Чырвоным Сьцягам, ня тое, што я — Чырвонаю Зоркай, ордэнам Ванек-узводных ды тылавікоў-інтэндантаў. Зноў жа ён быў ня з тых, хто любіў заграбаць жар чужымі рукамі, а калі трэба было, дык рызыкаваў і сабой. Як у тым выпадку на пляцдарме, калі стаў за прыцэл гарматы і паўдня адбіваў нямецкія атакі. Мабыць, ён заслужыў нейкае права, каб цяпер, напрыканцы вайны, лепей уладкаваць свой лёс і, можа, дажыць да перамогі. Але хто не хацеў бы таго? Праўда,

пра тое, каб выжыць, мы маглі толькі марыць. І то тайком ад саміх сябе, тоячыся ад уласнага сумленьня.

Ужо без увагі да згаслага цяпельца я сядзеў на схіле і пазіраў усьлед нядаўняму камбату. Унізе палявая дарожка раздвойвалася, адна ішла напрасткі цераз пагорак з варонкамі, а другая, ледзьве прыкметная здаля, — у аб'езд па лагчыне, адкуль прыехаў пасыльны. Капітан спусьціўся з пагорка і троху прытрымаў каня, мусіць, вырашаў, па якой скіравацць дарозе. Здалося мне, нават трохі праехаў у лагчыну, але зараз жа збочыў і скіраваў на тую, цераз пагорак. Мабыць, гэтая была карацейшаю, а капітану, відаць па ўсім, не цярпелася. Тым болей, што немцы пакуль не стралялі, выбухаў паблізу не было чуваць.

Шпаркай рысьсю капітан паскакаў на пагорак і вось ужо выехаў на самы ягоны ўзлобак. І тады ўгары каротка віскнула, і ля дарогі пыхнуў клубміннага выбуху. Сэрца ў мяне здрыганулася — ну, нашто ён паехаў туды? Пыхнуў і яшчэ адзін пыльны клуб — па другі бок дарогі. Капітан хвастануў каня, зрываючы на галоп, але тут жа ўгары пагрозьліва завіскатала ў шмат галасоў, і некалькі выбухаў нячутна вырасьлі абапал дарогі, схаваўшы ў сабе коньнікаў. Я ўскочыў на ногі, але з паўхвіліны нічога там згледзець ня мог — адно касяк пылу паволі поўз цераз дарогу. Як ён споўз адтуль, я ўбачыў толькі каня, што, дужа кульгаючы, бег кудысьці па схіле. Другі коньнік, што добра-такі адстаў ад першага, таропка заварочваў назад.

А за пагоркам ззаду ўжо ва ўсю забухала, загуло. Нямецкая артылерыя пачала біць па ўсім навакольлі, міны рваліся ў лагчыне і далей, не даючы нікому высунуць носу з укрыцьцяў. Капітана вынесьлі толькі ўночы, ягонае цела было амаль расшкуматанае асколкамі, і хавалі яго туга загорнутым у плашч-палатку.

Жывы прайшоў ад Сталінграда да румынскай мяжы, а пагорка не пераехаў...

## Палітрук Каламіец

Як сьціхнуў пад вечар бой, асеў на зямлю ўзьняты бамбёжкаю пыл, і ў высокім нябесным абшары запаліліся першыя зоркі, кампалка Пахомаў і палітрук Каламіец вылезьлі з бомбавай варонкі і агледзелі тое, што засталося ад занятага імі ўчора чыгуначнага разьезда. Разьезда не было. Глінабітная казарма для рабочых і пакгаўз побач нагадвалі аб сабе адно чорнымі гарбамі на краі гэткага ж чорнага неба. Ад шэрагу стромкіх таполяў ля дарогі засталіся скалечаныя выбухамі абломкі; расшчэпленыя камлі, бы растапыраныя пальцы, тырчэлі з разварушанай зямлі. “Добра яшчэ, што засталіся гэтыя таполі, а то было б і не пазнаць разьезда”, — думаў палітрук. Надвячоркам пасьля жорсткай бамбёжкі нельга было й меркаваць, што тут хоць нешта застанецца — і ад гэтага разьезда, і ад пехацінцаў, што акапаліся побач у сухой, скамянелай зямлі.

Уначы дзённая сьпёка паволі аціхала, але гарачы сухавей са стэпу нес мала прахалоды. Разгарачанае цела гарэла пад спатнелай абмундзіроўкай, дужа хацелася піць. На бяду, калодзеж ля казармы таксама быў разварочаны і засыпаны. Байцы з сапёрнага ўзводу неяк спрабавалі дагрэбціся да вады. Але калі тое будзе.

Палітрук Каламіец, між тым, доўга і старанна страсаў зь сябе пыл і зямлю, а кампалка сядзеў нерухома, апануранi і самотны. Нязбыўны клопат пра ваду пачаў выцясьняць зь ягонае галавы ўсе ранейшыя клопаты. Вада патрэбная была байцам, патрэбная для кухні, а найболей — для кулямётаў “максім”, тры зь якіх ужо абязводзіліся і не стралялі; у два астатнія сабралі рэшту вады зь біклагаў. Сёньня полк стрываў шэсьць жахлівых бамбёжак — сьпярша трох “хейнкеляў”, пасьля дзевяці і пятнаццаці, а пасьля ніхто й не лічыў. Праўда, людзкія страты былі ня дужа вялікія, усе ж байцы пасьпелі акапацца наводдаль ад чыгункі ў полі. Ды, на бяду, забіла двух апошніх коней, што вазілі палкавую кухню, і цяпер ні правіянту, ні вады прывезьці не было чым. Мабыць, сапраўды засталося паміраць на гэтым

праклятым разьезьдзе, — думаў кампалка, — бо дзявацца тут не было куды. Адсюль ужо не адступіш, як адступалі ад самага Варонежа. Учора, калі яны занялі гэты разьезд, конна прыехаў даручэнец камдыва і прывез, каб расьпісацца, загад Вярхоўнага пад нумарам 227 з назвай: ні кроку назад! Памры, але не адступі. Тое тычылася ўсіх: ад камандарма да апошняга байца, што б ён ні абараняў — горад ці гэткі во разьбіты, амаль зраўняны зь зямлёй стэпавы разьезд. Даручэнец паведаміў таксама, што ўжо ёсьць і вынікі невыкананьня загаду: у суседнім палку аддалі пад трыбунал аднаго камбата і расстралялі на месцы ПНШ па разьведцы.

— Дык што рабіць будзем, камісар? — няўцямна пытаўся заклапочаны камандзір палка.

— Будзем стаяць, — проста адказаў палітрук Каламіец. — Што ж застаецца.

— Нічога не застаецца, — скупа пагадзіўся кампалка. Абмяркоўваць загад не належала, лепш было памаўчаць.

— А дзе тая станіца, ці далёка? — з новым клопатам загаманіў палітрук, прыпамятаўшы, як той даручэнец камдыва перадаў яшчэ адзін загад — вусны — са штабу дывізіі: уначы атрымаць папаўненьне. Колькі было таго папаўненьня, невядома, але найперш належала правесьці зь ім палітработу — тым болей цяпер, калі прыйшоў такі важны загад. То была справа палітрука, і Каламіец затурбаваўся.

— Арцюха папытайце. Які з санузводу, — сказаў кампалка. — Ён раненых вадзіў, ведае.

Каламіец устаў з краю варонкі і пайшоў у цемру, ціха аклікаючы Арцюха. Неўзабаве каржакаватая постаць у пілотцы невыразна заварушылася ў змроку.

— Пойдзем у станіцу. Дарогу ведаеце?

— Дарогу? Ды во, наўпрасткі, цераз стэп, — глуха

азваўся баец, папраўляючы на плячы вінтоўку з прымкнёным штыхом.

Каля паваленых паўз дарогу таполяў яны скіравалі ў стэп.

Пасьля няспыннае дзённае калатнечы прыемна ўражвала начная, амаль мірная ціша, далікатна парушаная адно ціхманым стракатаньнем цыкадаў. Боты дужа хрускалі ў наскрозь прапыленым стэпавым быльнягу. Блізка баёў не было чуваць, толькі дзесь на захадзе на краі неба час ад часу пыхала агняная пыхаўка, ды таўкла зямлю далёкая арткананада. А так навокал усё сьціхла, змарнела, затаілася. “Ці надоўга, аднак, — думаў палітрук. — Хіба да ранку...”

— Адкуль родам, Арцюх? — спытаў ён байца, што моўчкі сунуўся ззаду.

— Я? Ды з курскіх.

— Курскі салавей?

— Ну.

— З гораду, сяла?

— Ды з калхозу, — выдыхнуў Арцюх. — Калхозьнік.

Ён тое мовіў так проста, нібы ўсё астатняе было зразумела адразу, і ня трэба было ні пра што пытацца. Палітрук і не пытаўся. Ён таксама зь сяла, хоць і ня з курскага — са смаленскага, хоць і не калгасьнік — настаўнік. Два гады перад вайной працаваў дырэктарам сельскай школы, а перад тым — як партыец — актыўна заганяў сялян у калгасы, раскулачваў, ссылаў, падпісваў на пазыкі, спаганяў падаткі, рабіў усё, што рабілася ва ўсёй краіне. Калгаснае жыцьцё яму было добра знаёмае і цяпер не выклікала жаданьня ні што абмяркоўваць, ні нават успамінаць. Яго куды болей гняла іхная невясёлая рэчаіснасьць на разьезьдзе ды гэты жахлівы сталінскі загад. Паратунак заўжды на вайне быў у тыле, куды адступалі, часам задавалі драпу, драпам і ратаваліся. А цяпер во за адступленьне без

дазволу — трыбунал. Такая ганьба... Небясьпека навальвалася з двух бакоў: звыклая — з боку немцаў, і новая — з тылу, ад сваіх. Калі ўжо такі загад самога Сталіна, дык літасьці ад начальства ня будзе — ні да байцоў, ні да камандзіраў. Добра, калі пашанцуе з папаўненьнем, дадуць абстраляных байцоў. А калі навабранцаў, запасьнікоў? Ды яшчэ горш — чорнагаловых зь Сярэдняй Азіі, якія ні бяльмеса, і ўсё. Вось тут і выконвай загад Вярхоўнага.

Палын жорстка шархацеў пад кірзачамі, палітрук прыбаўляў кроку. Усё ж за кароткую ноч трэба было пасьпець туды і назад. Як бы да золку не спазьніцца. І яму здалося, што Арцюх адстае, ён азірнуўся раз і другі, трохі замарудзіў крок. А можа, той зусім хоча адстаць? Такія маўчуны здольныя на рознае, хто ведае, што яны носяць у сабе, — падумаў палітрук. Ці мала ўжо такіх, маўклівых і гаваркіх, пазьнікала за кароткія ночы іхнага адступленьня, і ніхто ня бачыў, куды. Але ведама, куды — дамоў. “Хутчэй нельга?” — з дакорам ціха гукнуў ён, павярнуўшыся, і Арцюх буркнуў штось невыразнае ў адказ, але не прысьпешыў хады. Вядома, байцу што, мабыць, байца за адступленьне пад трыбунал не аддадуць, аддадуць камандзіраў і яго, палітрука. Хоць больш, чым ад камандзіраў, той загад залежаў усё ж ад байцоў: пабягуць у горкі час ці выстаяць? Калі пабягуць, не стрываўшы, тады, пішы, усё прапала. Паспрабуй, утрымай іх сярод гэтага прагорклага ад палыну стэпу, — невясёла разважаў палітрук.

Усё ж яны дабрылі ў начной цемрадзі да станіцы і за полем сланечніку ў садку ня так убачылі, як адчулі ціхае варушэньне мноства людзей. Палітрук, пытаючыся ў начных сустрэчных, знайшоў у суседняй хатцы камандзіра гэтай маршавай роты, гаваркога малодшага лейтэнанта, які тут жа растлумачыў, што мае загад усю роту перадаць у ягоны, палітрукоў, стралковы полк. Каламіец пацікавіўся, які то народ, і малодшы лейтэнант патлумачыў, што ўсе з запаснога палка, які фармаваўся на Саратаўшчыне, усе нядаўнія запасьнікі. Моладзі мала, болей людзей сталага веку. У запасным павучыліся месяц-другі, атрымалі вінтоўкі і —

на фронт. Балазе, цяпер недалёка, фронт прыкаціўся пад самыя сьцены саратаўскіх сёлаў, так што…

Так што з гэтымі во дзядзькамі, што абселі садок і падворак і ціха, з затоенай увагай, пакурвалі свае самакруткі, і трэба ісьці ў полк, абараняць разьезд. Заўтра ён будзе перамагаць ці паміраць — ваяваць, ня маючы права адступіць і на сотню мэтраў, як сказаў учора даручэнец камдыва, і як патрабуе сталінскі загад. Добра яшчэ, калі немцы ня пусьцяць танкі. Хоць і ўчарашняй бамбёжкі, мабыць, хопіць для гэтых неабстраляных вясковых дзядзькоў. Сам палітрук пад вечар, калі паўтара дзясятка “хейнкеляў” з уключанымі сырэнамі амаль коламі дратавалі разьезд, думаў, звар'яцее ад таго катаваньня грымотай. А як ім? Ды ўпершыню?..

Ён атрымаў пяцьдзясят шэсьць чалавек, як-колечы выстраіў іх — кожнага з ладным сідарам за сьпіной, з шынэльнаю скаткай цераз плячо, — і павёў у стэп. Трохі адышоўшыся ад станічнай ваколіцы, прыпыніў усіх ля цёмнай сьцяны сланечніку. Да сьвітанку яшчэ заставалася якіх пару гадзін, разьезд быў недалёка. Мусіць, самы раз было правесьці палітбяседу наконт загаду — растлумачыць, пагаманіць, заклікаць, без чаго не абыходзілася ніводная прыёмка на фронце. Такі на вайне быў найпершы палітрукоў абавязак, і Каламіец стараўся выконваць яго сумленна.

Іншая справа, як тут гаварыць, якімі карыстацца словамі, каб дайсьці да салдацкага сэрца, калі вораг побач, часу ў абрэз, а зброя… Ці хоць дакапаліся там да вады, — з трывогай падумаў палітрук. А то заўтра застануцца без кулямётаў, і тады ніякі загад не паможа. Нават сталінскі.

— Сядай усе, — сказаў палітрук. — І бліжэй да мяне… Чулі пра новы загад таварыша Сталіна?

— Чулі… Казалі, — глухавата азваліся некалькі галасоў сьпераду. Байцы старанна і зморана рассаджваліся ў ссохлым стэпавым быльнягу. Палітрук трохі счакаў, калі сьціхне наўкола шорхат, і пачаў сьцішана, па

магчымасьці пранікнёна, каб лавілі кожнае яго слова.

— Таварышы, каварны вораг ужо ў сэрцы нашай радзімы, і таварыш Сталін загадаў: ні кроку назад, і мы павінны памерці, каб гэты загад выканаць, далей шляху для нас няма...

Ён яшчэ гаварыў, стараючыся як мага больш сардэчна і проста, але штосьці атрымлівалася ўсё ня так, як хацелася. І ён быў незадаволены сваімі словамі, якія здаваліся цяпер ня тымі і не такімі. А як змоўк, пачакаў трохі, перш чым пачаць зноў. І тады пачуў сьцішаны, нейкі далёкі ад ягоных памкненьняў голас кагосьці з задніх у гэтай сацьмелай купцы людзей:

— А сьняданак будзе, таварыш палітрук?

— Сьняданак будзе, будзе сьняданак, таварышы. У нас, ведаеце, выйшла няўпраўка з вадой, завалiла калодзеж...

— Гэтак? — сказаў хтось паблізу зь недаверам ці нават са спачуваньнем — так і не зразумеў палітрук.

— Ведаеце, на фронце баі, усё здараецца. Коней пабіла, пабіла бомбаю, дык вось, ведаеце... Але мы, байцы Чырвонае Арміі, паводле прысягі павінны стойка пераносіць усе нягоды вайсковай справы і перамагчы. Мы і пераможам! Мы выстаім, таварышы, і выканаем загад таварыша Сталіна, пераможам Гітлера і даможамся лепшага жыцьця... Добрае жыцьцё настане, — казаў ён, аднак, трацячы звыклы працяг размовы, і раптам сказаў пра іншае: — І калгасаў ня будзе. Таварыш Сталін распусьціць калгасы, каб жылі, як раней. Як пры Леніне, — раптам нечакана для сябе скончыў палітрук і аж унутрана закалаціўся ад уласнай нязвыклай рашучасьці. Людзі перад ім неяк дзіўнавата прыціхлі ў змроку, бы насьцярожыліся. Ніхто не сказаў нічога, не папытаўся, не запярэчыў, але, здаецца, нібы ўзбадзёрыліся, бы ачнуліся душою ў сваёй даўняй звыклай панылысьці. І ён таксама падобна ўзбадзёрыўся.

— Ня будзе калгасаў, я вам кажу, будзе інакшае жыцьцё, толькі нам выстаяць цяпер, як патрабуе таварыш Сталін: ні кроку назад!

Вымавіўшы тое, палітрук Каламіец адчуў, што сказаў усё. Выклаў усе свае красамоўныя прапагандавыя козыры. Фальшывыя, праўда, сам разумеў, але і самыя патрэбныя. Больш і лепшых козыраў у яго ўжо не было. І ён сам гатовы быў у іх паверыць. Мабыць, павінна быць так. Бо як інакш? Астатняе ўжо залежала не ад яго — залежала ад ворага, франтавых абставінаў, гэтых во зморaных саратаўскіх дзядзькоў, якія нядаўна яшчэ, перад вайной, перажылі — ня дай Бог нікому. У шпіталі адзін камандзір паціху расказваў, як у трыццатыя на Саратаўшчыне выміралі калгасныя вёскі. Бывала, елі чалавечыну, такі лютаваў голад. Помнячы такое, наўрад ці выстаіш і выканаеш загад. Нават самога госпада Бога.

Празь якую гадзіну палітрук Каламіец правёў маршавую роту на зруйнаваны разьезд, спыніў у цемрыве каля варонкі кампалка Пахомава. Скалечаныя тапалі ціха шумелі рэштаю лістоты на перадранішнім ветрыку; смылелі ўдушлівым нафтавым дымам недагаркі шпалаў. Вады не было, яшчэ не дакапаліся. Зь зямных нетраў ішла хліпкая гразь, зь якой некаторыя цадзілі ў круглыя кацялкі. Заліваць у паходную кухню не было чаго, сьняданак спазьняўся.

Шмат хто з байцоў у той дзень так і не пасьнедаў, некаторыя не пасьнедаюць ніколі. Як з-за счырванелага небакраю выкацілася адразу сьпякотнае сонца, зноў наляцелі “хейнкелі”. Хвілін дваццаць яны дзяўблі бомбамі дашчэнту паруйнаваны разьезд, пасьля рэйкі па абодва бакі ад разьезда, разьбілі паходную кухню, што тулілася збоч ад абгарэлага штабэля шпалаў. Толькі самалёты адляцелі на захад, як са стэпу паявілася пяхота з бронетранспарцёраў. Воддаль, у прасяным полі, транспарцёры спыніліся, а пяхота кінулася да задымленых руінаў разьезда. І тады з флангаў ударылі запраўленыя вадкай гразёю “максімы”. За імі пачалі дружна бахаць вінтоўкі — саратаўцы ўжо

пасьпелі акапацца ў неглыбокіх вузенькіх норах-акопчыках і, не спыняючыся, білі і білі ў проса. І — о, дзіва! Немцы пачалі па адным перабягаць назад да сваіх транспарцёраў, якія ўжо давалі задні ход. “Галоўнае — выстаяць! галоўнае выстаяць!” — паўтараў ці то ў думках, ці ўголас аглушаны бамбёжкай палітрук Каламіец, што побач з кампалка туліўся ўсё ў той жа глыбокай варонцы. На яе дне, да пояса засыпаны зямлёй, зьнерухомеў над сваім апаратам баец-тэлефаніст. Але сувязі, здаецца, не было. Палітрук і кампалка адчувалі тое, ды не пыталіся, думаючы, што, можа, гэтак і лепей. У такім няпэўным становішчы ім лепей было бяз сувязі — яе адсутнасьць вызваляла іх ад кепскіх дакладаў і начальніцкага гневу. Лаянкі таксама.

А пасьля былі й яшчэ дзьве бясконца даўгія атакі. Немцы разьбілі на правым флангу “максім” і зачапіліся за дымны ад шпалаў канец разьезда, дзе былі стрэлкі. Тады той самы Арцюх з групай сваіх і саратаўцаў падабраўся пад агнём да стрэлак і гранатамі выкурыў немцаў з-за шпалаў.

Пад вечар неяк паволі ўсё сьціхла, немцы з проса кудысь прапалі, зьехалі ў іншым кірунку, ці што. Стараной у небе ішла самалётная гайня — падобна, “хейнкелі” бамбілі суседнюю станцыю. Кампалка з запыленым, аброслым сьветлаю шчэцьцю тварам павярнуўся да свайго палітрука і зь нейкаю дзіцячай радасьцю ў вачах мовіў:

— Выстаялі, ага?

Менавіта з таго часу, як у прасяной ніве пахаваліся немцы, і паволі аціхла бязладная страляніна на разьезьдзе, у палітруковай душы заварушылася трывожная вужака сумневу. Учора ён быў амаль упэўнены, што не перажыве гэтага дня (ды яшчэ пад такім строгім загадам), і дбаў толькі пра адно: выстаяць. Ня даць гэтым байцам пабегчы і здаць немцам разьезд. І вось не пабеглі і не здалі. Нечакана і ён ацалеў. І нават не паранены. І жывы і радасны камандзір палка. Але...

Ну, нашто яму было ўначы гаварыць пра тыя калгасы?

Як яшчэ пацямнела, на разьезд прыскакаў конны пасыльны са штабу дывізіі і перадаў вусны загад генэрала адысьці да станіцы. Памятаючы іншы загад, кампалка яму не паверыў, запатрабаваў пісьмовага загаду. Але пакуль пасланец езьдзіў па стэпе, са штабу прыцягнулі провад, і неўзабаве кампалка пачуў знаёмы генэралаў голас. Сапраўды, камдыў загадваў адысьці. Мабыць, сталася так, што, хоць полк і выстаяў, затое ня выстаяў суседні, і немцы бралі дывізію ў абцугі. Трэба было сьпяшацца. Байцы таропка закідалі зямлёй шасьцярых забітых у акопчыках, узялі на рукі два дзясяткі параненых. Ужо ў абсалютнай цемрадзі калёнай рушылі цераз стэп да станіцы. Саратаўцы перамяшаліся са старымі стралкамі і моўчкі цягнуліся ўсе разам, на хадзе жуючы сухары. Наперадзе ад усіх ішоў кампалка, і поруч зь ім — апануханы палітрук.

Як толькі полк увайшоў у станіцу, ля садка, дзе ўчора зьбіралася папаўненьне, іх спыніла група камандзіраў. Тут быў начальнік штабу дывізіі, яшчэ нейкія чыны. Кампалка далажыў пра іхныя справы, і начштабу пахваліў полк. Але адзін ці два камандзіры зь яго штабное групы падышлі бліжэй да калёны, і той, што быў наперадзе — камлюкаваты чалавек у камандзірскай фуражцы, — спыніўся каля палітрука.

— Каламіец? — нягучна спытаўся ён, зблізку ўзіраючыся ў палітрукоў твар.

— Я.

— Прайдзёмце са мной.

Каламіец зразумеў усё: то быў начальнік асобага аддзелу дывізіі. Той аддзяліў палітрука ад палкавой калёны і павёў кудысь на падворак да хаты, сьцяна якой цьмяна бялела за кветнікам.

Болей палітрука Каламійца ў палку ня бачылі.

## “Кацюша”

Абстрэл цягнуўся ўсю ноч — то крыху слабеючы, нават прыпыняючыся, то разгараючыся з новаю сілай. Білі найбольш мінамёты. Іхныя міны з прарэзьлівым віскам рэзалі паветра ў самым зэніце, віскат набіраў сілу — і неўзабаве абрываўся рэзкім аглушальным выбухам. Праўда, білі болей у тыл, па недалёкай вёсцы, туды ішло цераз неба страхавітае міннае скуголеньне, і там пыхалі бліскавіцы выбухаў. Тут, на дзірваністым пагорачку, дзе зьвечара акапаліся аўтаматчыкі, было трохі зацішней. Але гэта, мабыць, таму, — думаў памкамузвода Мацюхін, — што аўтаматчыкі занялі гэты бугор, лічы, у прыцемку, немцы тут іх, мабыць, яшчэ ня згледзелі. Але згледзяць, вочы ў іх відушчыя, оптыка таксама зоркая. Да паўночы ён хадзіў ад аднаго аўтаматчыка да другога — прымушаў акопвацца. Тыя, аднак, ня дужа налягалі на свае лапаткі, забегаліся за дзень і цяпер, наставіўшы каўняры шынялёў, болей ладкаваліся кімарнуць. Але, мусіць, адбегаліся. Наступленьне, здаецца, выдыхалася, за ўчарашні дзень узялі толькі вунь тое дашчэнту разьбітае, спаленае сяло і на гэтым бугры заселі. І нават начальства перастала падганяць: за ноч да іх ніхто не зьявіўся — ні са штабу, ні з палітаддзелу, таксама, мабыць, уходаліся за тыдзень, наступаючы. А галоўнае — выдыхлася артылерыя: ці куды перакінулі, ці забракавала снарадаў. Учора пастралялі крыху палкавыя мінамёты і сьціхлі. У восеньскім полі і захмараным небе адно віскаталі і з трэскам ахалі нямецкія міны, здаля, ад ляска, джагалі іхныя кулямёты, з участка суседняга батальёна ім часам адказвалі нашыя “максімы”. Аўтаматчыкі ж пераважна маўчалі. Па-першае, было далекавата, а па-другое, бераглі патроны, якіх таксама засталося ня Бог ведае колькі. У самых гарачых — па адным дыску на аўтамат. Памкамузвода думаў, падвязуць ноччу, ды не падвезьлі, мусіць, адсталі, заблукаліся ці перапіліся тыя тылы, так што ўся спадзёўка цяпер на саміх сябе. Таму, што будзе заўтра — аднаму Богу вядома. Раптам папрэ немец, што тады рабіць? Па-сувораўску адбівацца штыхом ды прыкладам? Але дзе той штых у аўтаматчыкаў, ды й прыклад надта кароткі.

Не зважаючы на восеньскую сьцюжу, пад ранак кімарнуў у сваёй ямцы-акопчыку і памкамузвода Мацюхін. Не хацеў, а во не стрываў. Пасьля таго, як лейтэнанта Клімоўскага аднесьлі ў тыл, ён цяпер камандаваў узводам. Лейтэнанту здорава не пашанцавала: асколак нямецкае міны добра-такі крамзануў яго ўпоперак жывата, выпалі кішкі, невядома, ці ўратуюць лейтэнанта і ў шпіталі. Летась Мацюхін быў паранены ў жывот, але не асколкам — куляй, таксама натрываўся болю і страху, але неяк выкараскаўся ад кашчавай. Тады яму ўвогуле пашэнціла, бо параніла побач з дарогай, па якой якраз ішлі парожнія машыны. Яго ўвалілі ў кодаб, і праз гадзіну ён быў ужо ў санбаце. А калі вось так, з вываленымі кішкамі, цягнуць цераз поле, штораз падаючы пад выбухамі...

Таму Мацюхіну трывожна і клопатна, усё трэба дагледзець самому, камандаваць узводам і бегаць па выкліках да начальства, дакладваць, апраўдвацца і слухаць нэрвовыя начальніцкія мацюгі. І, тым ня менш, стома перамагла неспакой і ўсе ягоныя клопаты, старэйшы сяржант задрамаў пад віскат і выбухі мінаў. Добра, побач ужо акапаўся малады ўвішны аўтаматчык Казыра, памкамузвода загадаў ямуназіраць і слухаць, спаць — ні-ні, ні ў якім разе — іначай бяда. Немцы таксама спрытныя ня толькі ўдзень, але і ўначы. За два гады вайны Мацюхін нагледзеўся рознага.

Неўпрыцям заснуўшы, Мацюхін адчуў сябе нібыта дома, быццам ён задрамаў на прызьбе ў нейкай дзіўнай зьнямозе; можа, п'яны, і быццам суседзкая сьвіньня сваім сьцюдзёным лычом тыкаецца ў ягонае плячо — ці ня хоча схапіць за яго зубамі. Ад непрыемнасьці памкамузвода прачнуўся і адразу адчуў, што за плячо яго сапраўды хтось тузае — будзіць, ці што.

— Што такое?

— Гляньце, таварыш памкамузвод!..

У шэрым сьвітальным небе над акопчыкам хілілася танклявая постаць Казыры, які ўзіраўся, аднак, ня ў бок

немцаў, а ў тыл, яўна там чымсь зацікаўлены. Трываючы ранішнюю дрыжаку ў целе, Мацюхін прыўстаў на каленях і згледзеў непадалёк цёмны груваcткі абрыс аўтамабіля з коса настырчаным верхам; там жа ціха і стрымана варушыліся людзі.

— “Кацюша”?..

Мацюхін усё зразумеў і ціха, сам сабе вылаяўся. То рыхтавалася да залпу рэактыўная “кацюша”. І адкуль яе прынесла сюды? І чаму менавіта сюды, на гэты бугор, да ягоных аўтаматчыкаў?

— От цяпер зададуць немчуры! От зададуць! — радаваўся Казыра.

Іншыя байцы з бліжніх ямак-акопчыкаў таксама, відаць, заінтрыгаваныя нечаканым начным суседзтвам, павылазілі на паверхню. Усе зь цікавасьцю сачылі, як ля аўтамабіля стрымана варушыліся артылерысты, карпатліва ладзячы свой знакаміты залп. “Чорт бы іх узяў зь іх залпам!” — нэрваваўся памкамузвода, які ўжо ведаў кошт гэтых залпаў. Карысьць, хто ведае якая, за полем у тым ляску ня многа пабачыш, а клопату, глядзі, наробяць...

Між тым над полем і ляском, што ўжо зачарнеўся наперадзе, патроху пачало сьвітаць. Праясьнела хмарнае неба ўгары, дзьмуў сьвежаваты вецер, відавочна зьбіралася на дождж. Памкамузвода ведаў, што калі папрацуюць “кацюшы”, дык абавязкова пасыпле дождж. Урэшце там, ля машыны, мітусьня нібы прыціхла, усё, здаецца, замерла, некалькі чалавек адбегліся далей, за машыну, данесьліся глухаватыя словы нейкай артылерыйскай каманды. І раптам над галовамі ў паветры рэзка віскнула, загуло, засквірчэла, агняныя хвасты ўдарылі ў зямлю за машынай, цераз галовы аўтаматчыкаў пырхнулі і зьніклі ракеты. Воблака пылу і дыму, закруціўшыся ў белай віхуры, ахутала “кацюшу”, частку акопчыкаў і пачало расплывацца па схіле пагорка. Яшчэ ня сьціх гул у вушах, як там ужо закамандавалі — на гэты раз гучна, ня тоячыся, са злоснай рашучасьцю, да машыны

кінуліся людзі, хутка паўскоквалі на яе падножкі, і во яна праз рэшту ўзьнятага залпам пылу пасунулася з пагорка ўніз да сяла. У той час наперадзе за полем і ляском грымотна загрукала — чарада раскацістага працяглага рэха данеслася з далечыні.

— О, даець, о даець немчуры праклятай! — зьзяў маладым курносым тварам аўтаматчык Казыра. Іншыя таксама, павылазіўшы наверх ці пастаўшы ў акопчыках, з захапленьнем узіраліся ў незвычайнае відовішча за полем, поўныя стрымана-страхавітай салдацкай радасьці. Адзін толькі памкамузвода Мацюхін, бы скамянелы, стаяў на каленях у неглыбокім акопчыку і, як толькі за полем абарваліся глухія выбухі, закрычаў, што было моцы:

— Ва ўкрыцьцё! Ва ўкрыцьцё, такую вашу матары! Казыра, ты што...

Ён аж ускочыў на ногі, каб вылезьці з акопчыка ды пазаганяць аўтаматчыкаў у іхныя схованкі. Ды не пасьпеў. Дзесь там, за ляском, шчоўкнуў адзіночны выбух ці стрэл, і ў небе рознагалоса завыла, заскуголіла... Ураз, адчуўшы небясьпеку, аўтаматчыкі, бы гарох па стале, сыпанулі ў свае акопчыкі. І неба закалацілася, завыла, загрукацела... Першы залп нямецкіх шасьціствольных мінамётаў лёг трохі зь пералётам, бліжэй да сяла, другі — бліжэй да пагорка, а затым усё навокал перамяшалася ў суцэльным месіве выбухаў. Адныя рваліся бліжэй, іншыя далей, увесь пагорак ператварыўся ў дымна-агняны вулкан, які ўвішна таўклі, капалі, пералапачвалі нямецкія міны. Так цягнулася доўга, здавалася, бясконца доўга. Аглушаны, засыпаны зямлёй, Мацюхін курчыўся ў сваім акопчыку, з жахам чакаючы, калі... Калі ж... Але тое “калі” ўсё не наставала, а выбухі таўклі, калацілі зямлю, якая, здаецца, трэскалася, разломвалася на ўсю глыб, гінучы сама і цягнучы за сабой пагібель на ўсё астатняе.

Але во неяк пакрысе ацішэла...

Мацюхін засьцярожліва выглянуў — сьпярша наперад у

поле: ці не ідуць? Не, адтуль, здаецца, яшчэ не ішлі. Затым ён зірнуў убок, на колішні ланцужок узводу аўтаматчыкаў, і ня ўбачыў яго. Увесь пагорак зеўраў ямінамі-варонкамі, быў завалены гліністымі выварацінамі, глыжы і зямля засыпалі ўсё навакольле, трава зьнікла зусім. Непадалёк пляската распласталася доўгая постаць Казыры, які не пасьпеў дабегчы да свайго акопчыка. Галава і верхняя частка ягонага цела былі засыпаныя зямлёй, ногі таксама, толькі на абцасах не стаптаных яшчэ чаравікаў паблісквалі высьлізганыя мэталёвыя касячкі.

Як яшчэ пацішэла і ветрам пачало зганяць у бакі высока ўзьняты пыл, Мацюхін вылез з акопчыка і пайшоў па пагорку. Трэба было палічыць, што ў яго засталося ад учарашняга ўзвода аўтаматчыкаў...

## Палкаводзец

Як вядома, кепская навіна ня ходзіць адна, за ёй бяжыць другая. Гэтая другая дагнала Палкаводца па дарозе ў гаспадарку Мельнікава. У таго Мельнікава не заладзілася з самага пачатку, палкі не маглі адарвацца ад дняпроўскага берагу, суседзі здорава выскачылі наперад, на правым флангу ўзялі горад, за які ўчора Палкаводца віншаваў Галоўнакамандуючы. Але толькі Палкаводзец выехаў зь сяла, як з КП па рацыі перадалі: на правым флангу няўстойка, немцы контратакавалі буйнымі сіламі, адкінулі пяхоту за рэчку. Палкаводзец паўзіраўся ў карту і загадаў паварочваць на ракадную дарогу — ехаць на правы фланг. Учуўшы новы загад, два ягоныя ад'ютанты, маладыя статныя палкоўнікі, перадалі яго сыгналамі астатнім машынам — бронетранспарцёру з аховай і крытай бартавой з трыбуналам, якія заўжды суправаджалі Палкаводца. Уся невялічкая калёна пачала таропка разварочвацца на разьбітым, цесным і гразкім прасёлку. У “вілісе” ўсе маўчалі. Маўчаў, сьцяўшы квадратныя сківіцы, Палкаводзец, маўчалі ад'ютанты, прадчуваючы, што іх чакае. Ня выключана, што Палкаводзец хутка ўскочыць

у самае пекла і жалезнай рукой... У ягонай жалезнай руцэ яны ўжо мелі магчымасьць пераканацца...

Куляючыся па выбоінах, трохі разганяючыся на роўнядзі і выскокваючы на невысокія, парослыя драбналесьсем пагоркі, “віліс”, транспарцёр і бартавая каціліся насустрач недалёкай баявой калатнечы, якую ўжо не магло заглушыць і натужлівае выцьцё іхных маточраў, хутка стала чуваць, што бой грымеў побач, дзесь за ляском, дзе, як сьведчыла карта ў руках Палкаводца, сярод шырокага поплаву працякала крывуляка-рачулка. Хто мог падумаць, што нямецкія танкі менавіта тут і ўдараць, — думаў Палкаводзец. Не хапала ім роўнядзі, ці што? Ці ўжо навучыліся ў нас, нашай азіяцкай кемлівасьці? Але ўдарылі менавіта тут, у гэтым зусім мала здатным для таго месцы. І, як на бяду, фронт на гэтым участку аказаўся слабаваты, учора брыгаду Чарамісіна перакінулі ў цэнтар, на падмогу перадавому атраду; тут жа заставаўся адзін супрацьтанкавы полк, і той, здаецца, разьмяшчаўся трохі правей. А пяхоце без падмацунку, вядома, прыйшлося ня соладка, і яна не стрывала. Такое яе прадвызначэньне на ўсякай вайне і ва ўсякай арміі.

“Віліс” выскачыў на пясчаны пагорачак, парослы рэдкім маладым сасоньнічкам, і адразу ж рэзка кінуўся ўбок, коламі з хрустам ломячы тыя сасонкі. Палкаводзец зьнячэўку вылаяўся, ледзьве пасьпеўшы ўхапіцца рукой у пальчатцы за мэталёвую дугу перад сабой. Аднак ён тут жа зразумеў, што лаяцца марна, усё правільна. Па сасоньніку ўжо джагалі чэргі, трэба было матаць назад або выскокваць і класьціся долу. Палкаводзец і выскачыў. Трохі счакаў, а пасьля, прыгінаючыся, выбег вышэй і апусьціўся на сухі верасовы дол. Перад ім наперадзе разгортвалася шырокая панарама надрэчнага поплава і зь ёй — ганебнае відовішча бязладнага драпу. Колькі ўжо за вайну даводзілася назіраць Палкаводцу гэтую ганьбу, але прывыкнуць да яе ён ня мог і звычайна без ваганьня карыстаўся выпрабаваным сродкам. На ашаломленых, апанаваных страхам людзей можна было ўзьдзейнічаць толькі яшчэ большым страхам з усіх страхаў, якія

меліся ў распараджэньні начальніка. Наша пяхота бегла, уцякала да рэчкі, караскалася цераз яе берагі, некаторыя ўжо былі блізка ад пагорка на гэтым беразе. На рачным беражку сярод лазьняку дымна палыхаў адзін скасабочаны “студэбэкер”, там запалохана мітусіліся людзі. Другі, аднак, выкараскаўся з твані і з гарматай на прычэпе марудна поўз да пагорка. На ягонай падножцы стаяў чалавек у гімнасьцёрцы, без шыняля, з абвязанай бінтамі галавой. Ці не камандзір супрацьтанкавай батарэі, — падумаў Палкаводзец. Той нешта крычаў, мабыць, паказваючы шафёру кірунак. Ззаду, з-за ракі, з розных напрамкаў несьліся трасірныя чэргі, на рыкашэтах агнянымі пчоламі разьлятаючыся ў бакі. Палкаводзец, не азірнуўшыся, кінуў цераз плячо ахове: “Затрымаць!”, і некалькі байцоў на чале са старэйшым сяржантам кінуліся праз сасоньнік з пагорка.

Пакуль тыя сарванымі галасамі спынялі пяхоту, Палкаводзец узіраўся ў поплаў і асабліва далей, па той бок рэчкі, дзе зь ляска выпаўзалі сьветлажоўтыя нямецкія танкі. Палкаводзец ужо сустракаўся зь імі і ведаў, што гэта ён рашучымі дзеяньнямі свайго войска змусіў нямецкае камандаваньне перакінуць іх з Афрыкі, дзеля якой яны і былі афарбаваныя ў колер пустыні. Але тут ім не пустыня, тут найчасьцей балоты. Раз-пораз яны білі з гарматаў па берагах ракі і па пехацінцах па гэты бок. Ад выбухаў калаціўся пагорак...

Поруч і асабліва ззаду за Палкаводцам з насьцярожаным выразам на тварах ляжала чалавек дзесяць з аховы, трошкі ніжэй прыбег і выцягся пад сасонкай старшыня вайсковага трыбуналу — франтавы маёр, скрозь абпярэзаны партупэямі і рамянямі, з фуражкай на галаве. За ім ужо расшпільваў тоўстую сумку ягоны сакратар, малады чалавек у плашч-накідцы. Той усё пазіраў на Палкаводца, пальцы яго дрыжэлі, і ён кепска спраўляўся з сумкай. Яны чакалі. Ужо ня першы раз яны выяжджалі з Палкаводцам і ведалі сваю справу. Тым болей, што гэта была іх праца, якую яны рабілі, рызыкуючы ўласным жыцьцём. Блізкія два выбухі ў сасоньніку змусілі іх тыкнуцца галовамі ў

дол, Палкаводзец жа на выбухі не адрэагаваў ніяк. Ён назіраў за тым, што адбываецца на поплаве.

Здаецца, байцы аховы ўсё ж затрымалі пярэдніх бегуноў і неўзабаве вывелі з сасоньніку двух задыханых, перапалоханых пехацінцаў з даўгімі трохлінейкамі і прымкнёнымі да іх штыхамі. Неяк выкараскаўшыся з-пад агню, уратаваўшыся ад нямецкіх танкаў, тыя, падобна, мала разумелі, што адбываецца, навошта яны спатрэбіліся гэтаму камандзіру з суровым зацятым тварам. “Пачаму бяжалі? — строга кінуў Палкаводзец, нішчачы позіркам абодвух — высокага і нізенькага, амаль мізэрнага салдаціка ў аблепленых тваньню абмотках. — Пачаму бяжалі?” Пехацінцы ашалела дыхалі і маўчалі, тады Палкаводзец махнуў рукой — ня так ім, як камусь з аховы: “Здаць аружыя!”

Мабыць, то быў пэўны сыгнал, двое ў бушлатах з аховы вырвалі ў байцоў вінтоўкі і люта штурханулі абодвух. Меншы адразу ўпаў, штось заякатаўшы, а большы пачаў бязглузда, спалохана мовіць: “Што, што?” З гэтым “што” іх і затаўклі ў сасоньнічак, далей ад вачэй Палкаводца, адкуль яны ўжо не паказаліся.

Тым часам старэйшы сяржант з аховы прывёў да Палкаводца і афіцэра са “студэбэкера”. Паранены, з абвязанай галавой, на сваю бяду ратуючы гармату, той перабраўся цераз рэчку, як яму, мабыць, здавалася, на выратоўчы пагорачак. То быў старэйшы лейтэнант з ордэнам Айчыннай вайны на грудзях і перакручанай дзягай, на якой матлялася, відаць, пустая ўжо кабура. Згледзеўшы Палкаводца, ён паспрабаваў аддаць рапарт:

— Таварыш камандуючы...

Палкаводзец перабіў яго тонам, ад якога зацінала мову ня толькі ў камбатаў:

— Дзе батарэя?

— Батарэя загінула, таварыш ка...

— Ах, загінула? — зусім ужо вызьверыўся Палкаводзец.

— А чаму ты, гаўнюк, не загінуў?

— Ды я...

— Дакумэнты!

Бруднымі ад твані і сьвежай крыві рукамі старэйшы лейтэнант расшпіліў гузік гімнасьцёркі і дастаў некалькі кніжачак — афіцэрскае пасьведчаньне, партбілет, рэчавую кніжку. Іх у яго тут жа выхапіў старэйшы сяржант, перадаў трыбунальцам.

— Расстраляць! — халодна кінуў Палкаводзец.

— Таварыш камандуючы!.. — сіпавата выгукнуў афіцэр і асекся — Палкаводзец ужо азіраў поплаў, а старэйшы сяржант ускінуў да грудзей новенькі варанёны, з ражковым магазінам ППС, якія толькі што прыбылі на фронт і якімі ў першую чаргу ўзброілі ўчора ахову Палкаводца. Старэйшы сяржант адвёў камбата ў сасоньнічак, дзе неўзабаве ляснуў нягучны адзіночны стрэл.

Старшыня трыбуналу і сакратар, між тым, ліхаманкава афармлялі пастанову. Шапка блянку судовага разгляду была ў іх нарыхтаваная загадзя, заставалася ўпісаць канкрэтныя прозьвішчы і штось дапасаваць адно да аднаго. Лежачы, маёр нахіліўся бліжэй да сакратара, які яму зачытаў: “Вайсковы трыбунал вайсковай часьці нумар... у адкрытым паседжаньні разгледзеў справу па абвінавачаньню... Як яго там?”

— Старэйшага лейтэнанта Бязуглава, — падказаў маёр, зазірнуўшы ў пасьведчаньне. — А таксама радавых Андрэева і Цявелька...

— Андрэева і Цявелька, — пішучы, паўтарыў сакратар. — І прысудзіў памянёных да...

— Да вышэйшай меры пакараньня, — падказаў маёр.

— Прысуд... — вымавіў сакратар.

— ... Прыведзены ў выкананьне, — трывожна

азірнуўшыся, падказаў маёр. Ён, відаць па ўсім, пачаў сьпяшацца: справы іхныя на гэтым месцы ці не канчаліся. Тым болей, што нямецкія танкі, мабыць, падышлі ўжо да рачулкі — нешта дужа дрыжэла ўнізе пагорка. У той час і сапраўды грымнула дужа блізка — на верасок і хвойкі сыпанула зямлёй і пылам, абсыпала фуражку і плечы Палкаводца, паперы трыбунальцаў, якія сакратар не пасьпеў засланіць. Энэргічным рухам Палкаводзец страсянуў зь сябе пясок і ўскочыў.

— Ну, вы гатовыя там?

— Так точна! — ускочыў маёр.

— Усім да машынаў! — кінуў Палкаводзец і таропка падаўся з пагорка да свайго “віліса”. За ім падхапіліся трыбунальцы з байцамі аховы, усе дружна сыпанулі з хвойніку да дарогі.

На тым месцы, дзе яны толькі што мясьціліся, застаўся стаптаны, абсыпаны пяском верасок ды дзьве кінутыя з прымкнёнымі штыхамі драгункі. Здалёку праз гольле маладых сасонак праглядвала штосьці белае — ці ня бінт на скрываўленай галаве няўдалага камбата. З поплаву даносілася дружная страляніна, мабыць, там усё ж ладзілася якая-ніякая абарона.

Камандуючы навёў парадак — нямецкія танкі тут не прайшлі.

## Падоранае жыцьцё

Бываюць у жыцьці выпадкі, значэньне якіх праяўляецца не адразу, а спакваля, праз таўшчыню гадоў, і асэнсоўваецца на працягу ўсяго жыцьця. Некаторыя ж, што сьпярша здаюцца важнымі і значнымі, хутка, аднак, страчваюць тую значнасьць; іншыя набываюць яе праз гады. І толькі нешматлікія застаюцца нязьменнымі ў сваёй імпэратыўнай каштоўнасьці. Пра адзін з такіх выпадкаў мне і хочацца распавесьці, між іншым, больш чым праз паўстагодзьдзя, як ён адбыўся.

Тое здарылася ў часе мінулай вайны, зімой 1944 году, на Ўкраіне.

У цяжкіх баях Чырвонай Арміі з вэрмахтам наша дывізія трапіла ў цяжкое становішча, нямецкія часткі нанесьлі ёй моцны контрудар, занялі некалькі сёлаў у тыле. Стварылася пагроза абкружэньня, што, вядома, было адной з найбольшых небясьпекаў у тую вайну. Я быў паранены ў нагу і ня мог хадзіць. Ноччу нас, некалькіх параненых, спрабавалі вывезьці на брані танкаў, але дарога ў тыл аказалася заблякаванай. У нейкім сяле параненых сьцягнулі з танкаў і перанесьлі ў сялянскія хаты. Танкі пайшлі далей. На прарыў.

Мы засталіся адны, без прыкрыцьця і аховы, у незразумелых, заблытаных абставінах.

Спакутаваны ад сьцюжы і болю, я неяк ускараскаўся на хісткі драўляны ложак, на якім ужо нехта ляжаў. Рукі намацалі побач штось мокрае, але я не зьвярнуў на тое ўвагі і хутка заснуў. Здавалася, толькі заснуў, як тут жа спахапіўся, ахоплены зьнянацкавай трывогай. На двары ўжо віднела, быў ранак, аднекуль чуліся стрэлы, нават крыкі, хтось палахліва прабег за вакном па вуліцы. Я прыўзьняўся на ложку, першы раз зірнуўшы на таго, з кім прабыў ноч. І нават скалануўся ад спалоху: гэта быў нямецкі афіцэр. Але ён ня кратаўся, крысьсе ягонага шыняля былі залітыя крывёй, мабыць, ён сканаў уначы, яшчэ да майго прыходу. У хаце болей нікога не было, параненыя ўжо разьбегліся. За вакном, было чуваць, праскакала фурманка, адразу ж за ёй у паветры замільгацелі чэргі трасірных куляў. З другога канца ў сяло ўваходзілі немцы.

Заставацца ў хаце было небясьпечна, трэба было неяк ратавацца, але аднаnож я ня мог далёка ўцячы. Хапаючыся рукамі за лаўкі і сьцены, я пакульгаў у сенцы. Тут было цемнавата, у адным кутку валяліся нейкія абрэзкі дошак, у другім, каля самых дзьвярэй, была зладкаваная невысокая, да калена, дашчатая загародка, даверху насыпаная бульбай. Я выняў з кабуры пісталет і прылёг на бульбу. У шчыліну прачыненых дзьвярэй была відаць частка асьнежанага

падворку, весьнічкі з вуліцы. Сельская вуліца ўжо зусім апусьцела, здаля, можа, з канца сяла, даляталі стрэлы, значыць, нашы зь яго ўцяклі, — падумаў я. Неўзабаве тут павінны паявіцца немцы.

Між тым, зусім разьвіднела, настаў сонечны марозны ранак. Над стрэхамі ўзьнялося сонца, і падворак ярка асьвяцілі сонечныя промні. Я ляжаў зь пісталетам у руцэ і чакаў. Чаго толькі чакаў, і на што спадзяваўся? Чакаў, можа, свае пагібелі? Таму што абараніць сваё жыцьцё з васьмю патронамі ў магазіне было марнай спадзёўкай. І я падрыхтаваўся да пагібелі. Толькі трываў час. Чакаў.

Зрэшты, доўга чакаць не давялося. Відаць было ў шчыліну, як па вуліцы прабегла група нямецкіх салдатаў, яны раз за разам стралялі кудысьці зь вінтовак. Пасьля паявілася іншая група. Гэтыя ішлі спакайней, штось гаманілі і не стралялі. Але во ад тае групы аддзяліўся адзін — высокі салдат у караткаватым шынялі з аўтаматам на грудзях і, збочыўшы ў мой падворак, скіраваў да дзьвярэй. Я ўзьвёў курок і наставіў пісталет на дзьверы. Немец крочыў таропка, трошкі прыжмурваючы вочы пад шкельцамі акуляраў у чорнай мэталёвай аправе. Ягонае падбародзьдзе было ў цёмным шчаціньні, на галаве, насунутая брыльком на лоб, сядзела зімовая шапка. Адной рукой ён рашуча адчыніў мае дзьверы і са сьветлага падворку зірнуў мне ў твар. Пісталет мой быў скіраваны ў ягоныя грудзі, палец ляжаў на спускавым курку. У кожны момант я быў гатовы стрэліць. Але ня стрэліў — штосьці стрымала мяне ад стрэлу. Не адчуваньне небясьпекі, не натуральная патрэба самазахаваньня — дзесь у глыбіні сьвядомасьці рашучасьць мая сама па сабе нэўтралізавалася. Зноў я чакаў. Немец, каб стрэліць, павінны быў перахапіць на грудзях аўтамат: але ягоная правая рука ляжала на клямцы дзьвярэй. У ягоным позірку пад шкельцамі акуляраў не адбілася нічога — ні зьдзіўленьня, ані спалоху, і, мабыць, тое і ўтрымала мяне ад стрэлу. Здаецца, асьлеплены ранішнім сонцам, ён мяне ня згледзеў, а ў мяне не хапіла згубнай рашучасьці ціснуць курок. Усё тое заняло ня болей за

сэкунду, як з вуліцы пачуўся крык — здаецца, немца паклікалі. І, выпусьціўшы клямку дзьвярэй, ён павярнуўся да мяне плячыма, хутка пайшоў за камарадамі. Я з палёгкай уздыхнуў. Ведама, радавацца было яшчэ рана, але першая небясьпека ўсё ж мінулася.

На ўскрайку сяла ішоў агнявы бой, на вуліцы то паяўляліся, то зьнікалі разрозьненыя групы нямецкіх салдатаў, але ў двор болей не забягалі. Пасьля немцы і зусім зьніклі, сяло занялі чырвонаармейцы. Удзень мяне адправілі ў шпіталь.

Усе гады вайны я нікому не расказваў пра той выпадак: было небясьпечна, — але не пераставаў пра яго думаць. Усё ж гэта дзіўнаваты выпадак: сутыкнуўшыся са зброяй у руках, салдаты варожых арміяў падаравалі адзін аднаму жыцьцё. Хай і міжволі. Таму што, застрэліўшы тады немца, я таксама немінуча быў бы забіты. А можа, гэта Ўсявышні падарыў нам па другім жыцьці. І во я жыву.

## Вуціны статак

Невялічкі вуціны статак рыхтаваўся ў вырай.

На азёрах ужо ўсталявалася восень, стала сьцюдзёным паветра, дзьмулі напорыстыя паўночныя вятры. Колькі дзён запар зь няласкавага хмарнага неба чуліся разьвітальныя крыкі журавоў – тыя ўжо ляцелі туды, дзе грэла сонца, была цеплыня і шмат корму. Вуціны статак яшчэ там ня быў; вутачкі вывеліся апошняй вясной у тутэйшым возеры, за лета падрасьлі сярод трысьнягу ды асакі і дбалі толькі пра адно – як наесьціся. Сёлета з кормам стала кепска, ад няспынных дажджоў вада ў азёрах стаяла высокая, падтапіла берагі сенажацяў; буза, якую заўжды падабалі вуткі, апынулася глыбока пад вадой, даставаць зь яе корм было нязручна і цяжка. Ды й корму там чамусь усё менела, бо здатныя мясьціны пазамывала пяском з раскапаных

экскаватарамі берагоў. Вуткі да восені пачуваліся слабымі, кепска расьлі і заўсёды былі галодныя.

Стары вуцяк ужо колькі дзён адчуваў пэўны трывожлівы неспакой – трэ было ляцець. Вадзяное птаства падпарадкоўвалася інстынкту, спрадвечнай птушынай волі, якая пэўнаю восеньскаю парой гнала птушак на поўдзень, дзе быў паратунак ад голаду й сьцюжы. Але гэты малады статак ня ведаў таго і, мусіць, мала што адчуваў. Змучаныя летнім недаяданьнем вуткі не пераставалі куляцца ў вадзе куцымі задкамі і шныпарыць па дне нястомнымі дзюбамі.

Неяк ураньні, як трохі пасьвятлела неба, нізка над хмарамі, лапочучы крыльлем, праляцеў вуціны шнурок, – гэта выправіўся ў вырай суседні статак з бліжняй затокі. Адчуўшы чарговы прыступ неспакою, вуцяк трохі прыўзьняўся ў вадзе і трывожліва заляскатаў крыльлем, даючы тым знак увагі свайму невялічкаму статку. Але ніводнай зь ягоных вуцятаў не было побач. Тады ён хуценька паплыў уздоўж трысьнягу гэтага даўжэзнага, на колькі вёрстаў возера і хутка ўбачыў усіх. Ягоныя вуткі зь нейкай неранейшай жвавасьцю куляліся ў мутнай вадзе, і вуцяк зразумеў: яны патрапілі на спажыву.

Тутэйшы бераг быў голы, без травы і кустоў. Наводдаль за гарбатым пагоркам высіліся два закапцелыя коміны, у неба зь якіх няспынна плыў дым. Увогуле тут было зацішна, пагорак затуляў невялічкую затоку ад сьцюдзёнага паўночнага ветру. Але неверагодна, каб тут выдалася кормнае месца, ды, мусіць, так. Інакш бы вуткі не мітусіліся з такой жвавасьцю, нібы ў апошні раз прагнучы наесьціся. Вуцяк таксама нырнуў паблізу, звыкла працерабіў дзюбкай па мяккім дне і адразу адчуў і сьцяміў, адкуль корм. У вадзе, схаваны пад крутым берагам, тырчэў канец бэтоннай трубы, зь якой штосьці плыло ў возера – мутнае, але прыемнае на смак.

У той дзень вуткі добра напіхалі свае тугія вальлі, пад вечар ледзьве варушыліся на вадзе і заначавалі купкай у недалёкім рэдзенькім трысьнягу. Вуцяк, які таксама з поўным вальлём прыплыў туды апошні, стомлена

задрамаў, закалыханы на дробных хвалях, маючы пэўны намер заўтра ляцець.

Але назаўтра, як толькі ў небе над возерам стала віднець, вуціны статак навыперадкі памкнуў з трысьнягу ў затоку. Вутачкі адразу пачалі апантана куляцца, ныраць – сілкавацца. Мусіць, перад адлётам нягожа было надта набіваць свае вальлі, але вуцяк ня мог перапыніць іхную прагнасьць. Ды і сам ахвотна падсілкоўваўся разам, думаючы: хай наядуцца, а ўжо затым ён іх падыме ў палёт. Мусіць, такой жа думкі была і старая вуціха-маці, якая напачатку падплыла да вуцяка, коратка крэкнула і адразу падалася да статку. Яна і падрослых вутачак не пакідала без нагляду, хоць порсткія дочкі ўжо ня надта і слухалі яе. Ня тое што некалі малыя…

Гэтаксама ва ўвішняй мітусьні прамінуў і другі дзень. Вуткі ўволю наеліся, і ледзьве прыплылі ўвечары ў зацішны трысьнёг. За імі прыплыў вуцяк, і ўвесь невялічкі статак супакоена зазыбаўся на ціхай вадзе.

Назаўтра ранкам вуцяк выплыў з трысьнягу першым і гучным ляскатам крылаў падаў знак сабрацца да яго бліжэй. Вуціны статак адразу ажывеў, абудзіўся, але да вуцяка падплылі толькі тры вутачкі, астатнія порстка пашыбавалі пад кормны абрыў. То ўжо было непаслушэнства, вуцяк гатовы быў моцна абурыцца. Але ня ўмеў як – вуціная мова была памяркоўная і скупая. Свой новы сыгнал крыламі ён адрасаваў да вуціхі, якая была таксама скіравала за вуткамі. Тая змушаная была вярнуцца, нешта пракрэкала, што на вуцінай мове магло значыць: дай вуткам паесьці! Вуцяк даў папасьвіцца, але да паўдня, ня болей. У паўдзён ён там жа, пад абрывам, крыламі і гукам даў зразумець статку, што трэба канчаць сілкавацца, пара ў вырай. Яны на возеры апынуліся ці не апошнія. Як бы не спазьніліся.

Яго, аднак, кепска слухаліся, некаторыя ўсё спрабавалі ныраць, нібы баючыся страціць апошнія, здатныя да таго хвіліны. І вуцяк сьцяміў, што марныя яго захады, тым болей што і вуціха неўзабаве далучылася да неслухаў. Адна толькі меншанькая вутачка Шарэчка

гайдалася каля вуцяка-бацькі, здаецца, маўкліва падзяляючы ягоны клопат.

Вуткі яўна ня мелі ахвоты нікуды ляцець, ім няблага стала і тут.

Вуцяк ня ведаў, што зь імі рабіць, як растлумачыць, што то – небясьпечна. Калі яны спозьняцца, у паднябесьсі іх можа захапіць непагадзь, а то й сьнег, яны загінуць, не даляцеўшы да цёплага выраю. А то яшчэ ўдарацць маразы, і возера замерзьне. Тады яны застануцца бяз корму і прападуць таксама. Свой клопат ён з абурэньнем, гучна крэкаючы і хлопаючы па вадзе крыльлем, давёў статку, як той урэшце наеўся, і вуткі перасталі ныраць. Ды яму ня надта паверылі. Сапраўды, дагэтуль жа было не сьцюдзёна, даволі зацішна ў гэтай прыхаванай за пагоркам затоцы. А галоўнае – нагрэтая за лета вазёрная вада здавалася цяплейшаю за паветра, зь яе не хацелася вылазіць. Ды вуцяк ведаў, што так будзе нядоўга, што возера ўрэшце замерзьне. А лёд – пагібель для вуцінага племя. Ды на ўсе ягоныя захады вуткі не адгукаліся, ня верачы яму. Вуціха-маці коратка і выразна павяла крылом – у адзін бок, затым у другі, што значыла: можа, замерзьне, а можа, і не. Затое тут корм.

Так, тут быў корм, які ўжо праклінаў вуцяк, бо той корм зьявіўся дужа не ўпару, – ня там і не тады, калі быў патрэбны. Цяпер тая нечаканая сытасьць пагражала згубіць вутак. Як і іхная згаладнелая сквапнасьць. Вуткі за некалькі дзён прыкметна пацяжэлі і з заўжды туга набітым вальлём выглядалі няўклюдамі. З такім вальлём вельмі проста было нават не ўзьляцець у паветра, а ня толькі адолець даўгі і турботны шлях у цёплыя краі. Але што мог вуцяк?

Ён мог бы ляцець адзін або з Шарэчкай, якая пакуль што слухалася яго. Але ён не хацеў кінуць астатніх, гэтых пражэрлівых, сквапных дурніц, якія не хацелі разумець, што іх чакае. Вуцяк так затрывожыўся, што сам перастаў ныраць у мутную ваду, адно кружыў у затоцы ды ляскаў па вадзе крыльлем, тым выказваючы свой клопат і гнеў. Ды, здаецца, на вуцяка ўжо

перасталі зьвяртаць увагу.

Аднойчы ўранку ён згледзеў, як стравянелы пагорак зводдаль нібыта пакрыўся плесьняю – то браўся першы перадзімовы іней; у паветры надта марозіла. Але вада ў затоцы па-ранейшаму была цёплая, спрэс над ёю курэла лёгкая, празрыстая пара, у якой асабліва жвава пачуваліся вуткі. Вуцяк тады зрабіў ці не апошнюю спробу вывесьці іх на возера і ўзьняць на паветра. Але неўзабаве сьцяміў, што ніводная зь іх ужо не паднімецца – так усе ацяжэлі ад празьмернай сытасьці. І ўсё ня кідаюць нырачь – наядацца. Кожнага дня пад вечар туга набівалі абвіслыя вальлі. Корму ля трубы ня менела.

Вуцяк быў ужо не малады векам, аж тры восені запар лётаў у вырай і кожную вясну вяртаўся на сваё возера. І ён ня мог не разумець, чым скончыцца вуцінае непаслушэнства. Ён толькі ня ведаў, як сам павінны паставіцца да таго. Але і ратавацца самому таксама ўжо рабілася позна. Тады ён меў апошнюю размову з вуціхай-маці, якая адна магла яму паспрыяць. Ды не схацела. Мабыць, як заўжды, не хапіла яе вуцінага розуму.

Між тым на берагі лёг першы лёгкі зазімак. Пагорак забялеўся пад сьнегам, нават стаў прыгажэйшы, чым быў дагэтуль. А затока ўсё дымелася пад цёплай духмянай парай. У ёй надзвычай порстка і ўвішна пачуваліся вуткі. Аднойчы ўранку вуціха-маці так і сказала вуцяку: дарма турбуесься: тут будзе ня горш, чым у выраі. Тут – цывілізацыя, труба пракорміць. А мароз? – запярэчыў вуцяк. А марозу, можа, і ня будзе, адказала вутка. Не было ж яго ўлетку…

Вуцяк разумеў, што яна памыляецца, але ня ўмеў як пераканаць яе ў тым. Асабліва, калі яе падтрымалі астатнія вуткі. Нават яго ўлюбёная Шарэчка і тая апошнім часам надта ацяжэла і болей трымалася на вадзе каля маці. Вуцяк усё болей заставаўся ў адзіноце і парой пачынаў сумнявацца ў сваёй праўдзе. А можа і насамрэч марозу ня будзе? Не бывае ж яго на поўдні, куды лятуць птушкі ў вырай.

Але то – на поўдні. Тут жа была калі й ня поўнач, дык нешта блізкае да яе. Чакаць чагось ладнага, мабыць, тут было марна. Ды вуткі, як і людзі, мелі патрэбу заўжды спадзявацца на лепшае. А што лепшае – падманная рэч, вуткі таго не разумелі.

Неяк уначы стала дужа сьцюдзёна, азяблыя вуткі ледзьве дачакаліся раньня. І тады ўбачылі, што бераг у трысьнягу ўзяўся прыгожым тонкім лядком. Некаторыя нават паспрабавалі яго дзюбкамі, на смак ён падабаўся і хутка таяў. Каб выплыць у затоку, яго лёгка праламвалі вальлямі і лапкамі і так дапяліся да кормнай трубы. Але назад статак ужо не пасьпеў – трысьнёг за дзень спрэс паўмярзаў у лёд. Вуціха-маці тады ўскараскалася на ледзяны закраек і валюхаста пашкандыбала пешшу. За ёй гэтаксама няўклюдна пабрылі вуткі, – ім карцела начаваць там, дзе прывыклі. Вуцяк туды не пайшоў і застаўся на вольнай вадзе ў затоцы.

Але і затока вузела. Мароз паволі і настойліва пашыраў на возеры свае ледзяныя абшары. Праз колькі дзён у затоцы застаўся невялічкі лапічак чыстай вады ўздоўж берагу. Там увесь дзень і сноўдалі вуткі. Праўда, ня ўсе. Іншыя вылязалі на лёд і panyла сядзелі, нібы чагось чакаючы. Сярод іх быў вуцяк. Ён ужо нікуды іх ня клікаў – не было куды клікаць. Ён толькі маўкліва дакараў сябе, што не намогся ў свой час змусіць іх падняцца ў вырай. Але як было адарваць згаладнелы статак ад багатага корму? Цяпер навошта корм?

Начавалі цяпер у цеснай палонцы, і неяк уранку згледзелі, што коміны, якія вытыркаліся ўдалечы з-за засьнежанага пагорку, перасталі дыміць. Тое вутак ня надта спалохала. Спалохаліся яны, калі адчулі ў вадзе, што з бэтоннай трубы не цячэ нічога. Вуткі ня ведалі, што гэта збанкрутаваў завод, і труба перастала дзеяць. Як і ўсё астатняе на заводзе. А вузкая палонка тым часам усё вузела. Пакуль лёд аканчальна не самкнуўся зь берагамі.

...Як зноў настала вясна і стомленыя статкі гусей, жураваў ды вутак пачалі вяртацца з далёкга выраю, яны

ў азёрнай затоцы не знайшлі нікога.

Толькі рэшта мокрых стракатых пёрак дзе-нідзе гайдалася ў трысьнягу і ля берагу. То было усё, што засталося ад сытага бясьпечнага вуцінага статку.






# Васіль Быкаў

Васіль Быкаў (1924-2003) Нарадзіўся 19 чэрвеня 1924 году ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёну Віцебскай вобласьці. Навучаўся на скульптурным аддзяленьні Віцебскай мастацкай вучэльні. Скончыў Саратаўскую пяхотную вучэльню. У 1942 годзе будучы пісьменьнік уступіў у шэрагі Чырвонай Арміі. Ваяваў на Другім і Трэцім Украінскіх франтах, прайшоў па тэрыторыі Румыніі, Баўгарыі, Вэнгрыі, Югаславіі, Аўстрыі, двойчы быў паранены.

Упершыню творы Васіля Быкава былі апублікаваныя ў 1947 годзе, аднак творчая біяграфія пісьменьніка пачынаецца з апавяданьняў, напісаных у 1951 годзе. Тэматыка раньніх апавяданьняў, дзеючымі асобамі якіх сталі жаўнеры і афіцэры, вызначыла далёйшы лёс Быкава, многія з твораў якога прысьвечаныя падзеям Вялікай Айчыннай вайны. Бескампраміснасьць прозы Быкава стала прычынай нападаў савецкай крытыкі, якая абвінавачвала пісьменьніка ў ачарненьні савецкага ладу.

У 1974 годзе Васіль Быкаў быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй СССР (за аповесьць "Дажыць да світання", 1973), у 1980 годзе атрымаў званьне Народнага пісьменьніка Беларусі, у 1986 годзе - быў уганараваны Ленінскай прэміяй за аповесьць "Знак бяды".

Некаторыя творы пісьменьніка, такія як аповесьці "Трецяя ракета" (1962), "Дажыць да світання", былі экранізаваныя.

З 1972 па 1978 год Васіль Быкаў займаў пасаду сакратара Гарадзенскага аддзяленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР.

Вядомасьць Васілю Быкаву прынесла аповесьць "Трэцяя ракета", напісаная ў 1962 годзе. У 1960-е ён публікуе аповесьці "Альпійская балада", "Мёртвым не баліць", у 1970-я - "Сотнікаў", "Абеліск", "Дажыць да світання", "Пайсці і не вярнуцца".

Гэтыя творы паставілі Васіля Быкава ў адзін шэраг з выдатнымі майстрамі ваеннай прозы XX стагодзьдзя.

Сярэдзіна 90-х нібыта вярнула пісьменьніка ў савецкія часы. Шырокая траўля ў дзяржаўнай прэсе, забарона, цэнзура на выхад яго новых твораў, пагаршэньне на гэтай глебе здароўя вымусілі Быкава пакінуць Радзіму. Некалькі гадоў ён жыў за мяжой.

Падрыхтаванае на падставе: Васіль Быкаў, Поўны збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 2, Аповесьці, апавяданьні. — Мінск: Саюз беларускіх пісьменнікаў, 2005. — 624 с.

ISBN 5-9691-0074-9

Гэта першы ў гісторыі Поўны збор твораў Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава (1924-2003). Падчас укладання тамоў найперш улічвалася думка самога аўтара, які паспеў спланаваць праспект выдання свайго 8-томнага Збору твораў. У другі том Поўнага збору твораў увайшлі аповесці "Знак бяды" (1982 г.), "У тумане", "Аблава" (1988 г.), "Пакахай мяне, салдацік" (1995 г.), "Балота" (2001 г.), а таксама некаторыя апавяданні 90-х гадоў.